


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**4** (1050)

**КРАСАВІК**

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2017

*ЗМЕСТ*

***ПАЭЗІЯ І ПРОЗА***

**3** **Васіль ЗУЁНАК.** Час дадзены… *Вершы.*
**9** **Васіль МАКАРЭВІЧ.** Журавіны-журавінкі. *Аповесць.*
**49** **Наталля ТУМІЛОВІЧ.** Адам — айцец і тата. *Апавяданне.*
**67** **Анатоль ЗЭКАЎ.** Слова роднае гамоніць… *Вершы.*
**70** **Юльяна ПЯТРЭНКА.** Авяльга. *Апавяданне.*
**88** **Марыя КОБЕЦ.** Сціскае прыгажосцю грудзі… *Вершы.*

***ГАЛАСЫ СВЕТУ***

**92** **Юльян ТУВІМ.** Хадзіць па зямлі, прагнуць неба. *Вершы. Пераклад з польскай Сцяпана Сяргея.*

***НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ***

**96** **Наталля ЯКАВЕНКА.** Год за пяць: літаратурныя карціны свету пачатку XXI стагоддзя.

***КНІГА_LOG***

**106** **Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА.** Дух класічнасці супраць буйства дробязей: літаратурасофія. *Уступнае слова Ірыны Шаўляковай-Барзенка.*

***ПОСТАЦІ***

**115** **Казімір КАМЕЙША.** Сонца было высока.
**125** **Алесь МАРЦІНОВІЧ.** Не ўсе раны зажываюць.

***ЛІТАРАТУРНАЕ ПАДАРОЖЖА***

**140** **Святлана ВОЦІНАВА.** Вандроўкі па яе былых ваколіцах. *Заканчэнне.*

***СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ***

**153** **Іван САВЕРЧАНКА.** Трыумф. Гістарычная хроніка. *Пачатак.*

***КНІГАРНЯ***

**166** **Галіна БАГДАНАВА.** Нацюрморт з характарам.
**169** **Юлія АЛЕЙЧАНКА.** Абняла Беларусь…

***АФАРЫЗМЛЕННЕ***

**174** **Лепшыя узоры сербскай сатырычнай афарыстыкі.** *Укладанне і пераклад з сербскай Івана Чароты.*



**Васіль ЗУЁНАК**

# ЧАС ДАДЗЕНЫ...

* * *

Час дадзены: пабыць травінкай роснай,
Паразумецца з лёгкім матыльком,
Адчуць, як робіцца душой тваёю колас,
І ўзвысіць бор сасною хмарачоснай,
А завяршыўшы сонечнае кола,
Не прыхапіць з сабой святло тайком…

Тым чалавек, відаць, і несмяротны,
Што ён праменьчык радасці зямной
Прыняў ад пакаленняў і стагоддзяў,
Каб перадаць па-боску — незваротна —
Тым, хто з хаосу небыцця выходзіць
Насустрач — і з калыскай, і з труной…

---

*__Зуёнак Васіль Васільевіч__ нарадзіўся 3 чэрвеня 1935 года ў вёсцы Мачулішчы Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Барысаўскае педагагічнае вучылішча (1954), аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1959). Працаваў у рэдакцыях газет «Рабочае юнацтва» (Мінск) і «Піянер Беларусі», быў галоўным рэдактарам часопіса «Бярозка», намеснікам галоўнага рэдактара, галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», сакратаром, першым сакратаром, з 1990 па 1998 гг. — старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі. Кандыдат філалагічных навук.*

*Аўтар кніг паэзіі «Крэсіва» (1960), «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980), «Час вяртання» (1981), «Світальныя птушкі» (1982), «Лукам’е» (1984), «Вызначэнне» (1987), «Лета трывожных дажджоў» (1990), «Чорная лесвіца» (1992) і інш. Вядомы таксама як дзіцячы паэт, перакладчык, аўтар кніг гумару, лірычнай прозы, нарысаў і замалёвак.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1982).*

* * *

Усё, што бывае,
Прыходзіць у свой час:
І не спяшаецца,
І не спазняецца, —
Бывае ў час якраз.

Усё, што прыходзіць,
Бывае толькі раз, —
І не пытае:
Ці засмучае,
Ці радуе нас.

Усё, што не прыходзіць,
Хітруе, бо не шкодзіць
На ўсё свой мець запас.
Усё, што не бывае,
Тым часам, і не знае,
Што ёсць і мы, і час…

* * *

Акіян, вялікі сон планеты,
Памяць *да*-жыцця і абярог, —
Ці не сніў калісьці і мяне ты
Ў судны час маіх зямных дарог?

Акіян, вялікі жыццедайнік
Існаму ўсяму, што на зямлі
Веліччу асвечана астральнай,
Дзе і мы пасад свой набылі, —

Духу абсалютнага сапернік,
Сцежку мне ці сцвердзіў з небыцця,
Ці жыцця салодкі міг, як пернік,
Даў, абы не плакала дзіця?..

Акіян, зямлі біякалыска,
Пераможца мёртвай нематы,
Зорную з зямлёю перапіску
Ці папраўдзе мне даверыў ты?

І ў якую з безлічы малекул
Ты праграму зорную занёс
Аднаму — з мільярдаў — чалавеку,
З кім спаткаўся на зямлі мой лёс?..

## ЗОЛКІМ РАННЕМ...

Як жа так: за што мне гэткі вырак?
Жаўталіст з дажджом зашапацеў, —
Як жа так: у свой заморскі вырай
Шпак, не развітаўшыся, зляцеў…

Першы раз — у сёлетнюю восень —
Не пакінуў мне суцешны спеў,
Каб зімой крыху цяплей жылося,
На душы вяснуючы спадзеў…

Як жа так: не мне, дык хоць шпакоўні
Хай бы перад вылетам сказаў:
«Не турбуйся і чакай спакойна:
Я дамоў шляхі не завязаў, —

Я вярнуся…» —
То і я пачуў бы —
Быццам ад вясны ключы здабыў,
І мароз тады завейначубы
Мне б амаль запанібрата быў…

Так я выбадзяў… І спадзяванні
На сустрэчу ўжо згубіў зусім…

Толькі цуд адбыўся золкім раннем:
Свіснуў шпак — нібы гукнуў: «Васіль!..»

Аб'явіўся! На бярозе стылай
Быццам зноўку май зазеляне ў!..
Ах свавольнік! Дзе ж цябе насіла?
Гэта ж кожным пёркам азалеў…

То было *чацвёртага* —
адзначым
Дзень *кастрычніцкі* дакладна, —
зазіраў
Ты ў шпакоўню родную, — няйначай,
Памяць генную яшчэ раз вывяраў.

І хітаў пры гэтым галавою —
Дзякаваў ці ўрок які цвярдзіў?
А магчыма, за спазненне тое
Прабачэння і ў мяне прасіў?..

Як, чаму? — хоць позна, але ўважыў, —
Клопатаў жа шмат перад зімой:
Сходы, трэніроўкі, інструктажы?.. —
Што пытацца!.. Дзякуй, браце мой!..

## МАРОЗНАЕ

Ускочыўшы ў хату з марозу,
Паслухаў высновы прагнозу:

Мароз яшчэ злейшы бярэцца, —
А як бы і чым бы сагрэцца?..

Ну й грэюся: з самага рання
Сугрэвы пачаў з чаявання.

Але — толькі часу шкада:
Вада яна й ёсць вада…

Гарбатную кінуў заварку,
Наліў крышталёвую чарку.

Ды як бы ў грудзях ні гарэла,
А ўсё ж і гарэлка не грэла.

Прыняўшы Сакратаву позу,
Стаў думаць на розум цвярозы:

Які яшчэ спосаб шукаць?..
Давай я вясну гукаць!..

Гукаю — а слёзы з вачэй:
— Прыходзь, дарагая, хутчэй!

Такой, як у юным маі:
Сагрэй, прыгалуб, — замярзаю!..

Суцеш — бо не хопіць і слёз…
Вось гэта мароз дык мароз!..

## ПЕРАД НОЧЧУ…

Ля кармушкі чубяцца сініцы,
Дзелячы сланечніка дары.
А яна — нібы чаго баіцца, —
Як чужая на маім двары.

Села збоку па-сіроцку сціпла
Сіняю пушынкай без вагі, —
З бояззю, што вецер дзьмухне сіпла
І раптоўна вымеце з чаргі…

Зябка натапырыла пярынкі, —
Пэўна, не здаровіцца ўсур'ёз?
Ці хавае пад крылом цяплінкі,
Каб цішком не выхапіў мароз?..

А прыдбала зернейка нарэшце —
Зноўку прымасцілася наўзбоч, —
Як сказала: «Вы дасхочу ешце, —
Мне ж даволі й гэтага на ноч…»

Вось, здаецца, і душу сагрэла,
Дзюбачкаю сытна павяла.
А пасля крыху сняжку паела —
Як жывой вадзіцы папіла…

* * *

Дзе вы, русалкі, дзе крыніцы тыя,
З якіх ваду жывую бралі вы,
Каб выплываць на берагі крутыя
І голас нам, жывым, падаць жывы?

Штоноч выходжу, але вас не чую:
Маўчанне — поўняю і ў маладзік.
І што маўчанне ваша нам вяшчуе?

Ці ваш давер да нас навечна знік,
Ці мы, жывыя, перасталі верыць
У ваша існаванне й назаўжды
Ў лухту вас залічылі і ў хімеры,
І вашы ў снах згубіліся сляды?..

Ці ўся бяда, што рэкі, ваш прытулак,
Мы зруйнавалі і красу азёр
Так культывуем з рэкамі агулам,
Што паратунак ваш — ляцець да зор…

Там заплятаць вянкі з іскрыстай Вегай,
У ноч купальскую з Капэлаю спяваць,
А мне з маім, пры вогнішчы, начлегам
Вас полымем зямным вітаць-гукаць…

Хоць ведаю: цяпер вы як чужыя,
За вас малюся, дзеці зорных сфер,
Што ў крыўдзе на людзей былі жывыя,
У крыўдзе засталіся і цяпер…

## «CONCERTO»

Аглушаны віскам, сяджу «на канцэрце»,
Трываю, бо трэба ж пазнаць, што па чым,
Якія тут хціва балююць шоў-чэрці:
Вам, лохі, — вар'яцтва, а д'яблу — харчы…

Талковыя хлопцы — не скажаш нічога, —
Па-бартару творыцца творчы абмен,
Дзе ў штаце нячысцік паводзіцца богам:
«Вы — "money", а мы вам і "woman" і "man"!..»

І вось — выгаляюцца, скачуць пракуды,
І у мікрафоны абрушваюць шквал, —
Свае, дамарослыя, тут і прыблуды:
Хоць голасу — нуль, ды з вантробаў — «метал»…

А пэўна ж, калісьці ўсе дзеткі, як кветкі,
Бацькоў весялілі, па-райску цвілі, —
Адкуль жа напаў на вас вымарак гэткі,
Каму прыгажосць вы ў арэнду здалі?!

Гляджу, як краса выдыгае аблудна,
Не знаю, ці знойдзеце згоду са мной, —
І ўсё ж — прыгажосці не лішне быць мудрай.
Альбо — хоць бы трошачкі — не дурной…





**Васіль МАКАРЭВІЧ**

# ЖУРАВІНЫ-ЖУРАВІНКІ

*Аповесць*

## 1

Ах восеньскія ягады, журавіны-журавінкі!

Напрыканцы лета, калі ад суніц ужо і следу не засталося і пачынаюць чэзнуць і асыпацца долу апошнія чарніцы, на змену ім на балотнай імшарыне, пад рэдкімі і ўсохлымі кронамі нізкарослых сасонак і ялінак, з пакручаным голлем, нібы на іх гойсалі і забаўляліся ў начной і душнай цемрадзі ведзьмакі і чэрці, завяжуцца, як дробныя гарошыны, зялепухі-журавіны. Ляжаць яны на светлай пасцілцы адбеленага ранішнімі туманамі куртатага моху, ідзе над імі не надта гарачае, але яшчэ шчодрае на цеплыню, сонца, грэе-саграввае ягады, і яны ўвачавідкі круглеюць, буйнеюць, наліваюцца кіславата-рэзкім сокам і аскомінай. І калі вясковая кабета трапіць выпадкова на ўзбалотак ды зірне на імшарыну, на імгненне здасца, што перад ёй не журавіны, а коціцца, шугае, як не да неба займаецца, ранішняе зарыва. Не ўтрымаецца жанчына, пераксціцца, палезе ў балотца і давай браць-збіраць ягады: адну ў рот, другую ў прыпол спадніцы. Не паспее азірнуцца, — ягад у прыполе ўжо столькі, як панесці! Падзякуе балотцу ды імшарыне за шчодры дарунак, і прыпусціцца з усіх ног у вёску, каб пахваліцца ягадамі перад суседзямі.

— Ого, якія сёлета ўрадзілі журавіны! — дзівяцца яны, перасыпаючы іх з далоні ў далонь! — Кожная ягадзіна з валова вока! Ты іх там часам не прыпасвіла, каб не збеглі куды-небудзь?

— Куды ж яны збягуць? Ягадніц чакаюць не дачакаюцца!

Хто ж з кабет назаўтра будзе ў хаце сядзець ды лынды біць! Трэба бегчы хутчэй у лес, караскацца ў балота, браць ды грэбці ягады ў кашы і вёдры! Ах, Божа, хіба можна праваронiць ягадную пару і такую смакату, як журавіны!

На досвітку сяло кіпіць, ходзіць ходырам, ляскаюць дзверы ў клецях і прыбудоўках, жанчыны хапаюць кашы, карзіны, лубкі і набіркі, адвечнае

---

*__Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч__ нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1964). Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), «Лiставей» (1971), «Вечнае дрэва» (1974), «Радоўка» (1977), «Праталіна» (1983), «Відушчы посах» (1987), «Сумежжа» (1989), «Квадратура круга» (2000), «Неба ў руках» (2012) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2013).*

прычындалле, з якім ходзяць у журавіны, і спяшаюцца дарогай, што вядзе ў бок лесу, а там і да балота. Троху пазней, калі ўжо сонца выкочвалася з-за небасхілу, ускідвала на плечы ношаную-пераношную сто гадоў світку, і, паправіўшы на галаве хусту, збіралася ў журавіны і наша бабуля Агапа. Хіба яна магла адлежвацца на печы ды грэць плечы, калі ягады, можна сказаць, самі пад рукі лезлі і прасіліся, маўляў, прыходзьце, людзі, і бярыце-збірайце, бо заўтра будзе позна: хлынуць дажджы, зальюць балота вадой і тады, як кажуць, шукай у полі ветру! Бабуля добра ведала гэта і не магла ўпусціць выгодную часіну, калі з лесу можна прынесці процьму дармовага багацця!

Яна брала кош, ставіла ў яго набірку, укручвала ў белую пасцілку, закідвала за плечы і канцы яе завязвала на грудзях. З сукаватай палкай у руцэ пільна глядзела на мяне, малога падшыванца: «Ну чаго патупіўся? Збірайся, у ягады пойдзем. Можа, зайца сустрэнем, дык за лапу паздароўкаешся, і ён сябрам для цябе стане. Згодзен? Ну во і добра! А то ледзь не расплакаўся». Бабуля тыльным бокам далоні выцірала мне слёзы, і мы выходзілі з хаты. Учапіўшыся рукой за спадніцу, я цыбаў услед па калдоб'і і дробных каменьчыках, якіх было на вуліцы, як насеяна. На абочынах расла трава-мурава, дзе-нідзе іржавела крапіва і бадыллё. Хата наша стаяла напрыканцы вёскі, двары праз два-тры вуліца выбягала на дарогу, і яна адразу ныране ў саснячок-маладняк, што шчыльна стаяў абапал, бытта браў яе ў свае шчыльныя абдымкі. Тут я бываў ужо не адзін раз з сябрукамі, ласаваўся чарніцамі, а калі даспявала салодкая маліна, то і малінай. Бабуля, здаецца, шкадавала мяне больш, чым астатніх унукаў, якіх у яе мелася, як гароху. Маці часам ушчувала яе, што яна проста песціць мяне, а гэта да дабра не даводзіць. Бабуля кожны раз здзіўлена ўскідвала вочы:

— Што ты, Лісавета, пляцеш? Яму гэтулькі гадкоў, калі хочацца ўсюды пабыць, пабачыць і ведаць пра ўсё на свеце.

Маці змаўкала, ішла да печы, у якой палалі дровы, варочала чыгуны ці бралася замешваць для каровы пойла, а потым ужо абзывалася:

— Можа, ты і праўду кажаш.

Гаварылі бабуля і маці ў хаце, і я ведаў, што бабуля часцяком брала мой бок. Неяк раз перад гэтым, калі ішла ў мястэчка да Бабіхі, каб выменяць на журавіны хоць прыгаршчы ці шчопаць солі, узяла з сабой і мяне. Мястэчка было за пяць вёрст ад вёскі, і маці не хацела пускаць мяне ў такую далечыню, дзе немаведама што можа здарыцца са сталым чалавекам, а з дзіцем тым больш. Бабуля сказала, што ад Бабіхі яна зойдзе ў царкву. А пабываць у царкве малому хлопчыку — тое самае, што прычасціцца і паспавядацца даросламу. «Не дай бог, нехрысцем вырасце і стане людскім пасмешышчам!» — жахнулася бабуля і пераксцілася на абразы. Супраць такога важкага доказу і перакананння маці не магла запярэчыць, хаця і заікнулася, што цяпер не той час, каб хадзіць хлопчыку ў царкву — вайна! Неспакойна ўсюды, у лесе і там, у мястэчку.

З вёскі мы выбраліся рана. Убіралася ў сілу восень і клалася жоўтым лісцем на дол. За ваколіцай, дзе стаяў крыж, з markdownрознымі стужкамі-кутасамі і вянком з дзеразы, дарога раздвойвалася. Адна з іх кідалася ў лес, што падступаў амаль да крайніх хат, ішла да могілак і далей паварочала у бок ракі, дзе слаліся пожні. Другая брала ўлева і, рэжучы жоўты пясок, перамешаны са жвірам, жарствой і суглінкам, успаўзала на невысокую куртатую гарушку, адсякаючы ад выносістага сасняку, які садзілі гадоў пятнаццаць—дваццаць назад, купку хваін і ялін, з крывымі і прамымі ствaламі і падмытым ліўнямі і

ручаямі вузлаватым карэннем, што вылезла з зямлі і, не ведаючы, што рабіць далей, сіратліва і непрыкаяна глядзела на свет.

Ускараскаўшыся на гарушку, дарога прыпускалася па роўнядзі наперад, плазавала, церлася каля камлёў сасняку, там-сям аблузаных восямі вазоў і падвод, што, відно, чапляліся за іх, пакідаючы рваныя слядьі-адмецінь, якія засохлі, выпетрыліся на сонцы і сталі наростамі-гузамі, падобнымі да жабрапух. Па левы бок дарогі грувасціліся каменныя крушні, у якіх вілі сабе гнёзды і жылі ўдоды і яшчэй нейкія дробныя птушкі, што пырхалі зверху, чысцілі пер'е і, пачуўшы хоць нейкі шолах, знікалі хто куды. За крушнямі цягнулася, ялавела поле. Яго ніхто не араў і не засяваў, і на ім, адскочыўшы ад зямлі, лезлі ўгору дубцы бярозак і іншай непатрэбшчыны. Цяпер, растоўчаная і раздрузлая ад празмерных дажджоў, дарога, здаецца, захлыналася ад вады, і ледзь цягнулася і валачылася наперад. Нарэшце, выбраўшыся на сухое, яна збіралася ціхом шуснуць у лагчынку, як недзе ззаду пачулася тарахценне калёс і фырканне каня. Бабуля спынілася і, прыставіўшы да вачэй далонь, пачала ўзірацца ў той бок, — хто б гэта мог выправіцца ў мястэчка? Я таксама ўглядаўся праз ранішнюю смугу, насунуўшы глыбока на лоб картуз. З-за павароткі перш паказалася галава каня, а потым і аглоблі. Дужы грудасты жарабок таропка перабіраў нагамі дол, напружваўся і натужваўся, цягнуў за сабой воз, які, здаецца, скроб днішчам па зямлі, настолькі глыбока ўразаліся ў дол каляіны і ў іх па ступіцы танулі колы. Фурмана не было відаць з-за каня. Чуўся толькі яго зухаваты голас:

— Ну-ну, малы, цуглі грызі, толькі выцягні з гразі!

Учора цэлы дзень ліло з неба, на дарозе стаялі вялізныя лужыны каламутнай вады. Цопаючы шырокімі і разбітымі капытамі і раскідаючы на бакі чорныя камякі зямлі, конь, здаецца, дыхаў і цяжка соп недзе побач, як не над маёй галавой. Там, дзе дарога ўваходзіла ў лес, яна была настолькі вузкая, што нагадвала вушка іголкі. Каб даць дарогу каню і падводзе, што, як гара, насоўвалася на бабулю і, здаецца, гатова была падгрэбці пад сябе не толькі яе, але і ўсё жывое, што трапіцца на дарозе, яна паспешна саступіла на абочыну, намацаўшы нагою цвёрды дол. І ледзь паспела падабраць край спадніцы, як падвода павольна і грузна пракацілася міма, амаль упрыцірку. Конь ступаў спорнаю хадой, кола наскочыла на камень, што знайшоўся ў каляіне і, выварочваючы напаверх глей і гліну, пайшло сабе далей. У драбіне, напханай жоўтай саломай, сядзеў Пімен, які жыў ад нас праз чатыры ці пяць двароў, абгарадзіўшы сваё седала вычасанымі і падагнанымі адна да адной сасновымі плашкамі настолькі шчыльна і шчыгульна, што між імі і камар носа не падточыць. Зарослы да вушэй і броў калматай барадой, фурман нагадваў ведзьмака і ехаў, звесіўшы ногі ў старых бахілах. На спіне стаяла корабам брызентавая хламіда. У адной руцэ ён трымаў лейцы, у другой пляшку, напэўна, нашчыўся, прыкладваючыся раз-пораз да рыльца. Як ні берагласся бабуля, але канец восі ўсё-ткі шмаргануў па яе спадніцы і пакінуў густы пісяг каламазі, якой, відаць, Пімен напаіў утулкі колаў настолькі шчодра, што яна сцякала на спіцы і абады. Нейкае імгненне бабуля стаяла і разгублена пазірала то на завэдзганую абноўку, якую апранала толькі па святах, то на падводу, што калываючыся з боку на бок, як сытая раздабрэлая качка, і свіргочучы прычэпленым да задняй восі вядзерцам-дзягцяркай, аддалялася ад яе. Недзе ў верхавінах, густа перавітых паміж сабой ялін, сосен і алешын страхавіта ўскрыкнула лясная птушка, лопнула крыллем і чорным акраўкам сарвалася ўніз, пранеслася над дарогай і знікла за дрэвамі. Яна настолькі блізка праляцела над Піменам, што ён ажно прыгнуў галаву. І толькі тады, калі правёў яе доўгім позіркам, заўважыў бабулю.

— У мястэчка, Агапа, цярэбішся? — весела крыкнуў і настолькі няўклюдна і медзведзявата варухнуўся ў саломе Пімен, што драбіна віскнула, затрашчала, во-во, здаецца, разваліцца і ад яе застанецца адно толькі ламачча. Цяжка было сказаць, прыкідваўся ён і блазнаваў ці, сапраўды, быў рады, што нечакана дагнаў па дарозе суседку. Пімен быў у добрым настроі, круціўся на падводзе, быццам чэрці пад пахамі казыталі, яму хацелася жартаваць: — Можа, у хатулі нясеш яйкі да гер каменданта нямецкага гарнізона на нейкі абмен?

— Ай-яй, — сярдзіта паглядзела на ездака бабуля, гатовая накінуцца на яго з кулакамі, — каб цябе чэрці паверх лесу насілі, калі я нясу нейкія яйкі. Дажыў да сівых валасоў, а клёку, як не было ў галаве, так і цяпер няма ні каліва. Трэба сабачыя вочы мець, каб глядзець вось так пасля таго, як спадніцу каламаззю абквэцаў.

— Што ты кажаш, Агапа? — аж звесіўся цераз драбіну Пімен, прымружыўшы вузкія вочы і робячы выгляд, што прыглядваецца да апраткі бабулі. — Ніякай каламазі на тваіх уборах я не бачу. Дарма ты на ўвесь лес лямант узняла. Мядзведзі пачуюць і з мінуты на мінуту будуць тут. А горш, калі паны-паліцэйскія ў мястэчковым гарнізоне заварушацца, могуць падумаць, што нейкае нападзенне на іх рыхтуецца.

— Ты мне, балабон несусветны, зубы не загаворвай, пра мядзведзяў ды паноў-паліцэйскіх, — адпусціла бабуля галіну, за якую трымалася, учапіўшыся аберуч, і ступіла на дарогу. — Хіба я не бачыла, як ты знарок падвярнуў каня, ледзь на мяне не наехаў. Ды яшчэ ўхмыляўся. Калі не бачаш на спадніцы каламазь, магу паднесці пад нос, каб панюхаў.

— З глузду з'ехала баба! — заёрзаў на возе Пімен і паварушыў плячамі так, нібы за спіну трапілі асцюкі і пачалі калоцца і рэзацца. — Каб я чужую спадніцу нюхаў! Ды ні за якія грошы! Ачмурэла, Агапа, ці дурнап'янам апілася?!

— Апілася! — перадражніла бабуля Пімена. — Хто б гаварыў, толькі не ты. Смокчаш-цэдзіш атруту, як цмок. Свету белага з-за пляшкі не бачыш. Яна і тоўхае цябе пад руку, каб паганае што-небудзь учыніў!

— Дарэмна ты бэсціш гэту красуню. — Пімен узняў угору пляшку, пабоўтаў пітво, што засталося ў ёй, і чмокнуў у дно, — мая памочніца і ратавальніца! А што да каламазі, то кідайся, Агапа, на калёсы, а не на мяне. Я тут ні прычым. Зрэшты, калі нейкая кропля і трапіла на спадніцу, нічога дрэннага з табой не зробіцца. Не семнаццатоўка! А можа, у мястэчка на танцы плітуеш? Ведаеш, якія там кавалеры і якія ў іх сяброўкі? Вінтоўкі! Хаця, стой! А чым ты сабой не вінтоўка? Гаворыш, як страляеш. Гы-гы-гы!

— Цьфу! Ты яму пра казну, а ён табе пра Кузьму! Матляецца язык, як у сабакі карослівы хвост, — бабуля настолькі разышлася і з такой пагардай пазірала ў бок Пімена, што, здаецца, гатова была схапіць у рукі крывую ламачыну, якая валялася на дарозе, і сперазаць ёю ўздоўж яго плячэй. У вёсцы, як і кожная жанчына, яна мела мянушку. Можа, з-за таго, што бабуля была хударлявая і чарнявая з твару, вяскоўцы яе звалі качаргой і вядзьмаркай. Праўда, у вочы ніхто не адважваўся і заікнуцца, не тое, каб пекануць адкрыта. А калі ў каго-небудзь незнарок злятала з языка гэтая мянушка, ён, безумоўна, канфузіўся, губляўся і гатоў быў праваліцца скрозь зямлю. Бабуля падцінала вусны і маўчала, як вады ў рот набраўшы. Праўда, тады-сяды давала адпор і так ёмка, што не толькі ў балабона, але і ў астатніх дух зацінала. Не магла яна не адплаціць за абразу нахабнаму і самаўпэўненаму Пімену.

— Калі я для цябе вінтоўка, то ведаеш, хто ў такім разе ты? — бабуля падхапіла адной рукой падол спадніцы і ледзь не подбегам заспяшала за падводай, калі Пімен крутнуў над гнедым пугай, падагнаў яго, нібы збіраўся ўцячы. — Жываглот! Едзеш у мястэчка да паліцая Галузы. Вязеш самагон, выкуп за транты, садраныя з яўрэяў, якіх расстралялі ў раёне. Галуза цэлую фуру рыззя прывёз. Казалі, фура аж стагнала, быццам не транты, а мерцвякоў вёз.

Дзіўная справа, як ні задзіраў галаву, як ні фанабэрыўся Пімен, але нечакана зніякавеў, заморгаў вачамі, бытта бабуля сыпанула ў іх прыску-попелу ці саўганула распаленую галавешку. У першы момант ён, здаецца, не знайшоўся, што сказаць. Дрыготкай рукой абмацаў у саломе пляшку, выцягнуў зубамі травяную затычку і каўтануў, пераводзячы дыханне. А потым скасавурана глянуў на бабулю. Хіба Пімен мог падумаць, што ў іх сяле знойдзецца вось такая разумніца, якая стане не толькі апастыляцца з ім, але і папікаць, называць яго самым апошнім словам. Ён зіркнуў па баках па-воўчы, нібы хацеў упэўніцца, што заступіцца за яе тут няма каму.

— Чаўпеш, старая качарга, пра нейкага паліцая Галузу, пра якога я і почутам нідзе не чуў, — Пімен злосна тузануў лейцамі, быццам у нечым быў вінаваты конь. Падвода калыхнулася на выбоінах, пляшка нечакана торкнулася Пімену ў бараду і самагонка палілася на світку і салому. — Узбрыдзе дурное ў курыныя мазгі. Хоць ты ёй кол на галаве чашы, а яна пра сваё таўчэ ды плешча. — Неймаверная злосць душыла Пімена, не давала ачомацца. — Можа, табе трэба палячыцца. У немцаў знойдуцца для такіх, як ты, лекі. У іх заместа дзівасілу — куля! А пасля санаторый — магіла.

— А ты ў іх хто? — узялася рукой за драбіну і пайшла побач з падводай бабуля, усім сваім выглядам паказваючы, што яна і на кроплю не баіцца Пімена. — Можа, галоўны доктар ці санітар? Колькі срэбранікаў яны табе плацяць, пан, што саломай напхан?

Колы падводы, грузнучы як не па самыя ступіцы, рэзалі, малолі, перасыпалі і перамешвалі нанесеныя сюды вясновымі ручаямі пясок, жвір і жарству. Абады, акутыя жалезнымі шынамі-палосамі, пакідалі глыбокія сляды, быццам ішла не звычайная фурманка, а каціўся пануры катафалк. Іначай, здаецца, і не магло быць. Пачатак вайны, адступленне нашых і прыход немцаў, арышты і расстрэлы аддалілі людзей адзін ад аднаго, зрабілі скрытнымі і маўклівымі, прымушаючы калаціцца і думаць, як перажыць і перакідацца ў гэтым ліхалецці дзень, а за ім і другі. Кожны круціўся-выкручваўся, як мог, як падказваў яму ўласны вопыт і абставіны, у якіх боўтаўся, хапаючыся за прывідную саломінку, радуючыся, што бяда абышла, аб'ехала старанай. І маўчаў, хоць ой як хацелася выгаварыцца і аслабаніцца ад таго, што набалела, агоркла і вісела каменем на шыі, цягнучы ў страхатлівую прорву, без краю і дна. Перапалка, што нагадвала сварку і лаянку, памагала адвесці душу. Тут, у лесе, Пімена і бабулю Агапу ніхто не чуў і не мог пачуць. Лес, як вядома, умее берагчы любую таямніцу.

— Не ведаў я, дурная баба, што ў цябе не язык, а змяінае джала, — крыху астыўшы, выдыхнуў Пімен і замахнуўся на гнедага пугай, бо пад коламі зашоргаў і зашастаў пясок, у якім грузлі колы, рэзалі яго па ўтулкі, і каню даводзілася напінацца і выжыльвацца, ледзь не вылазіць з хамута і астатняй вупражы. У голасе Пімена пачуліся прымірэнчыя ноткі. Але нешта не давала яму перайсці на даверлівы тон нават у тыя моманты, калі ён спрабаваў пажартаваць.

— Бачаш, як конь хвастом махае. Думаеш, аваднёў і сляпнёў адганяе. Адмахваецца ад твайго пустаслоўя. Розуму не прыкладу, як Анікей з такой

пілою жыў? Хаця, бядак, у маладыя гады душу Богу аддаў. А куды ўцячэш? Толькі ў яміну, на той свет. І адразу ў рай папаў з пекла, у якім жыў.

— Не дуры, Пімен, — не стала слухаць бабуля, што ён скажа далей. — Махае конь хвастом у цябе пад носам, што гоніш яго ў пастку, з якой можаш не выскачыць жывым. Галуза, кажуць, да вайны сабакам сена касіў, на Салаўках пабываў.

— Сабакам сена касіў ці быкам хвасты круціў, не мая гэта справа! — уцягнуў галаву ў плечы Пімен, нібы паказваў, што Галуза для яго чуж-чужына... — А тое, што ён чалавек з розумам і ўмее выходзіць сухім з вады, малайчына. Хвалю! Зайздросцяць Галузу, вось і плявузгаюць пра нейкія яўрэйскія транты. Яўрэяў пусцілі ў расход не ўчора ці заўчора, а яшчэ вясной. І мяне ў гэта дзела не ўмешвай. Ведаеш, чым яно пахне?

— Паленым, Пімен, пахне. А калі прыпячэ як след, усхопіцца такое полымя, што і табе, круцялю, неба з аўчынку падасца. Хіба я не ведаю, што маеш у хаце рамачку для картак. Днём, калі прыязджаюць паліцаі, на ёй ухмыляецца з пасмай валасоў на лобе гэты, як яго, хвюрэр Гітлер, а ноччу, як ушчэмяцца ў хату партызаны, паравернеш яе другім бокам і ўжо ўсміхаецца таварышок Сталін, — знарочыста перайшла бабуля на даверлівы шэпт, у якім чулася з'едлівая іронія.

— А ты хацела, дурніца, каб мяне на першай асіне падчапілі за пашчэнкі і сказалі: канай, галубок Пімен! А дулю! Сярод ваўкоў жыць — па-воўчы выць! Во як! — Пімен чамусьці гайдануўся і наваліўся на біла, падвода хістанулася, нібы хацела перакуліцца, але фурман спахапіўся, сеў так, як і сядзеў, і яна пайшла роўна і спакойна. — Я не вол, каб падстаўляць галаву пад доўбню. Не выдаваў партызан і не адмаўляў, калі што-небудзь прасілі. А паліцаі? Знайшла мне дружкоў! Яны і для цябе такая радня, як і мне. Раскашуюць у гарнізоне, ва ўсіх навідавоку! Нападай на іх, Агапа, бі, шкуматай, калі сіла і адвага маецца!

— Ага, ваюй баба з паліцаямі, а хітрун Пімен будзе транты за гарэліцу вазіць.

— А што мне рабіць? Можа, рукі скласці і ў дамавіну легчы? — разважліва і ў той жа час здзекліва паглядзеў на бабулю Пімен. — А што да гэтае самае, як ты дзяўбеш, гарэліцы, то няма яе ў мяне і ў паміне!

— Як гэта няма? — успляснула бабуля рукамі. — Можа б, я і паверыла, дык вунь жа льецца на дарогу. Хоць падстаўляй прыгаршчы! Можа, з затычкай што-небудзь здарылася? А ён едзе і ў вус не дзьме! Фурман, называецца!

— Што ты кажаш, ведзьма? Задурыла мне галаву, а я, стары пень, ледзь не заснуў — прахапіўся і спалохана заварушыўся Пімен, імгненна саўгануў руку ў салому, вывернуў з яе бочачку, хуценька агледзеў з усіх бакоў: — Ай-яй, жанчына ў гадах, а строіць жарты! А я паверыў, як малы. Але, дзякуй богу, затычка ў бочачцы на месцы!

— Захацела вывесці на чыстую ваду, во і вывела! — не змаўчала бабуля. — Мелеш языком без прадыху, што няма гарэліцы, не ведаю ніякага Галузы! Свет маной пройдзеш, а назад не вернешся!

— Колькі дыхаеш, усё чагосьці табе не хапае. Анікею жыць не давала. А на яго месцы мог быць і я. Абодва за табой, прыгажуняй, улягалі, свету белага не бачылі. Мне як усё роўна Бог шапнуў, маўляў, гэта не Агапа, а магіла! Беражыся, Пімен, абыдзі яе за вярсту. Дзякуй табе, Гасподзь, за твае словы! — перакрысціў лабэціну і густую бараду Пімен. — Іначай кранты былі б. Калі не стала Анікея, локці кусала, што прамашку зрабіла. Сохла па мне. Бачыў я ды выгляду не падаваў.

— Праўду кажаш, Пімен, — абагнаўшы фурманку і ледзь стрымліваючы сябе, каб не разрагатацца, павярнулася да яго бабуля. — І сёння сохну па табе. Хіба не бачыш, на трэску стала падобна.

— Трэскай ты не стала, нашто Бога гнявіць, — акінуўшы яе пільным позіркам, пакруціў галавой Пімен і спахмурнеў, нібы пашкадаваў, што бабуля заставалася такой, якой была, і не думала сохнуць па ім, Пімену. — Але хіба я зломак быў? Захацеў выкапаць калодзеж — узяў і выкапаў. І дзе? Пасярод свайго двара, на пагорку! Дваццаць метраў у глыбіню рыў. А калі да вады дайшоў, як хлыне яна з ключоў! Піў, цадзіў праз з зубы, як віно ў царкве на прычасці. Вада ў маёй Палагеі пад рукамі стала, не трэба было ісці за вярсту.

— Хіба забыў, што вада ў тваім калодзежы праз месяц зацвіла, брасняй узялася?

— Палагея не магла вычарпаць яе. А суседзі не ішлі.

— А чаму не ішлі? Хіба не ведаў ці не здагадваўся?

— Чаму не здагадваўся! — усмешка рассунула бараду Пімена. — Сырая вада ў калодзежы была. А нехта пусціў чутку, што да ўсяго яшчэ і салёная. А бабам падай салодкую!

— Не прыкідвайся, — строга зірнула на Пімена бабуля. — Скупеча быў, весніцы ў двор на завалу браў.

— Ганарыстыя занадта суседкі былі, — зняў Пімен з галавы шапку-трохклінку, на якой цямнела кропля, якую пакінула птушка, што праляцела над Піменам, выцер узмакрэлы лоб і зноў нацягнуў, як не да самых вушэй. — Кланяйся ім у ногі, маўляў, прыходзьце па ваду! А можа, чакалі, што я сам пачну разносіць яе па дварах і хатах. Дудкі! На прошаных гасцей трэба многа дарункаў і прысмакаў.

Дарога пайшла ўніз, у лагчыну, якая называлася Малы Рубеж. У самае засушлівае лета тут стаяла макрэча, пахла гніллю і смуродам. Па грудзі ў чартапалоху, крапіве буялі і лапушыліся елкі, крывыя сасонкі, высокія і нізкарослыя вольхі, дзе-нідзе спляталіся ў суцэльную непралазь, якую лягчэй было рассячы, чым прайсці. У гушчары знаходзілі сабе прыстанішча звяры і птушкі. Пад вывараццю рабілі логава воўк і ваўчыца, у іх з'яўляліся ваўчаняты, і яны глядзелі і гадавалі іх, кармілі да атвалу, бо дзічыны навокал хапала, сама лезла пад кіпцюры. Пасля зімняй спячкі з бярлога вылазіў касалапы і бегаў, роў. Летам смакаваў маліну, часам мог апароць гняздо з пчоламі ці восамі і еў, хапаў напоўніцу мёд. Вадзіліся касулі, лісіцы з янотамі, ноччу перагукваліся вірлавокія совы, пугачы, каркалі, дралі горла вароны і начніцы. А днём малацілі дзюбамі ў ствалы сосен нястомныя дзятлы, ціўкалі пенкі, час ад часу пачынала сваю пакаяльную малітву лясная грэшніца зязюля, што падкідвае ў чужыя дуплы і гнёзды яйкі. Тады-сяды тут пасвіліся каровы. Але не кожны пастух рызыкаваў пусціць сюды статак. У лагчыне столькі смакаты, што жывёла нізашто не хацела вылазіць на сухое, дзе адна сухамяціца і нішчымніца.

Сцярожкая і пудкая вусціш ахутвае лагчыну, наганяе незразумелы страх, і настолькі моцны, што бабуля і Пімен перапыняюць перапалку і замаўкаюць. Тым больш, што сярод дарогі разлілася шырокая лужына. Пімен азіраецца па баках, нібы шукае вачамі таго, з кім можна было б перакінуцца словам, параіцца, як быць і што рабіць? Гаварыць з бабуляй — для яго тое самае, што рэшатам чэрпаць ваду. Бабуля таксама, ведаючы нораў Пімена, не лезе са словам у вочы, адно пільна глядзіць па баках лужыны і, канечне, не можа не заўважыць сцежачку, што вядзе па ўзлобку, пераскокваючы з каменя на камень і з карча на корч, робячы круг, пакуль не выберацца на другі бок

лужыны. Бабуля лёгкая на нагу і ўвішная. Адна яна адолее сцежку. А вось са мной, унукам?!

— Закапаўся па вушы ў салому, і не бачыць, што хлопчык малы ідзе, — пасля некаторага маўчання накідваецца бабуля на Пімена. — Як фурманування ваўку сказаць, каб дзіця села на падводу ды пераехала лужыну. Больш не стану чакаць, сама пасаджу ўнука на воз. А няхай толькі паспрабуе мне хто-небудзь запярэчыць!

Бабуля схапіла мяне пад пахі, спрытна, як сноп, перакінула цераз біла ў драбіну і я, здаецца, з галавой, патануў у мяккай саломе. Пімен угнуў плечы, сцяўся, нібы яго выцялі дручком, і ні слова не прамовіў супраць бабчынага самавольства. Але, мяркуючы па тым, як яго барада заторгалася і захадзіла ўгору-ўніз, ён ледзь стрымліваў сябе, каб не вылаяцца. Разам з гэтым, злосць, якая падступіла і сціснула горла Пімена кашчавай пяцярнёй, надала яму рашучасці і адвагі. Круцячы над канём сырамятнай пугай, гучна нокаючы і, відно, гэтым самым падбадзёрваючы каня і сябе, і чамусьці б’ючы нагой у перадок драбіны, ён пагнаў жарабка наперад, проста ў бяздонную лужыну, у якой калыхаліся вершаліны дрэў, з пакручаным вузлаватым галлём, птушынымі гнёздамі, нарасцямі і глыбокімі дуплямі, што нагадвалі страхатлівыя вачніцы. Пімен учапіўся ў лейцы, нібыта яны маглі ўратаваць яго, калі б стала тануць падвода і багацце, што вёз у мястэчка. Гняды, здаецца, не ступаў, а біў, малаціў капытамі па лужыне, цопаў па ёй і слухаў, як глуха адзываецца глiністая дарога. Ён матляў галавой і шыяй, разворваў грудзінай каламуць, стараючыся суняць халодныя дрыжыкі, што ішлі па скуры. Сярод лужыны падвода патанула па самае днішча, і Пімен прыўзняў угору ногі, баяўся, што замочыць фацэтныя бахілы. Бабуля стаяла на абочыне, сачыла за фурманкай да таго часу, пакуль конь не выцягнуў яе на сухое.

— Ух ты! Смеласць гарады бярэ! — як толькі колы загрукацелі па ўбітай і ўезджанай дарозе, выгукнуў Пімен і з выглядам пераможцы азірнуўся на бабулю. — Во табе, Агапа, і Юр’еў дзень! Бачыў, як ты траслася і калацілася ад страху, гледзячы, як ідзе па гразі падвода. Адно слова — баба! Што да мяне, то я і не ў такіх пераплётах бываў і не губляўся. Калі ў войска, у пераменнікі, заграблі і трэба было цераз раку перапраўіцца, то…

Ён не паспеў пахваліцца, што адбылося, якое каленца выкінуў там, як конь нечакана пачаў стрыгчы вушамі, захроп і ўстаў на дыбы, таропка перабіраючы пярэднімі нагамі, бытта заграбаў нешта пад сябе. А потым ламануў убок, нібы спрабаваў вылузацца з хамута і аглобляў. Затрашчала дуга, зазвінелі напятыя атосы, з храпы ахапкамі паляцела пена. Пімен спалохана прыўстаў у драбіне, не разумеючы, што адбываецца з канём. Тым часам цераз дарогу патрухаў воўк і, несучы хвост палкай, прапаў у кустоўі. Ён, здаецца, ніколькі не зважаў ні на людзей, ні на каня. Магчыма, нейкая нявыкрутка падняла яго з логава і пагнала наперад праз тутэйшыя гушчары, якія ён, відаць, добра вывучыў за гады воўчага бадзяння. Гняды гопнуўся пярэднімі нагамі на дарогу, а Пімен, выкуліўшыся з драбіны, падбег да яго спераду, хапіўся за аброць.

— Косю мой, косю… — ласкава пагладжваючы рукой, тулiў ён яго галаву да сябе і соўгаў у мызу знойдзеную ў кішэні хлебную скарынку. — Сягоння трэба больш баяцца тых ваўкоў, што на дзвюх нагах. А такога, як гэты… Эх, дарэмна не прыхапіў з сабой дубальтоўку, пачаставаў бы дуплетам шаляніцу, — патрос ён кулаком у той бок, куды сігануў шэры.

— Смяляк! — бабуля насмешліва зірнула на Пімена. — Ці думеш, што гародзіш? Заспелі б з дубальтоўкай немцы, вісеў бы з ёй на вунь той асіне!

Пімен моўчкі пракаўтнуў уласную прамашку, зразумеўшы, што гаворачы пра дубальтоўку, перабраў меру. Ён ведаў, што немцы расстрэльвалі любога і кожнага, у каго знаходзілі хаця б адзін патрон. Каб не бачыць з'едлівага позірку бабулі, Пімен абышоў падводу, пастукаў нагой па колах, быццам спрабаваў іх моц, прымусіў падняць каня правую і левую нагу, агледзеў капыты, ці няма на іх якой-небудзь раны? Пастукаў пугаўём па аглоблі і, нічога не кажучы, павёў гнедага на кругловіну, што зелянела на ўскрайку лагчыны. Адчуўшы, як пад капытамі зашастала густая сакаўная трава, конь павесялеў і заіржаў. Разы са два ён паспрабаваў нагнуць галаву і скубануць на хаду дзяцельніцы, але замінаў хамут.

— Эйш, зладзюга, — адпускаючы церассядзельнік і распрагаючы каня, ні то захапляўся Пімен смеласцю ваўка, ні то абураўся яго нахабнасцю. — Нешта ж прыпякло, што гад пераляцеў паўзверх падводы. Ледзь шапку не збіў з галавы.

Ён як усё роўна гаварыў сам сабе, але такім голасам, каб пачула бабуля. Прывязаў лейцы да воза, каб конь папасвіўся і не збег куды-небудзь. Сам умасціўся пад дубам, што стаяў сярод кругловіны і густалістай кронай засціў паўнеба. У галлі бліскалі, як залатыя напарсткі, жаўтаватыя жалуды. Пімен знарок насунуў на лоб шапку так глыбока, што яна закрывала рот і палову барады. Ён мерыўся, відно, прыдрамнуць, але дрымота чамусьці не прыходзіла. Ляжаць таксама было нязручна, нешта муляла спадыспаду і Пімен разы са два перакруціўся з боку на бок. Яму карцела пабачыць, што робіць бабуля Агапа, і ён употай, краем вока, як злодзей, вызірнуў з-пад шапкі. Скінуўшы з плячэй клунак, яна сядзела на камені, што глыбока ўрос у зямлю, і думна глядзела перад сабой. Пімену захацелася пагаварыць з ёй пра нешта такое, што магло б уразіць, а можа, нават і здзівіць яе. Яму чамусьці ўспомнілася, як да вайны сюды, у гэтыя глухія мясціны, прыязджалі вучоныя ў белых кароткіх штоніках і круглых капелюшах, назваўшыся археолагамі. Яны дапытваліся, чаму вось гэта лагчына, на якой ляжыць зараз Пімен, называецца Малы Рубеж, а далей такая ж самая ўпадзіна — Вялікі Рубеж? Няўжо тут, у гэтых глухіх мясцінах, ішлі калісьці ваенныя баталіі, пра якія нічога не сказана ў гісторыі? Пімен вадзіў іх па наваколлі, паказваў за ракой, вёрст за дванаццаць ад вёскі, нізіну-яміну, вечна залітую вадой, якую называлі «Шведскі мост», узбіраўся з імі на замшэлы курган, што стаяў каля дарогі, якая вяла ў мястэчка. Прыезджыя хапаліся за фотаапараты, шчоўкалі імі, рабілі нейкія паметкі ў блакнотах, рыліся ў кургане, дзе нібыта былі пахаваны шведскія ці французскія ваякі, стараючыся нешта адшукаць. Але што яны маглі знайсці, калі тутэйшыя далакопы даўным-даўно пералапацілі курган да самага дна, а пясок прапусцілі праз пальцы і прасеялі на сотні сітаў, спадзеючыся натрапіць на залатоўкі. Пабывалі археолагі і каля гэтага дуба. Нейкая расфарбаваная і фацэтная кабеціна, што калупалася каля камля, падскочыла як уджаленая, і выказала здагадку, што гэты дуб помніць шведскага караля, які ішоў з войскам пад Палтаву.

— Паверыш не паверыш, Агапа, — заварушыўся Пімен, прыўзнімаючыся з халаднаватага долу, — пад гэтым дубам баляваў са сваёй хеўрай шведскі верхавод, якога звалі Карла. Дык вось я на яго месцы ляжу. І, ведаеш, які сон пабачыў, троху прыдрамаўшы. Быццам сяджу побач з гэтым Карлам і цаджу сабе заморскае віно, як з суседам Саўкам чымергес.

Пімен змоўк на паўслове, думаючы над тым, як лаўчэй схлусіць далей, каб бабуля завойкала ад здзіўлення, паглядзела на яго такімі вачамі, якімі глядзяць на чарадзеяў ці тых людзей, што робяць цуды. Яму самому падабалася

яго ўласная выдумка пра шведскага караля, падобная і непадобная на праўду. Пімен нават не чакаў ад сябе, што можа гаварыць, як па пісаным. Калі яго раней прасілі сказаць што-небудзь на сходзе, то — дзіва дый годзе! — як толькі ён уставаў з лаўкі і адкрываў рот, тут жа выяўлялася, што не можа знайсці ніводнага слова, яны як усё роўна разбягаліся ад яго ў розныя бакі. І, збянтэжана развёўшы рукамі, ён садзіўся на месца, маўляў, і рад быў бы сказаць, ды няма чаго і пра што. А тут, як нешта прарвала ў душы, як нешта расчынілася, і Пімен разгаварыўся так, што не мог ужо спыніцца.

— Не разумею, што за галовы ў прыхадняў, — пастукаў ён кулаком па ўласным лобе. — Імя людскога не могуць даць хлапчуку на хрэсьбінах. Як для насмешкі, назавуць Карлам і лезуць на нас з вайной. Ну як з такім нягеглым імем можна ваяваць? Дзівакі! Сядзелі б ля жончынай спадніцы, ды пылянят просам кармілі б.

Пімен чакаў, што бабуля з гатоўнасцю кінецца ў гаворку, пачне распытвацца пра невядомага для яе Карлу, абурацца, маўляў, якія чэрці яго сюды, пад гэты дуб, прынеслі і што ён рабіў тут. Не па жалуды ж з-за свету прывалокся са сваім заморскім кодлам. І не да цешчы на бліны. Але бабуля і брывом не павяла, бытта Пімен сказаў пра нешта звычайнае і будзённае, як кажуць у вёсцы, напрыклад, на Каляды пра падсвінка, якога трэба закалоць. Гэта вунь як не спадабалася Пімену. Бач, ганарліўка знайшлася! Не хоча слухаць тое, што кажа ён, Пімен. А Пімен, хоць і бярэ за губу, глупства ніколі не стане плесці. І калі ён абзываўся ў сваім двары, Палагея, як вецер, ляцела на голас і лавіла кожнае слова, бытта мёд піла.

— Чаго маўчыш, Агапа? — здаецца, стукнуў кулаком аб дол Пімен і, апіраючыся на локці, пасунуўся на спіне да дуба, пакуль не ўспоўз на камель і, прысланіўшыся да яго, пільна глянуў перад сабой. — Можа, язык праглынула? Нядаўна ён хадзіў як памяло.

— А мне ўсё адно, якія тут Карлы сядзелі! — хутчэй для таго, каб адчапіцца ад назолы Пімена і яго пустога балабонства, абыякава кінула бабуля. — Раскусіла я твае хітрыкі, Пімен! Распрог каня не для таго, каб ён папасвіўся. Спадзяваўся, што я вазьму за руку ўнука і пайду з ім у мястэчка на сваіх дваіх. А дулю! Ляжы і дрыхні, у мяне часу таксама хапае. Не на пажар выправілася. Унук мой паедзе на падводзе.

— Што ты кажаш, Агапа? — ускінуў угору рукі Пімен, быццам бабуля падступіла да яго з касой ці замахнулася сякерай. — Пабойся Бога! Хіба я такі злыдзень, каб каму-небудзь благое зрабіць ці вока запарушыць. Каня трэба шкадаваць. Хіба ён не хоча перадыхнуць, травы скубануць?

— Жаласнік знайшоўся! — здзекліва пахітала бабуля галавой. — Коніка яму шкада! Хіба забыўся, як да вайны гнаў калгаснага жарэбчыка са свайго двара па галалёдзіцы. За тое, што сена глымазданеў. Непадкаваны, ён разоў колькі коўзаўся і падаў з усіх чатырох. Мызу разбіў, ледзь ногі не паламаў. А ты яго — дручком, дручком! Глядзець было немагчыма. А гэтага гнедага на другі дзень, як немцы прыйшлі, ухапіў з калгаснай канюшні. А пасля абматаў галаву кажухом і трымаў у ёўні, каб ніхто не пачуў іржання. Ён ледзь не захлынуўся ў тваёй пастцы.

Пімен, як апечаны, ускочыў на ногі, кінуўся да каня, што старанна і са смакам выгрызаў, нібы касой выкошваў, перад сабой траву, схапіўся за аброць, запусціў куцаватую далонь ў доўгую аксамітную грыву, а другою абціраў конскія вільготныя губы.

— Троху папасвіўся, косю, і досыць, — ведучы гнедага да падводы і, гледзечы, каб ён не наступіў на лейцы і не заблытаўся ў іх, ласкава гундосіў

Пімен. — Чуеш, у якой гразі нас з табой палошчуць. Пашанцавала, што ў маім двары апынуўся. Іначай, які-небудзь Ганс паганяў бы дрынам, каб служыў фраў Германіі і чорту лысаму.

Пімен спрытна і ўмела ўшчаміў гнядога ў аглоблі, па-гаспадарску падхапіў з долу ахапак расцярушанай саломы, кінуў у драбіны, усеўся ў передку і тузануў лейцы, выкіроўваючы каня на дарогу. Бабуля маўчала і, апіраючыся на нейкую ламачыну, падобную да кія, тэпала ўслед, ледзь варушачы губамі, шаптала малітву, каб усё абышлося добра, як гэта рабіла не раз у дарозе. Мне здаецца, яна нават пераксцілася, але такім манерам, нібы адганяла ад сябе камароў ці мух. Пімену таксама чамусьці не сядзелася, ён круціўся, як на цвіках, зіркаў па баках, быццам баяўся, што той самы воўк цікуе з-за соснаў, чакае зручнай хвіліны, каб накінуцца на Пімена і каня.

— Чаму не засяваеш, Агапа? — ні з таго ні з гэтага, як гром з яснага неба, грымнуў голас Пімена. — Бач, унук сядзіць у драбінах, пляцак таксама ўмасціла на возе. Радуйся!

— А можа, яшчэ, Пімен, узяць і станцаваць табе тут, на дарозе? — усмешліва-іранічна адгукнулася бабуля. — Толькі скажы, што станцаваць, гапака ці кадрылю? Ты ж танцор быў, свет гэткіх не бачыў. Пойдзеш нападпітку ў танец, нага за нагу чапляецца.

Дарога шчамілася праз высокі і выносісты сасняк, які настолькі шчыльна абступаў яе з бакоў, што Пімену трэба было пільнавацца, каб не зачапіцца воссю за камель. Конь напінаўся, аж рабрыны выступалі з бакоў і валіла пара. Пахла смалой і нагрэтай хвойнай карой, ігліцай. Абапал ішлі выносістыя, як адлітыя з бронзы, сосны, з даваеннай падсочкай, падобнай да залацістых фартухоў. Дрэвы падразалі такім чынам, каб смала-жывіца па жалабках сцякала ў гліняныя конусападобныя стаканы, што стаялі ўнізе, на клінках-падпорках. Раней тут ад самай раніцы рупіліся падсочніцы. Калі стаканы былі поўныя жывіцы, дзяўчаты выбіралі яе ў вёдры і адносілі ў зямлянку, дзе стаялі бочкі. У кронах дрэў спявалі і ціўкалі на розныя галасы птушкі, было светла і сонечна. А калі хто-небудзь з дзяўчат гучна абзываўся, дзесь далёка-далёка адгукалася рэха, нібы дражнілася ці хацела засведчыць, што лес жывы і чуе кожны гук і шолах. Цяпер тут нікога і нічога ранейшага не было і ў паміне. Жалабкі ад разцоў заплылі смалой, пажаўцелі і засохлі.

— Не ведаў я, Агапа, што ў цябе не язык, а змяінае джала, — нечакана гукнуў Пімен такім голасам, нібы хацеў пахваліць бабулю, і замахнуўся на гнядога пугай, бо дарога ў гэтым месцы пайшла пад гарушку. — А гонару столькі, што ў рэзгінах не панесці. Калісьці не здагадаўся ў ногі пакланіцца, каб па ваду да калодзежа прыходзіла. А цяпер трэба прасіць, як княгіню, пад'ехаць да мястэчка, маўляў, у нагах праўды няма!

— А я во сама зараз без тваёй просьбы сяду і пад'еду троху. Дарога з гары пайшла. Коніку лягчэй стала.

— Трэба ж такую натуру мець, каб пяць вёрст нагамі біць-таўчы, а пад канец паўвярсты праехаць! — пачаў разважаць Пімен, нібыта быў з дабрадзеяў самы лепшы дабрадзей. А чаму б жартам ці ўсур'ёз не сказаць, маўляў, падвязі, Пімен! Дык маўчыш, як магіла, ці вады ў рот набраўшы.

— Не пазнаць, цябе, Пімен! Чаму такі добры ды вясёлы стаў? Відаць, удача чакае. Во, дзякуй богу, і развілка. Табе трэба паварочваць у адзін канец мястэчка, а мы з унучыкам пакіруем у другі, туды, дзе царква.

Бабуля схапіла мяне пад пахі, выцягнула з саломы, і я апынуўся на абочыне дарогі. Глянуўшы на бабулю, Пімен крутнуў над сабой сырамятнай пугай, сəкануў гнядога і ён прыпусціўся трухам па завулку ўніз, дзе стаялі хаты. Мы

ішлі па сцежцы, што бегла, вілася ў канцы гародаў, тачылася сярод густалістых лапухоў і высокіх быльнягоў, пакуль не збегла ў лагчынку і, крутануўшыся каля вялізнага, як вяпрук, валуна, выкіравала ў завулак, што вёў на сярэдзіну мястэчка. Завулак ішоў-шчаміўся сярод платоў, за якімі раскашаваў і шалеў бульбоўнік, стаялі цыбатыя, выпетраныя на сонцы, быльняжыны. Было бачна, што бульбу ўжо акучвалі, а пустазелле чамусьці заглушыла разоры. Можа, не было часу гаспадару ці гаспадыні пахадзіць каля яго з капаніцай, і яно ўзяло і вырасла за ноч-другую. Платы, з акораных яловых і сасновых жардзін, даходзілі да падворкаў і ўпіраліся канцамі ў вуглы дзвюх хат, што стаялі абапал завулка глухімі да яго сценамі. Хата па левую руку была старая, з пашчапанымі бёрнамі, а па другі бок — новая, відаць, зрубленая перад самай вайной. Падмурак, з цэменту і круглага камення, быў настолькі высокі, што хата здавалася модніцай-задавакай, якая хацела вылучыцца сярод суседніх. Ад вуліцы, пад вокнамі, стаяў штакет, за якім пунсавелі кветкі. Побач, на пагорку, разляглася местачковая плошча, дзе на чатырох слупах стаяла, збітая з дошак, вышка, што служыла трыбунай. З яе да вайны выступала сельсавецкае начальства, а падчас акупацыі — паліцэйскія верхаводы, якія сядзелі ў тутэйшым гарнізоне. Па баках плошчы месціліся будынкі з крамамі і дробнымі канторамі. Непадалёк цякла рака Можа, цераз якую быў перакінуты даволі высокі мост, з плацінай і млыном на процілеглым беразе, зарослым лазой, крапівой і лебядой. Па мосце туды-сюды, як заведзеныя, шнуравалі-швэндалі два вартавыя. Яны даходзілі да сярэдзіны і, сустрэўшыся і ледзь не стукнуўшы лоб у лоб, паварочвалі назад. Гэта было падобна на нейкую забаву ці гульню, калі б у кожнага не была за спінай вінтоўка, а на галаве не цямнеў дзіўнага фасону картуз.

Зірнуўшы па баках, можа, спадзеючыся пабачыць каго-небудзь са знаёмых, бабуля паправіла завязаную на галаве хусціну, і мы падаліся вуліцай у той бок, дзе быў гарнізон. Перайшлі нешырокі масток, пад якім, пэўна, у час паводкі і дажджоў раўлі ручаі і сцякалі ў Можу. За мастком вуліца пачала брацца пад гару. У пяску, каля штакету і частаколу, капашыліся куры, з двара выскачыў цюцька і, успомніўшы, што ён павінен рабіць, пабачыўшы незнаёмых, заекатаў і цяўкнуў. Збоку ўзвышаўся зруб студні з мокрай лаўкай, на якую ставілі вёдры. А далей цягнуліся калючыя драты і ўзвышаліся дзіўныя страхатлівыя збудаванні, што па бровы зарыліся ў зямлю. Яны, здаецца, сачылі за кожным нашым крокам і рухам.

— Нямецкі гарнізон! — шапнула бабуля і мацней сціснула маю руку, нібы мяне хацелі схапіць здаравякі, што хадзілі за калючымі дратамі. — Не глядзі ў іх бок. Могуць падумаць, што мы прышлі, каб нешта выведаць.

Але і без бабулінага папярэджання я ўжо не глядзеў на нямецкія доты, што закапаліся ў дол, напрыканцы мястэчка, як я даведаўся пасля, на месцы колішніх магілак, і нагадвалі сабой страшыдлы з бабуліных казак. Яны, здаецца, глядзелі ва ўпор, гатовыя схапіць і кінуць у сырое і халоднае падзямелле.

— Малайчына! — чамусьці пахваліла мяне бабуля, калі мы дайшлі да нейкага падворка і спыніліся. — От сюды нам і трэба зайсці.

Наўзбоч стаяла з дзябёлага частаколу, вышэй, чым у рост чалавека, агароджа. Адны частаколіны былі прыбіты да жардзін каванымі ў кузні цвікамі, іншыя прыкручаны іржавым дротам. Вароты, на дзве палавіны, з дошкай-падваротняй унізе, падобныя на шчыты, ніжнімі канцамі патанулі ў дол і ўкарэлі настолькі, што было бачна, іх ніхто ніколі не адчыняў і не кратаў з тых пракаветных часін, калі з'явіўся гэты падворак. Побач былі варотцы, змантачаныя з нешыркіх габляваных дошчак. У крайняй круглела велічынёй з вавёрчына

вока, дзірачка, праз якую была праточана звычайная аборка. Бабуля ўзяла і пацягнула яе, на тым баку нешта грукнула-пстрыкнула і варотцы паволі паехалі ўбок, пакуль не стукнуліся аб слупок, відно, знарок укапаны ў дол. Перад нашымі вачамі зеўраў прадаўгаваты прагал, падобны на лясную прасеку. Ён таксама быў выгараджаны частаколам, праўда, больш тонкім і далікатным. У канцы прагалу стаяла хата-пяцісценка, абшаляваная шырокімі дылёўкамі, патрэсканымі ад часу, дажджоў, сіверу і іншай напасці і пошасці. Пад сцяной грувасцілася доўгая лава, на якой быў звалены розны хлам і ламачча, стаялі прыслоненыя граблі і каса, нібыта хтосьці збіраўся ісці на пожню. Каля дзвярэй, што вялі ў хату, вісела нейкая пакарабачаная пасудзіна, відаць, рукамыйнік. Замест выбітай шыбіны ў акне стаяла фанерына. За дробнымі забудовамі, лазняй і паветкай, пачыналіся хмызнякі і густы хвайняк, што глядзеў неяк сурова і нават пагрозна. Пад кустом ляжалі два дзецюкі ў паліцэйскай форме, не зводзячы вачэй з лесу, адкуль маглі з'явіцца партызаны і закідаць гранатамі нямецкі гарнізон. Адзін з дзецюкоў ускочыў на ногі і пашыбаваў у наш бок. Ён, відно, быў блазнаваты, рухавы і парывісты пракуда, увесь час азіраўся, быццам хацеў зазірнуць за кожную травіну і пад кожны лісток, што вісеў на дрэве ці ляжаў на зямлі, па дарозе да нас, ён збіў руляй вінтоўкі яблык, што пераvіс цераз частакол, запусціў у яго зубы і, адчуўшы, што занадта кіслы, паморшчыўся і шпурнуў на стрэшку катуха. Патрывожаныя вераб'і і сарокі, лопаючы крыллем, узняліся ўгору і шуганулі ў суседні двор. З крапівы выскачыла курыца і з кудахтаннем, заблытаўшыся ў нагах дзецюка, кінулася ўбок. Гэта цешыла і па-свойму забаўляла паліцая, якому хацелася свавольнічаць, выкідваць каленцы, спрачацца і нават схапіцца з кім-небудзь загрудкі. Служба ішла, як і мае быць, без сучка і задзірынкі, нішто не замінала і не абцяжарвала лішнім клопатам. Паляжаць у засадзе — гэта не за плугам хадзіць, сагнуўшыся ў тры пагібелі, і не бёрны траляваць на рум, дзе трэба як след напяцца і падналегчы. У вёсцы лепшымі і надзейнымі памочнікамі былі сякера, піла і каса, а ў гарнізоне — вінтоўка, з якой ён не расставаўся ніколі і, калі клаўся спаць, ставіў яе каля сябе. Дзяцюк, як ніхто, ведаў ёй цану. Варта яму было толькі глянуць на гэту штуковіну ці паварушыць ёю, як у тых, каго ён ахоўваў ці трэба было весці на допыт, валасы дыбам на галаве ўставалі, слова не маглі вымавіць. Ён не выпускаў яе з рук і цяпер. Настрой у яго быў вясёлы, не ў меру гуллівы і ён, зухавата збіўшы набакір картуз, з блазенскай усмешкай глянуў на бабулю:

— Здалёку, сарока? — і, відно, каб уразіць бабулю і паказаць, які ён лаўкач, лёгка і прыгожа шпурнуў угору вінтоўку і, калі яна, перакуліўшыся, падала ўніз і, здаецца, павінна была бразнуцца долу, пружыніста прысеў на левую нагу, спрытна падхапіў яе на ляту і ўскінуў перад сабой, быццам цэліўся ў птушку, што мітнулася ўгары. Зрабіўшы нейкі чарговы хітры выкрутас, грукнуў прыкладам, паставіў вінтоўку каля нагі. І зноў пільна зірнуў на бабулю: — Хваліся, адкуль?

— З Вераснёўкі! — гледзячы яму ў вочы і стараючыся патрапіць у тон, хуценька і з гатоўнасцю адказала бабуля, усім сваім выглядам паказваючы, што яна гаворыць праўду і не думае нічога ўтойваць ад дзецюка. І невядома для чаго, паўтарыла: — З Вераснёўкі. Адкуль жа яшчэ?!

— І вядома, партызанка? — падхапіў дзяцюк, зірнуўшы на бабулю. У яго правай руцэ з'явіўся тонкі гнуткі шомпал, якім ён сцёбаў, як дубчыкам, па далоні левай, чакаючы, што бабуля стане клясціся — ніякіх партызан яна не ведае і почутам пра іх не чула! Але замест гэтага яна ўскінула рукі ў бокі, бытта збіралася крутануцца перад ім, і задзірыста выгукнула:

— Ды якая яшчэ партызанка!

За час службы дзецюку давялося сустракаць людзей, якія трэсліся і калаціліся, як у ліхаманцы, калі бачылі на рукаве павязку паліцэйскага. Ведаў ён і такіх, што глядзелі на яго з пагардай, не баючыся ні пагроз, ні вінтоўкі-ламачыны. Але каб хто-небудзь, хаця б і жартам, пахваліўся, што ён партызан, такога яшчэ не было.

— Тэ-э-кс, — знарок расцягваючы слова і думаючы над тым, у які бок павесці гаворку, абышоў ён няспешна вакол бабулі і стаў, як укапаны. А ўслед за гэтым нечаканая ўсмешка расцягнула яго твар да вушэй, і ён з захапленнем выгукнуў: — Ведаеш, хто ты? Гераіня! З іншага абцугамі не выцягнеш, што ён лясны бандыт. А тут сама прызналася. І, па-ўсім бачна, здавацца прыйшла? Зараз павяду ў гарнізон да гер каменданта. Скажаш, што раскаялася. Цябе стануць вазіць, паказваць на мітынгах, маўляў, вось як трэба рабіць, — пераходзіць на бок нямецкай улады, памагаць ёй.

— Стой! — адчуўшы, што жартаваць у гарнізоне небяспечна, бабуля ўскінула перад сабой рукі, нібыта засланяючыся і баронячыся ад нейкай пошасці. — Не трэба да каменданта! Ты ж свой хлопец. Петрачок Рыскі з Пышачаў! Да вайны да нашых дзяўчат на танцы прыходзіў. Хіба я з чужым чалавекам вось так смела ґаварыла б? А ты — свой!

— А калі свой, то можна з агнём гуляць і на галаве хадзіць! — дзяцюк пагрозна махнуў шомпалам і ссек вярхушкі крапівы, што стаяла каля частакола. Было бачна, што, хаця яму цікава бавіць час, гуляць у гульню, прыдуманую ім самім, да немагчымага абурала і раздражняла празмерная смеласць і задзірыстасць простай сельскай бабулі, якая не баялася яго, а гаварыла нібы секла секачом капусту. Ён прыкра паморшчыўся, звысоку і грэбліва зірнуў на яе: — Радня аб’явілася. Можа, трэба бегчы ў краму па гарэліцу? А я стаю, як пень.

— Якая, Петрачок, гарэліца! — замахала бабуля рукамі, стараючыся яго супакоіць, настроіць на іншы лад.— Вайна, калатнеча. А тут, гляджу, ты! Ды яшчэ жартуеш. Чаму ж не адказаць жартам? Прыгадваю, які быў прыгажун! Дзеўкі самі вешаліся на шыю.

— Так ужо і вешаліся! — здаецца, не паверыў, але ўсё-такі неўпрыкметку пацёр ён шыю даланёй, а потым зірнуў на яе, нібы хацеў пабачыць нейкія сляды ці знакі ад дзявочых рук і абдымкаў. На далоні нічога не было, апрача калючай іглічкі, што ўпала з яліны, калі ён ляжаў у засадзе. Гэта яшчэ больш злавала дзецюка. — Дзіўныя людзі! Па завуголлі плешчуць языкамі, што мы, паліцэйскія, бобікі. А прыйдуць у мястэчка, сваякамі прыкідваюцца. І хваляць-расхвальваюць, хоць стой, хоць падай.

— Хай Бог крые, каб я, хоць на во столькі, душой пакрывіла, Петрачок, — бабуля паказала мезіны палец з пазногцем і сказала такім голасам, нібы пакрыўдзілася, што дзяцюк не верыць ёй.

— Ладна, хопіць пра дробязь, — саўгануў ён кудысьці пад рулю вінтоўкі шомпал і, ставячы яе каля нагі, па яго твары прабегла непрытворная, але блазнаватая ўсмешка. — Лепш скажы, калі б у цябе была дачка, аддала б за мяне замуж?

— А божачка, — войкунула бабуля і, распрасцёршы перад сабой рукі, памкнулася наперад, нібыта збіралася абняць не толькі дзецюка, але і ўвесь белы свет. — Ого, хто не палічыў бы за шчасце мець такога зяця! Але, на жаль, усе мае дачушкі, Петрачок, замужам.

— Дрэнна, што не пакінула мне, — здаецца, шчыра пашкадаваў дзяцюк, і, паскробшы за вухам, па-змоўніцку падміргнуў. — Але адкуль ты ведаеш, што з мяне выйшаў бы зяць, які прынёс бы цешчы шчасце?

Дзяцюк, відаць, чакаў, што бабуля зніякавее, пачне блытацца ў гаворцы, казаць абы-што і будзе зразумела — хваліць яго шчыра ці, каб толькі дагадзіць яму, хлусіць.

— А хіба па чалавеку не бачна, хто ён і чаго заслугоўвае, — гледзячы прама ў вочы і адначасова молячы Бога, каб не выдаць непрыязі, пачала даводзіць яму бабуля. — Высокі, прыгожы і, галоўнае, у ваеннай форме і строгі! На такіх улада трымаецца.

— Улада трымаецца вось на чым, — дзяцюк прыўзняў вінтоўку і ў каторы раз стукнуў прыкладам аб дол. — А калі строгі і ўлада на такіх, як я, трымаецца, то на каго падобны?

Кожны раз, калі ён заходзіў да каменданта і кідаў позірк у вялізнае люстра, хоць і трасліся паджылкі, бо невядома было, як сустрэне яго камендант і з чым правядзе, яму здавалася, што выпраўкай і паставай ён падобны да генерала. Яму хацелася, каб цяпер гэта нейкім чынам пацвердзіла бабуля, і, здаецца, пранізваў яе строгім патрабавальным позіркам.

— Адзін толькі Бог ведае, на каго ты падобны, — ухілілася ад прамога адказу бабуля.

— А ўсё-такі, — дамагаўся невядома чаго дзяцюк. — Хіба мне не пасуе форма, бельгійскага крою чаравікі, картуз?

Можа, бабулі надакучыла падрабляцца, гаварыць тое, што ён хацеў пачуць, ці згубіла асцярожнасць і абачлівасць, забылася, дзе знаходзіцца, і адмахнулася, як ад сляпіцы:

— Ат, на ваўка, Петрачок, стаў падобны, хоць бы ў бельгійскіх чаравіках і картузе. На ваўка і на антыхрыста!

Сказала і чамусьці, нават не думаючы дзеля чаго, пераксціла яго шырокім узмахам рукі.

— Ах ты, старая карга, — ускіпеў дзяцюк, быццам нехта ўзяў і садануў яму віламі пад дыхавіцу. — Ці ведаеш, каго абражаеш! Хоць я і прыходзіў на ігрышча, але не для таго, каб цацкацца цяпер з табой.

Ён замахнуўся вінтоўкай і невядома ўдарыў бы яе прыкладам ці зрабіў бы неяк іначай, але ў варотцах паказалася Бабіха, якая вярнулася ад суседзяў і, відно, чула перапалку.

— Што вы тут не падзялілі паміж сабой? — Яна са страхам пазірала на Петрака, які бегаў каля частакола з вінтоўкай, пырскаючы слінай. Калі б гэта было ў іншым месцы, ён даўно бабухнуў бы ў неба, у сцяну будыніны, куды папала. Але ведаў, што сваім стрэлам ён падніме на ногі ўвесь гарнізон і пачнецца такі вэрхал і перапалох, якіх свет не знаў. З раёна прымчыць на грузавіках падмацаванне. А калі трывога ўляжацца, стануць дазнавацца, з-за чаго яна ўсчалася? З-за недарэчнай перапалкі з вясковай жанчынай! Не, ніхто па галаве яго не пагладзіць. Могуць палічыць за правакацыю, знарок ці па дурноце ўчыненую ім.

— Пятрок, што з табой? — як мага больш лагодна дакранулася да яго рукава Бабіха. — Змяніўся гэтак з твару. Упершыню такім бачу. Астынь, ачомайся. Нельга даводзіць сябе да такога. Пойдзем ды пасядзім за сталом. Агапа мая кума. Госця на парог — у хату свята і пірог!

Голас Бабіхі быў падобны да журчання ляснога гаючага ручая, што заваражваў, зачароўваў і адначасова супакойваў. Да яго хацелася прыслухоўвацца, лавіць дзівосныя напеўныя адценні.

Каля ганка Бабіха азірнулася. Дзяцюк таптаўся каля варотцаў, відаць, бабуля зачапіла яго за жывое. Ён зацягваўся, цмыгаў цыгарэтай, душыўся

дымам, курэц, відно, быў з яго слабаваты. Бабіха аклікнула зноў і паліцман зрабіў запар некалькі зацяжак, шпурнуў акурак і падаўся ў бок хаты.

Старасвецкую забудову, што ўяўляла сабой хату-святліцу і сенцы, акружылі яблыні, грушы і вішнякі, і ў ёй было цёмна, як у ёўні. У паўзмроку можна было разгледзець груvasткую печ, што раскапусцілася на палову жытла. Масніцы, якія даўно не бачылі сонца, прагіналіся пад нагамі, дыхалі цвіллю і земляным холадам. Ля сцяны стаяў самаробны драўляны ложак з разной спінкай, відно, шэдэўр местачковага майстра-самавука. А над ім, пад самай столлю, віселі палаці, змайстраваныя з трох шырокіх дошак, што аднымі канцамі ляжалі на папярэчыне, прыкручанай дротам да бруса, другімі на чарэні печы. Ля акна стаяў стол, каля яго табурэткі і ўздоўж сцяны ляпілася лава.

— Во падсмаж груздоў і сыраежак, — падала бабуля вузельчык з грыбамі гаспадыні. — Панскае смакоцце!

— Не панскае, а хутчэй за ўсё партызанскае, — скрывіўся Пятрок, не тоячы непрыязі да бабулі. — З’ясі і капыты набок!

Тым часам Бабіха, бытта не пачуўшы шпількі Петрака, бултыхнула грыбы ў вядро з вадой, старанна вымыла і апаласкала іх. Яна не мітусілася, не спяшалася, але тое, за што бралася, выходзіла з-пад яе рук найлепшым чынам. Неўзабаве ў печы разгарэліся сухія смалякі, пайшло ў скокі полымя, абвіваючы і цалуючы пякучымі вуснамі дно патэльні. І адразу заверашчала, заенчыла нейкая скаромніна, пачалі смажыцца грузды і сыраежкі. Ніхто не паспеў азірнуцца, як грыбы былі гатовыя і стаялі на стале. Сеўшы на ўслон, Бабіха нечакана ляснула сябе па каленях, ускочыла на ногі і, прыціскаючы палец да вуснаў, маўляў, пачакайце, выйшла ў сенцы, пагрукала там і вярнулася, нешта несучы ў фартуху.

— Во, — пераможна выгукнула яна і паставіла на стол, побач з патэльняй, чацвярцінку. — Даваеннага вырабу і гатунку. Берагла для асобага выпадку.

— Даваеннага ці ваеннага вырабу, усё адно, — павесялеў Пятрок і пачаў разліваць у кілішкі, што падала гаспадыня. Устаў, адсунуўшы жыватом стол. — Не спяшайце, патрэбны тост. Давайце вып’ем! — ён знарок зрабіў паўзу і пільна глянуў на бабулю і гаспадыню. — За каго? За тых, хто, як раней казалі, у моры, а можа, у лесе!

Бабіха зразумела, каго мае на ўвазе Пятрок, гаворачы пра лес. Яна баялася аднаго, каб не ўзгарэлася бабуля і не сказала такое, што магло раз’юшыць Петрака.

— Чаго тут галаву ламаць? — пераможна і ўрачыста глянула на дзецюка Бабіха. — Вып’ем, ведаеш, за каго? За тых, хто сядзіць за гэтым сталом!

Бабуля для прыліку толькі памачыла ў кілішку губы і адсунула яго далей ад сябе, апраўдваючыся тым, што зроду не ўлягала ў пітво. І пачала збірацца, дзякуючы гаспадыні за соль, што вымеркавала за журавіны, без якое і яда не яда.

— І табе дзякуй, Агапка, за журавінкі, — не заставалася ў даўгу і Бабіха. — Кісялю звару. А хлопцы, — зірнула яна на Петрака, — цукру расстараюцца.

Гаворка вялася больш для блізіру, чым з-за пільнай патрэбы. Я бачыў, як бабуля, калі Пятрок выходзіў з хаты, дастала з-за пазухі паперку і саўганула яе ў рукі гаспадыні. Бабіха сцярожка азірнулася, прабегла вачамі тое, што было на ёй накрэмзана, і таропка кінула ў печ, на вуголле. Паперка скурчылася і ўзялася полымем. У хату ўваходзіў Пятрок, і Бабіха схапіла чапялу і, дакараючы сябе ўголас, што не дагледзела грыбы, якія ледзь не падгарэлі, стала бразгаць ёю ў печы.

Гаспадыня давяла нас да варотцаў і, узяўшы іх на зашчапку, заспяшала назад, у хату. Насупраць, зарыўшыся па бровы ў зямлю, па-ранейшаму зверавата пазіраў перад сабой нямецкі гарнізон, за калючым дротам хадзіў вартавы ды са слупа на слуп пералятала нейкая птушка. Ад мастка па мястэчку кацілася падвода, на якой сядзеў Пімен і паліцманы, што былі, пэўна, нападпітку і спрабавалі зацягнуць песню. Вартавы, які да гэтага часу абыякава пазіраў навокал, устрывожыўся, схапіў аберуч аўтамат, выглянуў на вуліцу і, пабачыўшы падводу і сваіх саслужыўцаў, супакоіўся і салодка заўсміхаўся, зразумеўшы, што ім пашанцавала недзе дзюбнуць і цяпер ехалі, адчуваючы, што ім і мора па калена.

Каб не трапіць паліцаям на вочы, бабуля нагнулася, робячы выгляд, што папраўляе чунь. А калі Пімен і паліцманы былі ўжо далекавата ад нас, выпрасталася, і мы падаліся ў канец мястэчка, дзе ляпіліся прыземістыя хаты. Крайні падворак быў падобны на закінутае і запушчанае ляда, на якім ляжалі шулы, быццам ім абрыдла стаяць адзін насупраць аднаго і яны кінуліся ў розныя бакі ды зачапіліся за нешта і ўпалі долу. Непадалёку віднеліся перакошаныя вароты, што прысланіліся да сцяны хаты, неяк трымаліся, ліпелі, гатовыя кожнае імгненне зваліцца на ценькія вішні і прыдушыць сваім цяжарам. Тут вуліца разыходзілася на дзве дарогі, адна вяла наўпрасцяк у раён, другая крута брала направа, ішла ўздоўж магілак і крыжоў, старых і нядаўна пастаўленых. Побач з ляском падпірала неба вялізарная прадаўгаватая будыніна, у якой месцілася царква. Была яна без купалоў, званіцы і крыжоў. Да вайны ў забудове месціліся майстэрні, вучыліся і жылі фэзэвушнікі, работніцы сталовай і інтэрната. Вайна не толькі вымела з будыніны фэзэвушнае начынне, але і выветрыла ранейшы дух. А калі сюды перабралася царква, паклаўшы ля ўваходу шырокія, вычасаныя з каменняў, пляцкатыя пліты і сталі прыходзіць вернікі, запахла ладанам, хвойнай карой і яшчэ чымсьці прэсным і нішчымным.

Пах ладану ўдарыў у нос, калі мы ўвайшлі ў царкву і прыторкнуліся да вернікаў, што стаялі перад памостам, на якім святар вёў царкоўную службу, трымаючы ў адной руцэ крыж, у другой малітоўную кнігу. Сярод вернікаў туды-сюды шчаміўся дробны хударлявы чалавек з рэдзенькай бародкай, як бабуля сказала, дзяк, са скарбонкай на выцягнутых угору руках. Бабуля апусціла ў яе некалькі медзякоў і падала паперку з імёнамі нябожчыкаў, якіх трэба было памянуць. Дзяк па прыступках узышоў на памост, паклаў паперку на відным месцы, кіўнуўшы галавой святару. Неўзабаве святар пералічваў імёны са словамі «сахрані і супакой». Пасля адпявання ён расхінуў пазалочаныя палотнішчы і пайшоў за «царскія вароты». Там, у надзейным схове, самаробным шкапчыку, стаяла бутля са свянцоным віном для прычасця, да якога ён і прыкладваўся ад самай раніцы. Віно падбадзёрвала яго, голас рабіўся больш гучны і моцны. А твар — ружова-барвовы і памаладзелы. Святар духоўнай семінарыі не канчаў і блізка каля яе не быў. Казалі, што перад вайной хадзіў у царкву як звычайны вернік, запамінаў усё тое, што рабіў бацюшка, а дома залазіў на гарышча і падрабляў яго голас, паўтараў рухі. А калі пачалася вайна і божы служка даў лататы, ён нейкім чынам улез у давер да новай улады і цяпер чытаў малітвы, спавядаў вернікаў, адпускаў грахі. Громападобным голасам дзябёлы мужчына, якому б гакаць молатам у кузні і падкоўваць коней, выводзіў «Ойча наш…» і так заядла махаў кадзілам, з якога не толькі ішоў дым, але сыпаліся іскры і вуголле. На гэты раз, пакуль ён браў у губу свянцоную кроплю, на амбон узграбліся двое паліцманаў, дружкі Пімена, з якімі ён сёння баляваў, і захацелі пахваліцца, казырнуць перад вернікамі, якія яны зухі. Адзін з іх, тонкі і цыбаты, як бадыліна, пахістваючыся,

рушыў да святара, каб прычасціцца і пацалаваць крыж. І, напэўна, так дыхнуў смярдзючым самагонам, што боскі служка, перасмыкнуўшыся ў твары, узмахнуў рукой і пераксціўшы яго, гучна выгукнуў: «Ізыдзі, сатана!»

Бобік, канечне, не чакаў такой смеласці ад святара, крутнуўся на месцы і хацеў скокнуць з памосту, але заблытаўся ва ўласных нагах, спатыкнуўся і ледзь не грымнуўся на падлогу. Ён, відаць, звык да таго, што ўсюды быў першы, паказваў спрыт і лоўкасць, а тут ганебна праваліўся. І гатоў быў помсціць за гэта ўсяму свету. Але дружок пераняў яго, і яны, патузаўшыся паміж сабой, урэшце, абняліся і, паклаўшы адзін аднаму на плячо руку, падаліся да дзвярэй. Вернікі праводзілі іх маўклівымі і дакорлівымі позіркамі, а святар, робячы выгляд, бытта нічога не здарылася, аднастайна і нудна чытаў малітву, высока пад столлю кружылі галасы пеўчых. Хаця ўсё ішло, як і трэба, але адчувалася, што ход царкоўнай службы парушыўся, збіўся з прывычнага ходу. Бабуля моўчкі ўзяла мяне за руку (дзякуй богу, што горшага не здарылася!), і мы апынуліся на дзядзінцы. У завулку нас дагнаў Пімен з канём, быў ён пад чаркай, раскапусціўся на мяшках, напханых невядома якім багаццем, пасадзіў мяне ў драбіну і, крутануўшы над конікам пугай, пагнаў яго наперад.

## 2

Пасля таго, як мы прыйшлі з мястэчка, бабуля пахваліла мяне перад маці, што я не сваволіў, не лез пад рукі і не замінаў, слухаўся яе і паводзіў сябе малайчынай. Маці ўсміхалася і пад канец сказала, што скончыць ткаць кросны і пашые мне першаму новыя штаны і кашулю. Я здагадаўся, што бабуля пахваліла ў доўг, таму стараўся дагадзіць ёй ва ўсім і памагчы. Калі з яе рук выслізгваў клубок, на які яна намотвала ніткі, то не паспяваў ён закаціцца пад лаву ці ўслон, як я наперагонкі з катом, кідаўся за ім, першы хапаў у рукі і падаваў бабулі. Улетку яна праполвала грады, шпурляла хрусткае і раздабрэлае пустазелле ў баразну, а я ўмомант падбіраў, адносіў яго на ўзмежак, дзе яно сушылася на сонцы і ішло на падсціл парсюкам. Але ўсё гэта было дробяззю ў параўнанні з яйкамі, якія трэба было адшукаць у хляве, на вышках, у саломе, пасля таго, як іх знеслі куры і пачалі наседжваць, рабіць баўтунамі. Спачатку яечкі шукаў мой старэйшы брат Толя. Але пасля таго, як бабуля выявіла, што ўнук пачаў употай лазіць на вышкі і піць сырыя яйкі, яна разгневалася, секанула разы тры крапівой-стрыкучкай па азадку і забараніла нават блізка падыходзіць да хлява. Апорваць яйкі яна даверыла мне. І я не мог падвесці бабулю. Узлазіў па лесвіцы на вышкі і навобмацак, баючыся праваліцца паміж жардзінамі, поўзаў па саломе, збіраў яечкі ў сваю даволі ёмістую шапку-васьміклінку і спускаў яе на аборцы ўніз, дзе бабуля перакладвала іх у рэшата. Такім чынам, я стаў для яе надзейным памочнікам амаль у кожнай хатняй справе. І прыйшоў нарэшце дзень, калі бабуля ўзяла мяне ў журавіны. Я даўно хацеў трапіць на імшарыну, але бабуля і маці, пачуўшы маю просьбу, пераглянуўшыся, рабілі загадкавую міну на твары і казалі, што дзецям нельга хадзіць на балота. Там водзяцца чэрці і могуць зацягнуць у такую твань, з якой і сталаму чалавеку не выбрацца. Да ўсяго, перад балотам стаіць мурзатая і бяззубая Баба Яга, якую трэба тры разы пацалаваць і даць нейкага адступнога, нешта накшталт гасцінца. Яны наганялі на мяне такога страху, ад якога мурашкі паўзлі па спіне і зуб на зуб не трапляў. Праўда, праз нейкі час я забываў пра чарцей і гідотную Ягу і зноў прасіў бабулю ўзяць мяне ў журавіны.

Можа, надакучыў сваёй просьбай, можа, па іншай прычыне, бабуля нарэшце згадзілася ўзяць мяне ў ягады.

З вёскі мы выйшлі, калі добра развіднела. Дарога праставала лесам, пад невысокую гарушку і, ускараскаўшыся на яе, выгіналася каля вясковых могілак, з пясчанымі грудкамі, у якіх ляжалі аднавяскоўцы, што былі расстраляны нямецкімі карнікамі на выгане ў сорак другім за дванаццаць вінтовак, знойдзеных у пуні дзеда Нупрэя. Пасля таго, як немцы з’ехалі, наша маці, упрогшыся ў двухколку, адна, без нічыёй помачы, дзеда, бабку і іх дачку Хадоссю, з дзвюма немаўлятамі перавезла на могілкі. Каб выкапаць ямку, не было ўжо сілы, і, разгарнуўшы збольшага шыгаллё і пясок, яна паклала іх адзін каля аднаго ў радок і засыпала зямлёй. Кожны раз, калі мы прыходзілі на Радуніцу на могілкі, маці выграбала пад грудком пясок і, гледзячы на нас, казала: «Во ў мяне пад рукой валёнак Хадоссі». І пыталася, ці хоча хто-небудзь з нас памацаць валёнак? Старэйшы брат і малодшы адводзілі ўбок вочы. Каб паказаць, што я не баюся нічога на свеце, прысеў на чацвярэнькі, саўгануў руку ў пячору і спалохана выхапіў яе адтуль, дакрануўшыся да чагосьці халоднага і коўзкага.

Ідучы каля могілак, бабуля глядзела кудысьці ўгору, дзе чуўся стук, быццам нехта стукаў малатком, старалася нешта разгледзець у густым спляценні сасновых галін.

— Чуеш, як арудуе, хай на яго кадук! — замахнулася яна кавенькай, нібы хацела напужаць таго, хто грукаў угары. — Няма яму ўходдзя. Гэта ж дзяцел насаты! Б’е ўсё лета. Куе сасну!

Мне хацелася распытаць бабулю, як гэты дзяцел куе сасну. Але яна прыбавіла кроку і, азірнуўшыся па баках, скіравала на вузенькую сцяжынку, што пятляла паміж камлістых сосен, рылася ў верасе, які густымі патламі звісаў з двух бакоў, нібы хацеў акрыць яе і схаваць ад людскога вока. Сцяжынка бегла ўніз, пад нагамі станавілася мокра, а неўзабаве лагчына гучна зацмокала, зацягваючы мае лапці ўглыб, і трымала так моцна, нібы хацела садраць іх з ног.

— Ну во, глядзі, — казала бабуля, калі мы падышлі да балота. — Чортава жытло і логава! Колькі тут людзей чэрці памучылі! Адных па багнах вадзілі начамі, іншых на выскадзь усцягнуць дый як зарагочуць такім голасам, ад якога чалавек за галаву хапаецца, чмурэе ўвачавідкі. Прачнецца досвіткам небарака, вакол багуннік пакручаны, як дрот, а над ім туман і вяршалінкі ссохлага хвайняку, і ні адной жывой душы. Стане хрысціцца, дойдзе да розуму, і як рынецца з балота — толькі мох з-пад пят ляціць! От, якая мітрэнга з многімі здаралася! А папраўдзе, балота, хоць і д’яблаў бярлог, але багатае і даходнае месца. Бывае, гэтак уродзяць журавіны, што людзі не ведаюць, куды іх дзець і што з імі рабіць. Ссыпаюць у дзежкі і на зіму ставяць у клець. Марозу яны не баяцца, ад яго салодкімі становяцца. Што і казаць, балоту цаны няма. З балотам можна жыць і не тужыць. Увосень журавіны, зімою людзі дармовыя дровы цягаюць. Хваінкі пасохнуць, выпетраць на сонцы, паленцы ў печы гараць, як порах. Грэюць чарэнь, перадаюць водгалас казак, паданняў, і тыя, хто ноччу спіць на печы, аж да рання бачаць такія сны пра чарцей і ведзьмакоў, што да скону не забываюць іх.

Бабуля гаварыла доўга і ахвотна, як і ўсе старыя жанчыны, і пільна глядзела сабе пад ногі, каб часам не спатыкнуцца аб корань ці які-небудзь пяньчук. Сцяжынка даўно ўжо скончылася, перад намі была даволі ладная канава, якая зарасла мохам, травой і бросняй. Калі перайшлі яе і вылезлі на бераг, бабуля сказала, што даўным-даўно, яшчэ за царскім часам, недзе наводшыбе ад вёскі,

стаяў з белага каменя дом, у якім жыў пан з дворняй. Адукаваны чалавек, многа кніжак чытаў, па замежжы ездзіў. Вярнуўся аднойчы дамоў, надумаўся асушыць балота. Аканомы сагналі не адну сотню людзей з навакольных вёсак, работа закіпела. Ды дзіва-дзіўнае рабілася на вачах: выкапаюць глыбокую, у рост чалавека, і прамую, як струна, канаву, а прыйдуць назаўтра: ад яе, каб табе хоць знак застаўся! Хапаюца за галовы людзі і пан — што за прыхамаць? Няўжо гэта справа ведзьмакоў? Паехаў пан у царкву: можа, трэба святы малебен адслужыць? Паглядзеў пільна на яго святар і кажа: «Канава заплывае граззю сярод ночы, да таго часу, як праспяваюць пеўні. А таму малітва не паможа». Пан на нешта яшчэ спадзяваўся, тузаўся, біўся як рыба аб лёд, але колькі далакопы ні рылі канаву, справа канчалася адным і тым: за ноч яна знікала. Нарэшце да пана дайшло, што гэта кара зверху за нейкі яго цяжкі грэх і правіну. Сабраў ён манаткі дый з’ехаў у вялікі горад, кінуўся, як у вір, у розныя гульні з тамашнімі пісанымі красунямі і праз некаторы час, казалі, на трэску ссох і ад яго маёнтка і багацця засталіся толькі ножкі ды рожкі.

— А во гэты ручай, які мы перайшлі, — паказала бабуля пальцам на бруюводы, — тое, што засталося ад колішняй канавы.

Непадалёку, як усё роўна разбегшыся ўбакі, тырчэлі невысокія, карлікавага росту, хваінкі. За імі пацягнулася імшарына, засланая мохам жоўта-рудога колеру. Там-сям пракідваліся купіны, на якіх гнуліся травіны, падобныя на бадыліны. Пападаліся на вока голыя, як пабірахі, і куцаватыя вольхі, што гублялі апошняе пажоўклае лісце. Высіліся згорбленыя, з пакручаным і пакарабачаным галлём, сасонкі, быццам на іх дзень і ноч, не ведаючы стомы і ўпынку, гушкаліся чэрці. Там-сям чарнелі струхлелыя пні, з сухой і зморшчанай карой. Нарэшце адкрылася гала, якое цягнулася немаведама ў якую далячынь. Над імшарынай вісела настолькі густая імглістая смуга, што праз яе ледзь праступала круглай плямінай асенняе сонца. Можа, наляцеў вецер і нарабіў у смузе прарэх, зыркія промні слізганулі па верхавінах лесу, упалі на мох. Ах, Божа, што сталася ў наступнае імгненне! Здаецца, халодны агонь узбліснуў перада мной, асляпіў і зрабіў амаль невідушчым. Я заплюшчыў вочы і нейкае імгненне стаяў, баючыся глянуць перад сабой. А калі зірнуў, ледзь не войкнуў: па левы бок ад нас з бабуляй гарэлі, зіхцелі і пераліваліся рознымі фарбамі даспелыя журавіны. З раніцы яны былі, відно, прыхоплены лёгкім марозікам, і цяпер, калі нарэшце сонца прарвалася праз густую замглёную смугу, былі падобны да рубінаў. Ягады, чырванабокія і буйныя, ляжалі акурат адна каля аднае, нібы ўкладзеныя дбайнымі рукамі. У кожнай свяцілася і гарэла бліскотная кропелька, якая нагадвала чымсьці маленькую чарадзейную лампадку.

Я зірнуў на бабулю і спалохаўся: яна змянілася і з аблічча, і з постаці. Хустка з’ехала на патыліцу, ускалмачаныя і раскіданыя ўбакі валасы былі падобныя на каўтуны ці багуннік, твар узяўся глыбокімі маршчынамі, нос зрабіўся гарбатым і драпежным, вочы гарэлі непрывычным агнём, спіна сагнулася ў дугу, і сама бабуля, здаецца, па пояс урасла ў мох. Адкуль толькі ў яе руцэ ўзялася крывая сукаватая палка? Бабуля сама стала лясной вядзьмаркай, пра якую зімнімі вечарамі расказвала нам страшныя казкі. Мне здалося, што і пальцы яе былі доўгія і скручаныя, як галлё, што звісала з хвоек. Нездарма падчас сваркі ці іншай мітрэнгі суседкі ў запале называлі бабулю вядзьмаркай і па вёсцы хадзіла чутка, што ўсе яе сваякі ў Дзіваніцы блыталася з чарцямі і вадзянікамі. Бабуля родам была з нейкага хутара, што абраў сабе месца сярод непраходнай дрыгвы, куды можна было дабрацца толькі зімой, калі маразы закоўвалі ў лёд навакольныя балацявіны. Наш дзед Нупрэй, калі памерла пер-

шая яго жонка, меўшы пяцярых дзяцей, якія ўжо сталі на ногі і ўвабраліся ў сілу, не захацеў жыць бабылём і прывёў перад зімой у хату з гэтай балотнай Дзівяніцы невялічкую, з вузел ростам, чарнявую жанчыну, якая за адзін дзень навяла ў запушчаным дзедавым логаве парадак: вымыла падлогу, вышкрабла стальніцу, падбіла на ложку падушкі, села сабе на ўслон і азірнулася навакол, — хто папікне, што не рупная гаспадыня?! Дзеду яна нарадзіла дзвюх дочак і сына, чорных і смуглявых, як і сама. На дзеда ніхто не быў падобны. Відаць, моцныя прыродныя карані меліся ў бабулі. Пра нагаворы, што яна вядзьмарка, дзед і вухам не вёў. Я таксама не звяртаў увагі, калі мяне называлі «вядзьмарскім вырадкам». А тут бабуля, сапраўды, і постаццю, і абліччам стала падобна на вядзьмарку. Мне зрабілася страшна і горка, хацелася заплакаць і праваліцца скрозь зямлю. Я заплюшчыў вочы і стаў чакаць нейкага цуда, не помнячы, дзе і на якім свеце знаходжуся, што раблю. Здавалася, што ўсё адбывалася ў сне. Нешта мітусілася перад вачамі, бліскала, быццам хтосьці махаў галавешкамі. Нарэшце расплюшчыў вочы і ледзь не ўскрыкнуў ад радасці. Бабуля, такая родная і любая, стаяла побач, усміхалася па-ранейшаму прыязна і даверліва, паказвала рукой на журавіны і людскія постаці, што варушыліся на імшарыне.

— Бачаш, колькі ягаднiц на балоце! Балбасіха з трыма дочкамі. Каля яе Анiся з суседкай Дуняй. А далей разгледзець не магу. Паўсяла выбралася ў журавіны.

— Хто рана ўстае, таму Бог дае, — разагнулася над імшарынай Мар’я, якую за вочы звалі Балбасіхай, хапілася абедзвюма рукамі за паясніцу, нібы хацела яе выпрастаць, і глянула на бабулю. — Спазнілася, суседка, як кажуць, на шапачны разбор. Заспала ці нейкі клопат трымаў у хаце?

— Часам не той багач з барышоў, хто першы на кірмаш прыйшоў, — загадкава адказала бабуля, знімаючы з плячэй накрыж завязаную пасцілку і трымаючы яе перад сабой.

— Што тыя барышы, быў бы занятак па душы! — згадзілася Балбасіха. — Сваё ты не ўпусціш, нагоніш і перагоніш любога! Лацвей табе, столькі памочнікаў маючы!

— Пра якіх памочнікаў ты кажаш, Мар’я? — азірнулася бабуля навокал сябе. — У мяне адзін памочнік. Унук!

— Унука я і сама бачу! Слаўны хлопчык расце, дзякуй богу! — выцерла аб фартух рукі Балбасіха. — Кажу я пра тых, з якімі яшчэ ў Дзівяніцы зрадніліся. — Памочнікі твае, сама ведаеш, з капыткамі і рожкамі. Пад карчамі сядзяць.

Бабуля ведала, што пра яе ў вёсцы ходзяць розныя чуткі і небыліцы. Казалі, быццам яна і дзеда Нупрэя прываражыла нейкімі травамі і замовамі. Нехта бачыў, як ноччу прыбягала ліса ці куніца да жытла адзінокага ўдаўца Нупрэя, лазіла па даху і нешта сыпала ў комін. Не промах быў і дзед Нупрэй. Адчуўшы, што па душы прыйшлася чарнявая дзяўчына з Дзівяніцы, ускінуў на плячо стрэльбу, клікнуў вернага сабаку Жуліка і заявіўся на хутар. Выпіўшы са сваякамі нарачонай пляшку настойкі, рашуча і сходу звязаў у вузел яе прыданае, падушкі і пад вечар быў ужо ў Вераснёўцы. Жаніўся, як казалі вяскоўцы, не па-людску, без вяселля і застолля, якое звычайна ломіцца ад смажаніны і печыва, а пітво льецца ракой — падстаўляй коўш ці прыгаршчы — міма рота не пранясеш! Праўда, пра гэта ніхто адкрыта не заікаўся і не наракаў на Нупрэя. Баяліся, што можа наслаць суроку ці хваробу.

— Дык яны там, у Дзівяніцы, і засталіся! — бабуля паспрабавала звесці гаворку на жарт.

— Хто табе паверыць? — увайшла ў смак Балбасіха. — Як толькі ты ступіла на парог хаты Нупрэя, яны ўжо тут як тут, у балоце апынуліся. Ягадніца ледзь паспее набраць лубку журавін, а ў цябе ўжо дзве!

— Калі табе хочацца, хай будзе і так, як ты кажаш, — пабачыўшы, што даводзіць нейкую праўду для Балбасіхі, пусты занятак, згадзілася бабуля. — А во гэта ягадніца, што непадалёк ад цябе, хто будзе?

— Нявестка Марк'яніхі, — зірнула ў бок дзяўчыны і зноў нагнулася над імшарынай Балбасіха. — Уедлівая, скажу табе, у работу маладзічка. Як і сама Марк'яніха. Чорт не адны лапці стаптаў, пакуль у адну хату сабраў. Высваталі недзе ў тым баку, адкуль і ты. З Арэхаўкі яна.

— У Арэхаўцы і дзяўчаты, і маладзічкі спрытныя і хвацкія. Возьмуцца што-небудзь зрабіць, справа гарыць у руках! — у бабулі быў такі голас, быццам гаварыла яна не пра дзяўчыну з Арэхаўкі, а пра родную сястру. І спахапілася: — Затлуміла ты мяне галаву. Сама вунь колькі журавін набрала! А ў мяне пакуль ні ягадзіны.

З чыстай і вымытай дабяла посцілкі, як з чароўнай настольніцы-самабранкі, выкацілася вядро. З яго бабуля дастала лубку, падала мне і позіркам паказала на журавіны:

— Вучыся браць, можа, і з цябе выйдзе добры ягаднік!

Пачапіла набірку на абору, аборкай падвязалася паверху світкі і, пераксціўшыся (Бог, памажы — спор пакажы!), нагнулася над мохам, пачала спрытна браць журавіны і кідаць у пасудзінку. Каб не адстаць ад бабулі, нагнуўся і я. Ягадзіны былі сцюдзёныя і каляныя, здаецца, крыху падмёрзлыя. Мне захацелася пасмакаваць іх, і дзве ці тры кінуў у рот, раскусіў. Яны былі настолькі кіслыя, што ў мяне, напэўна, набок паехала сківаца, скрывіўся твар. Я спалохаўся і прысеў, затуліўшыся за трухлявы пень, каб не ўбачыла бабуля і не падумала, што са мной робіцца нешта нядобрае. Праўда, неўзабаве я пачуваў сябе так, як і трэба, хоць у роце гарчыў непрыемны прысмак. Але бабуля прывяла мяне сюды не лынды біць, а журавіны браць. Я збіраў і зграбаў іх у набірку так старанна, што, здавалася, во-во яна будзе поўная як вока. А калі зазірнуў у яе, то ягады ледзь засцілалі дно. І тут бытта чорт таўхануў мяне пад руку. Я высыпаў журавіны на купіну, у набірку напхаў моху, а зверху, не думаючы пра тое, што раблю, сыпануў ягады і прысеў на пянёк. Свяціла сонейка, воддаль на каржакаватай сасонцы пырхала птушачка, дражнілася, глядзела на мяне так, нібы дзівілася, як я апынуўся тут, у гэтым непралазным балоце. Я не зводзіў з яе вачэй да тога моманту, пакуль унізе не бліснуў срабрысты ланцужок.

Пасля вайны па наваколлі было раскідана нямала рознага ваеннага лому і цацак, якія звычайна мы знаходзілі там, дзе адступалі немцы. Што да балацявіны, тут, відаць, у вайну і чалавечая нага не ступала. І тым не меней срабрысты ланцужок расцягнуўся на імшарыне. Мне захацелася пакратаць яго. Але як гэта зрабіць, калі імшарына была пад зваленай старой сухадрэвінай, з якой даўно злезла кара, але засталіся вострыя і прамыя, як пікі, сукі, праз якія нельга ні пралезці, ні прашчаміцца. Трэба было нешта прыдумаць. Не мог жа я пакінуць срэбраны ланцужок, каб ён дастаўся каму-небудзь іншаму. Побач валялася крывая палка, я узяў яе ў рукі, падчапіў ланцужок акурат пасярэдзіне, каб падгрэбці бліжэй да сябе. І, як толькі дакрануўся да яго, ён ажыў, заварушыўся. Спачатку абвіўся вакол канца палкі і ашчаперыў так моцна, нібы мерыўся раструшчыць яго. Гэта, відаць, была гадзюка ці балотная змяя. Адчуўшы, што нічога не можа парабіць з палкай, яна імгненна раскруцілася і знікла пад мохам. Я торкнуў некалькі разоў навокал, каб яна вылезла з-пад моху, але нічога з гэтага не выходзіла. Гадзюка, пэўна, зашылася ў нару і

настолькі глыбока, што яе нельга было дастаць і плытагонскім шастом. Тым часам на купіне, пад якую нырнула гадзюка, сядзела і глядзела на мяне, вытарашчыўшы зенкі, лупавокая жоўтая жаба. Яна была настолькі жахлівая і пачварная, што я не ўтрымаўся і саўгануў палкай, стараючыся папасці ёй у зяпу. Але прамахнуўся і жаба, скочыўшы з купіны, пацмыгала ў бок кустоў. Я чамусьці кінуўся ўслед. Не, я не хацеў растаўчы яе палкай ці скалечыць, мне проста было цікава напужаць жабу, чыё адроддзе ноччу крычала ў прырэчнай сажалцы, не давала заснуць. Але яна скокнула ў лазовы куст і так, як перад гэтым і гадзюка, прапала, знікла з вачэй. Я сцішыўся, прыслухаўся, сцярожка азіраючыся па баках, мне здалося, што паблізу, за кустом, чуюцца дзіўныя гукі, падобныя да вуркатання. Час ад часу яно пераходзіла ў працяжныя ўсхліпы, якія то заціхалі, то рабіліся больш гучныя і частыя. Мне пачало здавацца, што нехта праваліўся ў багну, ірвецца і не можа вырвацца з яе чэпкіх абдымкаў. На маім месцы можна было спалохацца і, як хутчэй, даць лататы. Але я не лічыў сябе баязліўцам, мне карцела дазнацца, адкуль ідзе вуркатанне. Рассунуўшы ўбакі куст, пабачыў перад сабой шыбіну вады, пасярод якой усплывалі пухіры-бурбалкі і чуліся таямнічыя гукі. Я абмацаў нагамі купіну і, асцерагаючыся, каб не праваліцца ў прадонне, кінуў у бурбалкі палку. Яна, як кап'ё, уторкнулася ў ваду, нейкі момант пастаяла не кратаючыся, а ўслед за гэтым імкліва закруцілася на месцы, як верацяно, і нырнуўшы ўглыб, імгненна патанула. Пачулася нешта падобнае на цяжкі ўздых і прытоенае шкадаванне. Здавалася, прадонне чакала, што я кіну чарговую палку-ахвяру і прыцягвала да сябе, ласкава і страхавіта зазіраючы не толькі ў вочы, але і ў душу. Мне стала не па сабе і я адступіў крок назад. Вакол было такое супакаенне і ціша, што чутно было, як звінеў камар і на суседнім кусце плёў павук павучыну. Чамусьці затуманіліся вочы, закружылася галава і мне здалося, што дрэўцы, балотнае куп'ё перакуліліся і сталі галавой уніз. Такое было і раней, але я ніколькі не баяўся, што са мной здарыцца нешта дрэннае. Я лічыў гэта цікавай забавай. Адно што кожны раз трэба было ўхапіцца за што-небудзь рукамі, каб не ўпасці. Я ступіў да хваінкі, але яна нечакана крутанулася, услед за ёй перавярнулася імшарына, а лес нібы праваліўся ў прорву. Я апусціўся на мяккую купіну і патануў, як у сенніку, напханым саломай, на якім мы, тры браты, спалі ўлетку, разаслаўшы яго проста на падлозе, і ўставалі, калі на стале дымілася верашчака, звараная маці з крапівы і бацвіння. Балота, імхі, журавіны, каржакаватыя дрэўцы кружыліся перад вачамі. Звычайная купіна здавалася індыком ці калматым сабакам, а пень бычынай мызай. Не помню, колькі часу прайшло, пакуль пачуў бабулін голас:

— Божа, як ты напужаў мяне! Я ўжо не ведала, што і думаць. Гляджу, няма ўнучыка побач. Душа так і абмерла. Можа, шуснуў у чортава вока? Не дай божа такой бяды! Дык што з табой?

Я баяўся, што бабуля больш не возьме з сабой не толькі ў лес, але і на рэчку, дзе на пясчаным дне ходзяць печкуры, а з віроў час ад часу вылятаюць пляцкатыя, бы колатыя плашкі, вялізныя шчупакі і, сагнуўшыся падковай ды страпянуўшыся, бліскалі пазалотай і давалі нырца ў ваду, пакідаючы тонкія кругі. І расказаў, як пабачыў балотную змяю, што прыкінулася срэбным ланцужком і схавалася пад купіну; як з купіны саскочыла жабоцька і павяла мяне да вадзяной прорвы, што войкала, стагнала і енчыла рознымі галасамі.

— Хітрыкі вурдалакі, — аб'явіла бабуля, пераксціла і, пільна паглядзеўшы на мяне, дадала, што я нарадзіўся ў сарочцы, інакш вурдалака мог зацягнуць у дрыгву, адкуль ніхто яшчэ не выбіраўся жывы і здаровы. Хацела нешта сказаць яшчэ, але замест гэтага ўзяла маю лубку, зазірнула ў яе:

— А ты неблагі ягаднік! Бач, колькі журавін назбіраў!

Мяне надта кранула бабуліна пахвала і адразу стала не па сабе ад думкі, што зараз яна выявіць мой падман і дасць яшчэ большага прачуханца, чым старэйшаму брату, калі ён хітрыў з курынымі яйкамі. Тым часам бабуля ўзяла з купіны набірку і пайшла да крывой хваінкі, пад якой стаяла вядро з ягадамі. Затаіўшы дыханне, я сачыў за кожным яе крокам і рухам. Здаецца, перасталі ціўкаць і пырхаць аўсянкі і пенкі. Бабуля кульнула мае ягады ў вядро і чамусьці ніколькі не здзівілася, што набірка да палавіны была напхана мохам. Яна выкінула яго пад куст, азірнулася вакол і, не пабачыўшы на імшарыне ягадніц, якія падаліся, відно, да выспы, каб папалуднаваць, клікнула мяне, сказала, што трэба перакусіць і нам. Непадалёку было сухое месца, дзе можна прысесці, не баючыся замачыць апратку. Яна разгарнула лапік палатніны, паклала кавалак сала, хлеб, гуркі і соль.

— Малайчына, — пахваліла мяне бабуля. — Заўважыў, што ў набірцы дзіравае дно і падаслаў моху. А што не многа набраў журавін, то не дзіцячы гэта занятак. Падрасцеш, навучышся ўсяму. А цяпер, еш!

Яна намацала за пазухай невялікую пляшачку, як яна казала, з царкоўным віном. Паглядзела на сонца, колькі ў ёй пітва, прыгубіла з рыльца і стала затыкаць самаробнай, з травы, затычкай. Маці ўшчувала яе за гэтае віно. Калі мужчына выпівае — на хаце дах гарыць, а жанчына прыкладваецца — жытло з чатырох вуглоў палае.

— Лісавета, напарстак царкоўнага віна мне трэба, каб хлеб не ляжаў у роце каменем, — апраўдвалася бабуля.

Зараз яна сядзела на купіне, салодка мружыла вочы. Я не адводзіў позірку ад пляшачкі, якую яна паставіла каля купіны. Ах, як мне хацелася хоць кроплю паспытаць царкоўнага віна, узяць яго, як у нас казалі, на язык. Жаданне было настолькі моцнае, што яно ўзняло мяне на ногі і павяло да пляшачкі. Мне здалося, што бабуля крыху прыдрамала. Але як толькі я апынуўся каля купіны, яна заварушылася і расплюшчыла вочы.

— На пляшачку села страказа, дык я сагнаў яе, — стаў апраўдвацца я. — Каб не сапсавала царкоўнае віно.

— Страказа? — перапытала бабуля і чамусьці пільна і дапытліва паглядзела мне ў вочы. Нібы нешта ўспомніла і ўстала на ногі. — Ягадніцы палуднуюць вунь на астраўку, — паказала яна пальцам у бок чубка лесу. — Пойдзем і мы туды. Нягожа быць адным.

Пах багуну, салодкай балотнай цвілі і гнілля, перастаялай цёплай вады і бросні разыходзіўся і распаўзаўся навокал, казытаў у носе і даваў у галаву, п’яніў і дурманіў тое жывое, што мелася на балоце і паблізу. Нейкая незразумелая светлыня сыходзіла і цадзілася з вышыні, поўніла наваколле і слалася на імшарнік. Бабуля ішла першай, я за ёй. Пад нашымі нагамі прагіналася посцілка, сатканая і сплеценая з моху і травы, а наперадзе каціўся, вышынёй да кален, вал, нагадваючы, што пад намі прорва. Ні я, ні бабуля не адчувалі страху, нават не думалі пра кепскае. Чмокаў сыры мох, сляды нашы наліваліся вадой і праз якое імгненне ад іх не заставалася і знаку ў трыснягу і аеры. Нарэшце мы вылезлі з балота, нырнулі пад разлапістую яліну. Ягадніцы сядзелі паўкругам каля пня, развязаўшы вузлы з харчам.

— Дзякуй богу, і Агапа балота пакінула і да нас прыбілася, — здаецца, уздыхнула Балбасіха і торкнула рукой у той бок, дзе гнулася постаць ягадніцы. — А там хто мох дзярэ? Нявестка Марк’яніхі?

— Здаецца, яна, — выказала здагадку бабуля, разуваючыся, каб даць хоць такі-сякі адпачынак нагам. — Стараецца, белага свету не бачыць. Горне ягады рукамі, як лапатамі, і не разгінаецца. Руплівка і ўдаліца!

Пахваліла і нікога з ягадніц благім словам не зачапіла. А калі глянула на іх, па выразе на тварах, пабачыла, што не ўсім даспадобы прыйшлася яе пахвала дзяўчыны з Арэхаўкі. Бабуля як усё адно прыніжала і ў нейкай меры абражала тутэйшых маладых ягадніц. Яны гатовы былі кінуцца ў сварку, маўляў, калі нявестка Марк'яніхі засталася браць журавіны, дык яна ўжо і ўдаліца! Магчыма, ачмурэла ад чаду багуну і балотнай гнілі, што сцяной стаіць навокал, і забылася на ўсё на свеце, а не толькі на полудзень. А можа, нагэтулькі сквапную натуру мае, што, дарваўшыся да журавін, бярэ іх і не можа спыніцца. І адразу супакоіліся, пасвятлелі тварамі і палагаднелі душой, калі пабачылі, як яна выграблася з балота і, маладзенькая, але спрытная і дужая ў паставе, з перасмяглымі вуснамі, абвяла ўсіх сінімі вачамі і сказала, нібы павінілася:

— Людцы, патрапіла на такія ягады, што самі ў набірку просяцца, — і, папраўляючы на галаве хусцінку і паказваючы, якія ў яе светлыя валасы, закончыла: — брала іх, а калі азірнулася вакол, бачу, адна засталася, як кол. Дык я лахі пад пахі і — сюды!

— Малайчына! — пахваліла яе Балбасіха і, пасоўваючыся на валежыне, паляпала побач далонню. — Садзіся радком, пагаворым ладком. Трэба і адсапнуцца. Даставай прысмакі ды перакусі. А мы паглядзім, ці шануе цябе свякроўка? Што адшчодрыла на полудзень? Можа, сканара? Дык мы цябе ў крыўду не дадзім.

— Ой, што вы, цётачка, — прысела каля яе дзяўчына і так шчыра і прыязна ўсміхнулася, што кожны пабачыў, якая гэта адкрытая і даверлівая душа. — Шануе мяне, як родную дачку. Так і глядзіць, каб памагчы, калі трэба падняць нешта цяжкае. Петраку майму надае кухталёў за няўпраўку. Дай Бог такую свякроўку кожнай мецы!

Сказала гэта, разгарнула скрутак з харчам і, пакроіўшы ладны кавалак сала на скрылікі, пачала раздаваць ягадніцам, хто сядзеў бліжэй, каб яны паспрабавалі, якое яно смачнае. Сама яна ўпраўлялася з ядой неяк неўпрыкмет, і ўмела, і акуратна, толькі стой ды любуйся!

— Дзе цябе і навучылі быць такой? — прыўзняўшыся з валежыны, нібы збіраючыся абняць дзяўчыну, не стрымалася і выгукнула Балбасіха.

— Або, — адвяла ўбок руку, у якой трымала скібку хлеба са скрылікам сала і, як бы збоку, здзіўлена зірнула на сябе дзяўчына. — Хіба я не такая, як і ўсе тут ягадніцы, і чым-небудзь лепшая?

— Хто ж яго ведае, якая ты, — азвалася касавокая Аўгіння, што звычайна маўчала, як камень, а калі пачынала гаварыць, жанчыны прыціхалі і слухалі, баючыся, пачуць пра сябе такую бязглуздзіцу, ад якой многія губляліся і ніякавелі. — Кажуць, што ўдаліцам з Арэхаўкі і Дзіваніцы чэрці памагаюць. І пальцы іх з кіпцюрамі. Агапа прыйшла апошняя, а журавін вунь колькі награбла!

— Ай, малайчына, Аўгіння, што ў сваім воку бярвяна не заўважаеш, а ў чужым сурочыну бачыш, — заварушылася бабуля. — Я і не здагадвалася, што ў мяне пальцы з кіпцюрамі. Давайце разам паглядзім, — бабуля выцягнула перад сабой дзве рукі. Далоні яе былі мазолістыя і патрэсканыя, а пальцы вузлаватыя і крыху пляскатыя.

— Часам чужое жардзё і суседскае колле зайздроснае вока коле! — сярдзіта зірнула на Аўгінню Балбасіха і пасунулася на валежыны, каб быць далей ад яе. — Бывае, жанчына страецца, аж з аглобляў выпрагаецца, а гляне наўскос — зроблена з камарыны нос. А іншая і не напінаецца, а тое, што робіць, як на кроснах снуецца, тчэцца і добрае вока радуе. А касабокае слепне ад зайздрасці. Яна і падбівае выхапіць з-пад рук чужое.

— Гэта я хапаю? — разанула Балбасіху вострым, як брытва, позіркам Аўгіння. І ўсхапілася, як полымя. — Хто ў Мікодзя Мокрага мёд з калоды ноччу выдраў, а потым два тыдні не вылазіў з хаты, пакусаны пчоламі? Твой кум Арцём, якога палена ўдарыла не тым канцом!

— Ну дык ідзі да Арцёма, цалуйся з ім і дзялі выдраны мёд, — замахала на яе рукамі Балбасіха. — Я сама зенкі выдрала б таму, каму чужы мёд вочы засціць. А ты падобна да жанчыны, якую Бог пакараў, калі, прыкінуўшыся старэнькім дзядулем, ішоў з тоненькай палачкай і ў кужэльнай кашулі. Чысты, сухенькі і лёгкі, як матыль. Бачыць, жанчына стаіць каля загона жыта. Ён і пытаецца, якой дарогай яму ісці, каб трапіць у местачковую царкву. Жняя буркнула, што няма ў яе часу паказваць дарогу. Ёй трэба жаць жыта, а серп невядома куды падзеўся. Можа, хто ўкраў? Дык нікога не было паблізу. І каб дзядуля хутчэй адчапіўся, яна, як стаяла сагнуўшыся, так, дурніца, і саўганула нагой кудысьці ўбок. Ён падзякваў і, як толькі знік, у руцэ жанчыны нейкім чынам з'явіўся серп. Узрадавалася яна і давай шахаць жыта. А дзядуля ідзе сабе далей. Бачыць дзецюка ў спатнелай кашулі і з цыгарэтай у зубах. Перад ім пожня, на якой мурог звіўся і пакруціўся так, што не давядзі гасподзь. Не ведае, як да яго падступіцца, рады даць. А сівенькі дзядок пытаецца пра дарогу. Дзяцюк ачуўся ад одуму, узяў яго пад руку, павёў да пянька, пасадзіў і сам насупраць прысеў. Пачаў распытваць, адкуль і куды бярэцца. Гамонка пацурчала, як вада ў крыніцы. Падарожнік расказаў, што сам ён здалёк, а ў дарогу выправіўся, каб паглядзець, як жывуць на зямлі людзі. Выслухаў дзяцюк яго, распытаў яшчэ пра жыццё-быццё ў тым кутку, адкуль ён ішоў, даў лусту хлеба і наказаў, каб трымаўся ўездджанай калясьмі каляіны і не зварочваў нікуды, бо можа патрапіць у бяду. Як толькі дзядуля знік за павароткай, у руках дзецюка невядома адкуль узялася вострая каса, якою стаў падцінаць густы, як сіло, мурог. З таго часу для жанчын было наканавана шчыраваць і рупіцца з сярпом у полі, сагнуўшыся ў тры пагібелі, і нічога не бачыць перад сабой. Жне, мяце сцябліны, вяжа ў снапы, здаецца, во-во канец полю будзе. А разагнецца, зірне на зробленае, хоць заплач, не больш, як на дзесяць крокаў адышла ад узмежку, быццам чорт па крузе водзіць і яна адны і тыя сцёблы сярпом падцінае. А мужчыны-касцы гоняць пракос стоячы, займаюць траву на два аршыны ўшыркі.

Калі Балбасіха закончыла аповед, Аўгіння паглядзела на яе так, быццам ведала прытчу даўным-даўно і слухала яе для прыліку. Але не выцерпела, спытала:

— Ну, а што далей?

— Без Бога дарога толькі да парога...

— Можа, Бог і ёсць, — нечакана для жанчын, якія ведалі, што Аўгінню нельга пераканаць нават у тым, што белае гэта белае, чамусьці яна згадзілася. — Але нямала на свеце чарцей і ведзьмакоў. А цераз гэта, то засуха, то дажджы. А калі няма дажджоў і засуха арудуе, то і працадзень парожні.

— Ат, языком малоць — не дровы калоць!— чамусьці раздражнёна сказала Балбасіха і паморшчылася, — гавары, калі ёсць патрэба, але і паглядай на неба. А яго хмары абклалі з усіх бакоў.

Бліснула сляпучая маланка, нешта грымнула, нібы храпнула напавал сухое дрэва ці раскалолася вялізная крыга лёду. Непадалёку лёгка і няспешна, распалавінілася высокая сасонка, і агонь, як разец, слізгануў уніз, зразаючы тонкую палоску кары. Раскроенае напалам дрэва хіснулася, бытта збіралася бразнуцца долу. Але ў наступнае імгненне нейкая сіла гайданула і тузанула дзве палавінкі так, што яны паляцелі насустрач адна адной і зляпіліся, склеіліся настолькі шчыльна, бытта нічога з сасонкай не здарылася. Зноў грымнуў гром, як усё

роўна нехта магутны хапіў чубок лесу за вершаліны і хістануў, спрабаваў жыўцом выдраць з выспы, што немаведама як і адкуль узялася сярод балота. Чохнуў, як з прорвы, дождж. Ударыў, забарабаніў град, абсякаючы з галля ігліцу і засцілаючы дол дробнымі аскепкамі кары. Градзіны заскакалі каля маіх ног, рассыпаючыся па зямлі і пнёў, як боб ці гарох. Некаторыя былі падобны да напарсткаў і завушніц, звінелі, падалі з перастукам, каціліся па камлях дрэў, губляліся ў багуне. Дзве ці тры градзіны настолькі моцна ўдарылі па казырку майго картуза, што ён палез мне на вочы.

— Авой, Агапа, — абхапіла Балбасіха рукамі галаву і, не зразумела, жартам ці ўсур'ёз выгукнула: — Ці ты прынесла гром і навальніцу! Ніколі такой навальніцы ўвосень не бывала. Пярун проста ў мой чунь ударыў. Бог ведае, як ад смерці ўратавалася.

— Кінь панікаваць дый гвалт дарэмна ўзнімаць! — усхапілася на ногі дачка Маня. — Неба вінавата, што дождж пайшоў, а не цётка Агапа. Во ён ужо і перастае. Хмары сплываюць.

Навальніца з дажджом і градам гэтак жа нечакана скончылася як нахапілася.

Хмары пагнала кудысьці ўбок, дрэвы перасталі хістацца і скрыпець у вершалінах і камлях. Я зірнуў на імшарыну і не паверыў вачам, — да самага небакраю яна была заслана бліскотным градам. Градзіны настолькі шчыльна ляжалі ўпобачкі з чырванабокімі журавінамі і гарэлі на сонцы, якое выбліснула з-за воблакаў, што імшарына здавалася велізарнай шклінай ці люстрай, якая немаведама як упала на балота. Яна мігцела, пералівалася безліччу колераў і адценняў, і мне здавалася, што я трапіў у нейкае казачнае месца. Калі мы з бабуляй выйшлі на ўскраек выспы, імшарына нагадвала крыгу, крохкую, як шкло. Здавалася, варта было ступіць на яе ўскраек, як яна трэсне, расколецца, пачне шчапацца на тысячы аскалёпкаў. Жанчыны, як зачараваныя, глядзелі перад сабой і дзівіліся, што цуд знікаў, прападаў увачавідкі. Градзіны раставалі, бліскотнае ззянне, што сляпучай пазалотай акрывала імшарыну, пачынала цьмець, рабіцца вадой, падымацца над імхамі.

— Якія тут ужо ягады! — сказала Балбасіха. — Трэба дамоў збірацца, выносіць мяшок з ягадамі на сухое. Інакш балота паглыне.

Яна першая сышла з выспы і сцежкай падалася да пакручанай хваіны, пад якой стаялі ў мяшку набраныя журавіны. Было бачна, як Балбасіха разам з Маняй закруціла мех з ягадамі ў пасцілку, узняла на высокі пень, стала да яго спінай і, узваліўшы цяжар на плечы, падалася сцежкай. Ягадніца згіналася ў дугу, здавалася, ношка сама паўзла цераз балотца і пад ёй гнулася і стагнала імшарына, во-во гатова была расступіцца ўбакі. За Балбасіхай, як мурашкі, з набіркамі, вузялкамі ў руках цягнуліся ланцужком яе дачушкі. Нарэшце Балбасіха выграблася на сухі бераг балота і, адшукаўшы вачамі высакаваты пень, павярнулася спінай і паставіла на яго ношку, — трэба было перавесці духі. Малыя балбасяняты пападалі, хто на купіну, а хто проста на грудок зямлі.

Мы з бабуляй таксама выбіраліся на лясную прасеку, што вяла да вёскі.

## 3

Вестка без ног бяжыць, а чутка без крыл ляціць. Вестка сарокай трашчыць, чутка рэхам аклікаецца. Абедзве спрытныя і ўвішныя, адна ад адна не адстаюць. Імчацца наперад, бытта наперагонкі паміж сабой гуляюць. І прыносяць для людзей радасць ці засмучэнне і, здаецца, адразу атрасаюць рукі, маўляў

мы тут ні прычым. Якая розніца, вестка ці чутка дапала да мястэчка, гоцнула на ганак нарыхтоўчай крамы, што стаяла непадалёку ад сельсавета і школы, месцячыся ў даваенным будынку, скіданым з дзябёлага камлістага бярвення. Яна сіганула ў напята адчыненыя дзверы і апынулася каля прылаўка, за якім стаяла прыёмшчыца Бабіха, і, шчоўкаючы костачкамі лічыльнікаў, нешта прыкідвала, падбівала ў сваёй бухгалтэрыі ды запісвала ў кандуіт, сшыты з абрыўкаў розных папер, блакнот. У краме стаяла цішыня, не было гармідару і вэрхалу, ад якога іншы раз яна, здавалася, раскідаецца і раскоціцца па бярвенцу. Хіба дзіва! Каб агораць хоць дробную капейчыну, сюды, у нарыхтоўчую краму, з навакольных вёсак неслі і везлі абаранкі высушанага лазовага лыка, алюміній, садраны з падбітых у вайну самалётаў, чырванавата-бурую медзь, бруднае рыззё і выпетраныя на сонцы і вятрах звярыныя і конскія косткі, што заставаліся ад цегуноў-шчыруноў, якіх прыганялі з заходніх абласцей за грошы, што адпускаў раённы банк як пазыку. А сіўкі-буркі і гнядыя, звыклыя да аўса і канюшыны, гаспадарскага догляду і ласкі, не прыжываліся на новым месцы, дзе за імі ніхто, лічы, не ўпадаў, а ўсе толькі адно глядзелі, каб зашчаміць каторага ў аглоблі ці запрэгчы ў плуг ды паганяць пугай. Праз месяц-другі коні адкідвалі капыты, іх трупы цягнулі за вёску, у гушчарнік, і яны рабіліся спажывай для ваўкоў, непераборлівага птаства. Пасля таго, як голыя рэбры і хрыбецiны перамывалі ліўні і дажджы, выпальвалі маразы, сушылі гарачыя летнія дні, яны апыналіся ў местачковай нарыхтоўчай краме. Узважыўшы на вагах, Бабіха звальвала іх у кут, дзе яны і чакалі з раёна палутарку, якая адвозіла іх туды, куды трэба. У калгасе таксама не журыліся, бо ведалі, што банк адпусціць новую пазыку, і мужчыны зноў паедуць у Заходнюю і прыгоняць новы табун коней.

Зайшоўшы ў краму, чутка падскочыла каля прылаўка і лоўка гоцнула, села на яго. Бабіха не ўзбурылася, не турнула за дзверы. Яна сцяміла, што зараз пачуе нешта важнае. І ўзрадавалася, калі даведалася, што каля Вераснёўкі, у Багуновым балоце, сёлета высыпала столькі журавін, хоць завaліся імі, — тамашнія дзяўчаты і маладзіцы цягаюць іх на плячах мяшкамі, возяць і тралююць на падводах! Імі засыпаны ўсе вольныя закуткі. Адно чакаюць, калі журавіны пачнуць прымаць у мястэчку ці прыедуць скупшчыкі-перакупшчыкі, павязуць іх у Маскву і перапрададуць у сем разоў даражэй. Не, Бабіха не дапусціць, каб нейкі прыхадзень стаў верхаводзіць у яе пад рукамі. Журавіны павінны трапіць у яе краму. А дзеля гэтага яна павінна пабываць у Вераснёўцы, сказаць ягадніцам, што яна, Бабіха, заплаціць за журавіны жывымі рублямі, а не цацанкамі-абяцанкамі. Ад гэтай думкі жанчына, хоць і мела натуру спакойную і ўраўнаважаную, ляснула рукой па стале. І нават памкнулася да бутэлькі, што стаяла ў патайным кутку, каб глынуць чарачку, да якой прывыкла ў партызанах, але перадумала. Трэба спачатку зрабіць справу, а пасля ўжо і адзначаць. Так гаварыў камандзір партызанскага атрада, у якім яна, Бабіха, добра засвоіла гэта правіла. Усмешка тонкай трэшчынкай прабегла па яе твары і схавалася ў куточках губ. Жанчына не прывыкла паказваць на людзях свае пачуцці, якія б яны ні былі, радасныя ці горкія. Яна выдатна ведала Багунова балота, не адзін раз мерала яго ўласнымі нагамі ўздоўж і ўпоперак, ідучы на сустрэчу да сувязных. Хадзіла ў любую пару года. Тады яна не вельмі зважала на тое, наколькі густа засцілалі яго журавіны ці іх не мелася зусім. Трывожыла зусім іншае: выйшлі немцы і паліцаі з гарнізона, каб зрабіць дзе-небудзь у зручнай мясціне засаду? А калі сядзелі ціха, трэба было пайсці ў вёску і раздабыць харчу для партызан, якія, вядома, у лесе не аралі і не сеялі, а есці хацелася, як і ўсім, хто ацалеў у ваенным бязладдзі і калатнечы. А пасля не

даваць спакою акупантам і іх памагатым-бобікам, якія днём смачна пілі-елі, а ноччу соладка спалі ў гарнізоне, што атабарыўся ў мястэчку і закапаўся з галавой у зямлю на старых могілках, змантачыўшы доты і дзоты такім чынам, што яны, здавалася, знаходзіліся недзе на тым свеце.

А назаўтра можна было бачыць жанчыну пажылога ўзросту, якая ішла дарогай, што вяла да Вераснёўкі. Дзень быў не сонечны і, не сказаць, што хмуры. Стаяла цішыня, па два бакі дарогі залацілася іржышча, стаптанае і паклычанае капытамі кароў. На пагорку, заваленым валунамі і камянямі, тапырыліся кусты лазоўя і ядлоўца, далей ішла няўдобіца, якую не кранала рука чалавека. А за ёй пачынаўся яловы лес. Пасля таго, як у вайну да яе зайшла бабуля Агапа і перадала паперку-наказ, каб яна, Бабіха, пакінула мястэчка і падавалася ў партызанскі атрад, яна наладзіла ў хаце для сваіх пастаяльцаў гулянку, і, дачакаўшыся моманту, калі яны зваліліся з ног, узяла іх аўтаматы і ўсё тое, што было прыхавана і спатрэбіцца ў лесе, ціхенька выйшла на задворак, і, прыгінаючыся да зямлі, каб не заўважылі вартавыя, падалася ў бок Вераснёўкі, да таго дамоўленага месца, дзе яе павінны былі перастрэць двое партызан.

— Куды ты гэта, маладзіца, ляціш, як кола, што сарвалася з восі? — стоячы каля дарогі і трымаючы ў руках даўжэзную пугу, аклікнуў Бабіху пастух Ціт, невысокага росту мужчына, зарослы густой шчаціной. Ён толькі што смачна зацягнуўся самакруткай, у якой быў гарладзёр-самасад, і пускаў з носа і рота дым.

— Хіба не бачыш, Ціт, куды дарога прастуе? — нехаця спынілася жанчына і зірнула на яго такім позіркам, якім глядзяць на чалавека, што выклікае непрыязь. Казалі, што ў вайну ён папярэдзіў паліцманаў, якія калонай ішлі ў Гібайлавічы, пра партызанскую засаду, і яны з паўдарогі павярнулі назад, у гарнізон. Праўда, прамых сведак і доказаў супраць Ціта не было. Але Бабіха глядзела на яго падазрона.

— Дарога, гэта самае, ідзе ў лес, — атрасаючы попел з цыгарэты ў далонь, моршчыў лоб Ціт, як чалавек, які падоўгу маўчыць і пры сустрэчы з кімнебудзь кідаецца ў гаворку, гатовы без канца пераліваць з пустога ў парожняе. — Але, што ты згубіла там? А можа, у сваты да ўдаўца плітуеш, ног пад сабой не чуеш?

— Ай-яй, блізка ад праўды ходзіш, а дапетрыць не можаш, — жанчыне хацелася жорстка пасмяяцца з Ціта, зачапіць яго за жывое. Яна па-змоўніцку падміргнула і, зрабіўшы таямнічую міну на твары, нахілілася да яго вуха: — На ваўка іду. Далучайся да мяне. Разам будзем воўчую шкуру дзяліць.

— Ай, Бабіха, чую па голасе, што хлусіш, гы-гы, — паказаў пракураныя зубы Ціт, нейкім чынам улавіўшы падвох, і з недаверам глянуў на яе: — З чым на ваўка ідзеш? З голымі рукамі?

— Гледзячы на якога ваўка, — больш для сябе, чым для пастуха, сказала Бабіха. Яна ўжо сумнявалася, што паліцаяў мог перастрэць Ціт і паведаміць пра засаду. Наўрад ці хапіла б у яго на гэта рашучасці і смеласці. Ён ведаў і тое, што ў партызан доўгія рукі, і яны дацягнуліся б да яго ўсюды і ў любы час.

— Не на ваўка, а лавіць індыка ідзеш, — цешачыся, што складна і ладна ўдалося сказаць такой паважанай жанчыне, як Бабіха, пусціў перад сабой клубы смярдзючага дыму і закашляўся пастух, хапаючыся рукой за грудзі. Прыйшоўшы ў сябе, пакруціў галавой: — Нешта іншае турбуе, спакою табе не дае.

— Праўду кажаш, Ціт. Мінулагодні снег шукаю, — кінула жанчына, усім сваім выглядам паказваючы, што няма ў яе ахвоты дарэмна марнаваць час.

Дарога збегла ў лагчынку, дзе яшчэ заставалася раса, крутанула ўбок і кінулася ў сасновы маладняк, што сцяной стаяў з бакоў. За ім адразу пайшоў густы хвайняк з засохлай даваеннай падсочкай. Дарогай цягнуліся дзве каляіны, што пакінулі пасля сябе грузавікі, якія вывозілі на рум лес. Збоку вілася сцяжынка, роўная і чыстая, як падмеценая. Па ёй хадзілі пешкі зімой і летам. Ісці па лесе роснай раніцай адна любата. Навокал сціхата. Каб табе хоць адна галінка зварухнулася ці страпянулася. Праўда, час ад часу над галавой, у гушчары галін, мільгане вавёрка ці пырхне птушаня і зноў — ні шолаху, ні гуку. Яна пазнавала дарогу, па якой ішла, спяшала да партызан глыбокай ноччу, у сорак другім, трымаючыся сярэдзіны і вызначаючы напрамак па небе, якое сінела ўгары і падказвала, куды трэба ісці. Каля балотца яе аклікнулі і яна адгукнулася на пароль. Партызаны падхапілі тое, што Бабіха прынесла з сабой: бальнічныя бінты, медыкаменты і нямецкі кулямёт, які намуляў плячо настолькі моцна, што боль не пакідаў яе з тыдзень. Канечне, ідучы ноччу, Бабіха запомніла нейкую калоду каля балотца, на якую прысела, каб хоць збольшага перавесці духі ды адсапнуцца. Цяпер яна дзівілася, наколькі была ў маладосці смелай і рызыкоўнай, што праставала, не думаючы пра небяспеку, якая падпільноўвала на кожным кроку. Цяпер, днём, Бабіха адкрывала для сябе, як нешта новае, хацця і крыху знаёмае, кожную паваротку і ўпадзіну, дзе вясной, калі раставаў снег і пасля дажджоў грымелі ручаі і ў гразі тапіліся падводы. Ідучы лесам і ўспамінаючы далёкае мінулае, яна нават не заўважыла, як дарога выкацілася на прагал. Справа пайшоў беразнячок, за якім віднелася поле, злева цягнулася сцяна маладога сасняку. Перад самай вёскай дарога нырнула пад схіл, старыя сосны змяніліся маладзенькімі сасонкамі. Там яна заламілася ў калена, дзе пасля вайны застаўся яшчэ акоп, павярнула ўправа і, пабачыўшы, што наперадзе зазеўрала прасветліна, за якой стаялі хаты, кінулася наперад, патрывожыўшы курэй і пылянят. Вёска прачыналася, над камінамі стаяў дым. Каля канцавога падворку жанчына гнала парсюка, які, відаць, выскачыў з хлеўчука і хацеў улезці ў гарод, дзе мог нарабіць шкоды і патравы.

— Ці можаш падказаць, маладзічка, дзе тут хата бабы Агапы? — спытала Бабіха.

— А чаму ж і не! — як усё роўна здзівілася жанчына. — Адгэтуль па правы бок сёмая хата. Але мама цяпер у мяне. Я малодшая дачка. А хата мая ўпобачкі з калодзежам.

— Во як яно бывае! — парадавалася Бабіха. — А я іду сабе ды ламаю галаву, як адшукаць Агапу? І ці заспею ў хаце? Вясковыя людзі не сядзяць летам, склаўшы рукі. Адзін у лес, другі ў поле!

— Ды нашто грашыць перад Богам! — згадзілася жанчына. — Клопату хапае і летам, і зімой. Неяк жа трэба жыць. А хто ж вы за жанчына? Як быццам знаёмая і незнаёмая. Можа, Бабіха?

— Яна самая! — адступіла яна на крок, нібы хацела, каб жанчына разгледзела яе як след і пераканалася, што гэта яна, а не хто-небудзь іншы і заўсміхалася, нібы сустрэла родную сястру, якую не бачыла гадоў дзесяць.

Перакідваючыся словамі і навінамі, жанчыны дайшлі да двара, які толькі з нацяжкай можна было назваць дваром. Гэта было голае, як бубен, месца, на якім стаяла двухколка, валяўся пабіты посуд, рассохлыя начоўкі, некалькі клёпак ад кадкі, а каля хлява грувасцілася складанка дроў.

— Во яна, наша гаспода! — абвяла Лісавета рукой, лічы, што пустку. — Але ёсць дзе прытуліць галаву. І за гэта дзякуй Богу. У іншых даху няма над галавой. У зямлянках месцяцца.

— Кхе-кхе, — пачуўся на ганку голас Агапы. — З кім ты гамоніш, Лісавета? Кажаш, госця? Хто завітаў у такую раніцу? А божачка, Бабіха! Ну здарова-здарова. Не чакала і не думала пра сустрэчу. Хоць і побач вёскі, а бачымся гады ў рады. Заходзь у нашу святліцу і скажы, што прывяло да нас? У цябе ж там, у мястэчку, клопат, крама.

— Клопат і прывёў, — уваходзячы ўслед за бабуляй у хату, спавядалася Бабіха. — Сёлета журавін выспела столькі, што свет можна засыпаць!

— Чаго ўжо чаго, а гэтага дабра хапае! — махнула Агапа рукой і адначасова змяла з лаўкі нябачны пыл, ладзячы месца, дзе магла б прысесці Бабіха. — Але ж ты не для таго біла нагамі дзесяць вёрст, каб прынесці толькі адну гэту навіну?

— Хай табе, Агапа, Бог здароўя дасць! — прыязна зірнула ў яе бок Бабіха. — Вераснёўка вунь як славіцца сваімі ягадніцамі. Хачу дамовіцца, каб яны бралі журавіны і здавалі іх мне. Тут, у Вераснёўцы, будзе прыёмны пункт. Разжыцца б на тару, куды можна было б ссыпаць ягады.

— Дык у нас і ліпаўкі маюцца, — абрадавала Бабіху бабуля Агапа. — У клеці стаяць. Дзед Нупрэй, царства яму нябеснае, змайстраваў. У іх зімавала жыта і пшаніца, льняное семя. Ды і ці мала яшчэ што, патрэбнае ў гаспадарцы.

— Адкуль вас толькі Бог мне і паслаў! — не чакала такой удачы Бабіха. — У даўгу не застануся. Я ж свая ў сельсавеце. І ў раёне да майго голасу прыслухоўваюцца. У маім распараджэнні і конь маецца. Дроў можаце з лесу прывезці.

— Хай жа Бог дасць, каб усё было добра! — пераксцілася на абразы бабуля Агапа. І пачуўшы кудахтанне хахлаткі, замітусілася, кінулася папраўляць дровы, што палалі ў печы, дый крыкнула дачцэ: — Схадзі і паглядзі, здаецца, курыца знеслася. Яечню спячом ды пачастуем дарагую госцю.

Чутка пра тое, што Бабіха будзе прымаць у Вераснёўцы журавіны і плаціць жывымі грашамі, умомант абляцела вёску. Пасля гэтага, раніцай, калі на пашу трэба было праганяць карову, мужчыны пыталіся адзін у аднаго, чаму гэта робіць ён, а не жонка, то можна было пачуць: «Чорт ведае, што робіцца! Зранку бяжыць у балота, кажа, журавіны трэба браць. А можа, які-небудзь чорт чакае там дый галаву дурыць».

Тым часам жанчыны мяшкамі тралявалі з лесу журавіны. Браць ягады — не забава. Паспрабуй на чацвярэньках пастаяць увесь дзень. Пад вечар ягадніцы ледзь разгіналі спіны. Іншы раз жартавалі, прасілі адна адну памагчы разагнуцца. Дахаты прыходзілі стомленыя, ледзь жывыя. Праўда, напаўдарозе іх пераймалі на веласіпедах, перакідвалі мяхі і ношкі цераз рамы, пад гару кацілі, а з гары ехалі, стараючыся не ўрэзацца ў прыдарожны валун ці пень.

Затое які вясёлы выдаўся дзень, калі Бабіха прыімчала ў Вераснёўку на вараным жарабку, якім кіраваў гарбун Яўсей, сельпоўскі фурман, са смалістым чубам, што тырчаў з-пад картуза, а сам дзяцюк умеў яшчэ іграць на гармоніку і лічыўся першым кавалерам на ўвесь сельсавет. Журавіны Бабіха прымала ў двары, каля ганка. Узважвала на калгасных вагах і дзецюкі насілі іх у другую палавіну хаты-пяцісценкі і ссыпалі ў ліпаўкі, кадушкі і кадзі, што засталіся пасля дзеда Нупарэя. Грошы Бабіха даставала з брызентавай сумкі, падобнай на кашэль ці рэзгіны, і разлічвалася з ягадніцамі. Бабуля і маці весела паглядалі на жанчын, якія выходзілі з хаты, гатовыя бегчы ў мястэчка ці дабірацца да раёна, каб купіць нейкую рэч ці абнову.

Журавіны Бабіха забрала перад вясной. Грузчыкі прыехалі пад раніцу на магутных «студэбекерах». Маторы па-звярынаму раўлі на вуліцы, грузавікі

выкіроўвалі, пад'язджалі да ганка. Чутно было, як дзверы расчыніліся напята, і ў хату хлынула такая халадзіна і цямнеча, што дрыжыкі прабеглі па спіне, хаця мы, трое братоў, спалі на печы, дзе чарань не астывала і на хвіліну, якія б маразы не трашчалі за акном. Краем вока я выглянуў з-за коміна. Хата была поўная, як зачыніць, людзей. Гэта былі здаровыя, у самай сіле, дзецюкі, здаецца, аднолькавага росту і, магчыма, аднагодкі, у цёплых ватніках і кажухах, і не з нашай вёскі. Відно, грузчыкаў Бабіха прывезла з мястэчка. У дзвюх палавінах хаты гарэлі ліхтары «Лятучая мыш». Журавіны стаялі ў чыстай палавіне хаты, у ліпаўках і дзежках.

— Чаго чакаеце, разявіўшы раты? — падаў голас мужчына, гасячы аб падэшву бахіла цыгарку. — Давайце за справу брацца, а не на чорта спадзявацца!

— Чорт табе дапаможа! — адгукнуўся другі сіплаваты, відно, крыху прастуджаны дзяцюк. — Але няма за што, браткі, учапіцца рукамі. Ліпаўка стаіць гладкая, як гарадская кабеціна.

— Дык гэта ж латва. Вазьмі пагладзь ліпаўку і яна стане паслухмянай, ручной. Галаву табе на плячо пакладзе. Будзе рабіць так, як скажаш.

— А можа, выйдзе горш, чым у Мікодзя са Свірыдаўкі. Ён хапае жонку за патлы, каб правучыць бессаромніцу, як да жаніхоў бегаць сярод дня, а яна, сытая, выслізгвае з рук, выкручваецца, як змяя, ды адно рагоча. Нічога не можа Мікодзь зрабіць з ёй.

— Што ты пляцеш пра нейкую падплотную крутню. Падавай вяроўку, што прыхапілі з сабой. Абкруцім, апляцём ліпаўку і можна несці хоць на край свету.

— Ад цябе, чмур, хоць і перагарам цягне, а дзела гаворыш, ліха матары. Вузлом завязвай, натуга зацiскай! А ты, мухамор, чаго стаіш ды варон ловіш, хапай там, дзе камля і стрыжня больш. Павалачом да дзвярэй!

— Стой-стой, журавіны рассыпалі. Трэба падабраць. Іх жа па адной збіралі на балоце ў набіркі, ссыпалі ў мяхі.

— Ага, паплач у камізэльку, можа, журавіны больш салодкімі стануць.

— Не зробяцца яны лепшымі і ад твайго воўчага гыркання.

— Ну, хопіць вам аскірзацца. Знайшлі час і месца для лаянкі! Лепш глядзі, каб гэта кадушка праз дзверы пралезла. Магчыма, вушакі выдзіраць давядзецца.

— Дзівак-чалавек, а як яна сюды папала. Праз комін ці акно?

— Выдумаў: праз комін ці акно! Уціснулася праз фортку. Помніце, як пан не хацеў аддаваць замуж дачку за звычайнага сялянскага хлопца і каб адчапіцца ад яго, паставіў перад ім умову: няхай праз фортку вынесе з яго святліцы залатую ступу. Паглядзеў хлопец на ступу і за галаву хапіўся. Яна была настолькі таўшчэзная, што ў параўнанні з ёй фортка выглядала, як вушка іголкі. Але не апусціў рукі. Ноччу ён расчыкрыжыў залатую ступу на чатыры часткі, прасунуў кожную ў фортку, знадворку іх падхапіла панская дачушка, якая без памяці кахала хлопца. Да раніцы ён склеіў, зляпіў ступу, паверху набіў абручы і сціснуў настолькі шчыльна, што ваду налівай — кропля не капне! Зірнуў пан, заенчыў, залямантаваў, што просты сялянскі хлопец абвёў яго вакол пальца. Але нічога не мог парабіць. Вымушаны быў рыхтаваць вяселле. А падчас гулянкі насыпаў поўную ступу золата, адшчодрыў у дадатак і карэту, на якой і памчалі маладажоны ў той кут, дзе павінна быць іх гаспода.

— Умееш, Астап, хай табе Бог здароўя дасць, языком часаць. От умасціўся б у такім месцы, дзе б табе на хлеб давалі за твой балбатлівы язык. Можа, і нам рубель тады-сяды перапаў.

— Мелеце языкамі, пераліваеце з пустога ў парожняе, маладзейшых з панталыку збіваеце? Няма на вас, гіцляў, управы!

— Саб’еш іх, шаноўная пані Бабіха, так, як брыгадзіра, чые ногі самі нясуць да кожнага самагоннага апарата. А што тычыцца маёй казкі, то з ёй лягчэй кадушкі да кузава валачы. За гэта капейчыну трэба было б накінуць.

— А можа, аброць на язык, што матляецца, як хвост у авечкі. Вось пагрузіш журавіны і палучыш тое, што абяцала. А языком мянці ў іншым месцы, колькі ўлезе. Можа, там табе і заплацяць лепш.

— Каб жа ведаць, дзе тое месца!

— Прыціх бы ты, Астап, іначай месца знойдуць такое, адкуль неба ў клетачку ўбачыш. Нам з табой наканавана зарабляць мазалём, а не балбатнёй.

— Гэй, бабка, адхініся, не дай бог зачэпім, наўрад ці зможам трэскі сабраць.

— А каб ты ляснуўся аб парог і зубоў не мог сабраць, выскаляка. Нікога не чапаю, а чэпіцеся як смала.

Хата трэслася і калацілася ад хадні і гоману шафярні і грузчыкаў, людзей з гучнымі галасамі, уперамешку з мацюкамі, тупаннем ног, тытунёвым дымам, вэрхалам і тлумам. Усё гэта як нечакана пачалося, так і скончылася. «Студэбекер», разварочваючыся на вуліцы, упёрся фарамі-бельмамі ў шыбу і доўга і страхавіта пазіраў у нашу хату. У іх святле было штосьці халоднае, казённае і жудаснае. Мне здавалася, што нейкае страшыдла ўтаропілася ў мяне, быццам я скраў у яго нейкую дарагую рэч, і яно патрабавала вярнуць яе, не адкладваючы ні на імгненне. Калі мы, браты, раніцай зазірнулі ў другую палавіну хаты, яна была нязвычна пустой і сцюдзёнай. А на падлозе расплываліся чырвоныя лужы і заставаліся-пляміны ад ягад, якія зляжаліся, пусцілі сок і ён працёк цераз днішча ліпавак і кадушак.

## 4

Пасля таго, як у тутэйшых мясцінах пашчыравалі меліяратары, спрамілі, пачынаючы ад вытоку, мясцовую раку Можу, сцадзілі ваду з навакольных балотцаў і нізкіх мясцін, стаў сохнуць і жоўкнуць мох, пайшлі на звод і журавіны. Ніхто не спяшаўся за вёску, у нізінку, што пачыналася за могілкамі, каб набраць хоць конаўку ягад. Іх там не было. А калі каму-небудзь шанцавала і ён знаходзіў лапік з журавінамі, былі яны нейкія маршчыністыя на выгляд, як усё роўна хворыя. Іх нельга было несці здаваць у краму, баяліся спажываць і самі. Ягадніцы хадзілі па журавіны кіламетраў за пятнаццаць—дваццаць у балота, што цягнулася з-пад Сомраў, ледзь не з-пад самых Бялынічаў. Выходзілі на досвітку і, лічы, бегма беглі праз знаёмы лес, дзялянкі, з даўнімі і свежымі вырубкамі, спяшалі хутчэй патрапіць на балота, што распрасцерлася да небакраю ўшыр і ўдоўж. Трава і мох пакрывалі ваду тонкай посцілкай. У вайну тут знаходзілі прыстанішча партызаны. Немцы ведалі, што яны тояцца на балоце. Але баяліся адысці ад берага. Травяны покрыў гнуўся, гайдаўся, пагражаў разысціся ўбакі і праглынуць тых, хто ступаў па ім. Ратавала партызан балота і ад мін, падаючы, яны прабівалі верхні слой торфу, ішлі ўглыб і рваліся там, не прыносячы аніякай шкоды людзям. Восенню балотныя імшары засцілалі журавіны. Пакуль яны даспявалі, нічым не кідаліся ў вочы. А калі браліся чырванню, здаецца, полымя кацілася паверх імшараў, пералівалася рознымі колерамі і адценнямі, якімі можна было любавацца гадзінамі. Вось у такую пару да балота спяшалі ягадніцы з вакольных вёсак і сёл. На восеньскім балоце хапала месца для ўсіх.

І, вядома ж, дапаўшы да яго, ніхто з ягадніц не збіраўся сядзець дый любавацца дзівоснай акрасай. Жанчыны, як галодныя, накідваліся на журавіны, грэблі ды зграбалі іх у набіркі, кошыкі і іншы прыдатны пасудак, рачкавалі ад раніцы да вечара, карчом стаялі ў вадзе. Некаторыя нават палуднавалі, беручы ягады. Пад вечар кожная ягадніца вылазіла з імшарыны як не з мяшком журавін і пускалася ў зваротную дарогу. А з вёскі насустрач выпраўляліся цэлыя абозы веласіпедаў, матацыклаў, нават двух ці трохколавыя трактары.

Аднойчы Маня Болбасава схапіла два вядры журавін і дабегла да Бялыніч, якраз паспеўшы да прыходу цягніка, што ішоў на Маскву. Яна паставіла іх на перон, спадзеючыся, што нехта выйдзе з вагона і купіць ягады. І сапраўды, неўзабаве каля яе стаяла жанчына, расшпільвала кашалёк і пыталася, колькі яна просіць за вядро.

Другое купіў мужчына. Ён доўга чамусьці глядзеў на спечаны на сонцы твар Мані, яе парэпаныя рукі і, як між іншым, сказаў, калі б яна з гэтымі вёдрамі ягад апынулася ў Маскве, на базары, то азалацілася б. Маня з недаверам зірнула на чалавека, які быў у дарагім паліто, а на носе блішчэлі пазалочаныя акуляры. Беручыся дадому, яна разважыла і сказала сабе, што хопіць транжырыць ягады направа і налева за бясцэнак, трэба іх везці ў Маскву. Пра гэта яна заікнулася бацьку. Ён палічыў яе словы за жарт і прапусціў міма вушэй. А пасля пакумекаў пра тое, можа, у Маскве, напраўду, цэны такія, што можна, хай сабе і не разбагацець, але зарабіць неблагую капейчыну. Праўда, для таго, каб везці ягады ў такую далечыню, патрэбна добрая і надзейная тара. Дзядзька Болбас схадзіў у лес, аблюбаваў прыгожую сухастоінку, спілаваў у адну руку. А вясковы трактарыст Міця прыцягнуў яе ў мястэчка, на пілараму, дзе спачатку пакроілі на круглякі, а потым — на роўныя прадаўгаватыя дошчачкі.

Дзядзька Болбас прывёз іх у двор і цяпер ад раніцы да вечара рупіўся пад павеццю, выгаблёўваў дошчачкі фуганкам, выбіраў у патрэбных мясцінах пазы, каб, збіваючы з дошчачак прадаўгаватыя, як школьныя пеналы, скрынкі, у іх не было шчылін, праз якія маглі прасыпацца ягады. Рабіў ён не спяшаючы, з аглядкай, заторкнуўшы за вуха аловак і трымаючы пад рукамі метр, пілку, малаток і іншае сталярскае начынне. Суседка Пракопіха, набраўшы ў студні вады і праходзячы міма, падзівілася:

— Мікалай, ты ж раней цясляры́ў, хаты стаўляў аж у трох сельсаветах. А цяпер наважыўся хлеб у Петрака з рук выхапіць. Сталярнічаць пачаў?

Дзядзька Болбас, вядомы ў вёсцы жартаўнік і пракуда, разагнуўся пад паветкай, азірнуўся вакол, хто гэта абвінавачвае яго, бэсціць? Што ні кажы, тугаваты апошнім часам на вуха стаў, раней па голасе мог вызначыць, хто з ім гаворыць ці пра нешта пытаецца. А-а, саламяная ўдава Пракопіха, што любіць мыць-перамываць чужыя костачкі. Ухмыльнуўся дзядзька Болбас па-блазанску куточкамі губ дый пільна глядзіць на жанчыну:

— А дзе ты, Ганна, бачыла Петрака з працягнутай рукой і хлебам, які я адбіраю ў яго? Маўчыш. Прамаўчаў бы і я. Але скажу па-суседску, што наважылася мая дачка павезці ў Маскву журавіны на продаж. Вось і майструю скрынкі.

— Так бы даўно сказаў, а то вымушаеш, чорт ведае, што думаць! — не зразумела на каго раззлавалася кабета.

— Магу і табе адну скрынку па-суседску адшчодрыць! — падміргнуў дзядзька Болбас. — Будзеш пенсію ў яе складваць ды берагчы, як у ашчадным банку. І мяне добрым словам успамінаць.

— Хай цябе чэрці ў балоце ўспамінаюць! — крутанулася верацяном Пракопіха і пабегла з вёдрамі да свайго двара.

Навіна пра тое, што Болбасава Маня вязе ў Маскву журавіны, неўзабаве абляцела наваколле, і пра гэта ведалі ў кожнай суседняй вёсцы. На яе сталі глядзець так, як на жанчыну, што наважылася зрабіць няйначай, як геройства. А хіба гэта не так? Не кожны адважыцца павезці ў Маскву журавіны. Нават у мястэчку, куды Маня прыходзіла, каб узяць у сельсавеце даведку, людзі спыняліся на вуліцы, глядзелі ўслед і казалі, што вось гэта вераснёўская дзяўчына збіраецца ў Маскву. Пра гэта ведаў і дзядзька Болбас, але не звяртаў увагі і не браў да галавы. Ён быў заняты сваім клопатам — скрынкамі. І калі загнаў апошні цвік у дошчачку, адкінуў убок малаток, махнуў рукавом над скрынкай, нібы змятаў нейкія парушынкі, выцер лоб, хоць на ім не было ні кропелькі поту, і сеў збоку, — дзякуй богу, даў рады свайму клопату!

А праз дзень да хаты падкаціў на грузавіку вераснёўскі шафёр Анатоль, па мянушцы Крывы Палец, расчыніў барты. І скрынкі з журавінамі, як паненкі ў абноўках, на руках дзецюкоў лёгка ўзляцелі ў кузаў, улегліся на брусах, што знарок выпілаваў дзядзька Болбас. Маня апранула плюшавую жакетку, накінула на галаву квяцістую хустку. Напаследак яна абхапіла за плечы маці, быццам развітвалася не на тыдзень-другі, а на гады. Нарэшце ўскараскалася ў кабіну і села побач з шафёрам, не зважаючы на тое, што ён быў у замурзаным камбінезоне. Як звычайна, у апошнія хвіліны ад'езду, дзядзька Болбас паспешна даваў нейкія парады, што хацеў сказаць раней ды не паспеў. Балбасіха хапалася за фартух і падносіла яго ражок да вачэй, выцірала слёзы, якіх на самай справе не было. Нарэшце раўнуў матор, клубы дыму выкаціліся з выхлапной трубы, і грузавік ірвануўся з месца.

На чыгуначнай станцыі скрынкі з журавінамі ў адзін момант перагрузілі ў вагон. Дзябёлыя, моцныя ў плячах і касцях грузчыкі, здавалася, перакідвалі іх з рук у рукі. Маня бегала, мітусілася сярод іх, прасіла быць з імі больш асцярожна, каб крый божа, не ўпусцілі каторую з іх долу і не разбілі.

— А ты не будзь скупечай, на чацвярцінку дай! — крыкнуў адзін з нахабнікаў. — Іначай во што будзе!» — ён прыўзняў скрынку, нібы збіраўся гакнуць аб бетон платформы. Маня стуліла вейкі, гатовая крыкнуць. Рука сама выхапіла з кішэні падрыхтаваную загадзя траячку, як і раіў бацька, калі будуць непярэліўкі. Грузчык асцярожна, як шкляную, паставіў скрынку на месца і заўсміхаўся, здаецца, нават больш, чым прыязна, маўляў, пажартаваў, а яна, дурнічка, напужалася.

А потым быў пасажырскі цягнік і ноч у паўсне і паўдрымоце. Яна ехала, прыторкнуўшыся ля акна да лаўкі. Ёй здавалася, калі сядзе, як трэба, то праваднiца, строгая кабета, запатрабуе ў яе грошы. Маня то зводзіла, то расплюшчвала вочы. Часам ёй здавалася, што яна трапіла кудысьці ў іншы свет, зусім не той, у якім жыла раней. Але, глянуўшы на людзей, што ехалі разам, хто седзячы, хто напаўлежачы, бачыла, што нічога кепскага не адбылося. Наадварот, сапраўды едуць, як і трэба. Яна вязе ў Маскву журавіны, дзе прадасць іх на базары па выгоднай цане, купіць абновак і гасцінцаў для маці і бацькі. Перад канцавой станцыяй яна, здаецца, заснула і прачнулася якраз тады, калі цягнік стаў збаўляць хуткасць і, скрыгануўшы тармазамі, спыніўся.

Са станцыі журавіны і Маню падахвоціўся адвезці на базар бойкі, вяртлявы і надта гаваркі дзяцюк. Нос у яго быў тонкі, востранькі, падобны на вераб'іны, нібы заточаны рашпілем ці на тачыле кончык цвіка. Было такое ўражанне, што нос быў для яго чужы, і нейкім чынам прылеплены да твару. Не паспелі яны праехаць і з кіламетр, як дзяцюк пахваліўся, што ён служыў недзе пад Гомелем і яму надта падабаюцца паляшучкі. Ён халасцякуе, мае кватэру, грошы і, як чалавек самастойны, а не з ветрам у галаве, гатовы

ўзяць яе замуж і жыць тут, у Маскве. З першай жонкай жыцця не атрымалася і яны разышліся. Можа, пашанцуе яму з Маняй.

— Што ты чаўпеш, чалавек, — абурылася дзяўчына, ледзь не накінуўшыся на яго з кулкамі, быццам ён не сватаўся да яе, а прапаноўваў зрабіць сумеснае злачынства. Яна забылася нават на тое, што едзе на грузавіку па Маскве. — Каб я згадзілася пайсці замуж за разжэньку. У нас у сяле сваіх хлопцаў хапае. І ўсе, як на падбор. А ў цябе нават нос не такі, як у людзей!

Дзяцюк пакрыўдзіўся, нейкі час маўчаў, а пасля, нібы жартуючы, сказаў, што вось зараз возьме і адвязе да сябе, замкне дзверы на ключ і нідзе яна не дзенецца, будзе жыць з ім.

— Ды я табе вочы кіпцямі выдзеру, пакіну з бельмамі, такога жаніха! — ледзь не закрычала з перапуду Маня, уявіўшы, што гэты гарадскі сарвігалава сапраўды можа зрабіць так, як сказаў. Шафёр заўсміхаўся і спытаў, куды і на які базар ехаць.

— Туды, дзе больш людзей і дзе як хутчэй можна прадаць ягады.

— Значыць, бяром курс на Ізмайлаўскую таўкучку! — дзяцюк сказаў такім голасам, нібы паміж імі не было ніякай перапалкі.

Пакуль грузчыкі пераносілі на склад скрынкі, перад Маняй, як з-пад зямлі, выскачыла з мятлой у руках і ўскалмачанай прычоскай, жанчына:

— Ты прыезджая? Табе трэба жытло?

Аказалася, што ў яе знойдзецца месца і раскладушка для Мані на ўсе дні, пакуль яна будзе ў Маскве. Кватэра была непадалёку ад базара, і гэта вельмі ўзрадвала Маню, яна баялася, што можа згубіцца ў мнагалюдным горадзе.

Перш, чым прадаваць журавіны, яна абышла базар, зазірнула на прылаўкі, дзе гандлявалі ягадамі. Паглядзела, па якой цане яны ідуць. Фанерку з такой цаной паставіла на прылавак каля сваёй скрынкі. І, як параіла гаспадыня кватэры, зрабіла прыпіску «Журавіны з Беларусі». І адразу каля яе завірыў натоўп. «Еўрапейскія ягады», — перамаўляліся паміж сабой кабеты, з падведзенымі вуснамі, пафарбаванымі вейкамі і пазногцямі, у дарагіх адпрасаваных палітончыках і плашчыках.

— З-пад Варшавы, — хацелася дадаць Мані, але яна адно толькі весела зіркала на жанчын дый казала:

— Насыпаю поўную шклянку з гарушкай, — і прытрымлівала ягады даланёй, каб не скаціліся на прылавак і не рассыпаліся. Чарга не канчалася да вечара. Разы са два падыходзілі нейкія гарбаносыя дзецюкі, называлі сябе джыгітамі і гартанным голасам казалі, што яны купяць ягады оптам, заплацяць добрыя грошы і няхай яна едзе дамоў. Маня сама дзівілася, адкуль у яе ўзялася смеласць, нават задзірыстасць, і яна кідала цераз плячо адгаворку:

— Адчапіцеся ад мяне! Ідзіце са сваім оптам у іншае месца і дагаварвайцеся там!

Вечарам на кватэры, дзе яна жыла, стаяў гармідар і вэрхал. Такіх, як яна, тут было некалькі чалавек. Прыехалі яны, здаецца, з усяго свету і чаго толькі не прывезлі, каб як мага даражэй прадаць і выручыць больш грошай. Вечарам саматугам ладзілася застолле. Мані даводзілася ўвіхацца на кухні, дапамагаць гаспадыні рыхтаваць розныя прысмакі для закусі. Дзецюкі добра выпівалі. Як не за рукі вялі і цягнулі за стол і гаспадыню з Маняй. Прымушалі глынуць сапраўднага каньяку. Каб не пакрыўдзіць кватарантаў-застольнікаў, Маня прыгублівала каліва-другое. А прыезджы каўказец лез цераз стол з пацалункамі, хваліўся, што недзе ў гарах стаіць яго каменны замак, і чаго толькі ў ім няма! Золата грудамі па кутках ляжыць, люстры на сценах гараць, ізумруды на аконных рамах зіхцяць і пераліваюцца, а пад акном кіпарысы, як джыгіты,

стаяць. Ах, што гэта за край, Каўказ! Рай, дзе жыць і жыць хочацца ды песні спяваць, як іх пяюць горныя ручаі. Ён гаварыў, усклікаў і чамусьці падносіў да губ складзеныя ў шчопаць пальцы і цмокаў, цалаваў іх кончыкі. Мані абрыдзела гэта, і яна хацела ўдарыць яго па руцэ, як хлапчука, адвучыць ад нядобрай, на яе думку, прывычкі. Але нешта стрымлівала яе і яна цярпліва слухала яго просьбу паехаць з ім у горы адразу пасля таго, як толькі яна прадасць журавіны, і ён павозіць яе па лепшых курортах і пакажа такое, што ёй і не снілася. Пакуль ён гаварыў пра курорты, іх прыгажосць і даброты, Маня маўчала. А калі пачула пра тое, што ёй трэба кінуць балота, дзе яна гадамі брала ягады і во цяпер прадае іх у Маскве, з ёй адбылося тое, чаго яна не чакала ад сябе. Яна абурылася, разбушавалася, хапіла кавалера за чуб і тузанула так моцна, што выдрала палову віхроў. Яе схапілі за рукі, адвялі на кухню, намачылі ручнік і абвязалі лоб, палічыўшы, што ў яе нервовая гарачка. Ачомалася яна раніцай, прыгажун прасіў прабачэння, гаспадыня ўпотай радавалася, што гармідар кончыўся прымірэннем. І ўсё пайшло па ранейшай каляіне.

Неяк раз да прылаўка, за якім стаяла Маня, падышоў чалавек у гадах, можна сказаць, дзядуля, сярэдняга росту, у капелюшы і пры гальштуку, з палачкай у руцэ. Твар тонкі, хударлявы. Інтэлігент. Ён уважліва зірнуў на ягады, узяў адну і кінуў у рот, раскусіў і крыху зморшчыўся. А ўслед за гэтым спытаў, адкуль журавіны?

— З Вераснёўкі, — зляцела ў Мані з языка. Чалавек рассмяяўся і стаў распытвацца, дзе і ў якім краі атабарылася гэтая вёска. Маня не вельмі давярала гарадскім франтам, не адкрывала перад імі душу. Але гэты дзядок так ласкава і па-сваяцку гаварыў і пазіраў на яе, нібыта яна ведала яго даўным-даўно. І, каб яму стала больш зразумела, па-вясковаму кінулася ў падрабязнасці. Сказала, што Вераснёўка ў Беларусі, каля мястэчка Ухвала. Можа, даводзілася чуць ці бываць калі-небудзь там ці паблізу?

— Бываць не бываў, але чуў, — перакінуў палачку з рукі ў руку дзядуля. Ён, здаецца, умомант павесялеў і памаладзеў, стаў больш рухавы і жвавы. — А вось Бялынічы добра памятаю. Гэта мая радзіма. Я з-пад Бялыніч родам.

Маня здзіўлена глядзела на дзядулю, нібы хацела ўсклікнуць, што свет вялікі, але цесны. Вунь у якой далечы можна сустрэць чалавека з родных мясцін!

— А божа, дык жа Бялынічы непадалёк ад нашай Вераснёўкі. Калі ісці наўпрост, цераз лес, кіламетраў васямнаццаць набярэцца. Можа, і з гакам. — А як жа вы тут апынуліся? — чамусьці азірнулася вакол сябе Маня.

— Доўга расказваць пра гэта, мая зязюля, — голас дзядулі палагаднеў. — Колькі гадоў прайшло, колькі вады сплыло з таго часу, як я пакінуў свае Крынкі пад Бялынічамі, і жыву тут. Можа, чула пра такую вёску, зязюля мая?

— Назва як быццам знаёмая, — паглыбілася ў памяць Маня. — З нашага боку перад Бялынічамі такія сёлы, як Матошка, Зазер’е, Папарнае. Туды нашы хлопцы на ігрышча ходзяць.

— Матошка, Папарнае, — варушачы вуснамі, задумліва паўтарыў дзядуля. І пакруціў галавой. — Не помню. Перад вачамі адзін лужок толькі стаіць. Падпаскам быў. Наляцела навальніца, пярун стрэліў. Клубок агню і дыму шуганyў каля ног. Пастух спалатнеў, думаў, што мяне забіла. А я жывы.

— Богам загавораны, — з павагай паглядзела на яго Маня.

— Усе мы пад Богам ходзім, — як быцам пагадзіўся дзядуля і кінуў позірк на журавіны: — А з якой імшарыны ягадкі?

— З Доўгага балота, што за Матошкай. Яму канца і краю няма. Туды ягадніцы з трох сельсаветаў сыходзяцца.

— Балотаў у тых мясцінах, уга колькі, мая зязюля! А якая прыгажосць! Птушкі спяваюць, крыніцы бруяцца. Я ўвогуле многа дзе бываў, многа чаго бачыў, — задумаўся дзядуля. — Сам я мастак-жывапісец. Прозвішча Біруля-Бялыніцкі. Можа, запомніш?

Маня не ведала, што ёсць такія людзі, якія завуцца мастакамі-жывапісцамі. Адзін дзяцюк, што называў сябе мастаком, неяк трапіў у Вераснёўку, маляваў постаці і абліччы людзей усяго за тры рублі і ў апраўданне казаў, што неяк трэба жыць. І чамусьці спытала:

— А хоць на хлеб зарабляеце?

— Дзякуй богу, не стаяў яшчэ з працягнутай рукой. Хапае і на хлеб і да хлеба. — Адно не дае спакою. Не магу напісаць карціну падпаска, з маланкай у руцэ. Колькі ні біўся, нічога не выходзіць.

— І мы ў калгасе як рыба аб лёд б’ёмся, а здаецца, рэшатам ваду чэрпаем. Нічога ў руках не застаецца. Даводзіцца, як у нас кажуць, ісці ў заробкі да чорта, браць на балоце журавіны і здаваць у нарыхтоўчую краму. Каб канцы з канцамі звязаць.

— Родная зямелька, хоць гэта і балота, выручае людзей, зязюля мая, — падумаўшы, заўважыў дзядуля мастак.— Не пакідае ў бядзе нікога.

— А чаму б і вам не прыехаць у родныя мясціны — так лёгка стала ґаварыць Мані з дзядулем, што яна не ўтрымалася спытаць і пра гэта.

— І рад быў бы, зязюля мая, ды гады ўжо не тыя, здароўя няма, каб пускацца ў дарогу, — прызнаўся ён. — На гэтым бывай. Во мая візітка з хатнім адрасам і тэлефонам. Можа, трэба будзе дапамога, то пазвані. Чарга вунь якая сабралася! Адпускай ім ягадкі. І я панясу кулёк, пачастую сваіх блізкіх журавінамі з родных мясцін.

Дзядуля далікатна раскланяўся, прыўзняўшы капялюш, нібы прасіў прабачэння і ў людзей, якія стаялі ў чарзе. А вечарам, калі апусцеў базар і прылаўкі, да яе збегліся прадаўшчыцы ў белых фартухах, наперабой пачалі распытвацца, адкуль яна ведае гэтага вялікага чалавека?

— Падышоў, як і ўсе, каб прадала кулёк журавін, — спакойна адказала Маня, бо нічога дзіўнага ў гаворцы з дзядулем-жывапісцам не бачыла.

— Ага, так мы табе і паверылі, — абвяла каляжанак доўгім позіркам старэйшая з масквічак-перакупшчыц, якую звалі Валютай, быццам Маня нешта ўтойвала ад іх, не хацела гаварыць. Каб паказаць, што Валюта дружыць з Маняй, яна стала побач, падперла рукі ўбокі, маўляў, мы сяброўкі такія, што не разліць вадой. Яна падала нейкі знак і, як з-пад зямлі, выскачыў невялічкага росту чалавечак, закруціўся каля іх, хапаючы раз-пораз за рукі і рукавы, просячы стаць так, як яму трэба, пстрыкаючы фотаапаратам і пад канец ускінуў угору руку з пальцам, што значыла: атрымаўся цуд! А Валюта, як завадзіла на гэтым базары, сяброўкам-перакупшчыцам загадала даць Мані самае лепшае месца, дзе ягады ідуць нарасхват.

Ні званіць, ні прасіць дапамогі ў мастака-жывапісца Мані не давялося, не было ў гэтым пільнай патрэбы. Ды калі б ў яе пайшло што-небудзь не так, а наперакасяк, наўрад ці асмелілася б яна турбаваць сівенькага старога чалавека, хаця ён і быў земляком. Праўда, калі яна расказала пра дзіўную сустрэчу на базары гаспадыні кватэры, тая глядзела такімі вачамі, быццам кватарантка трымала ў руках залаты самародак ды выпусціла з рук.

У Маскве Маня прабыла некалькі тыдняў, прадала журавіны, зарабіла неблагія грошы. Але на наступны год наадрэз адмовілася везці ягады зноў, як не ўгаворвалі яе бацькі.

Зрэшты, і журавіны пачалі чэзнуць, марнець, рабіцца нейкімі не вельмі прывабнымі на выгляд. Можа, усяму гэтаму была віной меліярацыя і меліяратары, што сцэджвалі ваду з балот і іншых нізкіх мясцін? Можа, былі іншыя прычыны, хто ж яго ведае.

## 5

Аднойчы, глыбокай восенню, калі стаяць ціхія, як усё адно налітыя яснотай дні і сонца ідзе з вінаватай усмешкаю, што свеціць ды мала грэе, і, здаецца, можна адчуць, як недзе, за небасхілам, блукае зіма з мяцеліцамі, вятрамі і маразамі, пайшоў я на знакаміты Камароўскі рынак і падаўся ў той закутак, што ў будні дні пустуе, а ў святочныя на ім устаюць адзін каля аднаго сталы і столікі, а на іх ляжаць яблыкі, ігрушы, чарэшні і слівы, словам, цэлыя горы восеньскага багацця, прывезенага сельскімі шчырунамі і камароўскімі гандляркамі. Кожны з іх глядзеў на мяне, запрашаў здалёку да сябе такім позіркам, нібы абяцаў абсыпаць з ног да галавы золатам ці брыльянтамі. Я не тое, каб надта быў пераборлівы, але адразу бачыў, якія, напрыклад, агуркі і памідоры раслі на гнайку з хлява, а пад якія шчодра падсыпалі хімікаты. Канечне, я не цешыў сябе нават думкай, што ўдасца выбраць нешта такое, чым можна было б пахваліцца перад суседзямі па пад’ездзе, маўляў, пaглядзіце, якое смакоцце прынёс на гэты раз! Мне цікава было прайсціся каля сталоў-прылаўкаў, перакінуцца з якім-небудзь дзядзькам сакавітым словам і пачуць адказ з такім досціпам, які будзеш сто гадоў чакаць і наўрад ці дачакаешся з вуснаў самага лепшага гарадскога залатавуста-лектара.

Не ведаю, колькі часу блукаў бы я сярод гандлярскага тлуму і вэрхалу, калі б праз вароты рынку не мітнуўся грузавік з кузавам, закрытым брызентам. Ён пакіраваў да прыземістых будынкаў, злепленых з бетонных пліт, што служылі складамі, куды гандляры зносілі на ноч сваё багацце, і ледзь не ўпёрся радыятарам у сцяну. З кабіны спрытна выскачылі два дзецюкі ў гумовых ботах, брызентавых куртках і шапках-картузах з надпісам «Калгас “Зарэчча”». Яны ўміг спусцілі з кузава дзве дошкі-сходні, скацілі круглыя бочкі. У руках адкуль толькі і браліся малаткі і долаты і яшчэ нейкія хітрыя прыстасаванні. Неўзабаве выбітыя днішчы стаялі, прыслоненыя каля бочак, і да грузавіка хлынулі людзі, маўляў, прывезлі журавіны.

Прыторкнуўся да чаргі і я. Чаму б і мне не адведаць журавінак, пасмакаваць іх, як калісь у дзяцінстве. Перада мной стаяў нейкі дзядуля пры гальштуку, адпрасаваным пінжаку і наваксаваных чаравіках, круціўся на месцы, быццам пад нагамі быў не асфальт, а напаленая да чырвані бляха. Побач толькі што стаяла маладзенькая красуня, відаць, жонка, і нечакана кудысьці знікла. Ён, мабыць, быў гарачы, як порах, і раўнівы, разгублена пазіраў навокал і не ведаў, што рабіць. Нарэшце не вытрымаў, папярэдзіў мяне, што на хвілінку адлучыцца, і кінуўся з усіх ног шукаць каханку. А гандаль тым часам ішоў сваім парадкам і быў, што называецца, у разгары. Хлопцы-малайцы былі вопытнымі гандлярамі. Адзін з іх, з доўгімі вусамі, якія пасавалі яму, чэрпаў конаўкай з бочкі журавіны, хуценька ўзважваў, другі шчоўкаў лічыльнікамі, браў грошы і кідаў іх у скураную торбу, што вісела ў яго цераз плячо.

Дзяцюк, што ўзважваў журавіны, не мог устаяць на месцы, пераступаў з нагі на нагу, узмахваў конаўкай, атрасаў з апраткі попел, які церусіўся ад цыгарэты. Не ведаў супынку і язык, малаціў, як хацеў і што хацеў, сыпаў направа і налева.

— Ах, да, кажаце, ерунда! Для вас беліберда і адна нуда. А журавіны не вада. Вам грошай шкада? А грошы лабуда! Здарова, Калунда!

Нельга было зразумець, блазнуе дзяцюк, прыкідваецца прасцяком і менціць языком для забавы тых, хто стаіць у чарзе. Праўда, час ад часу ён пераходзіў на сур'ёзны тон і расказваў, што журавіны з Аргенціны і растуць яны цяпер недзе пад Брэстам, на плантацыях, і збіраюць іх не ўручную, а камбайнам. І пахваляўся, што ўсе ягаднікі ездзяць на «мерседэсах». Яму верылі і не верылі, маўляў, балабон, а чаго ад балабона чакаць? Колькі часу прабыў я ў чарзе, цяжка сказаць. Але, мяркуючы па тым, што сівы дзядок-маладажон знайшоў сваю красуню і стаяў побач, відно, нямала. Калі я апынуўся каля вагаўшчыка, мне захацелася пажартаваць і я, знарок зазіраючы яму ў вочы, сказаў:

— Знаёмае аблічча! Не помню толькі, дзе, на якім сімпозіуме бачыліся.

Дзяцюк нібы спатыкнуўся і прыкіпеў падэшвамі чаравікаў да асфальту. Ён пільна прыгледзеўся да мяне, відаць, капаўся ў памяці, прыпамінаў, ці сустракаў раней. Паставіў конаўку з журавінамі на вагі і махнуў рукой, можа, і бачыліся выпадкова, хто ж яго ведае. А ўслед за гэтым прызнаўся, што закончыў аспірантуру, перад ім адчыняліся такія магчымасці, што іншым і не сніліся. Ды не заладзіліся справы ў сям'і, выйшла, як кажуць, асечка. Да ўсяго абрыдла яму і навука, і дысертацыя, над якой ён ламаў галаву. Зразумеў, што яго месца не ў інстытуце, дзе ён праціраё штаны, а каля зямлі. Паехаў у родныя мясціны і вось ужо каторы год займаецца і агранаміяй, і навукай, і ўсім астатнім, да чаго ляжыць душа.

Не сказаць, каб я быў ашаломлены тым, што пачуў, але мне засталося толькі выгукнуць:

— Вось як яно бывае! А цяпер ты жнец, касец і на дудзе ігрэц. Відаць, артыст самадзейнасці?

— Бывае і такое! — усміхнуўся ён мне, як даўняму знаёмцу.

Прыйшоўшы дахаты, зварыў я бульбы, паклаў у міску квашанай капусты, таксама купленай на Камароўцы, сыпануў удосталь журавін, дадаў іншых прысмакаў і, паклікаўшы ў госці суседа-прыяцеля, накінуліся з ім на гэта смакоцце. Сусед не быў гурманам, але еў са смакам і гаварыў:

— Які далекатэс, гэтыя аргенцінскія журавіны!

Мне нічога не заставалася, як хваліць ягады. Але, паклаўшы руку на сэрца, трэба прызнацца, у іх не было той смакаты, якая мелася ў журавінах адтуль, з маіх родных мясцін.

Што ж, відаць кожны кулік сваё балота хваліць.





Наталля ТУМІЛОВІЧ

# АДАМ — АЙЦЕЦ І ТАТА

*Апавяданне*

Калі выпадала, айцец Адам, якога везлі ў ссылку з многімі такімі ж абяздоленымі, пазіраў праз акно вагона на чужыя краявіды і думаў, колькі прыгожых мясцін на зямлі ён ужо ніколі не ўбачыць — ссылка ж можа быць бясконцай…

Але каб не гэты цягнік, ён увогуле ніколі б не апынуўся так далёка ад дому, не пабачыў бы гэтую веліч прыроды. Так што, можна сказаць, ён амаль нічога не страціў.

Праўда, калі б яму выпала доля застацца на Радзіме, ён, відавочна, быў бы больш шчаслівы…

Не, ён не тое што шкадаваў, што ўсё так сталася, што адарваны ад сваёй зямлі. Гэты было проста несумяшчальна ні з яго папярэднім жыццёвым вопытам, ні з абавязкамі, якія накладаў на яго сан. Тое, што адбылося з ім, як меркаваў Адам, было патрэбна Богу, і калі Ён палічыў магчымым даць яму менавіта гэткі, самы цяжкі іспыт — адзіноцтва і разлуку з Сафіяй і дочкамі, — Адам павінен прынесці і такую ахвяру дзеля Айца нашага.

Калі Адам думаў пра тое, якім радасным ён мог бы быць нават у гэтых, амаль нечалавечых умовах, у якіх апынуўся, калі б з ім была сям’я, па звычцы звяртаўся з малітвай да Госпада нашага Ісуса Хрыста, каб той дапамог захаваць яму моц духу і даў сілы змірыцца з непазбежным, годна сустракаючы пасланы яму цяжар.

Няпроста жылося Адаму апошнія трыццаць гадоў, амаль усё свядомае жыццё, з таго самага моманту, калі хворы, напалову ў трызненні і ліхаманцы старэйшы брат Уладзімір, перш чым знікнуць з яго лёсу назаўсёды і немаведама куды следам за памёршымі ад гарачкі бацькамі, падкінуў тады яшчэ здаровага шасцігадовага Адася ў бліжэйшы мужчынскі праваслаўны манастыр…

А цяпер ён ехаў невядома куды…

Побач з ім у вагоне амаль заўсёды сядзелі трое: стары, але яшчэ моцны на выгляд дзед, маладзейшы, прыблізна яго ўзросту, вельмі падобны на бацьку мужчына, і схуднелая жанчына, яго жонка. Відаць, цяжарная, бо ёй станаві-

---

***Тумiловiч (Саянава) Наталля Вячаславаўна*** *нарадзілася 24 чэрвеня 1981 г. у г. Барысаве Мінскай вобл. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2003), працуе там жа.*

*Апавяданні друкаваліся ў часопісе «Маладосць», «Полымя» і калектыўным зборніку «Пакуль б’ецца сэрца» (2013).*

лася дрэнна не толькі ад смаку незразумелай ежы, якую арыштантам выдавалі раз на дзень, а нават ад позірку на міску з пахлёбкай. Яна амаль нічога не ела. Каля сябе кабета трымала хлопчыка, на выгляд гадоў дзесяці—дванаццаці. Дарослыя больш маўчалі, нават на пытанні малога адказвалі нехаця. Але не было б то дзіця, нават у здзічэлым асяроддзі хлопчык імкнуўся знайсці хоць нешта цікавае і светлае, даймаючы сваёй мітуснёй не толькі бацькоў, але і тых, хто сядзеў далей.

Айцец Адам назіраў за ім ужо не першы дзень, з сумам і болем думаючы, што ён ужо наўрад ці пабачыць, калі яго дочкі Верачка і Надзейка стануць такімі ж.

Малому, як і яму, мусіць, было незразумела, куды і навошта іх вязуць у цесным вагоне. Раней усе гэтыя людзі не былі знаёмыя паміж сабой: старыя, дзеці, маладыя, здаровыя хлопцы. Жанчын і дзяўчат было меней. Усе яны знясілелі, змарнелі за два месяцы, праведзеныя разам у душным вагоне, і, здавалася, ніхто ўжо не думаў пра будучыню.

І ўвогуле, якая ў іх магла быць будучыня?

У іх цяпер заставалася толькі мінулае. У кожнага, сваё асабістае, усе іх жыццёвыя гісторыі былі аб’яднаныя тым, што падпадалі пад азначэнне «вораг народа».

Працаваў на зямлі, не шкадуючы сіл, — вораг народа! Маліўся ў царкве, праслаўляючы Імя Божае, — вораг народа! Пісаў вершы на роднай мове, падоранай маці і бацькам, — вораг народа!

Усе сталі ворагамі. Куды ж, цікава, падзеўся сам народ, думаў айцец Адам…

Ішоў адна тысяча дзевяцьсот трыццаць восьмы год ад нараджэння Хрыстова.

Цягнік ехаў у Сібір.

* * *

«…Аб’яўляю вас мужам і жонкай… Можаце павіншаваць адно аднаго…» Даша слухала словы жанчыны ў строгім цёмна-чырвоным касцюме, амаль не звяртаючы ўвагу на іх сэнс. Калі б раней яна не пабывала сведкай на вяселлях у сяброўак, мусіць, зараз увогуле не ведала б, што і ў якой паслядоўнасці трэба рабіць. Мяркуючы па тым, з якім сарамлівым задавальненнем Саша адхінуў вэлюм з яе твару пад дружныя апладысменты гасцей, нахіляючыся з вышыні свайго амаль двухметровага росту, каб узнагародзіць нявесту «першым сямейным пацалункам», ён разумеў тое, што адбываецца, не больш за яе саму.

Некалькі фотаздымкаў на памяць, зусім не горкае сёння чамусьці, як звычайна, шампанскае пад на дзіва знаёмыя крыкі «Він-шу-ем!», якія шмат разоў Даша сама крычала некаму іншаму. І вось ужо ўся святочная цырымонія ў ЗАГСе скончылася, яны стаяць на першым красавіцкім сонейку, разгубленa-шчаслівы Саша абдымае яе за плечы. Агромністы букет любімых белых ружаў, падораных мамай, коле рукі, ветрык развявае вэлюм, і праз абавязковыя, але такія недарэчныя зараз слёзы радасці Даша нават не бачыць, хто гэта пытаецца ў яе з прыемнай весялосцю і амаль незнаёмым голасам:

— Ну, а што мы будзем рабіць далей, а, сястрычка? Куды павязеце дзікаватага сібірскага хлопца? Што яму пакажаце?

— А ён сам усё ўбачыць, што ў нас і як.

Так, канешне, як яна магла забыцца, гэта ж Юра. Юрка, траюрадны, якога ўпершыню ў жыцці ўбачыла за два тыдні да вяселля, старэйшы брат, які неча-

кана і без папярэджанняў з’явіўся на парозе іх дома разам з маці — адкуль бы вы думалі? — з горада Ніжнеудзінска Іркуцкай вобласці.

Даша нават і не ведала да гэтага, што ў іх ёсць родныя ў Сібіры. Увогуле ўся гэтая гісторыя здавалася амаль фантастычнай. Уявіць сабе толькі! Жанчына прадпенсійнага ўзросту, якая не тое што ніколі не была ў Беларусі, а нават не бачыла нікога з іх ні разу. Пра яе і тата, і яго старэйшая сястра цёця Ніна ведалі толькі па паштоўках, што прыходзілі раз у два-тры гады напярэдадні Новага года, — вось гэтая самая жанчына раптам звоніць у дзверы іх кватэры і на пытанне Дашы, каго тая шукае, упэўнена адказвае — Змітра Васільевіча Кандратовіча. Дашынага бацьку, якому даводзіцца, між іншым, дваюраднай сястрой.

Зразумела ж, пасля знаёмства, падрабязнага аповеду пра ўсіх вядомых і невядомых Дашы дзядзькоў, цётак, дзяцей і бацькоў, пасля паездак у госці да ўсіх далёкіх і блізкіх татавых родзічаў, якія яшчэ засталіся ў жывых, спіс гасцей з боку нявесты папоўніўся. Але не запрасіць на вяселле цётку Алесю, а тым больш Юру, з якім яны знайшлі агульную мову ў першы ж вечар аб’яднання сям’і, калі з любоўю, паводле бацькоўскіх слоў, «абодва малыя з ахвотай іранізавалі над сентыментальнымі продкамі», было проста немагчыма. Даша амаль не здзівілася, што ў Юрку, бадай, ці не з першай сустрэчы закахалася не на жарт за гэтыя паўтара тыдня яе сяброўка Ірышка, мабыць, ці не адзіная незамужняя дзяўчына з ліку запрошаных на свята. У такога хлопца грэх было б не закахацца! Высокі, амаль такі ж, як Саша, хударлявы, але моцны (дзякуй плаванню ў халодна-ледавітай нават летам Ангары), камунікабельны і з пачуццём гумару, ён звяртаў на сябе ўвагу, мусіць, у любой кампаніі.

— Гэта таму, што мама мяне ў гонар Гагарына назвала! — жартаваў хлопец. — Вось я такі ж удалы і атрымаўся.

— І чаго ж цябе, такога ўдалага, да гэтага часу ніякая дзяўчына не заарканіла? — смяялася цётка Алеся.

— Дык я ж яшчэ і разумны, — адмахваўся Юрка. — Вось сядзеў, чакаў, пакуль ты мяне ў Беларусь не прывязеш на агледзіны, сама ж казала, тут самыя лепшыя дзяўчаты жывуць. Навошта мне тыя сібірскія? Я сабе тут прыгажуню выберу, праўда, Дашутка? — павярнуўся ён да сястры. — Вось не была б ты мая сястра, адбіў бы цябе ў твайго Сашкі. Верыш?

— Веру, веру, — супакойвала яго ў адказ Даша, бо яму сапраўды цяжка было не паверыць, такі ён увесь быў упэўнены ў сабе, раскаваны, і разам з тым ласкавы і добры адначасова.

Ці выбера брат сапраўды сабе тут нявесту, дзяўчына, канешне, прадбачыць не магла, але тое, што Ірачцы ён спадабаўся сур’ёзна, было відавочна. Каб ён хоць зараз паклікаў яе ці ў той самы свой Ніжнеудзінск, ці яшчэ хоць на край свету (шчыра кажучы, у Дашыным разуменні гэта, здавалася, адно і тое ж), Іра, мусіць, нават бацькоў не папярэдзіла б. Шкада будзе, калі гэта акажацца без узаемнасці, мільганула ў Дашы думка. Але дзяўчына тут жа вырашыла, што пра гэта можна падумаць і пазней, а на сваім вяселлі трэба ў першую чаргу самой быць задаволенай. Дзяўчына павярнула галаву да Сашы, падняла на яго вочы і шчасліва ўсміхнулася: які ён у мяне прыгожы.

* * *

Яму было амаль семдзесят гадоў. І за ўсё жыццё, колькі Лявон сябе памятаў, ён не правёў без працы ніводнага тыдня. Самым цяжкім выпрабаваннем для яго былі дні царкоўных свят, калі нябожчыца жонка пільнавала, крый божа, каб ён не пайшоў запрагаць каня. Праўда, конь у іх з’явіўся толькі ў яе

апошнія гады, калі ўжо хоць крыху падраслі, узбіліся дзеці, пачаў дапамагаць па гаспадарцы падлетак Ляксей, ды ўвайшла ў дзявочую пару і моц старэйшая Яніна.

Усё жыццё яны з Настассяй, пазней з сынамі і нявесткамі, а да таго, у амаль забытай маладосці, пакуль жывыя былі бацькі, што з маленства і прывучылі яго да зямлі, то і з імі, працавалі на ўласным надзеле. Менавіта бацька, якраз напярэдадні Лявонавага нараджэння, збег з вёскі ў суседні лес, сам раскарчаваў дзялянку і, лічы, палажыў на ёй здароўе, — дзеля таго каб пакінуць адзінаму сыну больш-менш прыстойны кавалак распрацаванай зямлі.

Калі Лявону было гадоў восем-дзесяць, на хутар да іх прыбілася яшчэ колькі сям'яў. Таму бацькі і прымусілі яго пабрацца з Настассяй, каб аб'яднаць дзве адасобленыя гаспадаркі ў адну.

Кахання, канешне, па маладосці, у іх асаблівага не было, ды і дзе яны тое каханне маглі пабачыць? А потым, калі ён ужо ўвайшоў у самую мужчынскую сілу, можа б, і пачаў заглядацца на чужых баб ды маладых, нясмелых дзяўчынак, але ў тым лесе, дзе яны жылі, не надта было выбару. Ды і напрацаваўшыся за дзень, падаў у ложак як падкошаны, яму нават пра жонку думаць не хацелася, увогуле ніякіх жаданняў не было, акрамя таго, каб выспацца.

Слова «адпачынак» ні ён, ні жонка, бадай, за ўсё жыццё не ведалі. Але ж пражылі яны разам дваццаць гадоў без сварак, без ляманту. Настасся была і гаспадыняй неблагой, ні ў чым не саступала іншым, жаночыя справы ўсе ведала і любіла. Чатырох дзяцей яму нарадзіла. Алесік, праўда, толькі пяць гадоў пражыў, ад тыфусу памёр. Хто яго, той тыфус, на хутар прынёс? Хіба што беглы салдат, якога яны напрыканцы пятага года некалькі дзён хавалі на страсе ад жандараў, што насіліся па суседніх вёсках. Рэвалюцыянер — горда называў сябе той абарванец, які знік нібы ў нікуды шэрай раніцай, нават не падзякаваўшы за сховішча. Пасля таго, мусіць, праз тыдзень Алесік і адышоў. Дзякуй богу, цяжарная Настасся не захварэла, ды і Ляксея мінавала зараза.

Не паспела Настасся ні дзяцей ажаніць, ні ўнукаў панянчыць. Нават з ім перад смерцю не развіталася. Так ён ёй за жыццё і не падзякаваў. А жыццё не горш чым у людзей выдалася…

Жонка памерла раптоўна. Выбіраючы бульбу, трапіла пад навальніцу і, не паспеўшы дабегчы нават да бліжэйшага падлеску, упала ад удару маланкі. Толькі калі пачало цямнець, Янінка, дачка, устрывожылася, дзе падзелася маці, і яны пайшлі шукаць Настассю на поле. Але шукаць ужо было позна.

Можа, была б Настасся жывая, яна б і Янінку адгаварыла ад таго замужжа, і на сыноў паўплывала б. Усё не так пайшло пасля яе смерці. Гаспадарка пачала развальвацца, іх бацькоўская справа не надта аказалася патрэбнай хоць каму з дзяцей. Муж Янінчын, Валодзька, канешне, нядрэнны чалавек быў, калі прыгледзецца, нязлосны, рабіць тое-сёе ўмеў, але ж надта стары для дачкі. Ёй толькі-толькі дваццаць споўнілася, заенчыла — пусці, татка, замуж, ніхто мне больш не патрэбны, нікога чакаць не буду, толькі за Уладзіміра хачу. А яму ж ужо трыццаць пяць гадоў было. Во затлуміў дзеўцы галаву! Доўга Лявон не пагаджаўся, прасіў дачку адумацца, але калі тая прыгразіла: або за Уладзіміра, або ўвогуле замуж не пайду, застануся пры братах векавухай пляменнікаў нянчыць, — плюнуў, зладзіў вяселле.

І нездарма ж адгаворваў! Не паспела рэвалюцыя завіхурыцца, як Уладзімір першым у акрузе ў бальшавікі падаўся. Не паспела Ганначка нарадзіцца, а яго нібы карова языком злізала, кінуў гаспадарку, жонку, сям'ю, у Петраград падаўся, за Савецкую ўладу змагацца. Назмагаўся: падстрэлілі ў дзевятнаццатым, вярнуўся інвалідам, ссохлася рука. А што на зямлі надта без мужыка

зробіш? І дачка ж не чужая кроў, старэйшая, адзіная дзяўчына ў іх з Настассяй была, шкада, сэрца крывёй абліваецца. Колькі разоў на розум злая думка прыходзіла: казаў жа дурніцы, прасіў напрамілы Бог, пачакай, падумай, — не, выбрала.

Але ж нікуды не дзенешся, прыйшлося зноў да сябе браць, іх ужо пяцёра тады было: Валодзька, Янінка, Ганначка, Ванька і малодшы Мішка. Хай сабе дзеці яшчэ, але ж есці таксама хочуць. І самае дурное і смешнае было, што Валодзьку-бальшавіка, як празвалі яго ў суседніх вёсках, дзе пасля вяртання з Ленінграда ён пачаў парадкі наводзіць, і ўзялі першым, калі гэтыя калгасы пачаліся. Маўляў, як жа гэта ён, камуніст, ва ўласнай сям'і парадку не прыдбае, не можа бацьку жончынага прымусіць напісаць заяву.

Лявон адразу адмовіўся ад аб'яднання з іншымі. За што ён усё жыццё спіну гнуў, зямлю сваю песціў — каб з лайдаком Пецькам дзяліцца? Навошта яму ад чужой каровы малако, яму і сваёй хопіць. Дапамагаць яму не трэба, пакуль сілы хапае, і сам справіцца. А на сваёй працы даваць іншым разжывацца — шукайце дурня…

І зноў ён дачцэ казаў — заставайся з бацькам, сядзі дома. Не, кінуларынула, на ўсіх забылася, маўляў, мужа не кіну, адзін раз з'ездзіў без мяне, інвалідам вярнуўся, зараз паедзе, дык увогуле не дачакаюся. Пакідала дзяцей у вазок, сабрала два хатулі з адзеннем, Лявон ёй Настассіны завушніцы аддаў, мала дзе спатрэбяцца, можа, выменяе на нешта, а не — дык памяць хоць застанецца пра матку. Наказаў пісаць. Так і знікла Янінка невядома дзе, хоць бы калі вестачку аб сабе падала, ліст даслала, ужо ён бы неяк разабраў, калісьці грамаце бацька вучыў, па Бібліі літары паказваў. Не было калі, праўда, яму тую Біблію чытаць, і маладосць, і старасць на зямлю палажыў. А атрымалася — непатрэбна, нінавошта. Вось бальшавікі казалі — зямлю сялянам. Дык навошта ж вы яе ад селяніна адбіраеце, калі ён на ёй працаваць хоча, калі ён яе ведае, любіць, шануе? Вы ж, дурні, не ведаеце, з якога боку да каровы падысці, як каня запрэгчы, дзе бульбу пасадзіць, на якой глебе, якую зёлку ў лесе ад хваробы шукаць. Дык не замінайце ж вы нам, не лезьце, разумнікі, не ў сваё!

Навошта яму гэтыя развагі цяпер, тутака, у цягніку, што едзе на ўсход. Туды, дзе, мусіць, нічога не ведаюць і не чулі ні пра Беларусь, тым болей пра яе маленькі хутар Сасоннічкі. Адзінае ў свеце патрэбнае і прыдатнае месца для яго, Лявона Кандратовіча, старога чалавека, не надта разумнага, не дужа прыгожага, які, лічы, ужо скончыў свой зямны шлях, пройдзены па жыцці няхай з памылкамі, з потам і слязьмі, з цяжкай, паўсядзённай, нязбытнай працай, але і з усведамленнем таго, што гэтая праца — тое, дзеля чаго ты з'явіўся на свет.

А зараз, следам за Янінкай, знікне ў сібірскім бязмежжы і ён. І дзеці, якія застануцца пасля яго, і ўнукі, якіх ён паспеў і ўжо не паспее ўбачыць, ніколі не працягнуць яго справу, не будуць жыць на зямлі, што іх нарадзіла, не пакінуць яе сваім нашчадкам як самую галоўную каштоўнасць у гэтым незразумелым і пакручастым жыцці.

Хіба што Васіль... Васіль, на якога ён спадзяваўся менш за ўсіх. На каго пакрыўдзіўся і так і не прабачыў за тое, што малодшы сын кінуў бацькаў хутар, здрадзіў Лявонавым марам пра агульную сямейную будучыню. Васіль у дваццаць дзявятым, якраз напярэдадні ўсёй гэтай завярухі з аб'яднаннем у калгасы, ажаніўся з Гіленкай, старэйшай дачкой не ў пару аўдавелай Галі Прытыцкай з бліжэйшай да хутара вёскі, і падаўся да цешчы ў прымы. Там, акрамя Гіленкі, былі яшчэ дзве мурзатыя малодшыя дзеўчынёхі, якіх трэба было гадаваць і гадаваць. Да таго ж, Гальчын мужык, Пракоп, памёр зусім не

ў пару, пакінуўшы жонцы недабудаваны зруб побач са старой, напалову ўжо ўтаптанай у зямлю хаткай. І ўсё гэта прыйшлося даводзіць да ладу Васілю. Мусіць, яшчэ і зараз яны не пераехалі ў новае жытло. Але, можа, менавіта таму, што жылі яны бедна, Васіля не кранулі разам з бацькам і братам. Сям'я, якую так недалюбліваў Лявон, у рэшце рэшт сваёй галотай ўратавала малодшага сына. Адзінага, хто працягне яго справу на роднай зямлі, а не згніе ў сібірскай тайзе…

Лявон не разумеў, што ў сваім жыцці зрабіў няправільна. Працаваў заўсёды, з самых маладых гадоў, лічы, за дваіх. Зямлю лашчыў больш за жонку ды дзяцей. Настассю не кахаў, можа, як трэба было, але ж рукі на яе не падняў ні разу, п'яным у хату калі і ўваліўся некалькі разоў, дык не буяніў, не ганяў ні яе, ні малых. У Бога — ці верыў ён у Бога так, як гэты малады святар, Ляксееў равеснік? Той моўчкі, нібы не зважаючы ні на што, ехаў з імі ад самай Оршы. Але ж у царкву Лявон хадзіў, хрысціўся, вянчаўся, дзяцей сваіх і чужых хрысціў, на абразы ў хаце маліўся, па дапамогу толькі да Бога звяртаўся, нячысціка не зваў. Што яшчэ ў яго жыцці было? Да чужых жанчын не заляцаўся, чужога дабра не браў, забіваць, крый божа, умеў толькі свіней ды цялушку, ды і тое, каб урэшце прыступіць да брыдкай справы, збіраўся некалькі дзён. Дзяцей выхоўваў — як ён іх выхоўваў, кніжкі не чытаў, цукерак, можа, разы тры прывозіў, калі ў суседняе мястэчка на кірмаш ездзіў. Падарункаў не рабіў, не песціў надта, з маленства да працы прывучаныя былі.

Дык што ж ён зрабіў не так? Хіба ўся віна яго толькі ў тым, што сам хацеў працаваць на сваім полі? Што баяўся, каб не дасталася яго, узараная сваім каркам і палітая сваім потам, зямля некаму, хто і ведаць яе не ведае, і даведацца не хоча, і вучыцца не будзе? Хіба ж навучыш чужое любіць, чужым толькі карыстацца ахвота…

* * *

Вера толькі паспела зняць паліто, калі ў кватэры зазваніў тэлефон. «Вера Адамаўна Кудзелька?» — спытаў у трубцы незнаёмы дзявочы голас. «Так, гэта я», — адказала жанчына, адчуваючы, як хутчэй пачынае тахкаць сэрца, ці то ў чаканні радасці, ці, наадварот, папярэджваючы пра благое. Дзе гэты валідол, яна ж учора ўвечары паклала на тумбачцы, якраз побач з тэлефонам.

«Вы нам пісалі, шукалі сястру, Надзею Адамаўну Кудзельку, 1935 года нараджэння».

«Так, так, пісала. Вы… знайшлі яе?»

«Не магу адказаць з абсалютнай упэўненасцю, але па запрошаных Вамі даных мы найшлі жанчыну, якая адпавядае Вашаму апісанню. Толькі зараз у яе іншае прозвішча, магчыма, гэта па мужу. Запісвайце адрас…»

«Дзякуй Вам, даражэнькая, дзякуй вялікі», — некалькі разоў паўтарыла Вера, не заўважаючы, што плача, пакуль дзяўчына хуценька запэўнівала, што, магчыма, яны нешта пераблыталі, маўляў, праз трыццаць гадоў знайсці чалавека, які ў вайну згубіўся яшчэ дзесяцігадовай дзяўчынкай у дзіцячым доме, не памятаючы ні бацькоў, ні іншых родных, вельмі цяжка. Але няхай ёй, Веры Адамаўне, усё ж такі пашанцуе, можа, гэта і ёсць яе сястра.

Нарэшце Вера крыху супакоілася, яшчэ раз падзякавала добрай супрацоўніцы радыёперадачы, на якую ўскладвала апошнюю надзею ў пошуках сястры, ціхенька, акуратна палажыла на апарат тэлефонную трубку і ў знямозе апусцілася на падлогу проста ў калідоры.

Не, трэба ўсё ж такі знайсці ці валідол, ці хаця б валяр'янкі якой, каб палягчала.

У адрасе, які прадыктавала ёй ветлівая дзяўчына, значыўся горад Брэст. Ехаць туды трэба адразу, яна возьме адгулы, у яе якраз захаваліся з папярэдняга месяца. Цягнікі ходзяць штодзённа, не можа быць, каб два абласныя цэнтры не былі злучаныя паміж сабой чыгункай, тым больш Брэст — канечная кропка на саюзнай мяжы з капіталістычным светам.

…Пасля вайны Усходняя Еўропа была падзелена нанова, і сталася так, што радзіма яе бацькі засталася за мяжой. Вера не ведала, дзе і нават калі тата быў пахаваны. Шкада, што нельга ўбачыць і месца, дзе ён нарадзіўся…

Тату яна памятала мала. Ведала, што той быў вернікам, за гэта і паплаціўся. Пасля бацькавага арышту маму не хацелі нікуды браць на працу. А праз два гады памерла і яна. Вера спадзявалася, што пасля таго іх хаця б не разлучаць з сястрой Надзейкай, пакінуць разам у адным дзетдоме і дазволяць захаваць бацькава прозвішча — адзінае, што засталося пасля яго на свеце. Але Веры было ўжо адзінаццаць, а Надзі толькі пяць, і таму іх размеркавалі ў розныя месцы. А потым пачалася вайна. Дзіцячы дом, дзе ў рэшце рэшт яна апынулася, вывезлі на Урал ужо ў першы тыдзень, а што сталася з Надзяй, яна так і не даведалася.

Усё, што яны, «нічыйныя» дзеці, маглі рабіць для Перамогі, — гэта хадзіць на дзяжурствы ў мясцовы шпіталь, куда прывозілі салдат і афіцэраў з цяжкімі раненнямі ды пад іх дыктоўкі пісаць лісты родным. Нават да працы на абаронных заводах іх не дапускалі, у адрозненне ад падлеткаў са звычайных мясцовых і эвакуіраваных сямей.

Калі вайна скончылася, Веры было пятнаццаць, Надзі — дзесяць, а тату, калі дажыў да Перамогі, павінна было б споўніцца сорак тры гады. Пра тое, каб знайсці яго, можна было толькі марыць: апошні ліст ад бацькі маці атрымала праз паўгода пасля яго арышту. Колькі ні пісала мама, пакуль была жывая, на адрас, адкуль ад бацькі прыйшоў апошні канверт, адказу не было. Не вярталіся, праўда, і яе лісты, аднак гэта ні аб чым не гаварыла. Хто ведае, у якіх архівах яны асядалі, падшытыя ў папку па справе Кудзелькі Адама Янавіча, 1902 года нараджэння, беларуса, праваслаўнага святара. Калі і чаму тату арыштавалі першы раз, Вера нават не памятала. Ведала толькі па маміных аповедах, што тады ён прабыў на поўначы тры гады на вольным пасяленні. Вярнуўшыся дадому, ён яшчэ паспеў дачакацца і панянчыць трохі Надзю.

Старэйшую дачку бацькі назвалі Верай таму, што нарадзілася трыццатага верасня, калі праваслаўныя ўшаноўваюць памяць пакутніц Веры, Надзеі, Любові і маці іхняй Сафіі. Марылі яшчэ і пра трэцюю дачку, якой хацелі даць імя Любачка. Але не давялося. Пакутнікамі сталі мама Сафія і тата Адам.

У трыццаць восьмым арыштаванага Адама Кудзельку абвінавацілі ў шпіянажы, спаслаўшыся на тое, што родам ён з Беласточчыны, значыць, паляк. Ніводнага з тройкі, хто выносіў прысуд, не засмуціла тое, што чалавек, які прысвяціў жыццё служэнню праваслаўнай царкве, наўрад ці з'яўляецца паляка, а тым болей — разведчыкам дэфензівы…

Вера спадзявался толькі на тое, што адшукае сястру Надзею. І ўсе пасляваенныя гады яна пісала на адрас першага дзіцячага прытулку, у Баранавічах, дзе іх трымалі яшчэ разам, пакуль старэйшай сястры не споўнілася адзінаццаць. Калі б можна было, яна б і надалей утойвала сапраўдны ўзрост, але маленькая Надзя па неразуменні сама выдала выхавацельцы сакрэт. І Веру адправілі ў мінскі дзетдом. А што сталася з Надзяй, яна не ведала. Потым, праз гадоў дзесяць пасля Перамогі, калі Вера ўжо выйшла замуж за Сяргея

і пераехала ў Віцебск, яны з мужам нават адзін раз у адпачынку наведаліся ў Баранавічы, але, канешне, нікога з былых супрацоўнікаў дзетдома там ужо не было, усе даваенныя дакументы зніклі падчас эвакуацыі, і пра дзяўчынку Надзейку Кудзельку ніхто не памятаў.

З Сярожам яны развяліся. Па праўдзе, ён яе кінуў. Завёў палюбоўніцу, удаву з сынам гадоў васьмі, тая працавала ў яго вайсковай часці на тэлефонным камутатары. Вера бачыла яе некалькі разоў. Дзяцей у Веры з мужам не было, развод афармілі хутка. Вера, каб не заставацца ў Віцебску (хоць і немаленькі горад, але адзін аднаго, бадай, усе ведаюць, асабліва вайскоўцы, а Сярожа хутка стаў падпалкоўнікам), памяняла двухпакаёўку, якую ён пакінуў ёй пасля разводу, на кватэру ў Гродне.

Працу Веры знайсці было лёгка, яна скончыла пасля дзетдома педвучылішча, потым, як жыла ў Віцебску, завочна мясцовы педінстытут і выкладала ў школе матэматыку.

Ужо пятнаццаць гадоў яна жыла ў старажытным і прыгожым беларускім горадзе Гродна, адкуль была родам яе маці, і была шчаслівая, што нарэшце знайшла сваё месца на гэтай зямлі.

Замуж яна болей не выйшла. Цяпер адносілася да гэтага спакойна — забыла ўсё ж такі замужняй. У школе працавала шмат удоў, якія засталіся пасля вайны з двума-трыма дзецьмі. Былі сярод настаўніц і заўчасна састарэлыя, нікому не патрэбныя нявесты пасляваеннай пары, яе равесніцы. Некаторыя дагэтуль чакалі вестак ад сваіх жаніхоў, якія не вярнуліся з вайны. І разумелі калі не сэрцам, то падсвядома, што тыя не вернуцца ніколі…

У Веры ж калісьці быў муж, і ўжо адно гэта вылучала яе сярод астатніх. Асабліва блізкіх сяброўак у яе не было, хаця яна нікога, здаецца, не цуралася. У школе ведалі, што Вера пакуль безвынікова шукае малодшую сястру, з якой яе разлучылі яшчэ перад вайной у дзетдоме. У школе яна арганізавала нешта накшталт гуртка, дзе пад яе кіраўніцтвам вучні старэйшых класаў займаліся пошукам звестак пра пахаваных у Гродне і яго ваколіцах невядомых савецкіх салдат. Паступова менавіта гэтая праца і стала сэнсам яе жыцця. Асабліва радасна было, калі ў школу прыязджалі ссівелыя бабулькі, дзякавалі за тое, што яна з вучнямі адшукала магілы іх сыноў-салдацікаў. Прыязджалі і жонкі, і дзеці воінаў, родныя… Так, было і сумна, і адначасова радасна.

А яшчэ былі кнігі, музыка, выставы жывапісу, якія ладзіліся ў горадзе рэгулярна, і само Гродна з новымі мікраараёнамі і старажытнай архітэктурай, з цэрквамі і касцёламі, з пакручастымі схіламі каля Нёмана.

Пра сястру яна не забывала ніколі і заўсёды верыла, што абавязкова знойдзе Надзею.

І вось Верына надзея, мусіць, нарэшце спраўдзілася...

Абудзіўшыся ад успамінаў, Вера ўбачыла, што так і сядзіць на падлозе, нават не разуўшыся. Яна павольі паднялася, узяла сумку, дзе, пэўна, зусім ужо размарозіліся пельмені, што купіла сёння, і накіравалася ў кухню.

Гатуючы вячэру, зноў разважала, што будзе рабіць зараз. Парадокс: амаль усё дарослае, свядомае жыццё Вера імкнулася знайсці Надзю. Але цяпер, калі доўгачаканы момант нарэшце быў так блізка, яна нават спалохалася. Што яна скажа сястры?.. Ці пазнае ў яе твары хоць адну знаёмую рысу?.. Як раскажа пра татаў і мамін лёс? Магчыма, Надзя наогул не памятае, адкуль яна, з якой сям'і. А можа, свядома раней не хацела сустракацца, не хацела ўспамінаць сваё мінулае і тое, што было з бацькамі — кляйма ворага народа цяжка было не саромецца.

Нават калі так, асуджаць за гэта Вера яе не стала б. Яна і сама доўга нікому не казала, хто яе бацька. Вярнула сабе яго прозвішча толькі пасля разводу з Сяргеем, у шэсцьдзясят другім: тады якраз выкрывалі сталінскія злачынствы.

Тады яна пераехала ўжо ў Гродна, і думка аб тым, што яе могуць знайсці і выкрыць як дачку ворага народа, паступова стала знікаць. А першыя гады пасля таго, як выйшла замуж, ды яшчэ за афіцэра, кашмары не давалі спакою: часта снілася, як яе забіраюць у турму толькі за тое, што яна нарадзілася ў сям'і святара і скрыла сваё паходжанне ад чэсных савецкіх грамадзян, ад мужа-камуніста, ад калег па рабоце, ад бацькоў сваіх вучняў і ад усіх людзей…

«Не, адразу яна не паедзе», — вырашыла Вера і ўзяла чысты ліст паперы. Спачатку яна напіша. Калі гэта сапраўды яе сястра, то ўспомніць хаця б тое, як іх раскідалі па розных дзетдамах перад самай вайной. Тады ж Надзейцы было амаль шэсць годзікаў, павінна ж было ў яе памяці захавацца хоць нешта, і пра яе, Веру, і пра маму...

Мама перад смерцю павесіла ім абедзвюм на шыі маленькія срэбныя крыжыкі — адзінае, што яна пашкадавала выменяць на ежу, таму што крыжыкі засталіся ад таты, у іх бацькі вянчаліся ў дваццаць восьмым годзе.

Вера згубіла свой яшчэ на Урале. Там, у дзетдоме, дзяўчаты часта корпаліся па тумбачках адна адной, шукаючы хоць што каштоўнае, каб прадаць. Скардзіцца выхавацелям, што ў яе знік крыжык, Вера пабаялася: пачалі б дапытвацца, адкуль і чаму ў яе такі, да таго ж не просты, а з чыстага серабра, крыжык.

Ці памятае Надзея свой? Наўрад ці ён у яе захаваўся амаль праз сорак гадоў, як памерла мама. І фотакартак бацькоўскіх не засталося, хаця маці і бацька здымаліся некалькі разоў, і нават з дзецьмі ўжо.

Калі нарадзілася малодшая дачка, тата спецыяльна павёз іх у гарадское фотаатэльє, быццам прадчуваў, што хутка іх разлучаць, мабыць, хацеў пакінуць дзяўчаткам на памяць аб сабе хоць фота. Іх тады неяк шмат нарабілі, гэтых фотакартак, і мама тату, калі яго арыштоўвалі, паклала з сабой адну. А потым яшчэ дасылала, на ўсякі выпадак, бо казалі, у турме адбіралі ўсе дакументы.

Калі мама памерла і яны, дзеці, пайшлі жабраваць, Вера насіла некалькі здымкаў, дзе яны з бацькамі, у торбачцы. Нават Надзейцы адну аддала, калі яе, Веру, сілком адвозілі ў Мінск.

Але здымкі згубіліся, а ад Сафіі і Адама засталіся толькі дзве раскіданыя па свеце дачкі…

* * *

…Ой, нарэшце, мабыць, час надышоў: ці народзіць, ці памрэ... Тоні, здаецца, было нават ужо ўсё роўна. За апошнія месяцы, якія яна правяла ў невыносным паху нямытых людзей, амаль цалкам адмовіўшыся ад ежы, ад якой яе пастаянна цягнула на ваніты, яна, нягледзячы на цяжарнасць, вельмі схуднела і асунулася. Ды так, што нават свёкар у апошні час пачаў пaглядаць на яе насцярожана, раз-пораз прыкрыкваючы без асаблівай злосці: «Ну, дзеўка, не бяры ў галаву тое, што не трэба. Даедзем неяк, усюды людзі жывуць, і мы ўладкуемся».

У іншы час Антаніна, мабыць, абрадавалася б, што Ляксееў бацька, нарэшце, пачаў адыходзіць ад сваёй застарэлай крыўды. Яна заўсёды ведала,

што мужавы родзічы не надта прыязна ставіліся да яе. Прычынай, пэўна, было тое, што хударлявая, белатварая, летуценная Тоня не надта паспявала ўпраўляцца па гаспадарцы. То пасярод поля апусціцца ў знямозе, не выбраўшы з чарговай баразны бульбу, то на сенакосе Ляксей паціху ад бацькавых вачэй адвядзе яе, пасадзіць у цяньку, бо ад спякоты жонцы рабілася блага. То яшчэ што…

Аднойчы Тоня выпадкова пачула размову свёкра з Ляксеем. «Во, мала было на маю галаву Янінкі з яе каханнем, дык і ты выбраў гаспадыню! Ні ў хаце не ўмее нічога рабіць, ні на гародзе ў яе няма парадку. Але ж вам не трэба гаспадыня, вам каханне падавай. А чаго ўжо ад Васіля чакаць, дык і думаць баюся…»

Пасля тых слоў яна ўвогуле хацела збегчы дадому, да бацькоў. Тым, канешне, і самім не соладка: траіх дачок яшчэ замуж выдаць, а каму яны надта трэба, без цяжкіх куфэркаў з пасагам… Але калі б прыйшла, пэўна, не выгналі, пашкадавалі б родную кроў. Спыніла толькі тое, што малы Антосік быў у свёкравай хаце. Спадзявацца на тое, што Лявон аддасць яго ёй, роднай матцы, не прыходзілася. Як жа, не лішні работнік для гаспадаркі расце, хлопцу ўжо восьмы год пайшоў, можа кароў у полі пасвіць, ды і бабам на гародзе тое-сёе дапаможа.

І вось цяпер прыйдзецца Лявону дажываць век не з роднай дачкой, а з нелюбімай нявесткай, з нягеглай Тонькай...

Зноў забалела ў сярэдзіне, і Тоня перастала ўспамінаць вёску, загадваць, што яе чакае наперадзе, і, пакуль не пачалася ліхаманка, паспела яшчэ падумаць: як добра, што нарэшце яны спыніліся ў сваім, здавалася, бясконцым шляху. Няхай сабе ў гэтай глушы, дзе, мабыць, няма навокал ніводнай бабкі-павітухі, якая б прыняла роды. Значыць, трэба неяк успомніць, як некалі маці казала ёй, што рабіць, калі нечакана роды пачнуцца ў полі ці ў лесе, дзе ніхто табе не дапаможа. Але ж нараджаць, дзякуй богу, давялося ёй не ў абрыдлым цягніку, дзе нават затуліцца ад чужых вачэй не было дзе і як, а ў халоднай, даўным-даўно пакінутай састарэлай і цеснай хацінцы, што засталася, мабыць, ад нейкіх нядбайных гаспадароў. «Але, такіх, як яна сама», — ледзьве не ўсміхнулася Тоня, перасільваючы пакуты. Свае і дзіцяці, якое нарадзілася на месяц раней на гэтым забытым Богам сібірскім хутары. Была халодная вясна 1939 года…

* * *

«…Горка! Горка!» — дружна крычалі яшчэ не надта падпітыя госці. Даша жменямі кідала на сталы цукеркі «Грыльяж» і «Чырвоная Шапачка», як патрабуе вясельная завядзёнка. Была б іх з Сашам воля, яны б увогуле не рабілі гэтае рэстараннае зборышча. Спачатку так і меркавалі: ціхенька ад бацькоў пайсці і распісацца ў мінскім ЗАГСе, затым пасядзець з сябрамі ў інтэрнацкім пакоі — не трэба ім ні падарункаў, ні кветак, ні пацалункаў усім на пацеху…

Але калі маці даведалася, што яна, Даша, малодшая дачка, збіраецца выйсці замуж тайком ад родных бацькоў, ажно загаласіла: а як жа так!.. Абурыўся і бацька: «Гэта што яшчэ такое?!.. Сораму не абабрацца!.. Дзе будучы зяць? Хто такі? Хто бацькі?»

Тады яны і прывяла Сашу дадому. Дзіўна, але, пазнаёміўшыся з ім, бацькі перасталі крыўдзіцца, адно сказалі: маўляў, калі вы ўжо такія самастойныя, дык далей абыходзьцеся без нашай дапамогі. А калі цяжка будзе, кідайце вучобу ў сваім інстытуце, пераводзьцеся на вячэрняе або завочнае, дзе хочаце,

шукайце працу, жыллё — у інтэрнаце, як не будзеце студэнтамі, ніхто вас не пакіне, адным словам, вырашайце свае праблемы самі...

Але калі яны яшчэ хочуць усё ж такі атрымаць адукацыю, дык няхай не саромяць ні сябе, ні людзей, распішуцца, як і належыць, пры бацьках, згуляюць вяселле, як людзі, і хай жывуць сабе доўга і шчасліва з усімі ў ладзе і сяброўстве. Маўляў, ім, бацькам, хопіць таго, што ўжо адна дачка — таксама сама сабе гаспадыня! — толькі паспела паехаць у сталіцу на вучобу, як адразу ж, на першым жа курсе пазнаёмілася з афіцэрам. А той праз два тыдні іхніх любошчаў меўся ехаць для праходжання службы ў сацыялістычную, халера яе бяры, Германію. Гэта ж трэба, тая дурніца хуценька збегала з ім у пасольства, аформіла ўсе дакументы: зарэгістравалі іх шлюб, і ўкаціла іхняя Танька ў далёкі горад з незразумелай назвай Вюнсдорф. Але добра яшчэ, што хапіла ў яе розуму і сумлення, паспела паказаць мужа бацькам перад ад’ездам на чужыну...

«Ну, дык вось, і жыве ваша Танька са сваім Косцечкам ужо сем гадоў, і не нарадуецца шчасцю свайму. Дзіця мае, унука вашага. Так што правільна зрабіла, што ў бацькоў дазволу не пыталася», — хацела было запярэчыць Даша. Але тут, на яе здзіўленне, у размову ўступіў Саша. Ён, аказваецца, таксама паспеў ужо са сваімі бацькамі абмеркаваць, як яны з Дашай будуць жыць самастойна. Так што засталося толькі пазнаёміць сватоў і вызначыць, дзе будзе вяселле і каго запрасіць.

У рэшце рэшт вырашылі свята ладзіць на Дашынай радзіме, бо гасцей з яе боку налічылі больш. Такім чынам яны і апынуліся сёння ў гэтым невялікім утульным рэстаранчыку, які маці заказвала па вялікім блаце праз нейкіх знаёмых сваіх знаёмых.

— А зараз слова прадастаўляеццца… прадастаўляецца слова, — сват-тамада, ім быў татаў саслужывец, даўні сябра сям’і, гаваркі і вясёлы Міхаіл Іванавіч, пакруціўся на месцы, вышукваючы, каму б даць слова для тоста, і раптам звярнуўся да высокай, нават за сталом гэта было бачна, прыгожа прычасанай жанчыны ў цёмна-сіняй з пералівам сукенцы: — А вось вам мы слова дадзім, згодныя? Вы хто нашым маладым будзеце?

Вера не вельмі ахвотна ўстала з-за стала. Казала ж Надзі, каб не садзіла яе так блізка да маладых, вось і будуць зараз чапляцца то з тым, то з гэтым. Добра, што яшчэ танцаваць не павалок гэты, па ўсім бачна, хоць добры і жартаўлівы, але надта ж шумны сват.

— Цёця Сашава я буду, Вера Адамаўна.

— Ну, вось, Вера Адамаўна, што вы пажадаеце пляменніку і яго нарачонай у такі светлы, урачысты, святочны для іх дзень?

На імгненне Вера сумелася. Што тут можна пажадаць, калі ўсё ад саміх маладых залежыць, а яны — і прыгожыя, і разумныя... Казаць банальнасці ёй не хацелася, надта часта і без таго прыходзіцца з імі сутыкацца ў звычайным жыцці, а ў маладых сёння такая важная падзея! Навошта псаваць яе ўсімі гэтымі збітымі наказамі кахання да труны, вучыць шчасцю і сямейнаму дабрабыту… Самі яны ва ўсім разбяруцца...

Вось пра гэта яна і скажа. Прывычка да фармуліровак, выпрацаваная за амаль сорак гадоў педагагічнага стажу, і тут прыйшла ёй на дапамогу.

— Дарагія Саша і Даша! Імёны вашыя сугучныя адно другому. Няхай гэтак жа супадаюць у жыцці і вашыя ўяўленні пра галоўныя каштоўнасці вашай сям’і.

Вера прыгубіла віна і села на месца. Але сват, здаецца, не спяшаўся ад яе адыходзіць, нібы чакаў працягу тоста. Яна маўчала, і тады Міхаіл Іванавіч, не

вытрымаўшы, нахіліўся амаль да талеркі і гучна, на ўсю залу, запытаўся: — А ці горкая гарэлка, Вера Адамаўна?

Вера хацела па звычцы адмовіцца, што гарэлку яна не п’е, але зарыентавалася, узгадаўшы, што на вяселлі пра гэта казаць не варта, бо зараз усе госці вымагаюць ад яе толькі аднаго слова, і амаль весела адказала: — Горкая!

— Горка! Горка! — падхапілі з абодвух бакоў, і пачаліся пацалункі, тосты, зноў пацалункі, і зноў тосты...

Нарэшце госці трохі падсілкаваліся, і пачуліся галасы: «Танцы, танцы давайце!»

Маладажоны выйшлі ў цэнтр залы, вакол іх завіхурыліся юнакі і дзяўчаты, следам падцягнуліся старэйшыя пары, з-а стала не ўставалі толькі стомленыя передвясельнай мітуснёй бацькі жаніха і нявесты і колькі жанчын, што сядзелі па адной. Насупраць Веры засталася сядзець кабета крыху маладзейшая за яе, хударлявая, з незвычайна вялікімі, нібы падведзенымі, хаця касметыкі на ёй амаль не было, зеленавата-шэрымі вачыма, якія, здавалася, жылі ўнутраным, скіраваным у душу, і таму крыху асобным ад твару, жыццём.

Яна неяк асабліва пільна ўглядалася ў Веру, нібы тая некага ёй нагадвала, і Веры нават стала крыху не па сабе. Але кабета быццам здагадалася пра гэта і першая распачала гаворку:

— Якое ў Вас імя па бацьку незвычайнае. Вельмі рэдка такое сустрэнеш. Прыгожа гучыць — Вера Адамаўна.

Вера ўнутрана напружылася. Хоць даўно змяніўся час, даўно ўжо нікога не цікавіць ні мінулае яе бацькоў, ні тое, што яна дачка «ворага народа», а ўсё ж здараецца, ці то няёмка, ці то страшнавата ад таго, што нехта чужы звяртае на цябе асаблівую ўвагу.

Вера пацiснула плячыма і суха, коратка адказала:

— Чаму ж незвычайнае? У Заходняй Беларусі, у Польшчы яно часта сустракаецца. — І, адчуўшы няёмкасць за амаль няветлівы адказ, дадала: — імя мне якраз тата прыдумаў, і мне, і Надзі, сястры.

— Дык Вы Сашына радня па маці? — даверліва, з надзеяй на працяг размовы, спыталася ў адказ нечаканая субяседніца: — А я, наадварот, Дашы па бацьку цётка. Яго стрыечная сястра. Але мы з імі, ведаеце, толькі нядаўна ўпершыню ў жыцці сустрэліся.

Веры не надта хацелася працягваць гаворку, але не адказваць было б непрыгожа. І яна, нягледзячы на тое, што не любіла цікавіцца чужымі справамі, мовіла:

— Гэта як? Дакладней, чаму так атрымалася?

— Разумееце, — адразу ж адгукнулася жанчына, — я ўсё жыццё пражыла ў Сібіры. Там нарадзілася, там і жыла. Гэта ў мяне радня амаль уся ў Беларусі. І то я яе ведала толькі завочна, па бацькавых ды дзедавых аповедах, па тым, што яны мне там, калі была малая, паспелі расказаць. Дзеці ў мяне ўжо дарослыя, вось я і вырашыла, калі зараз, да пенсіі яшчэ, не з’езджу, дык увогуле ніколі не пабачу ні родных, ні бацькоўскую радзіму. Сабралася ды і паехала. Праўда, не адна, з сынам. Вунь ён танцуе каля маладых, высокі, у светлым касцюме, — паказала яна галовай у бок жаніха з нявестай.

Першым, што Веры кінулася на слых, было слова «Сібір». Яна імгненна асэнсавала пачутае і адзначыла, што чамусьці, успамінаючы бацьку, субяседніца ні разу нічога не сказала пра маці. А тое, што жанчына прыехала адна, верагодней за ўсё, сведчыла — у яе няма мужа. Але, мяркуючы па тым, што яна згадала дзяцей, а не аднаго толькі сына, калісьці муж у яе быў. Праўда, здаралася, пасляваенныя дзяўчаты адважваліся нараджаць без мужа і выхоў-

ваць дзіця без бацькі, дык звычайна аднаго. І таго выхаваць маці-адзіночцы было вельмі цяжка. А тут — дзеці… Што ды як з імі, канешне ж, Вера не распытвала, няёмка. А вось пра бацькоў жанчыны — можна.

— Прабачце, чаму вы сказалі толькі пра дзеда і бацьку? А што з вашай маці сталася?

— Ой, я ж вам нават не назвалася, — спахапілася жанчына, і на імгненне Вера зноў убачыла ў яе глыбокіх вачах нешта затоенае, схаванае. А можа, гэта пошук, чаканне адкрыцця?.. — Мяне Алесяй завуць. Алеся Аляксееўна. Можна проста Алеся.

— Алеся Аляксееўна… Таксама прыгожа гучыць, нават лепей, чым у мяне, — без зайздрасці, але зараз ужо з сапраўднай цікаўнасцю заўважыла Вера. — Хто гэта вам такое беларускае імя ў Сібіры прыдумаў?

— Гэта… — на хвілінку Алеся прыкрыла вейкамі вочы. — Гэта адзін вельмі добры чалавек. Ён мне потым тату замяніў, у вайну і… пасля вайны крыху.

Алеся Аляксееўна, ці проста Алеся, на імгненне змоўкла, затым спахапілася:

— Ну, гэта ўвогуле вельмі доўгая гісторыя. Мама мяне Настассяй хацела назваць, у гонар бабулі, казалі. Мама памерла амаль адразу, як я нарадзілася, ад пасляродавай гарачкі.

Жанчына зноў змоўкла. Вера хацела далей распытваць сібірскую госцю, але тут, скончыўшы танцаваць, моладзь пачала рассаджвацца за сталы, і жанчыны толькі прыязна і сумнавата ўсміхнуліся адна адной.

Застолле працягвалася. Нарэшце настаў час адорваць маладых. З нявесты знялі вэлюм, і яна кінула маладым гасцям букет. Алеся паспела заўважыць, што яго схапіла прыгожая дзяўчына, сяброўка Дашы. Тая, якая за гэтыя два тыдні, што Алеся з сынам Юркам правялі ў Беларусі, мусіць, не на жарты закахалася ў яго. Прынамсі, менавіта гэта сцвярджала Даша, даводзячы брату, маўляў, беларускія дзяўчаты прыгажэйшыя, чым дзяўчаты-сібірачкі.

Госці пачыналі разыходзіцца. Вось ужо і Вера Адамаўна ўстала з-за стала. Шкада, што яны так і не пагаварылі далей. Некага Вера ёй, Алесі, вельмі нагадала. Асабліва ў профіль. У профіль так хораша акрэсліваліся нават у не вельмі яркім святле тонкі абрыс носа, характэрны выгіб скулы, той выгіб, які цяжка было схаваць нават пад шырокай, магутнай барадой бацюшкі Адама…

А можа, усё гэта ёй, Алесі, толькі падалося? Яна ўсміхнулася сама сабе: да старасці дажыла, а ўсё веру ў рамантыку і супадзенні лёсу… І Юрку такога ж выхавала — рамантык, летуценнік, з гумарам…

Добра яшчэ хоць Каця ў бацьку пайшла, тая ў жыцці не згубіцца. А гэты, не гледзячы, што мужчына, такі ўжо пяшчотны, хоць да раны прыкладай. І ў каго яны такія? Бацька ж Алесін, казалі, зусім іншы быў. Дзед — дык і ўвогуле строгі. Гэта яшчэ і Алеся крыху памятала, з ім не надта палашчыцца было, нават ёй, дзяўчынцы.

Але Вера… Хаця ці мала на свеце жанчын, у якіх такое ж імя па бацьку. Падумаеш, Вера Адамаўна. А што знешне падобная, дык Алеся айца Адама не вельмі добра памятае. Калі ён памёр, ёй дванаццаты год ішоў: пасля пнеўманіі злёг, як свечачка, згас, за два тыдні — лекаў не было на яго хваробу. Можа, і мама так жа памёрла…

Можа, як прыедзе дадому, фотаздымкі пашукаць?.. Недзе ж ляжаць, яна пасля таго, як айцец Адам памёр, усе яго рэчы сабе забрала, каб не валяліся абы-дзе. А там толькі і было што Біблія (дзе ён змог яе знайсці, няўжо ажно з

самай Беларусі давёз), а ў ёй — тры аднолькавыя фотакарткі: бацюшка Адам з маладой жанчынай, ды дзве дзяўчынкі ў іх на каленях. Вось толькі як тых дзяўчынак звалі, Алеся не ведае. Бацюшка ніколі не расказваў пра сваё мінулае, ні пра бацькоў, ні пра сям'ю. Мусіць, яму так лягчэй было, моўчкі.

І гэта, Адамаўна, таксама маўклівая, насцярожаная. А калі пра Сібір пачула, ледзьве не скаланулася ўся.

Не, мабыць, трэба было б усё ж далей з ёй пагаманіць.

— Мадам, дазвольце запрасіць вас на апошні танец, — за Алесевай спіной узнік сын Юрка.

— Чаму ж гэта апошні? — здзівілася яна. — Мяркуеш, мне болей у жыцці і патанцаваць не давядзецца? Ну, сына, сына!..

— Нарэшце пазнаю сваю мамачку, — зарагатаў ён, — а то ўжо спужаўся: сядзіць адна, сумуе. Пэўна, шкадуеш, што не ты сына з рук збыла?

— Цябе збудзеш, як жа, — у тон яму адказала маці, падумаўшы міжволі, што ўсё ж такі трэба пашукаць фотакартку. А заадно і з Юркам параіцца, як быць. Каця-то наўрад ці зразумее яе, а вось сын…

І, вырашыўшы нарэшце, што абавязкова пазней пагаворыць яшчэ на гэты конт з сынам, Алеся пайшла з ім танцаваць.

* * *

У першыя, уваходныя дзверы бокса інтэрната, дзе раней жыў Саша, нехта пастукаў. Яшчэ нехта, мабыць, з суседняга пакоя іх адчыніў. Саша ляжаў у ложку і з месца не зварухнуўся. Да яго сюды ніхто не прыходзіў, сябры пакуль не ведалі, што Саша з жонкай надта сур'ёзна пасварыліся і пасля гэтага ён пакінуў нарачоную ў асобным пакоі, што ім далі ў інтэрнаце пасля вяселля, і вярнуўся на сваё месца, дзе жыў раней.

І навошта было жаніцца, калі не прайшло і паўгода, а яны толькі і робяць, што сварацца. Калі б не вяселле, што закацілі на ўвесь свет, разышліся б мірна і паціху, а зараз тлумач кожнаму, што здарылася.

Добра яшчэ, хлопцы, з якімі жыве ў адным пакоі, не лезуць у яго сардэчна-сямейныя справы, сустрэлі без усялякіх роспытаў, і ўжо амаль месяц ён зноў халасцякуе.

Цяпер пастукалі ўжо ў яго дзверы. Падумаў, да Віцькі або Сяргея, а іх няма. Ну што ж, трэба адказваць. Ляніва азваўся:

— Уваходзьце, не зачынена.

Да здзіўлення, на парозе з'явілася жонка. Ці былая жонка? Мабыць, яна яшчэ для сябе таксама не вырашыла канчаткова гэтае пытанне, бо, перш чым прывітацца, неяк падазрона памаўчала, нарэшце вымавіўшы:

— Добры вечар, муж.

— Былы муж, — паправіў яе Саша.

— Ну, па-першае, мы з табой афіцыйна яшчэ не разышліся, — спакойна, без звычайнага ў апошнія перад «раз'ездам» тыдні надрыву ў голасе сказала Даша. — А па-другое, я прыйшла не адносіны з табой высвятляць.

Справядліва вырашыўшы, калі жонка (усё ж такі, сапраўды, мусіць, яшчэ не былая) прыйшла сама, то і павінна патлумачыць, чаго, Саша моўчкі чакаў працягу.

— Нам з табой ліст цёця Алеся даслала, — Даша выняла з сумачкі вялікаваты канверт.

— Гэта тая, сібірская? — дзеля прыліку і амаль прымірэнча спытаў Саша.

— Так. Тут цябе тычыцца.

— Што там можа мяне тычыцца?

— Разумееш, яна просіць, каб мы яшчэ адзін ліст перадалі тваёй цёці Веры, ён тут укладзены.

— Навошта ёй мая цётка? — ужо з непадробным здзіўленнем пацікавіўся Саша. — Адкуль яна яе ўвогуле ведае?

— Ну, яны, відаць, на вяселлі пазнаёміліся, — няпэўна адказала Даша. — Можа, перадасі?

— Ды ты сядай, — Саша спахапіўся, што дасюль не прапанаваў жонцы прысесці, — хочаш, чаю зраблю?

— Не, дзякуй, не трэба, я ж па справе, — ніякавата ўсміхнулася былая каханая (ну, каханая, пэўна, усё ж такі ўжо былая. Ці… а хто яго ведае?)

— Ты ж не ведаеш. Цёця Вера ў бальніцы, — сказаў Саша.

— А што такое, сур’ёзнае нешта?

— У яе інсульт быў, тры тыдні таму, якраз як мы з табой… разышліся.

— Дык ёй, канешне, хвалявацца нельга, — разгубілася Даша.

— Пэўна. Да яе і так пускаюць толькі маці маю. Сказалі, нельга, каб шмат наведвальнікаў хадзіла. А хто да яе прыйдзе? Толькі што вучні былыя. З радні ж толькі мама, тата ды я. Ды яна дома да таго ж, у Гродне, у Мінск не павезлі.

— То, можа, хай гэты ліст пачакае? — сказала Даша. — Стане ёй лепей, дык і адвязеш.

— А што там, тэрміновае нешта?

— Я не ведаю, — Даша выняла з канверта яшчэ адзін, крыху меншы. — Хочаш, сам паглядзі.

— Няёмка ж неяк чужыя лісты чытаць, — разгубіўся Саша, прымаючы з яе рук шчыльную паперу, у якую відавочна было загорнута нешта яшчэ, акрамя ліста, мусіць, фотакартка. На імгненне пальцы іх сутыкнуліся, але абое адчулі няёмкасць і хутчэй адхіліліся адно ад аднаго, баючыся сустрэцца яшчэ і поглядамі.

— Так, няёмка, — пацвердзіла Даша, не ведаючы, што адказаць.

— А раптам там важнае штосьці? — усё ж такі асмеліўся ён зазірнуць ёй у вочы. Не, усё ж і каханая яна для яго яшчэ не былая! А ён для яе?..

— Мусіць, важнае, — Даша адвяла погляд уніз, уткнуўшыся вачыма ў падлогу, пакрысе чырванеючы. І, ужо смялей, нечакана сама паглядзела на яго і дадала: — Цёця Алеся авіяпоштай дасылала.

— Можа, паглядзім? Раптам там што благое, а ёй жа хвалявацца нельга… — Сашы хацелася, как жонка вырашыла сама.

— Ай, што там благога можа быць, — не вельмі ўпэўнена запратэставала Даша.

— Вось, глядзі, і канверт не заклееены, — пакруціў ён у руках паперу.

— Ну, не ведаю…

— Баішся?

— Не баюся, — спакойна, што на яе ўвогуле было не падобна, адказала Даша, і Саша ў які ўжо раз за час гэтай іхняй сустрэчы сам сябе спытаў, што ж з ёю здарылася за праведзеныя асобна тры тыдні. — Але мяне з дзяцінства вучылі, што чытаць чужыя паперы не тое што непрыгожа, а проста недапушчальна.

— Так і мяне вучылі, — пагадзіўся Саша. — А калі ў восьмым класе я закахаўся ў студэнтку, якая прыйшла да нас на практыку і выкладала рускую мову і літаратуру, і пачаў пісаць ёй вершы, маці так баялася, каб я маральна не

разбэсціўся, што амаль кожны дзень лазіла ў стол, шукала мой дзённік, хацела пераканацца, што ўсё пад кантролем.

— Ну, і як, супакоілася? — усміхнулася Даша.

— Верагодна. Але я потым ужо ніколі ні вершаў не пісаў, ні дзённікаў не вёў, — засмяяўся Саша.

— А мне ты ніколі пра гэта не расказваў, — Даша зрабіла выгляд, што пакрыўдзілася. — Ну, прызнавайся хоць зараз, у каго ты там яшчэ быў закаханы?

— Быў… няважна, — пасур'ёзнеўшы, адказаў ён. — Важна тое, што зараз. А зараз я кахаю толькі адну цябе...

* * *

«Паважаная Вера Адамаўна!

Канешне, Вы будзеце вельмі здзіўлены, калі атрымаеце гэты мой ліст. Я і сама не надта разумею, навошта яго пішу. Не, разумець усё ж такі разумею і спадзяюся, што мае здагадкі аказаліся сапраўднымі.

Вы не маглі не заўважыць, як пільна я ўглядалася ў Ваш твар, седзячы за сталом на вяселлі нашых з вамі пляменнікаў, Сашы і Дашы. І, канешне, не маглі зразумець, з якой нагоды Вас уважліва і нават крыху бесцырымонна акідвае позіркам незнаёмая жанчына. Не ведаю, ці навялі Вас на нейкія супастаўленні мае словы пра тое, што я родам з Сібіры.

Так, я нарадзілася ў Іркуцкай вобласці, непадалёк ад станцыі Тайшэт, вясной тысяча дзевяцьсот трыццаць дзявятага года. Маю сям'ю — дзеда, бацьку, цяжарную мной маці і старэйшага брата Антося — выслалі з Беларусі як «сераднякоў». Да кулакоў, дзякуй богу, мы не дацягвалі, інакш нам пагражала б не простая ссылка, а мусіць, і лагер. А можа, гэта нашаму цягніку так пашанцавала, бо сярод арыштантаў ехалі, як казалі пасля, і палітычныя, і сяляне, што адмовіліся ўступаць у калгас, і звычайныя крымінальнікі. Нешта там, у НКУС, не дагледзелі і высыпалі нас, лічы, на сібірскія сакавіцкія маразы, не давёзшы нават да Іркуцка, у маленькай вёсачцы пад Тайшэтам

Разам з маімі роднымі ў адным вагоне ехаў святар, малады яшчэ, прыблізна ўзросту маіх бацькоў. Пра сябе ён амаль нічога не распавядаў, ведалі яны толькі, што завуць яго бацюшка Адам і родам ён з Заходняй Беларусі, там яго і арыштавалі. Як ён трапіў у наш цягнік, што фарміраваўся ў Оршы, ім таксама было невядома. Але гэтая «памылка» органаў мне ў жыцці вельмі дапамагла.

Мама мяне нарадзіла і недзе праз месяц памерла. Яна, як я Вам казала, можа, Вы і не памятаеце, хацела назваць мяне Настассяй, у гонар дзедавай жонкі. У маці і дзеда не вельмі прыязныя адносіны, і, можа, гэтак, яна яго хацела ўлагодзіць, тым больш што старэйшага майго брата назвалі нібы ў яе гонар, яна Антаніна, а хлопчык — Антось. Але дзед адмовіўся, ужо не ведаю чаму. І тады бацюшка Адам, ён мяне і хрысціў, прапанаваў імя Алеся. Таксама не ведаю, з якой нагоды, можа, яно яму нагадвала пра Радзіму, ці так яго жонку звалі, бо жонка ў яго ўсё ж была, ён і не ажаніўся ў Сібіры, і пазней я пра тое даведалася дакладна. Але пра ўсё па парадку.

Калі пачалася вайна, Антось, брат мой, вельмі жадаў трапіць на фронт, яму тады толькі-толькі споўнілася шаснаццаць. Мы ўжо з бацькам і дзедам жылі ў буйнейшай вёсцы, не там, дзе я нарадзілася і дзе пахавалі маму: тут было радыё, і кожны вечар амаль усе разам слухалі навіны пра апошнія ваенныя падзеі. Бацюшка Адам і яшчэ колькі чалавек з таго, нашага, цягніка такса-

ма жылі на адной з намі вуліцы. Ставіліся да нас у вёсцы не тое каб з любоўю, але без асаблівай варожасці, маўляў, жывуць людзі, нікому не замінаюць, ну, і няхай сабе жывуць. Нагляду за намі асаблівага таксама не было.

Дык вось, Антось некалькі разоў парываўся збегчы на вайну. Да Іркуцка дабіраўся, але потым яго вярталі дамоў. І ўсё ж такі ў яго ў рэшце рэшт атрымалася. Пасля гэтага дзед пачаў паціху слабець, неяк не знешне, а быццам яго нешта тачыла знутры. Я тое памятаю не надта добра, усё ж малая была, колькі мне тады, чатыры гады, напэўна, было. Гэта мне бацюшка Адам расказваў, пасля вайны ўжо. Тату майго на фронт, у штрафбат забралі яшчэ ў сорак першым, у лістападзе. Ён прайшоў амаль паўвайны, на яго прыйшла пахавальная з-пад Курска. Пасля таго неўзабаве дзед і памёр. Як бацюшка Адам казаў (яны неяк сышліся, пасябравалі з ім, або як гэта назваць, нават не ведаю), дзеда вельмі прыгнятала думка, што пасля яго нікога на роднай зямлі, лічы, не засталося. Дачку яго старэйшую яшчэ раней за нас выслалі, яе і след згубіўся, тата на фронце загінуў, ад Антося звестак не было. Ён аб'явіўся пасля вайны ўжо, я хадзіла ў чацвёрты клас, як ён дадому прыехаў. Пра малодшага сына Васіля (бацьку Дашынага бацькі), які адзіны ў Беларусі з усёй сям'і застаўся, дзед нічога з пачатку вайны не ведаў, гэта ж была акупаваная тэрыторыя, лісты не даходзілі. І што ён сабе перад смерцю на гэты конт перадумаў, Бог ведае, бо для яго была вельмі важная менавіта зямля, ён і радзіму сабе ўяўляў толькі праз родны хутар.

Так у сорак чацвёртым годзе я засталася адна-адзінюткая на ўсім белым свеце. Забраў мяне да сябе айцец Адам, і я з ім жыла ажно да самай яго смерці ў пяцідзясятым. Нават калі Антось прыехаў, ужо з жонкай, я да іх не пайшла, засталася з бацюшкам. Я яго так і называла, бацюшка, ён мне і маму, і тату замяніў. Памёр ад пнеўманіі, літаральна за тыдзень яго хвароба падкасіла. Канешне, лекаў тады не хапала. Але мне здаецца, яшчэ і таму, што ён сам унутрана вельмі стаміўся ад жыцця. Не тое што хацеў на сябе рукі налажыць, гэта і сан не дазваляе, і сам ён быў духоўна вельмі моцны, душэўна выхаваны чалавек. Але вось гэтая вытрыманасць яго ў рэшце рэшт і зламала. Ён нікому ніколі не расказваў пра сваё мінулае жыццё, пра тое, што засталося ў яго ў Беларусі. А гэтак нельга — усё ў сабе трымаць…

Пасля яго смерці я забрала сабе Біблію, па якой ён вучыў мяне чытаць. І там, унутры, былі тры фотаздымкі, аднолькавыя, мусіць, яму нехта высылаў спецыяльна, на выпадак, калі папярэднія згубяцца. Там нават бачна, што іх праштампоўвалі нкусаўскія службы. Я вам адзін дасылаю.

Вы, канешне ж, ужо здагадаліся, чаму я так уважліва да Вас прыглядалася. Мне кінулася ў вочы Вашае з ім падабенства яшчэ ў ЗАГСе. Я потым і села каля Вас наўмысна, і гэтую гаворку распавяла, калі Вашае імя па бацьку пачула. Але ў мяне ўсё ж такі яшчэ заставалася няўпэўненасць. Магла ж я памыліцца, столькі гадоў прайшло пасля смерці бацюшкі, у мяне ўжо і рысы яго твару пачалі ў памяці сцірацца. Ды і колькі мне тады было, як ён памёр, адзінаццаць гадоў, дванаццаты ішоў. І я перад ад'ездам спыталася ў Вашай сястры, як прозвішча Вашае дзявочае, па бацьку было. Калі яна мне адказала — Кудзелька, я зразумела, што не памылілася. Надта яно запамінаецца. Але ўсё хацела сабрацца з думкамі і фотаздымак адшукаць, можа, ён у Вас таксама захаваўся. Не крыўдуйце, калі ласка, што я сабе пакінула рэчы Вашага таты. Пахаваны бацюшка Адам у вёсцы пад Тайшэтам, на крыжы напісалі яго імя і дату смерці, а колькі яму гадоў было, я дакладна і не ведала. Крыж мы потым пазней ужо з Антосем паставілі. Магілку яго даглядаем, не хвалюйцеся.

Добрай, вялікай душы чалавек быў Ваш тата, Вера Адамаўна, ім можна і трэба ганарыцца. Шкада толькі, што Вы яго амаль зусім не ведалі. Калі б не бацюшка Адам, не ведаю, што б са мной сталася ў вайну. Ён мяне не толькі хрысціў, але і ыратаваў. Сапраўды, заступнік мой, анёл-ахоўнік на зямлі, я і зараз, калі цяжка, у думках у яго дапамогі прашу...»

Дачытаўшы ліст, Саша і Даша некалькі хвілін моўчкі глядзелі адно на аднаго.

— Атрымліваецца, — Даша нарэшце склала паперу і дастала з канверта стары фотаздымак, абцёрты па краях, — гэта твая маці, цёця Вера і іх бацькі?

Малодшай дзяўчынцы было, мабыць, года паўтара ці два, і маці трымала яе на руках, старэйшая сястра стаяла побач з бацькам. У мужчыны былі высокія, рэзка акрэсленыя скулы, бачныя нават за барадой, і крыху шыракавата расстаўленыя вочы. Апрануты ён быў звычайна, у кашулю і штаны, нягледзячы на сан, і не ведаючы, што Адам быў святаром, па здымку нават нельга было пра гэта здагадацца. Жанчына, яго жонка, з косамі, укладзенымі ў адмысловую прычоску, на здымку сядзела. Яна была ў цёмнай сукенцы, адзіным упрыгожваннем якой з'яўляўся карункавы каўнер.

— Так. Гэткая ж фотакартка ёсць і ў цёці Веры, — адказаў Саша.

— Дык ты ведаў, што твой дзед загінуў у Сібіры?

— Не, пра тое, як ён памёр, у сям'і не ведаюць, толькі пра арышт. Мама з цёцяй Верай ужо дарослыя адшукалі адна адну. Яны перад вайной апынуліся ў розных дзетдамах, калі іхняга бацьку арыштавалі, а неўзабаве маці памерла. І цёця Вера маю маму, сястру сваю, шмат гадоў пасля шукала. Ужо я нават нарадзіўся, калі яны нарэшце знайшліся.

— І твой дзед, атрымліваецца, там, у Сібіры, дапамог выхаваць маю цёцю Алесю?.. — Даша здзіўлена пахітала галавой. — Нічога сабе супадзенне… Гэта ж цэлая легенда сямейная… — І раптам, азораная імгненнай думкай, прапанавала: — Слухай, а давай мы туды самі паедзем? Цёця Алеся тату неаднойчы ў госці запрашала…

— Пажывём — пабачым, — стрымана адказаў муж. — А цёця Вера, канешне, будзе шчаслівая, калі ліст прачытае, я ўпэўнены. Правільна мы зрабілі, што не пасаромеліся самі канверт адкрыць.





**Анатоль ЗЭКАЎ**

# СЛОВА РОДНАЕ ГАМОНІЦЬ...

## БЕЛАРУСКІ ЛЕС

Мой край з блакітнымі вачыма
наўсцяж лясамі зелянее,
і дзякуючы ім, магчыма,
ён не залее і ў завеі.

Стаяць дубы, як вартавыя,
і, узіраючыся ў далеч,
цікуюць, каб адкуль стыхія
на лес не наляцела зграяй.

А наляціць — дубы раскінуць
галлё
        і захінуць падлесак,
не даючы яму загінуць,
каб з часам  стаў падлесак лесам.

Люблю дубы я за трывучасць
і даўгавечнасць іх,
                                бярозы —

---

*__Зэкаў Анатоль Мікалаевіч__ нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», у рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Книга и мы», «Добры вечар», «Беларуская лясная газета», часопісаў «Вожык», «Полымя», «Вясёлка», у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг паэзіі «Боль сумлення» (1989), «Промнік позірку твайго» (2008), «Пад кронай белых аблачын» (2013), «Белае сонца бяроз» (2016), сатыры і гумару «Дуэль» (1994), «Дуэль-2» (1995), «Кругі ў галаве» (2007), «Вінегрэт пад фуршэт» (2015), «Тары-бары» (2015), «Замарожаныя пачуцці» (2015), прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» (2000), «Генеральскі нумар» (2011), для дзяцей «Чатыры зярняткі» (2000), «На арэхавым кані» (2003), «Зязюля Гулюля» (2011), «Не казкі пра Сашку» (2013), «Безбілетны Зай» (2014), «Азбуку мядзведзь вучыў» (2015), «Лічба з літарай сябруюць» (2016).*

за белізну і сок гаючы,
а за калючы нораў — сосны.

Мне любыя і клён з асінай,
рабіна, елка, вольха, ясень…
Мой край — з блакітнымі вачыма —
жыве здаўна ў лясной акрасе.

## СЛОВА

Слова роднае гамоніць,
лашчыць слых і акрыляе.
— Вінаграднік — вінагроннік, —
я хаджу і вымаўляю.
Вымаўляючы, аднак,
адчуваю ў слове смак.
Асалода ў ім такая,
быццам вінаград каўтаю.

## НА ПАТАПАЎСКІМ ПАГОСЦЕ

На патапаўскім пагосце
пакланюся ўсім крыжам.
Цётка Наста, цётка Прося,
баба Марфа, дзед Абрам.

Дзеда, праўда, я не ведаў,
бо з’явіўся ўжо на свет,
калі дзед адсюль, са свету,
перайшоў у іншы свет.

…Ў вёску я з унукам еду,
думкай цешачыся той,
што і прадзеда, і дзеда
ведаць будзе ўнучак мой.

## БАЦЬКА

Пад павеццю,
дзе вятры аж свішчуць
і сваволяць скразнякі,
бацька робіць косы й тапарышчы:
хай шчыруюць землякі!

За бясцэнак прадае і дарам
раздае жанчынам без мужоў —

тым, каму і сам мог скласці п*а*ру,
ды, магчыма, п*а*ры не знайшоў.

Занясе ён Надзьцы тапарышча,
граблі Таньцы занясе.
Пагамоніць з той крыху і з іншай —
ён адзін, а рады ўсе.

А калі б з адной якой жаніўся —
пэўна, пры адным двары б і жыў,
і не рады б так тады былі ўсе,
ды і тапарышчы б ці рабіў?

## СКАЖЫ, МІХАСЬ ЧАРОТ...

На сконе — трыццаць сёмы год
мінулага стагоддзя.
Толькі ў чым
твая віна, Міхась Чарот?
Скажы як ёсць нам праўду,
не маўчы,
бо й праз гады, Міхась Чарот,
хоць час і шмат за век змалоў мукі,
вядуць у трыццаць сёмы год,
як босыя на вогнішча, радкі.

* * *

Быццам на рачным блакіце
разыходзяцца кругі.
У маркоце дзень згарыць мой,
а за ім згарыць другі.

Я жыву — нібы чакаю
нейкай лепшае пары.
Ну а дні жыцця згараюць.
Колькі іх яшчэ згарыць?





Юльяна ПЯТРЭНКА

# АВЯЛЬГА

*Апавяданне*

* * *

Было душна. Ні ветрыку, ні шоргату. Прыціхлі ў бярозавым гаі птушкі. Змоўклі жаўрукі ў высокім бязвоблачным небе. Адно далёка ў лясным гушчары, дзе ўецца вузкая лянівая рачулка, плакала, маліла неба аб дажджы маркотная авяльга, ды над спелым лугам гулі цяжкія пчолы.

— Во спякота, божа ж ты мой, — уздыхнула грузная сталая жанчына і выцерла чырвоны твар выцвілай квяцістай хусткай. — Ідзі во, Люба, сюды, у цяньку пасядзім.

Яна цяжка ўселася на касматую траву, і з-пад яе ледзь паспеў уцячы сонны чмель. Тут, на ўскраіне дарогі, пад самымі шатамі лесу, было не так горача — кашлатыя кроны дрэў кідалі на зямлю густыя цені.

— Люб, чуеш? — жанчына павязала хустку на рэдкія русявыя косы, выцягнула наперад мазолістыя ногі і пачала развязваць хатулёк з абедам.

Тая, каго яна назвала Любай, маладая, гадоў трыццаці, жанчына, цыбатая, з доўгімі, жылістымі, як у мужчыны, рукамі трымала свой хатулёк і няўпэўнена тапталася на месцы. З-пад выцвілай блакітнай сукенкі выглядалі вуглаватыя загарэлыя калені.

— Цётка Улляна, а можа, не трэба так далёка адыходзіць? — кінула яна вінаваты позірк на поле цераз дарогу, дзе паўкругам размясціліся астатнія жанчыны, занятыя на жніве. Большасці з іх не было відаць за высокай сцяной жыта. Адно тырчэў-ківаўся з боку на бок зроблены з газеты капялюш дзядзькі Мірона, агранома, які сядзеў з імі. Відаць, смяяўся, скаліў зубы з жанчынамі.

— А ну іх, — махнула загрубелай рукой цётка Улляна. — Хочуць — няхай на сонцы пякуцца…

Люба доўга выбірала месца і нарэшце прысела ў імглісты цень, зняла з ацёклых ног галёшы і акуратна паставіла побач.

— Ну-тка, цётка Улляна, — дастала яна з торбы зеленаватую бутэльку з вадой і адкаркавала.

---

***Пятрэнка Юльяна Вітальеўна*** *нарадзілася 13 снежня 1981 года ў вёсцы Жгунь Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка (2005). Працавала сурдапедагогам.*

*Апавяданні друкаваліся ў часопісе «Маладосць».*

*Жыве ў г. Гомелі.*

Улляна ўзяла ў Любы бутэльку, пачала ліць тоненькім струменьчыкам цёплую ваду на яе далоні, гледзячы, як тая змывае з вастраносага твару пыл. Скура на ім добра паружавела ад пякучага сонца, толькі пад глыбокімі шэрымі вачыма, у самых зморшынках, заставалася белай. Тонкая шыя і грудзі, якія Люба зверху абцірала вадой, таксама паспелі згарэць.

Затым Люба зняла з галавы белую касынку, перапляла тонкую аўсяную коску і пачала выкладаць на ручнік свой сціплы абед. Дастала скручаны з газеты корак з рыльца бутэлькі, паднесла да вуснаў, глынула малака. Але тут жа скрывілася, сплюнула на траву і выцерла перасохлыя вусны.

— Што, скісла? — цётка Улляна весела хрумстала гуркам. — А ты думала… У такім пекле! На вунь! — пасунула яна бліжэй сваю бутэльку з бярозавым квасам, а сабе пасыпала шэрай соллю скібку хлеба. — Дадому нясі, смятана будзе, мужу буракі забяліць. У Зінкі брала? У Зінкі карова добрая…

Люба, няспешна жуючы лустачку мяккага белага сала, як не пачула.

— От добра, што ў мяне суседзі такія з'явіліся, як вы з Ляксеем, — балбатала далей цётка Улляна, падаючы Любе калючы гурок, — а то стаіць хата пустая — і няма з кім словам перакінуцца. А цяперака… Цяперака мне вясялей, а табе зручней. Ты клёцкі гатаваць умееш? Не? Навучу… І мачанку з грыбамі. А гэта, Ляксей твой дах крыць умее? Га, Люба? Ці чуеш?

Люба адклала ў бок лусту хлеба і насцярожылася:

— Пяе нехта… Ці плача… Птушка?

Цётка Улляна перастала жаваць і прыслухалася.

— Але, — нарэшце кіўнула яна, — быццам плача, — няспешна ўзняла з прымятай травы грузнае цела і пакрочыла да старой бярозы, што навісала кудлатым голлем амаль над самай дарогай. Яе выгнуты каржакаваты ствол чамусьці пайшоў не ў вышыню, а ў бок. На ім, як на шырокай лаўцы, лёгка магла размясціцца парачка закаханых.

Люба зірнула цераз карычневае плячо цёткі Улляны і ад здзіўлення ледзь не адкрыла рот: у густой траве, пад самым ствалом незадаволена выгінаўся і крактаў захутаны ў чыстыя ільняныя анучы маленькі камячок. Па ружовым тварыку поўзала муха.

— От, Зоська, халера яе бяры! — Улляна адагнала шурпатай далонню муху. — Ізноў дзіцё згубіла!

— Згубіла? — Люба засяроджана агледзела камячок, што не пераставаў варочацца. — Ці кінула?

— Згубіла, то ж Зоська… — цётка Улляна ўзняла немаўля і прыціснула да вялікіх грудзей. — Дурніца… Што з яе ўзяць? Во сунула ў роцік сусла з хлеба, — сказала яна, заўважыўшы недаўменны Любін позірк, і паправіла скручаную анучачку ў роціку дзіцяці. — Каб спала, маці не замінала… Бо працы шмат, няма калі цацкацца…

— Дык жа не працуе ваша Зоська! — абурылася Люба і зрабіла крок назад, але не адвяла вачэй з пацешнага, гузікам, носіка.

— Ага, пастаў яе працаваць куды. Яна табе напрацуе. Яшчэ заб'ецца, — Улляне стала пакачваць немаўля, няўклюдна, як мядзведзіца, прысядаючы на месцы. — І бацька яе, Яшка, такі ж быў. Як гэта зараз кажуць… непаўнацэнны… Дурань, карацей. Ну, не тое, каб зусім дурань… Цяляты пасвіў, на тое розуму хапала… Ось. Кучаравы такі, лупаты, танцаваў смешна, як пойдзе пад гармонь… І як яго Данута прыняла-палюбіла — чорт іх душу ведае.

Цётка Улляна раптам прыціхла, плюнула цераз плячо, але не пяражагналася — абедзве рукі былі заняты дзіцём.

Малое супакоілася, сціхла, мацней засмактала сусла.

— Сляпая Данута? — перапытала Люба. У гэтай вёсцы яна жыла яшчэ мала — нядаўна разам з мужам пераехала сюды з суседняга калгаса — туташні старшыня пераманіў, яму патрэбен быў добры шафёр яго вазіць.

— То яна цяпер падслепаватая, бо састарылася. А раней ого! І рабіла шпарчэй за ўсіх, і танцавала. І на картах усёй акрузе варажыла. Во Бог і пакараў, ага… А Яшку немцы ў лесе забілі, думалі — партызан. А які з дурня партызан? Тады ўсе па лясах сядзелі…

— Ведаю, самі хаваліся, — перабіла яе Люба.

— Ну дык вось. Позняя яе Зоська занадта… У лесе, відаць, і нарадзілася. Бо калі Данута ў вёску прыйшла, то з ёю пад пахай. Ну і Зоська гэтая… Яшкава дачка, што казаць. Ад сасны яблыкаў не дачакаешся.

Дзіцё раптам скрывіла маленькі ружовенькі тварык, выпхнула язычком сусла і зайшлося надрыўным плачам, шырока разяўляючы бяззубы роцік.

— Ціх-ціх, — цётка Улляна яшчэ мацней затрэсла немаўля. Але яно і не думала сціхаць, яшчэ больш заходзілася ў плачы.

З гаю пачуўся дзявочы вокліч, замільгацела між бяроз квяцістая сукенка, і праз хвіліну ля крывой бярозы з’явілася раскудлачаная басаногая дзяўчына гадоў пятнаццаці з калматым вяночкам у руцэ. Раз’юшана, нібы дзікая котка, кінулася да Улляны, выхапіла з рук жанчыны немаўля і затрэсла-залюляла, моцна прыціскаючы да сябе.

— Зось, і не сорамна табе? — пахітала галавой цётка Улляна, гледзячы, як дзяўчына садзіцца пад бярозу і суне ў маленькі роцік вострую ружовую смочку. — Гэта ж хто ў лесе дзіцятка кідае, га?

Круглявы дзявочы твар змякчыўся, праясніліся вялікія блакітныя вочы:

— Вянок во, — узняла яна свабоднай рукой маленькі вяночак. — І рамонкі, і мята…

— А мокрая чаму? — кіўнула жанчына на Зосьчыну расшпіленую сукенку, што ліпла да белага цела. — Вуй, дзіцё не прыціскай! У рэчцы хіба плёскалася?

— Цара чакала, — узняла бялявую раскудлачаную галаву Зоська. Доўгія, мокрыя яшчэ валасы апускаліся да тонкага стану.

— Каго? — узняла Люба вылінялыя бровы.

— А-а, хадзем, кінь ты, — заклыпала прэч цётка Улляна. — От, дае ж Божухна дзяцей такім вось недарэкам, а каму добраму, дык...— уздыхнула яна і зноў апусцілася на траву, сербанула квасу з мутнай бутэлькі. — Навошта, га? Такімі ж і вырастуць…

Любе чуць гэта было горка і балюча: з Ляксеем, з мужам, ужо шэсць гадоў жывуць, а ўсё ніяк… Але выгляду не падала.

— Бач ты? — кіўнула цётка Улляна ў бок Зоські. Тая, не аднімаючы немаўля ад грудзей, раскруціла пялюшкі, і цяпер на пухнатай, як дзьмухавец, маленькай галоўцы красаваўся стракаты вяночак. — Ёй што дзіцё, што лялька…

— Самой бы яшчэ лялькі круціць, — сказала Люба, і ніяк не магла адвесці вачэй ад вясковай дурнічкі. Ладненькая, спраўная. Развітая не па гадах. Але ж і стан тонкі, быццам цяжарнасці і не было, стройныя ногі з акуратнымі маленькімі ступнямі, круглявыя сцёгны, што выглядалі з-пад з’ехаўшай сукенкі, тонкія белыя рукі, вытанчаная шыя — дзяўчына больш нагадвала Любе каштоўную парцалянавую статуэтку, што стаяла некалі ў серванце суседкі Фаі, і да якой нельга было дакрануцца. Выразныя вочы, над якімі ўздрыгвалі доўгія светлыя вейкі, пульхныя ружовыя вусны, акуратны носік — Зоську можна б было назваць прыгажуняй, калі б не нейкая дзікаватая ўсмешка на твары. А ўвогуле выгляд такі, што Зоська недзе не тут, не ў гэтым жыцці...

Зоська нешта напявала сябе пад нос і пакачвала з боку ў бок круглыя калені, на якіх ляжала дзіця.

— Дзеўка? — чамусьці спытала Люба, з зайздасцю разглядаючы маленькае цельца.

— Дзеўка, — заківала Зоська.

— А назвала як?

— Дзеўка, — паціснула плячыма дзяўчына. — Цётка Тамара, што ў клубе сядзіць, казала Акцябрынай назваць. Прыгожа. Толькі мне больш Авяльга падабаецца.

— Як? — Люба ледзь стрымала сябе, каб не засмяяцца.

— Авяльга. Птушачка такая. Жо-о-оўценькая, — працягвала Зоська. — Ціў-лі-лі, ціў-лі-лі — штодзень спявае. Там, ля вады, дзе цар рачны жыве.

Зоська насцярожылася, узняла галаву: недзе загула машына, узняўся над полем буры пыл.

Хутка з-за павароту вынырнуў невялічкі цёмна-зялёны газік на тонкіх высокіх колах.

За баранкай сядзеў Ляксей — Любін муж і новы шафёр калгаса, у светлым картузе і паласатай кашулі. Нават нягледзячы на бруднае шкло машыны, яшчэ здалёк было бачна, як ззялі яго смяшлівыя вочы. Убачыўшы на ўскраіне дарогі жонку, Ляксей пасігналіў і заўсміхаўся яшчэ шырэй. Месяц, як тут агнездаваўся — хату, вунь, далі, не новую, затое вялікую — некалі і дзеці пойдуць, не будзе пуставаць…

Старшыня калгаса, што тросся ў кабіне побач, кінуў Ляксею некалькі слоў, і ўсмешка на яго твары згасла.

Праз хвіліну газік прыпыніўся каля жанчын. Старшыня, высокі шыракаплечы мужчына гадоў сарака пяці, у бездакорна выпрасаванай светлай сарочцы, адкрыў акенца і кінуў у траву недакураную папяросу.

— Прахалоджваемся, бабанькі? — ён паспрабаваў надаць сабе строгі выгляд, але ў глыбокіх цёмных вачах гулялі смяшлівыя агеньчыкі.

Старшыня абвёў кампанію пільным позіркам і крыху затрымаў яго на голых Зосьчыных грудзях. — А поле нязжатае стаіць?

— Дык абедалі, таварыш старшыня! — спахапілася Люба, спешна пачала перавязваць белую хустку.

— Ат, Мікалай Трафімавіч, — упёрла цётка Улляна ў поўныя бакі рукі, — ужо і адпачыць няможна!

— І праўда, цётачка, — падтрымала яе Люба, і пачырванела: ці трэба было...

— Ну, ну, Самойлава! — на гладкіх загарэлых шчоках старшыні праступілі ямачкі. Ён павярнуўся да кабіны: — Ляксей, дзе ты такую бойкую жонку знайшоў?

— Дзе знайшоў, там ужо няма, Мікалай Трафімавіч, — падміргнуў Ляксей Любе, а тая пачырванела яшчэ больш.

— Давайце-давайце, жанчынкі, няма калі лясы тачыць, — ізноў пасур’ёзнеў старшыня і кіўнуў шафёру галавой, закрываючы акно.

Газік загуў, тузануўся і марудна папоўз наперад па калдобістай разбітай дарозе.

— От жа ж, раскамандаваўся, — нехаця заварушылася цётка Улляна, загортваючы пустую бутэльку і рэшткі абеду ў хустку. — Жонцы сваёй загадваць будзеш…

— Навошта вы гэтак? — раптам абурылася Люба. — Адказны чалавек, справу сваю робіць.

— Дык я што? Я ж нічога, — Улляна сумелася, перастала складаць свае транты, узнялася і раптам зацягнула песню: — «Трудадні, ды трудадні, ой вы, трудадніцы! Бацька ходзіць без штаноў, маці — без спадніцы!»

Люба не звярнула на гэта ўвагі, кінула таропкі позірк на Зоську — тая бесклапотна люляла на аголеных каленях дзіця і нешта напявала. Шкада ёй было Зоську, асабліва дзіця.

* * *

Вечарам, калі сонца павольна кацілася за шэры двухпавярховы будынак канторы, стомленая Люба сядзела ў двары з кубкам гарбаты. Распараная, з мокрымі яшчэ валасамі, яна пакусвала вусны і задуменна аглядала двор — шукала месца, дзе пасадзіць у наступным годзе вяргіні, якія ёй абяцала даць цётка Улляна. Тазік з намочанай бялізнай стаяў побач — сіл на яе ўжо не заставалася. І як толькі паспяваюць жанчыны даглядаць-гадаваць дзяцей, упарадкаваць свае агароды і спраўляцца па гаспадарцы...

За плотам забрахаў, ажно зайшоўся сабака, пачуліся звонкія дзіцячыя галасы, смех:

— Зоська-авоська, кіслая моська!

— У-у-у, дзе цара згубіла?

— Без цара ў галаве!

Люба паставіла на лаўку кубак, ускочыла ў галёшы і выбегла за вароты. Па вуліцы, люляючы капрызлівае дзіця, паволі брыла Зоська ў кароткай сукенцы, што адкрывала круглыя калені. Услед за ёй бегла і дражнілася мясцовая дзятва.

— А ну, па хатах, ахламоны! — прыстрашыла Люба хлапчукоў. — А то вушы паабрываю!

— Не даго… — пачаў было свавольнік у кароткіх штоніках, але Люба схапіла яго за каўнерык сарочкі.

— А-а, пусці, пусці! — закруціўся ён.

— Хадзем-ка да маці! — сказала Люба, і звяртаючыся да астатніх, роспачна мовіла: — Што ж вы з Зоські здзекуецеся? У яе ж дзіцятка, і вы ж такімі былі.

— Маці кажа, Данута — ведзьма, дачку з вадзяніком заручыла! — выпаліў хлопчык і выкруціўся з Любчыных чэпкіх рук.

Люба, пачуўшы гэта, сумелася: ат, жанчыны, жанчыны, навошта так...

Дзеці кінулася ва ўсе бакі.

— Зось, ішла б ты дадому, — ціха сказала Люба, як толькі дзяўчына параўнялася з ёю. — Маці, пэўна, хвалюецца.

Зося ўзняла на яе пустыя вочы і моўчкі пайшла далей.

— Дзіцяці калысачка трэба, ёсць у цябе? — не ўтрымалася Люба і пакрочыла следам за Зоськай. — Ляксею скажу, зробіць. А пялюшкі? Пялюшкі ёсцека?

— Чуеш? Авяльга пяе? — спынілася раптам Зоська.

— То котка крычыць, — прыслухалася Люба і зазірнула ў маленькі сонны тварык дзіцяці. — Зось… А дзе ж бацька? Бацька, пытаюся, дзе? Дачушкі тваёй?

Зося акінула яе халодным позіркам і пайшла хутчэй.

— Дык цяжка ж адной гадаваць… — Люба запаволіла крок. — Што ж ён кінуў, забыўся? Дачцэ бацька патрэбны… — апошнія словы глуха прагучалі на пустой вуліцы.

* * *

З самага ранку ў канторы было шумна. Толькі Люба пераступіла парог, як твар у твар сустрэлася з участковым, які ледзь не збіў яе з ног. На лесвіцы бухгалтарка Рая гнеўна трэсла нейкімі паперамі перад носам галоўнага агранома і нешта яму даказвала. Але Мірон Іванавіч стараўся перакрычаць яе басавітым голасам. Што ён крычаў, нельга было разабраць.

На другім паверсе, каля вялікага акна, ветфельчар і малады заатэхнік таксама аб нечым спрачаліся, размахвалі адзін перад адным рукамі.

Па калідоры пранёсся інжынер, ледзь не збіў Любу з ног.

Люба зазірнула ў прыёмную — нікога. Прачыніла дзверы суседняга пакоя — за сталом каля акна сядзела і перабірала паперы смуглявая жанчына.

— Добрай раніцы, — у паўголаса павіталася Люба.

Жанчына ўзняла цёмную, кароткастрыжаную галаву, але змаўчала.

— А дзе Ляксея знайсці, Самойлава? Абед забыў, — Люба паказала на невялічкі клуначак.

Жанчына адклала ў бок паперы і склала на стале дагледжаныя рукі:

— Жонка? Таварыш Самойлаў у раён адбыў, па справе. А вы заходзьце, заходзьце, — яна ўсміхнулася і паказала на крэсла, што стаяла насупраць яе. — Як добра, што самі завіталі. Да вас справа ёсць.

Люба зачыніла за сабою дзверы і прысела на край высокага крэсла.

— Абалян Тамара Ванікаўна, — жанчына працягнула ёй тонкую руку з блішчастым бранзалецікам на запясці, — старшыня сельсавета.

— Люба… Любоў Дзянісаўна, — падала Люба сваю, сухую і шырокую.

— Любачка, — працягвала жанчына, — глядзелі вашую справу, сам старшыня калгаса наконт вас ідэю падкінуў.

— Што? Якую? — захвалявалася Люба.

— Надумаў наш Мікалай Трафімавіч бібліятэку ў сяле стварыць. Так сказаць, хату-чытальню. А ў вас ёсць вопыт.

— Вой, які там вопыт! — запратэставала Люба. — Я ж у клубе адно год працавала!

— Не бачу розніцы. І тут — культура, і там — культура, арганізацыя вольнага часу, так сказаць. Адказная пасада! Абавязуюся дапамагаць і бяру вас пад сваю апеку. Ну? Згаджайцеся!

— Ну… добра, — кіўнула Люба і пачырванела.

— А муж ваш кнігі хутка з раёна прывязе, у Мікалая Трафімавіча забярэце, перанясеце паціху, там няшмат. Як рамонт зробяць — адразу шафы ўнясуць.

— Тамар! — дзверы расчыніліся, і ў кабінет зазірнуў участковы. Але ж пабачыўшы госцю, асёкся: — Тамара Ванікаўна, тэчку, папку забыў.

Жанчына незадаволена падціснула тонкія вусны, нехаця паднялася і дакорліва ўсунула ў яго рукі картонную папку. Калі ён выслізнуў за дзверы, так і не сустрэўшыся позіркам з Тамарай Ванікаўнай, тая «працокала» абцасамі да тумбачкі ля дзвярэй, на якой стаяў графін з вадой, узяла яго, лінула ў шклянку. Пакуль піла маленькімі глыточкамі, Люба з цікаўнасцю разглядала яе вузкую сукенку непрыгожага карычневага колеру і вастраносыя бліскучыя туфлі. Разглядала і не магла ўявіць, як гэта Тамара Ванікаўна, старшыня сельсавета, вяртаецца ў іх дадому па раз’езджанай гразкай вуліцы, абмінаючы лужыны.

— Які ж сёння гармідар тут, — нарэшце стукнула яна шклянкай аб паднос. — Не прадыхнуць!

— Ага, шумна тут, — згадзілася Люба і схавала далей пад крэсла голыя ногі ў пыльных растаптаных галёшах.

Тамара Ванікаўна зацокала абцасамі да свайго стала:

— Усё на мне, усё: і кадры, і рэгістрацыя шлюбаў, і прыём грамадзян. Паперак — во! Закапацца можна! І панчоху, як назло падрала, — яна не сорамеючыся прыўзняла падол вузкай сукенкі, дзе па абцягнутым капронам калене бегла ўніз тонкая стрэлка. — Стол пракляты… Ат, не задаўся дзень...

Яна не дагаварыла, расчыніліся дзверы і на парозе ўзнікла Зоська з блакітнай стужкай у заплеценай абы-як касе.

На гэты раз на ёй была доўгая паркалёвая сукенка і нават парусінавыя тапачкі, ад якіх не адмовіліся б і гарадскія модніцы. На руках Зоська трымала дзіця, захутанае ў квяцістую пялёнку. Дзіця смешна круціла галоўкай, намагаючыся скінуць нязручны чэпчык і ўважліва разглядала высокую столь.

— Ну што, Калугіна, прыйшла, запісваем? — Тамара Ванікаўна ўзяла ручку.

— Запісвай, — весела кіўнула Зоська. — Калугіна Авяльга Якаўлеўна.

— Мама дарагая, — кінуўшы ручку, Тамара Ванікаўна схапілася тонкімі пальцамі за скроні.

— Я — Якаўлеўна. І яна будзе. Прыгожа.

— А бацьку дзіцяці як зваць?

— Ды адкуль я ведаю! — выпаліла Зоська, і дзіцё ўздрыгнула.

— Яна не бачыць тут сувязей і наступстваў, — умяшалася Люба. — Зось, ты з якім хлопцам гуляла? Ёсць у цябе сябар?

— Ні з якім. Нашто мне? У мяне лес сябар. І вецер, і месяц. Размаўляем, пяю ім. І вадзянік, і рачны цар.

— Калугіна, што за гулі? Май сумленне! У мяне яшчэ спраў па горла! — раззлавалася Тамара Ванікаўна.

— Ціха, — затрэсла Зоська дачушку. — Пішы: Калугіна Авяльга Якаўлеўна.

— Ты што, здекуешся з мяне? — смуглявыя шчокі Тамары Ванікаўны запалалі. — Што за Авяльга такая?

— Птушачка такая, жоўценькая, — адказала замест яе Люба.

— Так, — выдыхнула старшыня, — ідзі, яшчэ думай. Заўтра прыйдзеш.

Калі Зоська знікла ў цёмным калідоры, нават не зачыніўшы за сабою дзверы, Тамара Ванікаўна сумна зірнула ў акно:

— Як яны мне ўсе… — і паказала пальцам на шыю, абцягнутую белым каўнерыкам. — Хутчэй бы адсюль, у горад, у райвыканкам…

— То я пайду? — узнялася Люба і хутчэй прашмыгнула да дзвярэй.

* * *

На вуліцы, ля выхада з канторы стаяла некалькі хлопцаў і дзяўчат. Смяяліся, жартавалі, мабыць, чакалі куды іх сёння накіруюць на працу.

Як толькі Люба выйшла, сціхлі, праводзячы яе цікаўнымі поглядамі: чужая...

Люба пайшла па вуліцы ў кірунку дома, наперадзе недалёка ад яе няспешна крочыла Зоська. Яна нешта напявала, і з тоненькіх маладых каштанаў, што раслі паабапал вуліцы, зрывала свабоднай рукой пажухлае ўжо лісце. Некалі старшыня сам прывёз саджанцы і заклаў невялічкую алейку, каб і ў Барку было не горш, чым у раёне. Каб была зялёная сцяна да самага абеліска — невялічкай гранітнай пірамідкі з металічнай зоркай уверсе, і з акуратненькай блакітнай агароджай, за якой заўсёды ляжалі жывыя кветкі.

Сам Барок жудасная бяда абмінула — хаты тут не палілі, кровапралітных бітваў не вялося. Але нямала хто не вярнуўся з вайны, лёг на фронце,

ды і немцы забілі некалькі вяскоўцаў, напаткаўшы ў лесе, куды тыя пайшлі ў ягады. Так што абеліск тут стаяў па праве... Хаця, хіба не варта любое наша сяло, любы населены пункт гонару і славы? Хіба ж знойдзецца на нашай зямлі такі дом, такая хата, пад страху якой з вайны вярнуліся ўсе родныя... А калі і ёсць такія хаты, куды вярнуліся ўсе жывымі і здаровымі, дык ці ж з непакалечанымі душамі...

Люба не стала даганяць Зоську. І дамой ісці передумала. Яна завярнула з каштанавай прысады ў самым канцы вуліцы. Пайшла да дабротнай, з каменным падмуркам хаты старшыні калгаса, страха якой уздымалася сярод калматых яблынь і груш — там быў калгасны сад.

А падышоўшы да хаты, нерашуча спынілася ля высокага плота, з-за якога выглядалі разрослыя кусты шыпшыны. Паглядзела на зямлю, свежых слядоў машыны не было відаць. Рана прыйшла, не прыязджалі.

Яна ўздыхнула, нясмела штурхнула разьбяную брамку і апынулася на шырокім падворку, дзе грэбаліся рудыя куры з падрослымі ўжо куранятамі, а ў маленькай мутнай копанцы валтузіліся качкі, прагна заглытвалі траву з вялікага дзіравага каша.

З будкі, што стаяла ў кутку двара, выскачыў і сіпата забрахаў руды сабака, ірваўся з ланцуга.

— Каштан! Цыц, каму кажу! — з-за фіранкі, што закрывала дзвярны праём, вызірнула невысокая кругленькая жанчына гадоў сарака пяці ў белай касынцы і фартушку і ўтаропілася ў нечаканую госцю.

Сабака перастаў брахаць, сціх.

— Добры дзень, я па кніжкі! — крыкнула Люба.

— Заходзьце! — гучна сказала ў адказ гаспадыня і зноў схавалася за фіранкай. Але голас яе, як падалося Любе, гучаў не вельмі добразычліва.

Люба накіравалася да каменнага ганка, які знаходзіўся за сабакам, ланцуг якому не дазваляў накінуцца на яе, і невысокай агароджай, за якой буялі вяргіні. Узышла на высокі ганак, ссунула фіранку і апынулася ў невялічкім цёмным калідорчыку з двума ўслонамі, на якіх стаялі вёдры з вадой. Скінуўшы на плеценым палавічку галёшы, яна ступіла ў кухню з двума вялікімі вокнамі і аздобленай блакітнай кафляй печчу.

— Добры дзень, — нарэшце павіталася гаспадыня, не адрываючыся ад сваёй справы — на вялікай драўлянай дошцы яна спрытна нарэзвала вялізным нажом сакавітыя жоўтыя грушы. Карункавы абрус быў акуратна ссунуты ў бок.

— А я тут варэнне ўдумала, — вінавата ўсміхнулася яна. — А Коля… Мікалай Трафімыч, ужо і вярнуцца павінен. Вы сядайце, — паказала яна нажом на крэсла з высокай спінкай каля расчыненага насцеж акна. — Горача тут. Але ж на двары мухі і восы даймаюць.

Люба прысела на высокае крэсла каля акна з геранямі, на якім вецер трапаў тонкую фіранку.

На ўслоне каля стала стаяў керагаз, тут жа ў эмаліраваным тазіку булькацела густое залацістае варыва. Такі ж самы тазік стаяў і на падлозе, куды гаспадыня ссыпала буйна пакрышаныя грушы.

— Я адразу варыць не стаўлю, — завяла яна гутарку, — цукрам перасыплю і на ноч пакідаю. Тады ў сіропе не развальваюцца, а варэнне, як бурштын, празрыстае.

— А мая маці, бывала, закіпяціць — і пакіне, закіпяціць — і пакіне, — згадзілася Люба, узрадаваная тым, што знайшлася агульная тэма, — і ваніліну з мёдам — туды.

— Ой, не, і без таго прыкра. У мяне іншы сакрэт — лімонкі на кончыку нажа. Смачна, што язык праглынеш!

Тэма была вычарпаная, і яна змоўкла. А Люба пачала разглядаць зусім не вясковую абстаноўку: сцены не проста пабеленыя, а ярка-блакітныя, быццам сінькі не пашкадавалі; за шклом вялікага серванта ззяюць чысцінёй кубкі і сервізы, на палічцы з карункавай сурвэткай ціхенька вуркоча радыё, побач цікае насценны гадзіннік. Над круглым сталом карціна з вінаградам і спелымі яблыкамі ў глінянай місе. Крыху воддаль іншая — абхапіўшы аберуч калені, сумуе на беражку лясного азярца задуменная Алёнка. Далей, паміж дзвярыма ў іншыя пакоі, завешанымі ад староннікх вачэй квяцістымі фіранкамі, размясцілася вялікая рамка, пад шклом якой сабрана мноства розных пажаўцелых фотаздымкаў.

Ды і сама гаспадыня ні чым не нагадвала вясковую жанчыну: ладная мяккая фігурка, дагледжаныя рукі, адкрыты жыццярадасны твар з драбнюткай сетачкай маршчынак вакол іскрыстых жалудовых вачэй. «Нейкія інтэлігенцкія маршчынкі», — адзначыла сама сабе Люба. — «Зусім не такія, як у цёткі Улляны ці паштальёнкі Марыі. Ёй бы не качкамі і варэннем займацца, а сядзець у крэсле, накінуўшы на плечы пуховую хусцінку, узяўшы ў рукі кніжку, ці папіваць чай, слухаючы пласцінкі з усялякімі вальсамі».

На дварэ загула машына, зноў сярдзіта забрахаў сабака. Гаспадыня паранейшаму займалася сваімі справамі, здымаючы драўлянай лыжкай густую бурштынавую пену з варэння.

Неўзабаве за акном пачуліся ўпэўненыя крокі і прагучаў зычны глыбокі голас:

— Галюня! Рыбанька, ты дзе? А я табе шалік... — старшыня ўвайшоў у кухню, трымаючы высокі кошык у руцэ і, убачыўшы госцю, асекся. — Гэта… Шалік табе прывёз, — яго голас стаў сухім і сур’ёзным, — і там тое-сёе, што прасіла, — ён паставіў на падлогу кошык са скруткамі і бутэлькамі.

— А воцат? — зазірнула ў кошык гаспадыня.

— І воцат, і алей. Усё там, — старшыня павярнуўся да Любы, абцягнуў пінжак, паправіў гальштук і быццам вайсковец стукнуў абцасамі хромавых ботаў: — Дзень добры, таварыш Самойлава!

— Добры дзень, — адказала Люба, сумеўшыся, што прыйшла не ў час.

— Мабыць, па кніжкі? Згадзіліся ўсё ж?

— Так, — паправіла касынку Люба і крышку пачырванела. — А Ляксей?

— Курыць, — махнуў рукой старшыня, — як той паравоз! Дзед мой, здаецца, і то меней дыміў. Вы яму, таварыш бібліятэкарка!.. — ён пагразіў пальцам.

— Ага, — ужо смяшліва кіўнула яна, — хіба ж яму давядзеш?

Люба ўзнялася з крэсла і выпырхнула за парог, каб не быць сведкай чужых абдымкаў. На падворку да яе зноў кінуўся сабака, забрахаў.

— А ну цыц! — смела крыкнула яна на яго, прайшла паўз агароджу з вяргінямі да брамкі і апынулася на вуліцы, на якой стаяла грузавая машына.

— Ляксейчык, — ласкава гукнула яна мужа. Той пачуў, вызірнуў з-за пыльнага грузавіка, трымаючы ў зубах цыгарэту, ад якой віўся лёгкі дымок. На яго галаве красаваўся нязменны светлы картуз.

— О, і ты тутака? — Ляксей, які быў крыху ніжэй і маладзей за сваю жонку, моцна зацягнуўся, кінуў недакурак на зямлю і прыціснуў ботам.

— Я бібліятэкаркай буду, — сказала Люба, і яе шэрыя вочы заззялі.

Муж шырока ўсміхнуўся, але адказаць не паспеў: ля брамкі ўзнік старшыня і загадаў насіць кнігі ў павець.

Калі Ляксей адкінуў задні борт машыны, Люба з расчараваннем уздыхнула: замест акуратна складзеных кніжных стосаў з рознакаляровымі карашкамі, што, як чакала, павінны былі даверху запаўняць кузаў, убачыла некалькі бляшанак з фарбай, мяхі з вапнай, і толькі за імі віднелася тое, што было ёй трэба. Іх, роўных стосікаў кніг, абгорнутых шэрай паперай і перавязаных шпагатам, было штук пятнаццаць, не болей. І ў кожным, мяркуючы па выглядзе, сем—дзесяць кніжак. Побач ляжалі таксама перавязаныя шпагатам стосы газет і часопісаў.

Пакуль мужчыны насілі кнігі ў двор, Люба пацягнулася па часопісы. «Роман-газета», «Смена», «Юность»… Гэта зразумела. А навошта старыя газеты? І так у кантору свежыя прыходзяць…

— Бярыце, Любачка, чытайце, — пачуўся за спінай глыбокі голас старшыні. — Але ж, як бібліятэка адчынецца, каб усё мне на сваіх месцах, глядзіце!

— Дык я ж… — павярнулася Люба і заляскала выгаралымі бясколернымі вейкамі, — Мікалай Трафімавіч…

— Ды жартую я, — рассмяяўся старшыня. — Чытайце на здароўе. Галоўнае, запісвайце, што і каму даяце, а то шукай потым ветру ў полі. А заўтра з раніцы да мяне заскочыце, праінструктую. Аформім, зноў жа.

— Добра, забягу, — згадзілася яна і ўзяла пад паху некалькі нумароў «Здоровья».

— Любаш, мне яшчэ фарбу з вапнай завезці, а потым — ветфельчара на ферму, — Ляксей выйшаў з двара, дзе як і раней брахаў сабака, і зноў закурыў.

— Ды хопіць ужо на сёння, — махнуў цвёрдай бронзавай рукой старшыня. — Вязі жонку дадому, ды і я — абедаць…

* * *

За акном распрасцёрла мяккія крылы цёплая пагодлівая ноч. Люба з ганка лінула пад куст парэчак ваду, у якой мыўся посуд, і ўдыхнула свежае паветра на поўныя грудзі… Пасля замкнула хату, патушыла газавую лямпу і басанож пашлэпала ў ложак.

— Лёшка, ты спіш? — зашаптала яна.

— Што?

— Спіш, кажу?

— Не ўжо…

— А гэта… Давай сабачку возьмем. Ну, ці коціка там.

— Які коцік, Любаш? Карову нам трэба і гаспадарку сапраўдную. Вунь, Мікалай Трафімавіч курэй даць абяцаў.

— Даць? Проста так?

— Ага, — Ляксей пазяхнуў, — толькі яны не нясуцца пакуль. Маладыя.

— А колькі?

— Што колькі?

— Курэй колькі? І пеўня?

— Ой, ды спі ўжо, не ведаю я.

— А добры гаспадар наш Мікалай Трафімавіч, праўда? Добры? — ткнула яна мужа локцем у бок.

— Добры, добры… Ён такі, наш старшыня, каб і ўладзе добра, і народу някепска.

Ляксей хмыкнуў і працягнуў шэптам, каб не парушаць млявую цішыню ў хаце:

— Люб, давай спаць, — адвярнуўся ад яе муж і нацягнуў на галаву коўдру.

— Які ж ты…— слаба абурылася Люба. — Акрамя машыны тваёй і паразмаўляць няма аб чым. Ну нічога, ты ў мяне ўсе кніжкі перачытаеш, як міленькі! І каб… І каб пінжак з гальштукам насіў, як Мікалай Трафімавіч!

— Ну дык ідзі і жыві з ім, — буркнуў Ляксей. Не злосна, а каб нарэшце адчапілася і дала паспаць.

Люба сярдзіта адкінула коўдру і пашлэпала ў кухню, папраўляючы камбінацыю, што ссунулася з худога пляча.

Запаліла лямпу, узяла палатняны мяшэчак з гарбузовымі семкамі і ўселася за стол разглядаць часопісы.

* * *

Зранку неба зацягнула мутнымі алавянымі хмарамі.

Люба, як і абяцала, з'явілася ў канторы на інструктаж. Але ж высветлілася, што Мікалай Трафімавіч, сам за рулём, без Аляксея, паехаў па нейкіх справах у суседняе Канаполле. Ляксея адправілі на палі. Да таго ж, сёння яе чакаў яшчэ адзін непрыемны сюрпрыз: як выявілася, ніхто і не думаў займацца рамонтам бібліятэкі. Вечна занятая і незадаволеная Тамара Ванікаўна ўсунула ў рукі разгубленай Любе ключ, бляшанку з фарбай, бутэльку з пакостам, мяшэчак з вапнай і вялікі квач. Кінула некалькі гучных фраз пра свой абавязак перад краінай і хуценька развіталася.

Пад бібліятэку аддалі старую драўляную хату, дзе некалі размяшчалася школа, а пасля, як пабудавалі новую і больш прасторную, тут збіраў на танцы моладзь мясцовы гарманіст, пакуль не з'ехаў у раён, казалі, да мяккасардэчнай удавы нейкага генерала.

Вакол хаты густа разросся здзічэлы пануры сад і калючае кустоўе. Але ж вузкая сцяжынка да высокага ганка з драўлянымі парэнчамі і стрэшкай была вытаптана добра — то тут, то там на ёй сустракаліся кулёчкі, паперкі, счарнелыя яблычныя агрызкі і сланечнікавае шалупінне. Ля ганка, з-пад амаль згніўшай лаўкі выглядала бутэлька з-пад піва.

Люба паставіла на ганак цяжкі мех і выняла з кішэні вялікі ключ. Счарнелы навясны замок адкрыўся на дзіва лёгка.

На драўлянай абшарпанай падлозе ляжалі купы смецця: абрыўкі газет, скамечаная папера, анучы, дошкі. Каля шэрай печы абы-як валяліся дровы, стары матрас з вялікай падушкай, а ля брудных, зацягнутых павуціннем вокнаў размясцілася пару пыльных сталоў і гара складзеных адна на адну табурэтак.

Працы тут было нямала…

За гэты дзень Люба паспела адно вымыць вокны, вынесці смецце і разы тры працерці падлогу. Стамілася вельмі — ваду трэба было цягаць аж са свайго надворка.

* * *

Увечары, пакуль варылася бульба з леташнімі сушанымі грыбамі, Люба сядзела на лаўцы з часопісам «Здоровье», чакала Аляксея, прыслухоўвалася да аддаленага гулу машын і час ад часу пазірала на хмурнае неба. Хмары добра згусціліся, здавалася, вось-вось заплачуць, але дажджу так і не было.

«Добра. Жніво ж, дождж пакуль не патрэбен. Хаця, з другога боку, гарод свой паліваць штодня трэба… От, і вырашы, што важней…»

Бульба зварылася, а Ляксея ўсё не было. Такое часцяком здаралася. У старшыні шмат клопату: то зерне, то сена, то сілас, то бульба, то яблыкі, то яшчэ якое ліха. Вось і возіць яго Ляксей. Бывала, вяртаўся позна, калі суседка Улляна паспявала падаіць сваю казу і завітаць з маленькім гарлачыкам цёплага яшчэ малака. Люба разумела, што рабілася гэта не дарма, бо ў наступныя дні ва Улляніным двары абавязкова знаходзілася нейкая праца для Ляксея — траву пакасіць, плот падладзіць, ускапаць што, дровы пасекчы…

Суседчын муж вярнуўся з вайны жывым і здаровым, але ў той жа год падхапіў запаленне лёгкіх, злёг і згас. Абодва сыны жылі ў Мінску і наведваліся рэдка, дачка — замужам за ваенным недзе на Далёкім Усходзе. Ну як тут адмовіць і не дапамагчы?

Нарэшце Люба адцадзіла бульбу, укруціла каструльку ў старую ватоўку і з часопісам пад пахай падалася паўз кантору на суседнюю вуліцу, самую крайнюю, за якой пачыналіся палі і беластволы пярэсты лясок.

Невялічкую, з рассохлымі аканіцамі Дануціну хацінку і перакошаным плотам вакол падворка Люба ведала добра. Цётка Улляна расказвала ўсё пра ўсіх.

У кветніку пад акном, які ніхто не даглядаў, не было ніводнай кветкі, толькі буйна разраслася каліна, дробныя ягадкі якой пачыналі ўжо наліваццa чырванню. Люба мінула кветнік і штурхнула рыпучыя веснічкі з вялікімі шчылінамі між ссохлых счарнелых дошак.

Гаспадарка была ў заняпадзе: драўляны хлеў перакасіўся ад часу, амаль згніла і развалілася павець, надворак парос густой касматай травой, каля калодзежа на сухіх вузлаватых галінах старой слівы боўталіся дзіцячыя пялюшкі.

Аднекуль даносіліся скрыгат і бразганне, пахла смажанай бульбай. Люба мінула старую сліву, склеп і зазірнула ў дрывотнік.

Сталая прыземістая жанчына ў хустцы ў вялікую клетку, шэрай фланелевай спадніцы і запэцканай камізэльцы памешвала бульбу на чыгуннай патэльні, што стаяла на керагазе. Пасунуўшы яе лыжкай у бок, жанчына кінула побач тоўстыя кавалкі сала і пачала разбіваць яйкі. Патэльня сквірчала і дымілася.

— Добры вечар! — гучна павіталася Люба.

— Га? Хто ета? — павярнулася грузная шыракатварая жанчына і прыжмурыла блізарукія вадзяністыя вочы пад таўсценнымі лінзамі перамотаных матузкамі акуляраў.

— Люба Самойлава. Я да Зосі.

— Няма яе, — хрыпла буркнула Данута. Патушыла керагаз, накрыла патэльню крышкай і падалася насустрач, нібы намагаючыся поўнымі грудзьмі выпхнуць няпрошаную госцю са сваіх уладанняў.

— А калі будзе? — крок за крокам Люба адступала на надворак. Тым больш, што ад гаспадыні пахла алкаголем.

— Не ведаю. Купацца пабегла.

— На раку? Вы яе ў лес пускаеце?.. Я тут часопіс добры прынесла. Пра дзяцей да года пішуць: чым і калі прыкормліваць, як купаць, масаж там, траўкі ад жывоціка...

— І хто ж тваю газету чытаць будзе? — насмешліва ўзняла жанчына рэдкія бровы.

— Часопіс...

— Ну часопіс. Я, як крот, сляпая. А ў Зоські два класы адукацыі, ды і то... — яна ўткнула ў поўныя бакі рукі і чакала, пакуль Люба пакіне двор.

Але ў хаце патрабавальна загаласіла дзіця. Данута ўздыхнула, пасунула Любу ў бок, скінула на ганку растаптаныя чувякі і, трымаючыся адной рукой за сцяну, нехаця пакрочыла ў хату.

За ёй увайшла і цікаўная Люба, ледзь не спатыкнуўшыся аб запоўненую скруткамі і бутэлькамі берасцяную кашолку, што стаяла ў праходзе. На яе здзіўленне, у хаце было прыбрана. На драўлянай падлозе ляжалі старыя, але чыстыя палавікі, у кутку каля акна стаяў столік, пакрыты плюшавым абрусам. Над столікам — абразы, ля сцяны вузкая ляжанка і крэсла, на якім грувасцілася адзенне. Насупраць, паміж вялікай шафай і печчу, была нацягнута светлая фіранка, якая закрывала ўваход у іншы пакой, дзе не сціхала дзіця. Люба адсунула фіранку і нырнула ўслед за Данутай. Тут было яшчэ адно акно, куфар і ложак, на якім на горцы падушак выгіналася туга закручанае ў пялюшкі немаўля.

— Ды сціхні ўжо, — нязлосна буркнула Данута і цяжка апусцілася побач. — Ізноў лужыну надзьмула… — яна пачала раскручваць унучку. — Бутэльку са стала прынясі!

— Гэта вы мне?

— Табе, каму ж яшчэ…

Люба падбегла да століка ля акна, на якім стаяла бутэлечка з малаком і на якую была нацягнута соска. Немагчыма было не заўважыць і адкаркаваную бутэльку таннага мацаванага віна, і пустую шклянку побач з ёй. Люба кінула на стол часопіс і схапіла дзіцячую бутэлечку. Потым капнула малаком на згіб рукі — ці не халоднае — і заспяшалася ў спальню. Прысела каля дзіцяці, пачакала, пакуль Данута скончыць спавіваць, і паднесла соску да маленькага роціка. Немаўля абхапіла соску вуснамі і прагна засмактала.

— А хіба Зося ўжо не корміць? — Люба зачаравана назірала за дзіцём, якое смактала з задавальненнем, прыдыхаючы, і бліскучымі шэрымі вочкамі сачыла за яе, Любіным, тварам..

— Кажу ж, купацца пабегла…

— Ведаеце, цётка Данута, малако немаўляці падаграваць трэба. І соску мыць трэба. Так пішуць.

— Дык ты, значыцца, шафёра Самойлава жонка? — хітра агледзела яе жанчына. — І дзяцей у вас няма?

— Адкуль такія весткі? — насцярожылася Люба.

— А чуткі заўсёды наперад чалавека ляцяць… Люб, ну не гожа сям’і без дзяцей жыць. Няправільна, — памаўчала і дадала: — хаця нам з Зоськай з дзіцём цяжка. Ну, дзякуй богу, сваякі з горада дапамагаюць — ежа, адзенне, грошы…

Люба падціснула тонкія вусны і маўчала. Данута дапытліва зазірнула ў яе вочы:

— Ты людзей не бойся, не скажуць нічога, не асудзяць. А што? Ты нам дапамагла, мы — табе.

— Гэта як? Чым я дапамагу?

— Ты паглядзі, прыгажунька якая! Анюткай назавеш, коскі будзеш заплятаць, у школу вадзіць…

— Авяльгу забраць?! Не, вы што! — ажно падскочыла на ложку Люба. — Жартуеце! Я так не магу! Гэта не кацяня і не сабачка!

— Гэта лепш. Ты ж ведаеш, Зоська мая — бесталковая. А я старая. Туды-сюды, ды на той свет збірацца. А хто ж дзяўчынку выгадуе?

— Не, паслухайце, гэта глупства, — Люба ўзнялася, падаткнула бутэлечку падушкай і накіравалася да дзвярэй.

— Ты падумай! — кінула ёй услед Данута.

* * *

Выходзячы з хаты, Люба амаль сутыкнулася з Зоськай. Тая з мокрай галавой і басанож вярталася гародамі і ўжо зачыняла брамку, а пабачыўшы чужынку, стралой кінулася да яе:

— Ты — Лойма? Авяльга! Мая! Дзе?!

Люба ўздыхнула і моўчкі выйшла з двара.

Зоська забегла ў хату, але ж праз некаторы час выскачыла за вароты, нагнала Любу і ўчапілася ў яе плячо:

— Не забірай, цётачка, не трэба, не аддам! — з мальбой у вялікіх блакітных вачах зашаптала яна.

— Я не буду, — Люба скінула яе руку. — Твая дачушка.

— Мая, — згадзілася Зоська. — Матка кажа, не мая, чужая, бусел далёка нёс, а ў нашым двары згубіў. Аддай, а то Лойма забярэ. І цар рачны кажа, чужая, аддай. У лесе чакае, як авяльга спявае. А мая. Мая. Ведаю. Вось тут жыла, варушылася, — Зоська паляпала рукой па стройным жываце, схаваным пад кароткай паркалёвай сукенкай з яркімі птушкамі. — Не забірай.

— Не буду. Ідзі. Прастынеш…

Ужо ў прыцемках падыходзячы да свайго двара, Люба пачула вясёлы голас цёткі Улляны і не памылілася: на лаўцы пад старой яблыняй муж даядаў астыўшую бульбу, грукаючы па талерцы алюмініевай лыжкай, а побач, адганяючы галінкай дакучлівых камароў, не сціхала суседка. І як у яе язык не балеў, дзясяты раз распавядаць пра сваю маладосць ды раскулачванне заможнага бацькі:

— А хіба ж то багатыя? Каня забралі, кароўку забралі, усё выскраблі! Пуню і тую па бервяне разабралі! А нас, дзетак сямёра… Люба, здароў! — махнула галінай цётка Улляна, убачыўшы гаспадыню.

— І дабранач, — стомлена адказала Люба, зачыніла брамку і накіравалася да хаты.

— Любаш, а ты дзе боўталася? — спыніў яе Ляксей. — Гуляла? Ці бібліятэкай займалася? Люб, я посуд мыць не буду, добра? Тут пакіну. Стаміўся сёння…

— На тое і жонка, — адказала замест яе Улляна. — Мужык, во, у калгасе напрацаваўся, што будзь здароў!

Люба схавалася ў хаце і незадаволена бразнула дзвярыма.

* * *

Прачнулася яна на золку, калі ва ўсё горла крычаў суседскі певень, а Ляксей тупаў па кухні ў пыльных ботах, збіраў ссабойку, закручваў у газету хлеб і вараныя яйкі.

Перш за ўсё Люба выглянула ў акно. Скрозь нізкія рваныя хмары нехаця праглядвала пунсовае сонца. Ні адзін ліст не калыхаўся на старой яблыні. Нават паветра здавалася дымным і змярцвелым.

— Лёш, як думаеш, гарод сёння паліваць ці нарэшце дождж пойдзе?

— Кінь дурное. Паехалі лепш са мной, раз не спіцца. Камбайн новы пакажу. І камбайнёра канапольскага — спрытны хлопец.

— Не, пыльна там. І шумна. Лепш бібліятэкай займуся.

— Паехалі, ну! Куды табе спяшацца? Пакуль такі прыпар, ніхто ў тваю бібліятэку ні нагой.

— Не, Лёшка. Едзь сам. Я абяцала.

— Ну, як хочаш… — Ляксей заправіў кашулю ў штаны і пацягнуўся па картуз. — Вой, я і забыў! Глядзі, што табе прывёз! — ён выхвернуў з картуза гронкі налітых пажаўцелых арэхаў. — У ляску нарваў, пакуль перакур, — радасна заззялі яго вочы. — А за гэта буську!

— Дурны ты, Лёшка, — рассмяялася Люба, але паслухмяна падставіла шчаку.

— Але ж слухай! Ведаеш, каго на рэчцы бачыў?

— Ну?

— Гэтую, бялявую, як яе, што з дзіцем ходзіць…

— Зоську?

— Ага! І растрапаная такая, ведзьма сапраўдная!

— Назіраў, як дзяўчына купаецца, не сорамна табе?

— Ой, Люб, якая ж ты… Уяві, яна не адна была!

— А з кім?

— З кім… З мужыком!

— З якім яшчэ мужыком? З нашага сяла?

— А чорт іх ведае. Далёка было. Ды і схаваўся ён у зарасніку. Я грэшным чынам падумаў, што яна з Вадзяніком ці з Лесуном водзіцца, ці як там Улляна казала?

— Ідзі ўжо, пляткар! — выпхнула яна за дзверы мужа.

— Да вечара, — ён яшчэ раз цмокнуў жонку і пабег да машыны.

Толькі Люба паспела паліць грады, наноў набраць вялікую бочку і сесці на лаўку, намазваючы скібку хлеба варэннем, як да яе завітала жонка Мікалая Трафімавіча — у галёшах, простай фланелевай сукенцы і фартуху, але без хусткі, з падколатымі па абодва бакі галавы каштанавымі валасамі, якія пачыналі ўжо сівець на скронях. У руках яна трымала вядро з газетамі, анучамі і пэндзлямі.

— Любачка, я вам сёння ў дапамогу, — ветліва ўсміхнуліся яе глыбокія вочы.

— Ой, — Люба адклала ў бок сняданак і падхапілася з лаўкі, — заходзьце, Галіна…

— Галіна Адамаўна. Можна проста Галіна.

— Я там вымыла ўсё, учора яшчэ. Сёння бяліць збіралася.

— Ну вось і цудоўна. Значыць, пабелім.

Навіна была добрая. Бо раней Любе не даводзілася разводзіць вапну і бяліць столь. Адно бачыла, як рабіў гэта бацька.

Галіна Адамаўна распланавала справы хутка і спрытна: як і куды лепш вынесці наяўную мэблю і непатрэбную тут пасцель, паскладаць дровы, каб вымыць і асвяжыць печку, выскрабці заскарузлую ў кутках падлогу, развесці вапну, прыматаць да тронкаў квачы, да бляску вычысціць аскепкамі шкла старую падлогу.

Працавала Галіна Адамаўна спраўна, дарма што ў мінулым гарадская. Але ж колькі гадоў у Барку правяла. За справамі паспявала выведваць пра Любіна з Ляксеем жыццё і распавядаць пра сваю былую працу стэнаграфісткай, пра сённяшнюю адказную пасаду сакратарам сельсавета, і пра дзяцей, Ларысу і Толіка, якія навучаліся ў Мінску. Сын у фінансавым тэхнікуме, а на год старэйшая дачка, выдатніца Бароўскай школы, у педагагічным інстытуце. «Сапраўднымі людзьмі растуць», — сцвярджала Галіна Адамаўна. — «Перад Радзімай не сорамна. Во і зараз на вакацыях лынды ў горадзе не б’юць, — на аб’ектах народнай гаспадаркі працуюць, будучыню будуюць. Камсамольцы!»

Неўзабаве Галіна Адамаўна абвясціла перапынак і абед на свежым паветры. За гэты час, пакуль Люба перш чым фарбаваць хату вымыла сталы і табурэткі, жанчына вярнулася з дому з кошыкам правізіі на багажніку і прывязанымі да рамы веласіпеда карцінамі.

— Во, Любачка, глядзі, — паклала яна рэпрадукцыі Васняцова на бліжэйшы стол, — «Алёнка», «Гамаюн, птушка вешчая». А гэта Пукіраў — «Няроўны шлюб». Я і малаток узяла, упрыгожым сцены. А то паразвешваў Мікалай… Не хата, а музей.

— Ой, дзякуй вам, Галіна Адамаўна! Прыгажосць якая! — яна ўзяла ў рукі выяву цудоўнай птушкі. — А Мікалай Трафімавіч сварыцца не будзе?

— Не будзе. Абрыдлі яны мне… Вой, вецер падымаецца, — глянула яна на цяжкія галіны яблынь, што трывожна калыхаліся ветрам. Мабыць, дождж будзе. Бач, як над лесам пацямнела?

— Галіна Адамаўна, а ў нашым лесе авяльга спявае?

— Так толькі неадукаваныя людзі кажуць. Правільна казаць івалга, — жанчына на свабодным стале разаслала ручнік, дастала з кошыка памідоры і пачала нарэзваць хлеб і каўбасу. — Сядай. І цукеркамі цябе пачастую, — адклаўшы ў бок бутэрброды, яна разгарнула кулёчак з цукеркамі. — Мае любімыя, шакаладныя. Мікалай Трафімавіч заўсёды мне з раёна прывозіць, з райкамаўскага буфета, больш ні ў адной лаўцы не знойдзеш. Ленінградскія, — і пасунула бліжэй да Любы кулёчак з цукеркамі ў ярка-блакітных абгортках з белым мядзведзікам. — А заўтра мэблю ўнясём, шафу ў канторы канфіскуем — нам яна больш патрэбна.

— Дзякуй, Галіна Адамаўна. Вы так дапамаглі.

— На тое мы і людзі. Паасобку мы ніхто.

— Ага, — згадзілася Люба і пакруціла ў руках цукерку. — Галіна Адамаўна, а хто такая Лойма?

— Хто?

— Лойма. Каго так клічуць у сяле?

— А-а, то ты казак бабскіх наслухалася. Так дзяцей у Барку пужаюць. Маўляў, прыйдзе з лазняку Лойма, ведзьма — страшная, раскудлачаная, выкрадзе дзіцёначка прыгожага, а на яго месца сваё брыдкае чарцяня падкіне. А мужчынам кажуць, нібыта, можа яна з’яўляцца ў вобразе лясной прыгажуні, на русалку падобнай.

— І цар рачны — таксама выдумка? А я думала, мянушка нечая.

— З таго ж фальклору. Рачны цар, ці князь рыб — напалавіну мужчына, падобны на русалку, абараняе свае ўладанні ад рыбакоў, на сушу выходзіць, каб з дзяўчатамі павесяліцца. Таксама казка мясцовая, перажытак даўніны. Дарослая жанчына, Люба, а пра такую лухту пытаешся. Гэта ж бабскія забабоны.

— Зоська распавядала. Ведаеце ж, пэўна.

— Канешне, хто ж не ведае.

— Цяжка ім, мабыць, дзіця гадаваць…

— Вырашым і гэтае пытанне. І хутка. Дзяўчынку ў дзіцячы дом уладкуем, на Магілёўшчыне. Палегчым будні працоўнага народа.

— Кепска гэта — дзіцё ў роднай маці адбіраць. Што не кажыце, а даглядае, і сваякі з раёна дапамагаюць

— Ды кінь ты! Якія сваякі? Вядома, што ў іх ні родных, ні сваякоў — няма нікога.

— Але ж я бачыла! І пялюшкі, і адзенне добрае. Кашолку з прадуктамі…

— Дурніцу гэтую таксама ў які інтэрнат змесцім, — працягвала жанчына, не звяртаючы ўвагі на яе довады. — Навядзём у сяле парадак. Усе пры справах — усе шчаслівыя.

— Навошта? Яны ж нікому не замінаюць, шкоды не чыняць.

— А карысць? Вось скажы, ёсць ад іх дзяржаве карысць? Адно паветра пераводзяць. Паразіты на целе грамадства! — расчырванелая Галіна Адамаўна гаварыла, нібы з трыбуны, але раптам сціхла: — Ну вось. Успомні промень — тут і сонца, — яна дэманстратыўна адвярнулася і пачала абурана складаць рэшткі абеду ў кошык.

Люба ўзняла галаву і ўбачыла на дарозе Зоську, якая хутка набліжалася да бібліятэкі. На гэты раз яна была апранута ў кароткую чырвоную сукенку з белым каўнерчыкам і рукавамі-ліхтарыкамі, на плячах ляжалі светлыя тугія косы, што яшчэ больш рабіла яе падобнай на школьніцу. Адной рукой Зоська прыціскала да сябе дачушку, у другой несла часопіс.

Люба ўзнялася з табурэткі і падалася насустрач.

— Цётачка, ты кніжку забыла, — дзяўчына ўсміхнулася і працягнула часопіс. Туга спавітае дзіцё з накрытай краем пялюшкі галоўкай ляжала ціха, засяроджана разглядаючы цёмныя галіны, што неўтаймавана калыхаліся тугім ветрам. — Ой, добра тут, — Зоська на момант прыжмурыла вочы. — А ў зімку лепш. Снег, снег, і печка гарачая.

— Ты ўзімку тут была?

— Была. Сто разоў. Сто — гэта шмат, — патлумачыла Зоська. — Бо зімой рэчка замярзае, а цар сюды пераходзіць. Матка казала, авяльга тут спявае. А куды авяльга — туды і цар.

— Зось, — падступіла Галіна Адамаўна, упіраючы ў бакі рукі. — Па-першае, івалгі ўзімку на поўдзень адлятаюць, а па-другое, няма ўжо цароў, даўным-даўно!

— А ў мяне ёсць! — Зоська абурылася і нават падціснула вусны, гатовая заплакаць. — І ён добры!

— Ідзіт-ка ты, Зося, дадому, лепш маці дапамажы — грады палі ці двор падмяці, — не адставала Галіна Адамаўна.

— Двор чысты, а грады дождж палье! — злосна адказала Зоська, дастала з кішэні шакаладную цукерку, разгарнула і засунула ў рот. Зручней узяла дачку і бадзёра пакрочыла прэч, пакідаючы на зямлі ярка-блакітную абгортку.

Люба прысела, падняла з зямлі абгортку з белым мядзведзікам і разгублена павярнулася да Галіны Адамаўны. Але пытацца не стала: усё было зразумела па гнеўным твары жанчыны, якая была гатова заплакаць. У яе вачах былі нянавісць і адчай, якія з жалудовых раптам ператварыліся ў мутна-дзягцярныя. Галіна Адамаўна схапіла свой кош і накіравалася да веласіпеда. Люба моўчкі скамячыла абгортку і шпурнула прэч.

* * *

Усю ноч Люба круцілася, заснула толькі пад раніцу. Таму нядзіўна, што не чула ні галасістага пеўня, ні тупату Ляксеевых ботаў, ні гулу машыны. Жанчына расплюшчыла вочы, села на ложку. Балела галава. За акном шамацеў дробны густы дождджык.

«А мэбля так і засталася на вуліцы каля бібліятэкі стаяць!» — спахапілася Люба. — «Яшчэ да працы не прыступіла, а ўжо калгасную маёмасць псую!» Яна саскочыла з пасцелі і накінула паверх камбінацыі доўгі квяцісты халат,

схапіла з палічкі некалькі шпілек, каб на хаду падкалоць валасы, прабегла праз кухню, у сенцах ускочыла ў галёшы і штурхнула дзверы.

Не паспела дабегчы пад непрыемным калючым дожджыкам да брамкі, як на вуліцы загула машына, і хутка ля плота спыніўся Ляксееў газік.

— Лёшка! Як добра, што ты дома! — яна выйшла з двара і пачакала, пакуль муж адкрые дзверы кабіны. — Лезь назад, да бібліятэкі пракоцімся! Я ж мэблю пакінула, уяві! І не замкнула, здаецца. Вось уляціць мне! Лёш? Лёш, ты чаго? — запытальна зазірнула яна ў твар Ляксея. Той быў бледна-васковы і адсутны. — Збожжа не паспелі сабраць? Нічога, прасохне. Ты куды? — здзівілася яна, калі муж ляпнуў дзверцамі і моўчкі накіраваўся ў двор.

Прайшоў пад дажджом да калодзежа, дастаў вады і пачаў прагна піць з вядра, потым спаласнуў твар і прысеў на мокрую лаўку.

— Лёш, баліць што? — устрывожана спытала Люба.

— Ой, Любачка, што ў свеце робіцца! — выдыхнуў ён і ўрэшце ашаломлена глянуў на жонку. — Раніцай... Сёння... Пакуль тое-сёе, пакуль чакалі…

— Ды што здарылася?

— Я за ляшчынай табе. У лес. Ну, рэчка дзе…

— І?

— А там Зоська. Мёртвая… — апошняе слова прагучала так глуха, быццам засела ў горле.

Спалохаўшыся, Люба спярша прыкрыла далонямі рот, а пасля ціха запыталася:

— Ты ўпэўнены?

— Перакана{}ны. Утапілася. Ляжала ў вадзе, во, тварам уніз і рукі крыжам, — ён нахіліўся і паказаў позу.

— Вой, мамачкі, — Любіны рукі ізноў пацягнуліся да рота.

— Ну, я там гукнуў… Набеглі… Бабы галосяць, маўляў, Вадзянік зацягнуў. Жах… — дрыготкімі рукамі Ляксей стараўся запаліць цыгарку.

— Дарэмна яе Данута купацца пускала, я казала, — Люба апусцілася на лаўку побач. — І што цяпер?

— Што… Не ведаю. Участковы ледзь разагнаў цікаўных. Аператыўнікаў з раёна чакае. Сінякі, кажа, кровападцёкі там… Во жудасць, — ён усё спрабаваў запаліць мокрую цыгарэту, але запалкі гаслі. — Слухай, Люб, а што, калі Вадзянік той на самай справе існуе? Што ж, хіба людзі з галавы прыдумалі? І казкі, і паданні? Га, Люб?

Жонка маўчала і слухала, як шамаціць у кроне старой яблыні непрыкметны дожджык.

У журботнай сырой цішыні рыпнулі веснічкі, і Люба ўздрыгнула.

На парозе, бледная як палатно, стаяла Данута з берасцяной кашолкай у руках.

— А Любачка, а галубка мая!.. А людцы добрыя... А я ж не вінаватая... Далібог, не вінаватая! — цяжка дыхала яна, вырачыўшы на Любу мутныя вочы.

— Што вам?.. — узнялася на ногі Люба.

— Любачка, Ляксейка… Родненькія… Забяруць у мяне дзіця, забяруць... Нямоглая я... Больш няма каму, паклапаціцеся… — дрыжачымі рукамі яна працягнула Любе кашолку, у якой мірна спала і бесклапотна ўсміхалася дзіця. Мабыць, бачыла ў сне яркіх чароўных птушак.

Ляксей і Люба недаўменна пазіралі адно на аднаго...



Марыя КОБЕЦ

# СЦІСКАЕ ПРЫГАЖОСЦЮ ГРУДЗІ...

* * *

Імклівы дзень скаціўся пад страху,
Хавае футра белае на ўзлессі,
Кладзецца спаць
Туманнае Палессе —
Краіна лоз, балот і трыснягу.

Шамочуць штосьці грыўкі-быльнягі
Працяжна-даўкай калыханкай-песняй.
Кігіча зрэдчас кнігаўка…
Палессе!
Тvае шчымяць без вільгаці лугі.

Твае маркоцяць шэрыя снягі
І высмаглыя рэдкія міжлессі.
Тваіх шкада мне журавін, Палессе,
Твае баляць мне рэкі-берагі.

Крынічка… Ледзь цуркоча…
Ад тугі

---

*__Кобец Марыя Уладзіміраўна__ нарадзілася 19 кастрычніка 1974 года ў вёсцы Валішча Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Пінскае медыцынскае вучылішча (1994). Працавала загадчыкам Валішчанскага фельчарска-акушэрскага пункта (1998—2010), дырэктарам Валішчанскага сельскага Дома культуры (2010—2013). З 2013-га — рэдактар карэспандэнцкага пункта г. Пінска РУП РТЦ «Тэлерадыёкампанія «Брэст». Студэнтка VI курса Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Кроплі» (2011), «Палыновая квецень» (2016), суаўтар шэрагу калектыўных зборнікаў. Вершы перакладаліся на рускую, польскую, сербскую, туркменскую мовы.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка (2012).*

Сціскае грудзі прыгажосцю весняй.
Цнатліва-архаічнае Палессе!
Ледзь б’ецца пульс твой між вякоў смугі.

* * *

Чаго не вымавіць праз гук —
Аб тым мае ўзгадаюць зрэнкі —
Смарагд вясны,
Квяцісты луг —
У сціплым позірку маленькім.

Чаго не вымавіць праз гук —
Аб тым раскажуць дрэвы-здані.
Пяшчота ветру,
Зорак рух
Нашэпчуць споведзі-прызнанні.

Чаго не вымавіць праз гук —
Аб тым распавяду вачыма.
Хай цьмянасць будняў,
Палкасць рук
Адхланнем кіне ў далячыні.

Хай спапяліць!
Каб сэрцаў стук
Біў ва ўнісон,
Трымцеў з пачынам!
Не варта слоў, бракуе гук —
Там, дзе стасуюцца вачыма.

## ДА ПАЭЗІІ...

Пагібель?..
Надзея?..
Збавенне?..
Нязграбная ноша,
Ці крыж?..
Ратуеш, ці дорыш сцаленне?
Знішчаеш, узняўшы увысь?

Вясны гаманкой захапленне!
Бурлівы, няўрымслівы плёс!
Любоў…
                да шаленства-ўтрапення!
Нянавісць… да ўедлівых слёз!

Самоты, журбы паланенне!
Усмешка… з ударам пад дых!
І Веры Святой наталенне!
І споведзь,
І каянне ўслых!

Трохперсце…
Пацір…
Ачышчэнне…
Пачатак... і ўрэшце... канец.
Пагібель... і дзеля збавення
цаглянага жвіру свінец!..

## ПРАБАЧ МЯНЕ, НЕБА, ПРАБАЧ…

Я чую — Ты плачаш, не плач,
Далёкае блізкае Неба…
Спадаюць слязінкі…
Крумкач
Ірве набрынялую глебу.

Я чую Твой стогн
І ў журбе
Выпростваю стомлена рукі.
Ты плачаш, ці чуеш —
к Табе
Вандроўнік ідзе блізарукі.

Выслізгвае крыж з далані,
Халоднай, амаль акалелай.
Сцяжына — наўсцяж аканіт[1],
І цела — ледзь-ледзь ацалела.

І сэрца ледзь б’ецца, ды плач,
Твой плач ушчувае дакорна.
І шляхам грымотных няўдач
Іду нетаропка, пакорна.

У тварах счарнелых кабет
Шукаю зноў існасць і веру,
Нязнана шапчу свой абет —
Выдыхваю думкі даверу.

[1] **Akoniton** (*з грэч.*) — назва расліны, якая ўжываецца для атручвання ваўкоў і іншых драпежнікаў.

Прытрызніцца ветразь…
                                        і плач,
Твой плач, Найвысокае Неба…
Прабач мяне, Неба, прабач,
За слабасць адсутнасці хлеба.

* * *

Аддам свавольную душу
Без роздуму на літасць Бога.
Без дапамогі не рашу,
Куды ісці, якой дарогай.

Яму, напэўна, шлях відзён,
Ён бачыць ўсе грахі-пакуты.
Упэўніць — ці хапае дзён
На споведзі ў гадзіны смуты.
На катаванне, на журбу,
На весялосць і асалоду,
На апантаную мальбу,
Рахункі і з сумленнем згоды.

Наросхрыст, кволую…
Грашу —
Свавольную…
Цераз знямогу
Аддам збалелую душу,
Аддам на літасць волі Бога.





Юльян ТУВІМ

# ХАДЗІЦЬ ПА ЗЯМЛІ, ПРАГНУЦЬ НЕБА

## ВЕРШ

Натхненне, як смерць, надыходзіць і сон адлятае,
Шкляное прыходзіць змярцвенне і страх павароту!
Будзённасць знікае і вечная прыйдзе самота,
І светласць адвечная з рэчаў ізноў наплывае.

Вось час разарваны, як прорвай глыбокай… Нас двое,
Вось гэта прастора — у ёй прарастае чаканне.
Гасподзь, што замкнёны ў душы! Асалода канання!
Ужо мы раздзельныя! Вольны абое!

## ЛЕПШ СКАЛЫ СЯЧЫ...

Лепш скалы сячы за скарынку счарсцвелага хлеба
І есці яго, каб ізноў аднаўляліся сілы,
Чым так вось хадзіць па зямлі і прагнуць так неба,
Ад шчасця цярпець, так як я тут цярплю, Божа мілы!

Глядзі, як з мяне нараджаецца слова ў пакутах,
Бо слова — то кроў маіх ранаў, мой боль і трывога.
Я косназыкі, бяздарны, душа мая ў путах,
Не маю свайго я Арона, каб гутарыў з Богам.

І шчасце жыцця майго сэрца ніяк не сагрэла,
Прышлі мне Апостала мудрага! Хай мне тлумачыць!
І слова хай стане тут целам і попелам — цела,
Я ў праху малюся адчайна і ў роспачы плачу.

## АЛЕНЬ

Гудзе стук па пушчы — не дзяцел на клёне
І то не сякера дзесь стукае,

То ходзіць алень і ў маўклівым паклоне
Рагамі аб дрэвы ён грукае.

Ёсць рогі, як арфа да пекнага грання,
Ёсць моцныя, быццам да бітвы,
Ідзіце пушчанскія парафіяне
За стройным аленем усе да малітвы.

Ад стуку абудзіцца ў золкае ранне
Усё пагалоўе лясное.
І рогі, як голле ў халодным тумане.
Плывуць, быццам здань, праз кустоўе.

Вялікі алтар за вадою засвеціцца,
Прыйшлі і пасталі ў імжу на калені.
І ў ранку птушыны гармідар успеніцца
На звонкай расквечанай арфе аленевай.

## ТРАВА

Трава, па калені трава!
Накрый ты мяне з галавою,
Каб розніцы больш не было
Між полем і мною.

Каб я, утравелы на полі,
Расквеціўся кветкай вясновай
І не аддзяляўся ніколі
Ад росаў тваіх сваёй мовай.

Каб толькі цябе і сябе
Я іменем зваў тут адным:
Альбо мы абое — трава,
Альбо мы абое — тувім.

## КРЫНІЦА

Зачэрпнеш з крыніцы халоднай вадзіцы
Зялёным збаночкам гліняным.
У ёй адлюструюцца хмаркі ў блакіце,
Як быццам на небе сатканы.

І жар б’е ад сонечных промняў у скроні,
Рукам жа сцюдзёна на мокрай эмалі.
А мройная спёка спадае на гоні,
Над лубінам коціцца хваляй.

З збаночка глінянага смачна так п’ецца —
Вадзіцай сцюдзёнай натоліцца смага,
А з поля гарачы пах лубіну л’ецца,
Заплюшчыш ты вочы і дыхаеш прагна.

## СІНТАКСІС

***In nova fert animus mutates***
***diecere formas corpora…***[1]
АВІДЗІЙ

А мова — маёва, а слова — вяснова,
І коціцца сінтаксіс радасна новы.
Венера — вясна, распранута багіня,
Хай дождджык на цела ёй плашч свой накіне.
Імчыцца гарэза з усмешкаю мілай,
Яшчэ пазмагаецца слова з стыхіяй.

І сказам, што пасмамі сплецен на крыж,
І вокам-відокам узорна глядзіш.
І што гаварылася — тое збылося,
Ланцужным вяночкам у мову ўплялося.

То проста — навука, то не таямніца,
Спявае ад шчасця — змагла нарадзіцца.
Тварыцелька Лада зноў гукі складае,
І ў складзе вясёлкавым радасць пазнае.

Ухопіш пляценне — касу залатую,
Табе той струмень, мой паэце, дарую!
І промнем праз вочы, змяёю праз сэрца
Жывучы твой крык у гісторыю льецца.

## МЕЛОДЫЯ

Зноў ранняя восень — мая то часіна.
Світанак пад колер самотнага зроку.
Сяджу я ў кавярні, бы ў дымным аблоку,
Магу прасядзець тут да шарай гадзіны.

За вокнамі вуліцы ў спешцы і тлуме,
Ды я, як заўсёды, не знаю, не чую.
Задумліва сцішаны ў восеньскім шуме
Далёкім мінулым у мроях жыву я.

---

[1] У новы, зменены вобраз хачу ўвасобіць цела (*лац.*).

Бо так вось найлепей: усесціся ранкам,
Глядзець з-за фіранкі, як вуліца ходзіць.
У ранкі такія я зноў закаханы,
І смутак высокі душу мне малодзіць.

Ці то ад кахання, ці памяць няволіць?
Я дзень пачынаю пусты і нясмелы.
Са слоў, што ты мне не пісала ніколі,
Я складваю верш са шчаслівай усмешкай.

І гэта ўсё разам — мелодыя часу,
І гэтай мелодыі хвілі ўсе рады.
Вунь там іншаземка у куртцы клятчастай
Заказвае спеўна сабе «шоколяду».

Якая жанчына! Скажу па сакрэту,
О як жа нас мала на свеце! Як мала!
Якою парфумай павеяла з залы!
Якому паэту!..

## ЖАНЧЫНЕ

Ты бегла ад рэчкі. З каханкам
Рассталася часам світальным.
І цела тваё пахла ўранку
Мылам міндальным.

Была прахалода для цела
У рэчцы, бы ў вечар вясновы,
А скроням пад спёкаю белай
Быў жар над вадою мядовы.

Вяла зараз стома жанчыну,
Што шчасце кахання спазнала,
І вабнасць жаночую рэчка
У ціхай вадзе люстравала.

Праз вечнасць вядзе тут жанчыну
Лясная сцяжынка з ігліцай.
У зараслях грукала сэрца
Падгледжанаю таямніцай.

Самлелі бярозкамі сцёгны
Пад шоўкам у час развітальны,
Па ім ціха слізгала сэрца
Мылам міндальным.

***Пераклад з польскай Сцяпана СЯРГЕЯ.***

Наталля ЯКАВЕНКА

# ГОД ЗА ПЯЦЬ: ЛІТАРАТУРНЫЯ КАРЦІНЫ СВЕТУ ПАЧАТКУ XXI СТАГОДДЗЯ

Пачатак XXI стагоддзя — час катастроф, разбурэнняў і канфліктаў, што самым непасрэдным чынам адбіваецца ў мастацкай літаратуры ўсіх кірункаў і плыняў, атрымлівае ў ёй свае ацэнкі, абумоўленыя светапоглядам і эстэтычнымі пазіцыямі пісьменнікаў. Пры тым, як адзначае Ірына Шаўлякова, «…пераважная большасць сучасных канцэпцый, мадэлей, стратэгій сацыякультурнага развіцця грунтуецца на своеасаблівым “пафасе заняпаду” — ці звяртаецца да яго як да будаўнічага матэрыялу. Паказальна, што гісторыя найноўшай мастацкай славеснасці, якая ствараецца ў рэжыме он-лайн, не толькі яе спажыўцамі (чытачамі), але і самімі стваральнікамі (пісьменнікамі, крытыкамі), асэнсоўваецца як гісторыя назапашвання стратаў» [17, с. 118].

На пачатку XXI ст. адбываецца закладка і станаўленне новых літаратурных традыцый, «замешаных» на страху і няўпэўненасці ў заўтрашнім дні, на ўсведамленні ўнутранай, духоўнай спустошанасці, вынікам чаго з’яўляецца адно жаданне — схавацца ад свету, закрыцца ад яго. Але гэта немагчыма, таму адна за адной ствараюцца літаратурныя карціны свету. Паводле высноў Яўгена Гарадніцкага, паняццем «карціна свету» абазначаецца «абагульнены тып цэласнага ўспрымання быцця з боку асобнага чалавека або пэўнай нацыянальнай, сацыяльнай, прафесійнай і г. д. супольнасці. Карціна свету асацыіруецца перш за ўсё з характарам светабачання, пэўным пунктам гледжання, яна адносіцца да сферы метафізічнага, духоўна-ментальнага. Навуковая, мастацкая, моўная і іншыя карціны свету выяўляюць розныя аспекты ўспрымання, асэнсавання і інтэрпрэтацыі наяўнага быцця і актуалізацыі ў гэтым працэсе суб’ектыўнага фактару» [5, с. 29].

«Свету, які стаў карцінай, уласціва быць новым» [16, с. 51], — сцвярджаў аўтар філасофскай работы «Час карціны свету» Марцін Хайдэгер. Літаратурныя і грамадскія падзеі ў Беларусі паказваюць на тое, што гэта сапраўды так, прычым для прыкладу дастаткова ўзяць толькі адзін год — 2011.

## I

11 красавіка 2011 г. з выбухам у мінскім метро ў свядомасці беларусаў адбыўся пераварот. *«Што можа быць у нас у метро? Мы ж у Беларусі, у Мінску. Самая спакойная еўрапейская дзяржава, якая нікога не чапае, ды і нас ніхто…»* [11, с. 53], — прыкладна так, як франтавік Хадасевіч, герой апавядання Дзмітрыя Пятровіча «Цана крыві», разважаў, напэўна, кожны, хто ў той вечар пачуў навіну, што ніяк не ўкладвалася ў свядомасці.

*«Чаму столькі крыві? За што пацярпелі гэтыя людзі — мірныя людзі мірнай краіны? Яны ж нікому нічога дрэннага не зрабілі! За што?..»* [11, с. 54], — паступова нарастала роспач, а ўбачаныя па тэлевізары ці на ўласныя вочы страшныя малюнкі, якія ўпарта сцвярджалі, што гэта не сон і не выдумка кінематографа, змушалі да ўсведамлення найвялікшай несправядлівасці: *«І хто адкажа за гэтую нявінную кроў, праліту ў, здавалася б, мірны час? Чым вымераць цану*

*гэтай крыві?»* [11, с. 56] — *«У вайну мы ведалі, за што памiралі... А цяпер за што гэтыя людзі, на “Кастрычніцкай”, загінулі, а? Хто адкажа?»* [11, с. 63]

Пісьменнік умела перадае псіхалагічны стан героя, а працытаваныя радкі, што пунктірам праходзяць праз увесь твор, яркімі, крывавымі мазкамі кладуцца ў аснову новай для Беларусі, але не для свету, карціны жаху і катастрофы: *«“Як 11 верасня для амерыканцаў, так для нас — 11 красавіка... Таксама 11-га. I ў 2011 годзе...” — пажылы чалавек адчуваў, што справа не ў даце — загінулі людзі, простыя, ні ў чым не вінаватыя людзі... Ветэран зноў глядзеў туды, дзе ляжалі тыя, што былі таксама, як і ён, заўсёды ўпэўнены, што ніякіх актаў тэрарызму ў Беларусі ніколі не будзе»* [11, с. 56]. Але ж няма нічога выпадковага і немагчымага, бо, паводле сцверджання Стывена Кінга, «мелодыя жаху простая і паўтараецца часта, гэта мелодыя раз’яднання і распаду» [8].

Перафразуючы М. Хайдэгера, можна сказаць, што для нашай літаратуры настаў час менавіта такой, адрознай ад жахаў ваеннага ліхалецця, згубнай карціны свету, звязанай з тэрарызмам і нічым неапраўданымі масавымі ахвярамі, якая да таго ж у якасці адной з асноўных упісваецца ў агульную сусветную «гісторыю назапашвання стратаў» (паводле І. Шауляковай). Разам з тым, згодна з канцэпцыяй філосафа, толькі там, дзе свет становіцца карцінай, паўстае гуманізм [16]. Таму разам з мелодыяй раз’яднання і распаду ў беларускай літаратуры пачатку XXI ст. па-новаму загучала мелодыя гуманізму.

## II

Цяпер не будуюць гатычных храмаў. У былыя часы людзі мелі перакананні, у нас жа ёсць толькі меркаванні, а меркавання мала, каб стварыць гатычны храм — прыкладана так разважаў Генрых Гейнэ ў сучасным яму XIX стагоддзі. У XXI ст. думка наконт адсутнасці перакана违 няў падаецца яшчэ больш актуальнаю. I, думаецца, стаміўшыся ад мітусні і бязвер’я сучаснасці, пісьменнікі сталі ўсё часцей звяртацца да тэмы супрацьстаяння дабра і зла, святла і цемры, Бога і д’ябла, што, у сваю чаргу, прывяло да папулярнасці жанру гатычнага рамана, пра які рэдактар часопіса «Литературный досуг» Натан Дрэйк некалі пісаў: «Нішто не ўздзейнічае так моцна на чалавека, як готыка... нават самы неўспрымальны мозг, свядомасць, вольная ад якіх бы ні было слядоў прымхаў, міжволі прызнае яе ўладу і сілу» [6].

Карані гатычнай эстэтыкі — у сярэднявеччы, у змрочных часах інквізіцыі і эпідэміі чумы. Тады ў Еўропе будаваліся прыгожыя і адначасова жудасныя сваёй веліччу саборы, ствараліся непаўторныя вітражы і фрэскі паводле біблейскай тэматыкі, Суднага Дня, апраметнай, карціны і гравюры з вобразамі смерці, нябожчыкаў, якія скачуць у шалёным танцы і г. д.

Гатычны раман («варварскі» раман таямніц і жахаў, сюжэтныя калізіі якога разгортваюцца, як правіла, у замках, манастырах, на закінутых могілках і г. д.) упершыню з’явіўся ў англійскай літаратуры на мяжы XVIII—XIX стагоддзяў. Яго пачынальнік — Гарацый Уолпал, аўтар знакамітага «Замка Атранта», сын англійскага прэм’ер-міністра Роберта Уолпала, графа Оксфардскага, прафесар Кембрыджскага ўніверсітэта і вялікі знаўца сярэднявечча, нават свой дом перабудаваў у гатычным стылі. «У “Замку Атранта” ён імкнуўся спалучыць расповед аб неверагодных падзеях і велічную манеру аповеду, уласцівую старажытным рыцарскім раманам, з той дэталёвай абмалёўкай перасанажаў і барацьбы пачуццяў і жарсцяў, якая адрознівае або павінна адрозніваць раман новага часу... Гэтая фантастычная аповесць справядліва была ацэненая не толькі як першая і ўдалая спроба стварыць нейкі новы літаратурны жанр, але і як адзін з узораў нашай забаўляльнай прозы» [6], — пісаў у рэцэнзіі Вальтэр Скот, які сам паспяхова развіў жанр гатычнага рамана ў рамках гістарычнай прозы.

Акрамя таго, паслядоўнікі Уолпала — Клара Рыў («Абаронца цноты»), Ганна Радкліф («Італьянец», «Раман у лесе», «Удольфскія таямніцы»), Уільям Бэкфард («Ватэк»), Мэцью Грэгары Льюіс («Манах»), Жак Казот («Закаханы Д'ябал»), Джордж Байран («Чайльд-Гаральд», «Гяур»), Густаў Майрынк («Галем», «Вальпургіева ноч»), а таксама Гофман, Эдгар По, Ш. Бадлер, О. Уайльд, А. Картэр, У. Салагуб і многія іншыя пісьменнікі ўзбагацілі гатычны раман разнастайнымі і самымі нечаканымі сюжэтамі, прыўнеслі элементы іншых жанраў. Напрыклад, раман «Пякельныя машыны жадання доктара Хофмана» (1972) Анджэлы Картэр, якая называла сваю творчасць «міфалагічным бандытызмам», з'яўляецца складаным сплавам міфалогіі, рыцарскага, псіхалагічнага і эратычнага рамана, насычаным пры гэтым постмадэрнісцкімі правакацыямі.

У беларускай літаратуры «класікай готыкі» можна назваць некаторыя творы Уладзіміра Караткевіча — аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» (першая публікацыя ў часопісе «Маладосць» у 1964 г.) і раман «Чорны замак Альшанскі» (упершыню апублікаваны ў «Маладосці» ў 1979—1980 гг.). «Безумоўна, вызначальная роля ў развіцці "масавай" беларускай літаратуры належыць менавіта гэтаму пісьменніку, — адзначае Лада Алейнік у артыкуле «Масавая літаратура: сябар ці вораг?». — Але яго геній якраз у тым, што майстар здолеў надзяліць "захапляльнасцю" глыбокую і сацыяльна важную ідэю, пры дапамозе дэтэктыўнай інтрыгі не толькі ўзнавіць малюнак мінуўшыны, але і зацікавіць, прыцягнуць да гісторыі ўвагу сучаснікаў, актуалізаваць падзеі "сівой даўніны", а меладраматычную калізію ўзвесці ў ранг сапраўды *высокага і высакароднага* пачуцця. Апроч таго, мова твораў, фактура, стыль не даюць ніякіх падстаў ні для гаворкі пра "хуткаспеласць", уласцівую большасці маскультавых узораў, ні пра арыентацыю на шараговы чытацкі густ… Толькі вось ці выпала камусьці дараўняцца да майстра?

У мяне асабіста ўражанні і эмоцыі, блізкія да тых, што выклікалі адпаведныя творы У. Караткевіча, пакінула адно проза Людмілы Рублеўскай» [1, с. 188].

Людміла Рублеўская, апрабаваўшы раней жанр дэтэктыва, таксама вырашыла звярнуцца да гатычных раманаў. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў 2011 г. яе кнігу «Пляски смерти» — аўтарскі пераклад з беларускай рамана «Скокі смерці», які публікаваўся раней у перыёдыцы. Між іншым, звяртае на сябе ўвагу менавіта гэты факт выхаду асобным выданнем перакладу, а не беларускамоўнага арыгінала. Напэўна, для таго, каб набыць папулярнасць у масавага чытача, тым больш у такім «масавым» жанры, а значыць правільна «зарыентавацца на шараговы чытацкі густ» (паводле Л. Алейнік).

Тым не менш, Л. Рублеўская прыкметна асучасніла гатычны жанр, надаўшы яму рысы самых розных стылістычных напрамкаў. У асэнсаванні сацыяльна-культурнай сітуацыі Беларусі пачатку XXI ст. прысутнічаюць выразныя рысы рэалізму, а ў шаблонных сюжэтных ходах, у вобразах і стылістычных прыёмах відаць лёгкасць папулярнай сёння «формульнай» жаночай прозы.

«Пад насмешліва-памяркоўным тонам хаваецца шчымлівы аповед пра сапраўднае каханне, якое ўсё даруе і ўсё пакрывае... Галоўныя героі — "аскепкі" мінулага, прыстасоўваюцца да паламанага часу. Калі смерць становіцца часткай жыцця, даводзіцца ўступіць з ёй у страшныя скокі...» [13], — пісала Людміла Рублеўская ў «СБ» пра раман А. Марыенгофа «Цынікі» ў 2010 г. «Безнадзейнасць і гратэск "скокаў смеці" не адмяняюць галоўнай ідэі пражскага містыка — абсалютнай каштоўнасці асабістай свабоды» [12], — гэта пра творчасць майстра гатычнага рамана Г. Майрынка ў 2004-м.

Абедзве цытаты выдатна перадаюць ідэйную аснову рамана самой Л. Рублеўскай — «Пляски смерти», сведчаць пра невыпадковасць і прадуманасць яго вобразнай сістэмы толькі без жахаў а ля Майрынк кшталту вінаграду з крывава-чырвоных вен, што абвіваюць сцяну, з якіх гронкамі звісаюць сотні вытарапленых вачэй. І, дарэчы, без нябожчыкаў, якія выконваюць свой жахлівы танец, як

у адным з апавяданняў нямецкага рамантыка Й. А. Апеля «Скокі смерці» (або «Танец нябожчыкаў»), што прыпісваецца таксама англійскаму класіку жанру Ф. Лэтаму.

У Людмілы Рублеўскай смяротны танец выконвае карагод людзей, ашалелых ад невыноснага звону дванаццаці сярэднявечных гадзіннікаў, які рве душу на кавалкі. Гэты, створаны паводле чужой, дэманічнай волі шалёны карагод, — *«махина, раскрученная миллионами самолюбий, которая перемалывает судьбы людей и государств, любовь и достоинство, разум и веру в одинаковую вязкую массу, пригодную, чтобы лепить послушное, удобное общество»* [14, с. 221]. Так пісьменніца перадае сваё стаўленне да рэальнасці, у якой застаецца ўсё менш месца для ўзвышаных пачуццяў, душэўнай высакароднасці, вялікіх ідэй, скіраваных на карысць, а не на знішчэнне, рэальнасці, у якой нівелюецца індывідуальнасць і губляецца пачуццё справядлівасці. «Мяжа паміж святлом і ценем — ты», — казаў польскі паэт і афарыст С. Е. Лец. У карагодзе смерці скачуць цені.

У рамане, як і ў многіх іншых творах Рублеўскай, выразна гучыць матыў адраджэння Беларусі. Але калі раней яе героі актыўна адстойвалі прынцыпы нацыянальнай незалежнасці, то зараз яны з сумам і тугой успамінаюць аб сваім юнацкім запале вярнуць забыты нацыянальны гонар, як пра пазалоту, што сцерлася з вокладкі забытай пад дажджом кнігі.

«Жах — тое, што Хантэр Томпсан назваў “страхам і агідай”, — часта нараджаецца з адчування нейкіх перамен: нешта разбураецца. Калі гэта адчуванне разбурэння, знішчэння ўзнікае раптоўна і закранае асабіста вас, калі трапляе ў самае сэрца, то ў такім выпадку яно застаецца ў памяці як нешта цэльнае» [8], — тлумачыць Стывен Кінг у кнізе «Танец смерці», даследаванні гісторыі «чорнага жанру» ў кіно і літаратуры.

Вобраз страшнага карагоду ў Людмілы Рублеўскай выкліканы менавіта адчуваннем разбурэння нацыянальнай самасвядомасці сучасных беларусаў, якія губяць свае душы ў пагоні за матэрыяльнымі выгодамі. Але Л. Рублеўская не фаталістка, наадварот, асэнсаваўшы тое, што адбываецца, яна пераканана кажа аб магчымасці выбару, аб вернасці сабе і сваім ідэалам, аб прысутнасці святла нават у царстве цемры: *«Летит безумный хоровод… Держимся мы все за руки, живые и покойники, и управляет нашими плясками кто-то невидимый и беспощадный, жаждущий власти. Но я знаю, что всегда можно удержаться от безумной пляски. И не обязательно для этого прятаться в свою ракушку. В каждой ракушке — звучит море, в каждом камне и каждом васильке — живет Беларусь»* [14, с. 239].

У рамане «Пляски смерти» гэты глыбокі сацыяльна-філасофскі падтэкст ляжыць у аснове «формульнага» — створанага паводле пэўных формул пісьма. Тут ёсць традыцыйныя атрыбуты гатычнай прозы: сярэднявечная ратуша, у якой, паводле легенды, «замуравалі Смерць», гадзіннікі — сымбаль часу, біблейскія матывы і вобразы, рыцары, чароўная дама, «вядзьмак» — лекар і тайны дарадца Вялікага князя Гервасій Бернацоні, эпідэмія чумы ў сярэднявечным горадзе, якая перарастае ў псіхічную эпідэмію.

Акрамя таго, тут ёсць «абавязковыя» элементы сучаснай жаночай прозы: любоўны трохкутнік (галоўная гераіня рамана Ганна Барэцкая — яе былы муж Юрась Дамагурскі — яго цяперашняя жонка, прыгожая, як эльфійская прынцэса і разбэшчаная сучаснасцю мастачка-наркаманка Стэла), алігархі (Аркадзь Баркун, яго жонка — былая фотамадэль Ліля, якая «працуе» за спінай мужа на ўладальніка фінансавай імперыі Калыванава), невыразна пазначаная дэтэктыўная інтрыга (нераскрытае забойства Баркуна, за якім хутчэй за ўсё стаіць Калыванаў), шантаж, грошы, крымінал і, вядома ж, сама галоўная гераіня — маладая жанчына, інтэлектуалка з праблемамі на працы і ў асабістым жыцці, якая развязвае ўсе інтрыгі, ратуе каханага мужчыну і нарэшце знаходзіць згоду з сабой.

Раман Людмілы Рублеўскай цікавы якраз гэтым спалучэннем сур’ёзнасці і лёгкасці, глыбінёй думкі, схаванай у творы масавай літаратуры, якія «ні да чаго не

абавязвае». Гэта не проста даніна модзе, імкненне ісці ў нагу з часам, жаданне дамагчыся большай папулярнасці, але і добры спосаб прыцягнення ўвагі нязвыклага «напружвацца» масавага чытача да нацыянальнай гісторыі і культуры, да сацыяльных праблем сучаснасці, спосаб прымусіць задумацца аб мяжы паміж вернасцю і здрадай, праўдай і хлуснёй, паміж святлом і ценем.

Адзначанае таксама актуальна на сённяшні час таму, што, згодна з канцэпцыяй М. Хайдэгера, пераўтварэнне свету ў карціну з'яўляецца тым самым працэсам, што і пераўтварэнне чалавека ўнутры існага ў суб'екта. Калі чалавек становіцца суб'ектам, перад ім узнікае пытанне, кім ён цяпер з'яўляецца: абмежаваным сваімі жаданнямі і свавольствам «я» ці грамадскім «мы», індывідам ці супольнасцю, прадстаўніком нацыі і народа ці агульначалавечым тыпам [16].

## III

Ідучы далей услед за філосафам, неабходна падкрэсліць, што падчас пераўтварэння свету ў карціну пазіцыя чалавека становіцца светабачаннем. Пазіцыя светабачання — гэта ў першую чаргу жыццёвая пазіцыя [16], а там, дзе жыццёвая, выяўляецца і творчая пазіцыя пісьменніка.

У 2011 г. пабачыла свет кніга Андрэя Федарэнкі «Мяжа», якая складаецца з аднайменнага аўтабіяграфічнага рамана-эсэ і падборкі апавяданняў. Раман, што змяшчае дзённікавыя запісы, урыўкі з ранніх твораў, накіды, філасофскія разважанні, самыя разнастайныя асацыяцыі, напісаны з нагоды 45-гадовага юбілею празаіка — *«Сорак пяць... Сур'ёзная лічба. Крытычная, небяспечная мяжа. З ёю не пажартуеш»* [15, с. 4], з'яўляецца выражэннем яго жыццёвай і творчай пазіцыі.

Раман-эсэ «Мяжа» — твор-пераасэнсаванне, твор-споведзь. Кожны з нас неаднойчы падыходзіць да сваёй пэўнай жыццёвай і ўзроставай мяжы, з якой пачынаецца пераасэнсаванне пражытага і асабліва востра адчуваецца неабходнасць выказацца, раскрыцца, расказаць пра сябе, напрыклад, так: *«Людзі вакол жывуць — ты адлюстроўваеш гэтае жыццё, усё піхаеш, усё ўкладаеш, як пракляты, самае лепшае сваё ў нейкі беспрацэнтны, банкрутны банк — без надзеі на аддачу...*

*І ўсё ж настае момант, толькі трэба яго дачакацца, фізічна дажыць да яго, калі літаратура пачынае не толькі браць, а і аддаваць... І вось раптам заўважаеш жоўты клянowы ліст пад нагамі... І ўспамінаецца іншая восень... І замаруджваюцца крокі... І думка — ці не ўпершыню ў жыцці — а засталося ж менш, чым прайшло! Круці ня круці, а трэба памярці... Вось гэта і ёсць вышняя ўзнагарода літаратару-аўтару — калі тое, што так часта праклінаў: ну чаму, чаму не такі як усе?! — пачынае адкрывацца ў іншым святле»* [15, с.7].

Каб быць пісьменнікам, патрэбна смеласць, каб быць абсалютна шчырым і адкрытым з чытачамі, неабходна мужнасць. А. Федарэнка валодае гэтымі якасцямі, што, несумненна, павінна выклікаць чытацкую павагу, акрамя таго дазваляе яму рэальна ацэньваць сябе і сваю творчасць. Так, змясціўшы ў рамане сваё першае апавяданне «Сачыненне», ён, аналізуючы твор, дае ў дужках заўвагі як рэдактар, а не як аўтар: *«Гэта была высокая, дзябёлая жанчына, якая вельмі глядзела за сабой: падмалёўвала губы, павекі, пудрылася. Апраналася яна вельмі па-сучаснаму, што зусім ёй не ішло, бо Клара Іванаўна была ў гадах.*

***(А ўсё ж партрэты і апісанні прыроды цярпімыя, як для самага першага ў жыцці апавядання)*** (вылучана аўтарам. — *Н. Я.*).

*Яна спынілася пасярод аўдыторыі, цярпліва чакаючы, пакуль сціхне шум і ўсе падымуцца...»* [15, с. 45]

Для самога празаіка сэнс жыцця непарыўна звязаны з творчасцю. Ён пераасэнсоўвае не толькі ўласныя жыццёвыя памылкі і дасягненні, але і творчыя. Ана-

лізуючы ў рамане ўрыўкі з ранніх твораў, А. Федарэнка прызнаецца, што яму сорамна за гэтыя першыя спробы пяра, але не з-за іх мастацкай слабасці, а з іншай прычыны: *«Амаль усё, што там напісана, "было на самой справе". Гэты сказ гучаў, і гэты эпізод быў падгледжаны ў жыцці. А значыць, думалася 23-гадоваму "пісьменніку", яно як мінімум мае права на існаванне... Тое, як хутка могуць старэць, выходзячы з ужытку дэталі — розныя рублі-капеечкі, порткі-джынсікі, прычоскі-фрызурыкі, пэйджэрыкі-мабільнічкі, прывязаная да свайго недаўгавечнага часу лексіка, аднадзённыя слоўкі-тэрміны — яшчэ паўбяды. Нічога так не старэе, як прамыя словы, прамыя думкі, прамое дзеянне...»* [15, с. 82—83].

У свой час Гётэ выказаў парадаксальную думку пра тое, што найвышэйшыя творы мастацтва ўтрымліваюць у сабе найвышэйшую ісціну, але не маюць слядоў рэальнасці. Чытачамі і пісьменнікамі-пачаткоўцамі, а то часам і сталымі літаратарамі, часцей за ўсё тое, што «было на самой справе» ўспрымаецца як ісціна. Аднак ісціна ў мастацкім творы гэта тое, што з'яўляецца вынікам рэальнасці, але не прывязана да рэальных у значэнні канкрэтных рэчаў, падзей і прамых, паводле А. Федарэнкі, слоў, думак і дзеянняў. Адзначанае з'яўляецца надзвычай важным для разумення сутнасці мастацтва слова і мастацкай якасці літаратурных твораў.

Перайманне рэальнасці, яе вобразнае адлюстраванне і мастацкае мадэляванне свету — аснова працэсу перастварэння жыццёвага матэрыялу ў літаратурны тэкст. Літаратурная карціна свету — вобраз нелітаратурнай рэальнасці, створаны сродкамі мастацкай літаратуры, пры тым гэты вобраз падобны да рэальнасці, але неадэкватны ёй.

## IV

«У літаратуры любога часу лічу каштоўнымі натуральнасць (што для мяне роўна таленавітасці) і дабрыню» [3], — сказала «эквілібрыстка ад паэзіі» [4] Вера Бурлак у інтэрв'ю інтэрнэт-часопісу «ПрайдзіСвет». Яе эквілібрызм выяўляецца найперш у эксперыментарстве з літаратурнымі жанрамі, дакладней у разбурэнні традыцыйных жанравых межаў і ў дэманстратыўнай гульні не па правілах з любымі агульнапрынятымі нормамі, як у творчасці, так і ў жыцці. Першая кніга прозы В. Бурлак — «Творы соннага жанру», што выйшла таксама ў 2011 г. — сведчанне вернасці няўрымслівага аўтара свайму эквілібрычнаму стылю.

*«У гарадах, дзе доўгае метро, праехаўшы па лініі з канца ў канец, можна прачытаць маленькі раман, сярэднюю аповесць або доўгае апавяданне. Больш прыемна прачытаць раман. Абавязкова цалкам. Або некалькі апавяданняў. Абавязкова некалькі. Дагнаць развіццё машыннай тэхнікі развіццём тэхнікі чытання»* [2, с. 24], — тлумачыць аўтар зборніка ў творы нявызначанага жанру (калі не лічыць «соннага») пад назвай «Проза для чытання ў мінскім метро». І напэўна для таго, каб палегчыць задачу тым, хто зацікавіцца развіццём тэхнікі чытання наўздагон за развіццём машыннай тэхнікі, В. Бурлак змясціла ў кнізе 4 раманы па 1-2 старонкі кожны, шэраг апавяданняў памерам у некалькі радкоў і творы, якія змястоўна і паводле сваёй формы падобныя да апавяданняў. Іх жанр (у традыцыйным разуменні), у адрозненне ад згаданых выпадкаў, не быў вызначаны, але, калі прытрымлівацца аўтарскай логікі, гэта аповесці.

Аднак разам з тым усе творы, паводле задумы пісьменніцы, належаць да аднаго жанру — «соннага». Чаму? Хутчэй за ўсё таму, што яны нагадваюць сны, трызненне. І як «саснілася», так В. Бурлак і распавядае, напрыклад: *«Усе ў горадзе захварэлі. Усе сядзяць дома, адчуваюць сябе вельмі кепска і здзіўляюцца, што нікога няма на вуліцы»* [2, с. 39] (апавяданне «Усе захварэлі»). Гэты твор прыведзены цалкам, не мае нічога агульнага са сваім жанравым вызначэннем, і, па сутнасці, не мае ўвогуле нічога акрамя ідэі.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ў В. Бурлак ёсць творы, дзе «сонная» натуральнасць аповеду дастаткова апраўданая, як у выпадку, калі гераіняй з’яўляецца вар’ятка і дзеянне адбываецца ў адпаведнай медыцынскай установе: *«На мяне сёння лаяліся, што я зноў прынесла ў ложак пясочак, а я забыла, што з ім учора рабіла, а тое б я ім сказала, гэта было нешта вельмі важнае. Сёння я пайду на вакзал. Я чакаю там ліст ад сястры. Мая суседка смяецца. Яна кажа: у цябе няма ніякай сястры. А другая суседка кажа: не слухай старую дурніцу, хадзі куды хочаш»* [2, с. 47] («Анёл»).

Пісьменніца назвала дабрыню адной з асноўных вартасцей літаратуры. Гэтага і ў яе творах не бракуе. Асабліва добрае лірычнае апавяданне (паводле майго вызначэння. — *Н. Я.*) «Яшчэ адна сняжынка»: *«Калі яно ўпала ў снег, спачатку ўсе падумалі, што гэта проста яшчэ адна сняжынка. Але яно не было белым. Яно было цёплым, шэрым, нашмат цяжэйшым нават за градзіну і, упаўшы на зямлю, працягвала варушыцца замест таго, каб, як належыць прыстойнай сняжынцы, ціха ляжаць на месцы... Прамоклыя валёнкі спыніўся ля шэрага скрутка... У ім было зусім маленькае дзіця... І тут да яго падышла жанчына ў зялёнай хусціне з кветкамі. Яна загарнула малое ў сваю прыгожую хусціну і панесла.*

*— Хто ты? — спытала малое, але жанчына толькі ўсміхалася. Але колькі лагоды і дабрыні бачыла дзіця ў расплывістых плямах яе вачэй, носа, губ — бо інакш малое бачыць пакуль не ўмела. — Ты... мама?*

*— Я Жыццё, — адказала жанчына. — Аднойчы я зрабіла памылку, але цяпер выправіла»* [2, с. 10—11]. Гэты твор увогуле выбіваецца з усяго зборніка сваёй паэтычнасцю і пяшчотнасцю, своеасаблівай жаноцкасцю, бо толькі жанчына, якая мае дзіця, можа глядзець на свет яго вачыма.

Калі В. Бурлак здольная пісаць так пранікнёна і прыгожа, адкуль жа тады эпатажнасць і гульня не па правілах, дух супярэчнасці, дэманстратыўнае жаданне зрабіць усё наадварот, не так, як прынята, якімі прасякнутыя ўсе іншыя яе творы? На гэта пытанне ёсць адказ у «Творах соннага жанру»: *«А што тут дзіўнага? Гэта адна з нармальных рэакцый на жыццё»* [2, с. 89] («Алергія») — абарончая рэакцыя, якая ляжыць у падсвядомасці і выяўляецца на ўзроўні інстынкту. А без яе цяжка, асабліва творчай асобе і асабліва тады, калі *«няма да каго прытуліцца, апрача бруднай ватоўкі»* [2, с. 10], таму і хаваецца за эпатажнасцю добрая і чуллівая душа.

Ян Парандоўскі, аўтар славутага трактата «Алхімія слова», лічыў, што «межы пісьменніцкага мастацтва нельга ўсталёўваць ні па літаратурных жанрах, ні, яшчэ менш таго, па тэматыцы. Калі ж так часам і робяць, то проста падпарадкоўваюцца прымхам сваёй эпохі» [10, с. 48]. Калі б В. Бурлак не вызначала жанр уласных твораў, хай сабе і ў нетрадыцыйным напрамку, можна было б сказаць, што, вольная ад прымхаў папярэдняй эпохі, на пачатку XXI ст. яна паказала прыклад адсутнасці жанравых межаў, а так можна гаварыць толькі пра іх разбурэнне.

Што да карціны свету, то ў творах пісьменніцы яна «сонная» — выглядае насамрэч як сон, выкліканы ўражаннямі ад рэальных падзей. Пры тым, паколькі сны можна бачыць толькі пад уздзеяннем унутраных, а не вонкавых фактараў, у адрозненне, напрыклад, ад наркозу ці гіпнозу, і падчас сну заўсёды захоўваецца здольнасць да абуджэння, у «Творах соннага жанру» выразна адчуваецца нежаданне «расплюшчыць вочы».

## V

28 снежня 2011 г. пасольствам Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь, Польскім інстытутам у Мінску, Беларускім ПЭН-цэнтрам і Саюзам беларускіх пісьменнікаў была заснавана літаратурная прэмія імя Ежы Гедройца (1906—2000) — польскага палітыка, публіцыста, пісьменніка, стваральніка і рэдактара парыжскага часопіса «Культура», аўтара шматлікіх артыкулаў і кнігі

«Аўтабіяграфія ў чатыры рукі». Ураджэнец Мінска, Е. Гедройц на працягу 50 гадоў змагаўся за добрасуседскія дачыненні Польшчы з усходнімі краінамі — Беларуссю, Літвой, Украінай. Менавіта гэтая акалічнасць выклікала здзіўленне ў літаратурных колах, калі першым узнагароджаным прэміяй імя Е. Гедройца за кнігу апавяданняў «Зборная РБ па негалоўных відах спорту» стаў беларускі пісьменнік і перакладчык сучаснай ізраільскай і амерыканскай прозы Павал Касцюкевіч — «прадстаўнік, — паводле самахарактарыстыкі, — таго пакалення, якое не мае сваёй краіны», бо, пасля дзесяці гадоў жыцця ў Тэль-Авіве, яму «ў Ізраілі хочацца быць беларусам, а калі прыязджае сюды, то пачынае задумвацца, ці трэба гэта» [9].

Калі адкрыць наўгад любую старонку кнігі П. Касцюкевіча, стане зразумела, што, у адрозненне ад В. Бурлак, ён не толькі не «заплюшчвае вочы», але і надзвычай пільна прыглядаецца да рэальнасці: *«Ашмянскія цёткі ніколі не спяць. Пасля чаўночнага рэйса ў Вільню, ужо ў роднай Ашмяне, яны выцягваюць мужа з шафы, кормяць яго, здзьмухваюць пыл, мяняюць шкарпэткі і вешаюць назад, пад цэлафанавы чахол. Потым ідуць на працу, сядаюць за стол пад партрэтам, налічваюць квартальную праграсіўку ўсяму калектыву і — назад, на лінію фронту»* [7, с. 5] (апавяданне «Айчына кантрабанда») — пасля прачытанага на пачатку кнігі няцяжка здагадацца, што чытача і надалей чакаюць рэалістычныя вобразы-персанажы і сюжэтныя калізіі, пададзеныя ў гіпербалізаваным, фантасмагарычным стылі, а праз іранічнасць выяўляецца аўтарскі крытычны погляд на свет, у прыватнасці, на беларускую рэчаіснасць, якая часта падобная да тэатра абсурду.

Так і ёсць: *«Чорнае птаства з драпежнай дзелавітасцю лунае па-над горадам. Ад Панікоўкі і Купалаўскага сквера аж да плошчы Якуба Коласа. Зграя пацукоў з прыробленымі крыламі, менска-мінскія птушкапацыцы»* [7, с. 28] («Шэсцьсот шэсцьдзясят шэсць вечароў»); падчас З'езда беларусаў свету *«на нашу краіну навалілiся орды дзьмухаўцоў... Дзьмухаўцы займаюць тэрыторыю, пратачаюцца праз асфальт, каласяцца на кожным найменшым лапіку, лезуць напралом. Мільярды палёвых шчупальцаў, што шалёна прагнуць аднаго — людскіх сэрцаў»* [7, с. 42] («Вайна з дзьмухаўцамі»); своеасабліва адзначаецца *«Дзень ВДВ — свята сямейнае, таму ў гэты дзень трэба сядзець дома і нікуды не выходзіць. А ноччу будзь ласкавы пастаў свечку і літровы слоік "ёршыка" на падваконне. Гэта для заблукалых берэтаў. І не важна, што ў цябе сёмы паверх. Стропы ў іх доўгія — дацягнуцца»* [7, с. 33] («Дзень дэсантніка»). Разам з тым, у чытача ёсць магчымасць стаць «удзельнікам» звароту да доктара Хаўза («Доктару Хаўзу ад беларускага народа») або «сведкам» заляцанняў дасціпнага маладзёна да дзяўчыны Юлі («Я кахаю цябе, Юлія»).

Трэба аддаць належнае ўменню аўтара нязмушана, з прыхаванай усмешкай і без лішніх слоў абмаляваць падзею, стварыць даволі пазнавальны, тыповы і ў прынцыпе сімпатычны вобраз нашага сучасніка. Так акрамя цётак-кантрабандыстак у творах П. Касцюкевіча можна «пазнаёміцца», напрыклад, з прымхлівай Бярнардай Бярнардаўнай, якой сасніўся Пётр Машэраў. Ён просіць прынесці яму на магілу кропу («Пра вечнасць ды іншыя часы»), з Францавічам — галоўным трэнерам зборнай Беларусі па негалоўных відах спорту: *«Сёння — лапта, заўтра — кёрлінг... Кракет, пола, даміно, гарадкі»* [7, с. 122] (апавяданне «Зборная Беларусі па негалоўных відах спорту»).

Карціна свету гэта не карціна, якая адлюстроўвае свет, а свет, зразумелы як карціна, іншымі словамі, свет робіцца карцінай, у дадзеным выпадку — «групавым партрэтам» «зборнай РБ па негалоўных відах спорту». Складаючы сабе такую карціну, чалавек (пісьменнік) і самога сябе ўпісвае ў яе. Пры тым, згодна з канцэпцыяй М. Хайдэгера, існае павінна прадстаўляць, паказваць сябе — быць карцінай, што выразна дэманструе зборнік П. Касцюкевіча, які з'яўляецца рэпрэзентантам існага. У сваю чаргу «існае лічыцца існым настолькі і ў такой меры, у якой яно ўцягнута ў гэта жыццё і суаднесена з ім, г.зн. перажываецца і становіцца

перажываннем» [16, с. 51]. Герояў П. Касцюкевіча сапраўды, як і многіх, калі не ўсіх нас, беларусаў, з нашымі штодзённымі клопатамі і дробнымі праблемамі, што нярэдка насамрэч выглядаюць дастаткова абсурдна, можна лічыць прадстаўнікамі адной каманды — той самай зборнай. А нехта нават дасягае ўзроўню майстра спорту, гуляючы ў «лапту» ці «даміно», мае фанатаў і пераемнікаў.

«Працэс вобразнага спасціжэння свету мастацкай літаратурай і стварэнне яго карціны — літаратурная з'ява, і ў гэтым сэнсе карціна свету як вышэйшы ўзровень літаратурнага працэсу з'яўляецца "формай часу", што ўвасабляе "ідэю часу"» [18, с. 6]. Такім чынам, як паказаў багаты на падзеі 2011 г., «форма часу» — пачатку XXI ст. выяўляецца праз «мелодыю раз'яднання і распаду» і абсурднасць быцця, пры гэтым «ідэю часу» складаюць гуманізм, асэнсаванасць у выбары паміж святлом і ценем, самааналіз і пераацэнка пройдзенага, імкненне да натуральнасці і дабрыні, ісціннага ў жыцці і літаратуры, роздум над мастацкай якасцю твораў, а таксама зварот да нацыянальных каштоўнасцей.

## Спіс літаратуры:


1. Алейнік, Л. Масавая літаратура: сябар ці вораг? / Л. Алейнік // Пясочны гадзіннік: Літ.-крыт. арт., нар., рэц., нататкі. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — С. 186—192.

2. Бурлак, В. Творы соннага жанру: проза / В. Бурлак. — Мінск: Логвінаў, 2011. — 99 с. — (Кнігарня пісьменніка).

3. Бурлак, В. У літаратуры любога часу лічу каштоўнымі натуральнасць і дабрыню / В. Бурлак // ПрайдзіСвет: часопіс перакладной літаратуры [Электронны рэсурс]. — 2012. — Рэжым доступу: http://prajdzisvet.org/master/10-u-litaratury-liuboha-chasu-lichu-kashtounymi-naturalnasts-i-dabryniu.html. — Дата доступу: 28.11.2016.

4. Вера Бурлак: «Я па жыцці ракета — і гэта дакажу» // www.budzma.org: сайт грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі» [Электронны рэсурс]. — 2012. — Рэжым доступу: http://budzma.by/news/vera-burlak-ya-pa-zhycci-raketa-i-heta-dakazhu-fotarepartazh.html. — Дата доступу: 28.11.2016.

5. Гарадніцкі, Я. А. Літаратура як мастацтва: камунікатыўнасць, інтэрмедыяльнасць, наратыўнасць / Я. А. Гарадніцкі. — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 401 с.

6. Готическая литература. Особенности жанра // Книга Фантиков [Электронный ресурс]. — 2016. — Режим доступа: https://ficbook.net/readfic/987299. — Дата доступа: 17.11.2016.

7. Касцюкевіч, П. Зборная РБ па негалоўных відах спорту / П. Касцюкевіч. — Мінск: Логвінаў, 2011. — 134 с.

8. Кинг, С. Пляска смерти / С. Кинг // Лаборатория фантастики [Электронный ресурс]. — 2016. — Режим доступа: https://fantlab.ru/work316. — Дата доступа: 17.11.2016.

9. Павал Касцюкевіч, або Жызн // Наша Ніва [Электронны рэсурс]. — 2009. — Рэжым доступу: http://nn.by/?c=ar&i=22427&p=1&c2=calcym&combo_calmonth=-1&combo_calyear=2009. — Дата доступу: 28.11.2016.

10. Парандовский, Я. Алхимия слова / Я. Парандовский // Алхимия слова. Петрарка. Король жизни. — М.: Правда, 1990. — С. 21—302.

11. Пятровіч, Д. Цана крыві / Д. Пятровіч // Анёлы: апов., апавяд., эсэ. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015. — С. 52—63.

12. Рублевская, Л. Книжный навигатор / Л. Рублевская // СБ. Беларусь сегодня [Электронный ресурс]. — 2004. — Режим доступа: http://www.sb.by/kultura/article/knizhnyy-navigator-41.html. — Дата доступа: 17.11.2016.

13. Рублевская, Л. Циники и поэты / Л. Рублевская // СБ. Беларусь сегодня [Электронный ресурс]. — 2010. — Режим доступа: http://tv.sb.by/kultura/article/tsiniki-i-poety.html. — Дата доступа: 17.11.2016.

14. Рублевская, Л. Пляски смерти: готический роман / Л. Рублевская; пер. с бел. автора. — Минск: Мастацкая літаратура, 2011. — 239 с. — (Готика — Фэнтези — Хоррор).

15. Федарэнка, А. Мяжа: раман-эсэ / А. Федарэнка // Мяжа: раман-эсэ, апавяданні. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — С. 3—144.

16. Хайдеггер, М. Время картины мира / М. Хайдеггер // Время и бытие: статьи и выступления. — М.: Республика, 1993. — С. 41—63.

17. Шаўлякова, І. Эпоха «амаль». Станаўленне новага тыпу літаратурнай творчасці / І. Шаўлякова. — Маладосць. — 2015. — № 8. — С. 118—120.

18. Янушкевич, А. С. От картины мира к образу мира: история становления имагологического текста в русской словесной культуре / А. С. Янушкевич // Имагология и компаративистика. — 2014. — № 2. — С. 5—16.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 5 снежня 2016 года.

## Рэзюмэ

**Наталля ЯКАВЕНКА**

### Год за пяць: літаратурныя карціны свету пачатку XXI стагоддзя

У артыкуле на аснове канцэпцыі нямецкага філосафа М. Хайдэгера асвятляюцца асноўныя асаблівасці сучаснага літаратурнага працэсу Беларусі. Тэарэтычную базу складаюць таксама разважанні амерыканскага пісьменніка С. Кінга, высновы беларускіх літаратуразнаўцаў Я. Гарадніцкага, Л. Алейнік, І. Шаўляковай і інш. Для аналізу ўзяты творы А. Федарэнкі, Л. Рублеўскай, Д. Пятровіча, В. Бурлак, П. Касцюкевіча.

**Ключавыя словы:** карціна свету, твор, літаратура, XXI ст., М. Хайдэгер, С. Кінг, А. Федарэнка, Л. Рублеўская, Д. Пятровіч, В. Бурлак, П. Касцюкевіч, Я. Гарадніцкі, Л. Алейнік, І. Шаўлякова.

## Summary

**Natalla YAKAVENKA**

### Year like five years: literary picture of the world in XXI century

The article is based on the concept of the german philosopher M. Heideger is talking about the main features of the modern literary process in Belarus. Also the theoretical base consist the ideas of the american writer S. King, the scientific conclusions of belarusian scientists Ya. Garadnicki, L. Aleinik, I. Shaulyakova and etc. Analysis of literary works A. Fedarenka, L. Rubleuskaya, D. Piatrovich, V. Burlak, P. Kastsyukevich.

**Keywords:** picture of the world, literary work, literature, XXI c., M. Heideger, S. King, A. Fedarenka, L. Rubleuskaya, D. Piatrovich, V. Burlak, P. Kastsyukevich, Ya. Garadnicki, L. Aleinik, I. Shaulyakova.

# МУЗЕЙ НАЙНОЎШАЙ ГУМАНІТАРЫСТЫКІ

*Ідэя гэтай рубрыкі пэўны час цьмяна варушылася-варочалася ў нетрах супраціву. Канцэптуальнага. Дакладней, напачатку гэта быў нават не супраціў, а нежаданне змірыцца з тым, што ў так званай новай інфармацыйнай рэальнасці рэчы няспешна-грунтоўныя, з'явы фундаментальныя як бы па ўмаўчанні... адмяняюцца — з прычыны неактуальнасці для спажыўцоў «ліхаманкавай бурапеннасці». Пры гэтым, кляймо неактуальнасці сёння амаль аўтаматычна прыстае да феноменаў нязручных для хуткага «страўвання» (інтэлектуальнага, эмацыйнага, эстэтычнага).*

*Гэтаксама (аўтаматычна) карціць ушанаваць новую рубрыку шыльдай «праект» — у стылістыцы навакольнага хранатопа. Але калі адключыць мысленчы «аўтапілот», выразна ўбачыцца, што цьмяная да пары да часу ідэя аформілася менавіта ў часопісную рубрыку «Полымя» нездарма.*

*Нездарма ў часопісную, бо менавіта на старонках літаратурна-мастацкіх перыядычных выданняў падобнага кшталту дастаткова прасторы для ўладкавання і абгрунтавання самага грунтоўнага «грунту»: на ім рэчы сутнасныя, асноватворныя ператрываюць не адзін парадыгмальны землятрус.*

*Нездарма ў «Полымі», бо зараз гэта адзіны з беларускіх «тоўстых» літаратурных часопісаў, дзе мастацкія творы аказваюцца ў адной прасторы з не толькі крытычнымі ацэнкамі бягучага працэсу, але і з навуковымі даследаваннямі шырокага спектра праблем тэорыі і гісторыі літаратуры. Такім чынам, менавіта тут ужо маюцца ўмовы для своеасаблівага палілога навуковых доследаў і мастацкіх практык.*

*З часам ідэя вылузалася ў даволі пэўны намер: выштукаваць часопісны варыянт* ***музея найноўшай гуманітарыстыкі****. Вядома, беларускацэнтраванага. Вядома, музея найноўшага кшталту: не як месца для маўклівых блуканняў, а як прасторы для сустрэч ды спрэчак, інакш кажучы, для нетрадыцыйнай музейнай камунікацыі — шматгалосай, можа, нават гучнагалосай.*

*Шлях збірання экспазіцыі акрэсліўся сам сабой, як «мікс» часопіснай класікі і навакольнай інаватыкі.*

*З аднаго боку, наважыліся на рэцэнзаванне кніг (навуковых манаграфій, зборнікаў прац, артыкулаў), звернутых да асэнсавання шырокага кола феноменаў, працэсаў, праблем беларускай гуманітарнай прасторы. Прычым побач са з'явамі і падзеямі ўласна філалагічнымі ў новай рубрыцы будуць прадстаўлены навуковыя дыскурсы мастацтвазнаўства (тэатр, кіно, выяўленчае мастацтва, архітэктура, etc.), філасофіі, культуралогіі, сацыялогіі, гісторыі, зрэшты, любых «сюжэтных адгалінаванняў», што так ці інакш маюць дачыненне да фарміравання найноўшай нацыянальнай гуманітарнай прасторы.*

*З другога боку, галоўная праблема (ці, наадварот, захапляльная задача) палягае ў тым, каб давесці ці пераканацца (найперш, самой супольнасці), што «навуковая крытыка» (скарыстаемся пакуль гэтым паняццем па аналогіі з літаратурнай, тэатральнай, кінакрытыкай) — гэта не проста чарговая* ***-знаўчая*** *рэцэнзія на* ***-знаўчую*** *манаграфію. Калі навуковая рэцэнзія як жанр з фантома для больш ці менш пашыранай аўдыторыі ператвараецца ў інтэлектуальны трылер, то гэты фармат дазваляе ўбачыць «вялікую навуку» як з'яву інтрыгоўную, захапляльную не*

*толькі прафесіяналу, але і любому негультаяватаму (у сэнсе агульнай дасведчанасці) чытачу.*

*Беларускацэнтраванасць згаданага «музея найноўшай гуманітарыстыкі» ёсць уласцівасцю натуральнай: маецца на ўвазе, што аб'ектамі рэцэнзавання стануць кнігі, выдадзеныя як беларускімі, так і замежнымі даследчыкамі пра беларускую гуманітарную прастору; прычым гэта могуць быць кнігі на любой мове, даступнай рэцэнзенту.*

*Улічваючы папуляцыю айчынных гуманітарыяў, літаральна кожны «Кніга_Log» можа фарміравацца па прынцыпе дыскурснай і/ці тэматычнай разнастайнасці (рэцэнзіі на даследаванні па культуралогіі і мовазнаўстве; архітэктуры і літаратуразнаўстве, гісторыі і музыказнаўстве і г. д.). Акрамя магчымасці прадстаўляць два розныя погляды (уласна рэцэнзіі) на адну кнігу, ёсць намеры размяшчаць разгорнутыя каментары на папярэднія публікацыі, палемічныя водгукі з нагоды тэмы ці праблемы. Наўрад ці хто будзе сумнявацца ў карыснасці кароткіх (а хто б адмовіўся і ад разгорнутых?!) анатаваных аглядаў лепшых кніг (айчынных і замежных), прысвечаных актуальным праблемам беларускай гуманітарнай прасторы…*

*Калі вышэй згадвалася пра рэалізацыю ідэі «Кніга_Loga» шляхам «міксу» класікі і новых магчымасцей, мелася на ўвазе спадзяванне, што дыскусіі не ўтрымаюцца ў межах друкаванага выдання. Палеміка можа разгортвацца як на старонках «Полымя», у прасторы ўмоўна рэальнай, так і ў прасторы віртуальнай (таксама ўмоўна, бо можна доўга спрачацца, дзе сённяшняе літаратурнае жыццё разгортваецца больш імпэтна). Напрыклад, інтэрнэт-рэсурс «КнігаСвет» (http://knigasvet.adu.by/), адзін с сегментаў Нацыянальнага адукацыйнага партала (http://adu.by/), утрымлівае шмат інтэрактыўных сервісаў: інтэрнэт-гасцёўні, пляцоўкі для правядзення анлайн-канферэнцый, конкурсаў, літаратурных фестываляў і г. д. Пры гэтам для «Кніга_Loga» на «КнігаСвеце» створана спецыяльная віртуальная пляцоўка (http://knigasvet.adu.by/), дзе без інавацый, вядома, не абыдзецца.*

*Старт «Кніга_Loga», зрэшты, інавацыйны ў межах прыстойнасці. Пачынаецца ўсё з даніны традыцыі (у тым ліку «палымянскай»): адкрываецца сезон навуковых шпацыраў рэцэнзіяй на літаратуразнаўчую манаграфію гомельскага даследчыка Анжэлы Мельнікавай «Нацыянальна-светапоглядныя каардынаты беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя» (2016).*

*У наступным выпуску «Кніга_Loga» нашым унёскам у працяг гэтай (філалагічнай) сюжэтнай лініі будзе размова пра манаграфію вядомага гарадзенскага літаратуразнаўцы Таццяны Аўтуховіч «"Шаг в сторону от собственного тела…": Экфрасисы Иосифа Бродского», выдадзеную ў 2016 годзе ў польскім Універсітэце прыродазнаўчых і гуманітарных навук г. Седльцэ. Аднак дзякуючы філолагу, даследчыку інфармацыйнай прасторы Марыне Лебедзевай з'явяцца і новыя «калізіі»: наступным разам маем магчымасць наладзіць супольныя агледзіны зборніка навуковых прац (прысвечаных шырокаму спектру пытанняў развіцця журналісцкага працэсу і трансфармацыі сродкаў масавай інфармацыі) «Журналістыка ў суладдзі з жыццём» (2016). Выданне было падрыхтавана да 90-годдзя заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь, доктара філалагічных навук, прафесара Барыса Стральцова.*

*Напрыканцы гэтага пралогу-запрашэння варта шчыра прызнацца: патэнцыйны поспех такога спецыфічнага віду актыўнага адпачынку, як вандроўкі па «беларускацэнтраваных» гуманітарных доследах, залежаць не толькі і не столькі ад экспертаў-рэцэнзентаў, колькі ад чытача. Не, нават так: Чытача. Пра такога многія аўтары, відаць, мараць, але ў рэальнасць яго мала хто верыць: ён дастаткова грунтоўны для таго, каб заглыбіцца ў «навуковую крытыку», і дастаткова няўрымслівы, каб з ходу ўкруціцца ў дыскусію.*

*Дзякуй богу, мы рэалісты: такіх чытачоў у Беларусі ёсць, і не на адзін год бадзёрых «шпацыраў». Галоўнае — разгаварыцца.*

**Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА**

Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА

# ДУХ КЛАСІЧНАСЦІ СУПРАЦЬ БОСТВАЎ ДРОБЯЗЕЙ:
## літаратурасофія ў часы шоуцэнтрызму

***Мельнікава, А. М.** Нацыянальна-светапоглядныя каардынаты беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя / А. М. Мельнікава; Мін-ва адукацыі Рэспублікі Беларусь; Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. — Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2016. — 241 с.*

Шоуцэнтрычны хранатоп (якім ёсць *сёння* наша нясумнае *тут*) — не самы вясёлы час для жыцця, як ні дзіўна. Асабліва калі мець на ўвазе жыццё гуманітарнай навукі традыцыйнага («класічнага», «акадэмічнага») кшталту з адпаведнымі абавязкамі «сталення», то бок бесперапыннага развіцця.

Арыентаванасць літаратурна-крытычнай рэфлексіі ў другім дзесяцігоддзі XXI стагоддзя ўжо нават не на гульнёвасць, але на гуллівасць ацэнак з'яў бягучага літаратурнага працэсу (і не толькі бягучага, бо ў тых самых абдоймах раз-пораз аказваецца і класічнае мастацтва слова) як бы натуральным чынам выштурхоўвае айчыннае літаратуразнаўства на выспу самотнікаў. Агульныя чаканні ўдзельнікаў літаратурнага працэсу, а дакладней, гульцоў у літпрацэс прыкладна такія: хто не можа ці не хоча далучыцца да шоу — жывіце ціха, а ў ідэале — моўчкі.

«Гегемонны» трэнд не ўлічвае адной не вельмі кідкай, але істотнай дэталі: самотнікі, што сабраліся на выспе, — гэта самотнікі-энтузіясты. І калі яны не абвяшчаюць на ўвесь свет (= Сеціва) пра кожны свой целарух на карысць Ягамосці Літаратуры і роднай філалогіі, дык гэта не значыць, што яны маўчаць — у сэнсе, не пішуць свой *кнігатэкст*. Літаратуразнаўчыя кнігі (манаграфіі, зборнікі навуковых прац і артыкулаў), уласна, і ўтвараюць той трывалы экспертны падмурак для разумення гісторыка-літаратурнага працэсу як дынамічнай цэласнасці, што не дае абрынуцца мастацкай славеснасці ў бездань выпадковых, хоць і эфектных інтэрпрэтацый. Інакш кажучы, беларускае літаратуразнаўства, па сутнасці, скарыстоўвае шматкроць апрабаваную нацыянальную стратэгію выжывання ў самых неспрыяльных умовах: паміраць збірайся, а жыта сей (і маўчы пра тое, што збіраешся жыць вечна).

Класічная стратэгія бяспройгрышна можа рэалізавацца ў класічнай тактыцы. То бок у канкрэтных, практычных захадах абгрунтаваць упэўненасць, чаму шоу сыходзяць, а «грунт» (хранатоп, у абдоймах якога гэтыя шоу мільгаюць) — застаецца.

Літаратуразнаўца Анжэла Мельнікава для ажыццяўлення гэтых захадаў абрала, бадай, адну з самых складаных, але і самых цікавых «тэрыторый» — «нацыянальна-светапоглядныя каардынаты беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя». Яны, уласна, і далі назву яе манаграфіі 2016 года, да з'яўлення якой спрычыніліся даследчыкі, якія сёння маюць аўтарытэт класікаў айчыннага літаратуразнаўства: навуковым рэдактарам выдання стаў доктар філалагічных навук, прафесар Іван Штэйнер, рэцэнзентамі — член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар Міхась Мушынскі, а таксама доктар філалагічных навук, прафесар Ігар Жук.

Дух класічнасці, здаецца, наогул апякуецца манаграфіяй А. Мельнікавай. Так сышліся ўсе зоры — не толькі праблемна-тэматычныя (у манаграфіі разглядаюцца «мадэль нацыянальнага быцця, спецыфіка беларускага вобраза свету, маральна-

этычныя каштоўнасці, філасофія быцця, канцэпцыя чалавека» (с. 2)[1], але і сюжэтна-кампазіцыйныя.

Манаграфія «Нацыянальна-светапоглядныя каардынаты беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя» мае класічную (як для сучаснага айчыннага гуманітарнага дыскурсу) кампазіцыю: уводзіны, шэсць раздзелаў, заключэнне, спіс выкарыстаных крыніц. Ды і сюжэтна яна разгортваецца як класічны… раман, праўда, як раман спецыфічнай жанравай мадыфікацыі — літаратуразнаўчы «раман сталення».

Вектар даследчыцкіх інтэнцый, гэтаксама як і галоўны аб’ект навуковага інтарэсу аўтара выразна акрэсліваюцца ўжо з першых старонак працы. Кірунак і сутнасныя, якасныя адзнакі пошуку задаюцца цытатай з кнігі Зоі Мельнікавай «Беларуская літаратура і нацыякультурная прастора» (2014), паводле якой «нацыянальнаму прыгожаму пісьменству… не хапае навуковых інтэрпрэтацый на філасофска-гнасеалагічным узроўні, паводле нацыянальна-эстэтычных кодаў і архетыпаў» (с. 8). Што ж тычыцца аб’екта найбольш пільнай увагі, то ён паўстае («нараджаецца») неяк сам сабой, на скрыжаванні двух канцэптуальных… абвастрэнняў: адно тычыцца анталогіі нацыянальнага ў эпоху глабалізацыі, другое — захавання «нацыянальнага культурнага коду», пошукаў ідэнтычнасці. Адпаведна, нацыянальная ідэнтычнасць ёсць галоўным героем гэтага «манаграфічнага рамана».

Аўтар распачынае свой «манаграфічны аповед» якраз адтуль, адкуль і варта было пачаць: адштурхоўваючыся ад тэарэтычнага асэнсавання ідэнтычнасці як поліфункцыянальнага паняцця ў кантэксце сучасных міждысцыплінарных даследаванняў, А. Мельнікава імкнецца прасачыць сутнасць і шляхі «мастацкай кадыфікацыі» нацыянальнага; пры гэтым ролю своеасаблівага канцэптуальнага вобраза-матыву выконвае (паўторанае ў розных варыяцыях) меркаванне, што «развіццё беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя ішло паралельна са станаўленнем мадэрнай беларускай нацыі» (с. 5). Інакш кажучы, апісанне агульнатэарэтычнага кантэксту становіцца неабходнай умовай для даследавання ідэнтыфікацыйных працэсаў у беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя, паколькі «літаратура побач з іншымі элементамі культуры з’яўляецца адной з форм нацыянальнай самаідэнтыфікацыі» (с. 9). Варта адзначыць, што сцвярджэнне выключнай ролі мастацтва слова ў фарміраванні ідэнтычнасці ёсць адным з лейтматываў манаграфіі А. Мельнікавай як літаратурасофскага «рамана сталення».

У кантэксце аналізу тэарэтычных аспектаў праблемы даследчык імкнецца размежаваць паняцці ідэнтыфікацыі і ідэнтычнасці, адпаведна, як «пэўную сістэму адносін паміж індывідам і супольнасцю (абмежаванай групай, нацыяй)» — і «сукупнасць устойлівых рысаў, якія дазваляюць пэўнай этнічнай ці сацыяльнай групе вылучаць сябе сярод іншых і такім чынам вызначаць сваё месца і ролю ў сістэме сацыяльных адносін» (с. 13). Падчас вандровак па тэарэтычных раздзелах кнігі А. Мельнікавай складваецца даволі выразнае ўяўленне пра сутнасць адрозненняў паміж згаданымі паняццямі, што палягае ў адмысловай (іманентнай) працэсуальнасці феномена ідэнтыфікацыі — і «захавальніцкіх», як бы «рэзервуарных» функцыях ідэнтычнасці.

Абраная А. Мельнікавай даследчыцкая стратэгія кампазіцыйна разгортваецца як рух ад асэнсавання працэсаў нацыянальнай ідэнтыфікацыі да аналізу працэсаў нацыянальнай дыферэнцыяцыі (якая «заключаецца ў адрозненні сябе ад іншага, у выніку чаго таксама фарміруецца нацыянальная ідэнтычнасць індывіда» (с. 60)). У абодвух выпадках маем узоры хоць і надзвычай лаканічнага (эканомнага ў сэнсе вербалізацыі, слоўнага выражэння), але падрабязнага аналізу згаданых з’яў як комплексных сацыякультурных феноменаў.

---

[1] Тут і далей пры цытаванні ў дужках указваюцца нумары старонак манаграфіі, поўныя выходныя дадзеныя якой прыведзены напачатку рэцэнзіі.

Так, адлюстраванне працэсаў нацыянальнай дыферэнцыяцыі ў публіцыстыцы першай трэці ХХ стагоддзя разглядаецца пакрокава: кожны тэзіс утрымлівае формульнае азначэнне сутнасці таго ці іншага складніка памянёных працэсаў (размежаванасць «Я» і «Іншага», замацаванне ідэі пра поліэтнічны характар Беларусі, саманазыванне як спосаб вонкавай рэпрэзентацыі і інш.); тут жа маецца аргумент на карысць слушнасці гэтага тэзіса — у выглядзе, напрыклад, цытаты з артыкула ці працы, што сёння ўжо набылі статус прэцэдэнтных тэкстаў («Аб назовах “Крывія” і “Беларусь”», «Што спрыяе разросту і ўпадку народаў і дзяржаў», іншыя творы В. Ластоўскага, а таксама тэксты А. Луцкевіча, У. Жылкі, Я. Лёсіка і інш.).

Адзнакай даследчыцкага стылю А. Мельнікавай ёсць дакладнае (нават рашучае) пазначэнне сістэмы каардынат: канцэптуальных падыходаў, прынцыпаў, палажэнняў і г. д. Там, дзе іншы абірае пакручастую траекторыю, па якой вядзе чытача да «адкрыцця» (маўляў, былі неблагія ідэі ў структуралістаў, пасля нешта такое мільгала ў постструктуралістаў, але ўсё гэта было толькі падрыхтоўкай да маёй канцэпцыі…), аўтар гэтага «манаграфічнага рамана» рушыць наўпрост:

«Мы прымаем бартаўскае азначэнне паняцця “код” як “звыштэкставую арганізацыю сэнсаў, якія дыктуюць уяўленні пра пэўную структуру”» (с. 17);

«У нашай рабоце мы абапіраемся на тэорыю міфа, распрацаваную Р. Бартам у “Міфалогіях”, разглядаем міф як “семіялагічную сістэму, якая прэтэндуе на тое, каб ператварыцца ў сістэму фактаў”» (с. 66).

Яшчэ адной адметнасцю манаграфіі «Нацыянальна-светапоглядныя каардынаты беларускай літаратуры першай трэці ХХ стагоддзя» можна лічыць яе жанравую полівалентнасць. Так, уласна літаратурасофскі па сутнасці сваёй аналіз «манціруецца» не толькі з прыкметамі «рамана сталення», але і з элементамі энцыклапедычнага хранатопа. У асобных сегментах тэксту аўтару ўдаецца на невялікай плошчы змясціць каталог (а то і сапраўдную бібліятэку)… усяго, што мае дачыненне да канкрэтнага прадмета асэнсавання і можа быць карысным дзеля яго разумення. Напрыклад, калі для разумення спецыфікі мастацкай рэпрэзентацыі нацыянальнага трэба прыцягнуць досвед імагалогіі, то ён будзе рэкрутаваны ў поўнай амуніцыі ды ўзбраенні: будуць коратка, але змястоўна прадстаўлены азначэнні ключавых паняццяў тэзаўруса, зроблены імпэтны экскурс у гісторыю станаўлення, арганізавана знаёмства са знакавымі постацямі і ідэямі, з сучаснымі метадалагічнымі трэндамі і іншымі патрэбнымі з’явамі ды рэчамі. Ці вось размова пра набыткі нашаніўскага перыяду: «У нашаніўскім асяроддзі выбудоўваецца пэўны пантэон беларускіх дзяржаўных і культурных дзеячаў…» (с. 47). А далей без лішніх ваганняў прадстаўляюцца вынікі інвентарызацыі пантэонаў, гістарычнага (ад князя Усяслава да К. Каліноўскага) і культурнага (ад Ф. Скарыны да Э. Ажэшкі).

«Раман-манаграфія» А. Мельнікавай — прастора не проста густанаселеная. Тут як на навуковым кангрэсе (ці на метадалагічным фэсце). На дзвюх суседніх старонках могуць сысціся ў канцэптуальным палілогу да дзясятка людзей, з розных эпох і дыскурсаў. Там, дзе аўтар манаграфіі разглядае «памежжа… як месца, дзе афармляецца беларуская суб’ектнасць» (с. 54), да працэсу далучаюцца І. Канчэўскі, Т. Слінка, М. Бахцін, Ул. Самойла, І. Бабкоў, С. Хантынгтан, С. Санько, І. Бурдзялёва, П. Васючэнка. Цікава, аднак, што адчування «натоўпу», таўхатні няма. Прычым на гэтым балі аўтар манаграфіі паспявае быць не толькі галоўным цырымонімайстрам (прадстаўляючы іншых), але і ўдзельнікам (рэпрэзентуючы ўласныя досвед, высновы, меркаванні).

Чымсьці гэткі метад выбудоўвання даследчага дыскурсу нагадвае ахвярную скрупулёзнасць першых беларускіх этнографаў: кожная драбніца, калі яна хоць колькі-небудзь каштоўная для разумення канцэптуалізацыі нацыянальнага, прыдасца да справы.

Між тым, раз-пораз досвед кросдысцыплінарных штудый адпаведнай праблематыкі падсумоўваецца высновамі ў духу… не тое што паэзіі, але своеасаблівай паэтычнай літаратурасофіі:

«Прадстаўнікі постнекласічнага напрамку[1] лічаць, што нацыянальная ідэнтычнасць не перадаецца генетычна, а з'яўляецца вынікам калектыўнага ўяўлення пра сябе і "іншага", сфармаванага дыскурсам, праз сацыякамунікатыўныя традыцыі і практыкі. <…> Гэтыя ўяўленні пра сябе і "іншага" не існуюць да ці па-за дыскурсам. Адсюль вынікае ключавая роля літаратуры, культурных сімвалаў і кодаў у канструяванні ідэнтычнасці. Нацыя існуе, паколькі існуе рэпрэзентацыя нацыі ў тэкстах» (с. 14);

«Такім чынам, В. Ластоўскі імкнуўся выканаць нацыятворчую мэту: паяднаць народ з яго ўласнаю гісторыяй» (с. 42);

«Менавіта нашаніўскія пісьменнікі закладваюць у ідэнтыфікацыйны код беларускай літаратуры матыў велічнага мінулага Беларусі» (с. 42) і інш.

Пры гэтым падобныя вымыканні ў прастору не строга навуковага, але, хутчэй, навукова-паэтычнага маўлення, насуперак лагічным чаканням, ніяк не ўплываюць на ўражанне пра агульную стрыманасць і дакладнасць выказвання. Праўда, у асобных выпадках кросдысцыплінарнасць набывае такі градус, што пераплаўляецца ў метадалагічны кактэйль, які ўспрымаецца досыць экзатычна, а з улікам суровай лаканічнасці аўтарскага маўлення — нават пагрозліва:

«Дзеячы нацыянальна-адраджэнскага руху на першае месца паставілі пытанне пра станаўленне беларуса як суб'екта гісторыі, далучэнне народа да вопыту нацыянальнай гісторыі, абуджэння гістарычнай памяці. Сцвярджаецца нацыянальная дадзенасць беларускага народа, самабытны характар беларускай культуры. Цывілізацыйны код Беларусі акрэсліваецца як еўрапейскі.

Адбываюцца працэсы «дэканструкцыі каланізатара», асэнсоўваецца каланізатарская практыка (падкрэслена намі. — *І. Ш.-Б.*). Абгрунтоўваецца ідэя нацыянальнай незалежнасці, а таксама ідэя нацыянальнага адраджэння і сацыяльнага вызвалення беларуса» (с. 65).

Гаворачы пра знакавасць п'есы «Тутэйшыя» (1922) Янкі Купалы для беларускай літаратуры, А. Мельнікава згадвае пра тое, што Ігар Бабкоў лічыць гэты твор «першым беларускім посткаланіяльным тэкстам» і прыводзіць у падтрымку цытату з артыкула айчыннага гуру посткаланіяльніях доследаў «Генеалогія Беларускай ідэі» (2005). У ліку аргументаў І. Бабкоў указвае на тое, што «Купала не супрацьпастаўляе каланіяльным персанажам антыкаланіяльныя — стратэгія Купалы больш вытанчаная: ён сутыкае розныя дыскурсы, розныя веды і розныя мовы, мяшае іх» (с. 73).

Магчыма, гэта толькі справа густу, прычым не метадалагічнага нават, а чыста лексічнага, але тэзаўрус «посткаланіяльных доследаў» у дачыненні да «Тутэйшых» Янкі Купалы выглядае неяк збыткоўна інавацыйна. А магчыма, справа ў сутыкненні дыскурсаў у межах манаграфіі, паколькі зусім побач з посткаланіяльнымі штудыямі знаходзім асвечаныя духам (літаратуразнаўчай) класічнасці развагі аўтара манаграфіі пра склад нацыянальнай ідэнтычнасці «ў творах Янкі Купалы, Прарока нацыянальнага адраджэння», якая аб'ядноўвае «такія важныя аспекты… як ідэя нацыянальнай самабытнасці і незалежнасці, ідэя пра велічнае мінулае краю, міф пакутаў (забранага краю)» (с. 73).

Якраз безэмацыйнасць гэтага суседства, пра што так марылі прыхільнікі неапазітывісцкага шляху развіцця гуманітарных ведаў, стварае даволі дзіўны аптычны эфект. Калі далей вядзецца гаворка пра тое, што «М. Гарэцкі даследуе механізмы каланізацыі, вынішчэння нацыянальнага "Я"» (с. 74), пачынаеш разумець, як сучасны тэзаўрус, метамова гуманітарыстыкі можа ўплываць на вобраз гісторыі, самым што ні на ёсць *рэальным* чынам яго змяняючы.

Разам з тым, сёння становіцца відавочна, што зварот да метадалагічнай камбінаторыкі ў значнай ступені абумоўлены спецыфікай інфармацыйнага грамадства з яго арыентаванасцю на пастаяннае памнажэнне культурнай

[1] У гэтым выпадку маецца на ўвазе адзін з падыходаў да вывучэння нацыянальнага.

разнастайнасці. У гэтай сітуацыі можа (вы)жыць толькі той, хто абазнаны ў стратэгіях так званага складанаснага мыслення (М. Кастэльс), здольных выпрацаваць метадалогію разумення разнастайнасці і метамовы для апісання гэтай разнастайнасці. Паказальна ў гэтым сэнсе, што засяроджанасць А. Мельнікавай на «мастацкай кадыфікацыі» нацыянальнага звязана, у ліку іншага, з аналізам і апісаннем тых інтэрпрэтацыйных стратэгій, якія «дазволілі б прачытаць і “расшыфраваць” схаваныя ў літаратурным творы нацыянальныя культурныя коды» (с. 17). Зрэшты, дух класічнасці лунае над раздзеламі, дзе «асэнсоўваецца мастацкая гістарыясофія беларускай літаратуры, канцэпцыя Беларускага шляху» (с. 2), з асаблівай пільнасцю. Калі наогул можна асобныя метадалагічныя міксы назваць «экзотыкай», то яна лакалізуецца ў першым раздзеле «Тэарэтычныя аспекты праблемы», адкуль аўтар манаграфіі, лішне не марудзячы, выводзіць чытача да асноўных падзей «рамана сталення» — уласна да аналізу шляхоў і спецыфікі канцэптуалізацыі, мадэлявання і мастацкай кадыфікацыі нацыянальнага ў беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя.

У якія б сюжэтныя адгалінаванні-калізіі ні збочваў чытач (следам за аўтарам манаграфічнага «рамана сталення»), адусюль ён выйдзе па знаках-указальніках да ключавой ідэі пра нацыяцэнтраваны характар беларускага літаратурнага… усяго (і працэсу з усімі складнікамі, і літаратурасофскага дыскурсу):

«Літаратуразнаўчая рэфлексія першай трэці XX стагоддзя мае выразную нацыяцэнтрычную скіраванасць» (с. 23);

«У якасці нацыянальна кадыфікаванага топаса ў работах беларускіх публіцыстаў і крытыкаў выступае Вільня» (с. 46);

«У ідэнтыфікацыйны код беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя закладваецца канцэпцыя трагедыйнага лёсу нацыі, што тлумачылася геапалітычным становішчам краю і неспрыяльнымі гістарычнымі ўмовамі» (с. 83).

У кантэксце размовы «пра фарміраванне мастацкага аўтавобраза Беларусі» (раздзел 3 «Мастацкая мадэль нацыянальнага быцця ў беларускай прозе першай трэці XX стагоддзя») А. Мельнікава, па сутнасці, разгортвае (у сваім лаканічна-рашучым стылі) «панарамны канспект» (ці канспект панарамы) літаратурнага працэсу пачатку XX стагоддзя на фоне грамадска-палітычнага і культурнага жыцця. З кожнай новай часткай (параграфам і раздзелам) гэты «канспект» набывае абрысы хронікі нацыянальнага міфатварэння:

«Абавязковым кампанентам твораў беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя з’яўляецца, як правіла, апісанне прыроды роднай краіны, сакралізацыя нацыянальнага ландшафту. Пісьменнікі звяртаюцца да выяўлення прыгажосці родных краявідаў як антытэзы нацыянальнаму становішчу» (с. 115);

«Рэшткі паганства ў нацыянальным светапоглядзе выразна наглядаюцца ў абагаўленні прыродных з’яў, веры ў розных міфічных істот. Матыў “патаемнага” — скразны ў творчасці беларускіх пісьменнікаў (М. Багдановіч, М. Гарэцкі і інш.)» (с. 135).

Разгляд нацыянальнага светапогляду праз прызму літаратуры ў адпаведным раздзеле падсумоўваецца пералікам, па сутнасці, ключавых адзнак беларускага мастацтва слова адпаведнага перыяду. У іх ліку «народацэнтрычны канон, сакралізацыя нацыянальнага ландшафту, нацыянальна-спецыфічнага ладу жыцця, сцвярджэнне нацыянальных маральна-духоўных каштоўнасцей» (с. 136). Пры гэтым літаратурасофская оптыка натуральным чынам сумяшчаецца з гістарыясофскай: быццё галоўнага героя нашага «манаграфічнага рамана» — нацыянальнай ідэнтычнасці — адсочваецца адразу ў некалькіх сістэмах каардынат, як бы ў некалькіх вымярэннях.

На адной старонцы манаграфіі (падраздзел «Гістарычны лёс беларускай нацыі праз прызму твораў М. Гарэцкага») змясцілася, па сутнасці, мініяцюрная канцэпцыя нацыянальнай мастацкай гістарыясофіі, якая разглядаецца А. Мельні-

кавай як прастора фарміравання і трансляцыі «пэўнай ахоўнай ідэалогіі, накіраванай на захаванне беларускай самасці» (с. 138).

Згаданая мініяцюрызацыя, дарэчы, закранула выключна план формы, план зместу не пацярпеў, г. зн. маецца ўсё, без чаго нельга сабе ўявіць любую прыстойную канцэпцыю. Так, на падставе аналізу передумоў і фактараў узмацнення гістарыясофскай праблематыкі акрэсліваецца «вызначальная інтэнцыя нацыянальнага прыгожага пісьменства першай трэці XX стагоддзя — сцвердзіць Беларусь і беларускасць, агучыць нацыянальныя маральныя і светапоглядныя каштоўнасці. Галоўная “эпічная падзея” (Г. Штонь) — паўстанне Беларусі» (с. 138). Пры гэтым у якасці структураўтваральнага кампанента прозы адпаведнай праблематыкі вызначаецца яе нацыясофская скіраванасць.

Натуральнасць кампанентнага складу беларускай ідэнтычнасці пацвярджаецца літаратурна-мастацкай фактаграфіяй так пераканаўча, быццам аўтар манаграфіі аперыруе не цытатамі з раманаў ды апавяданняў, а рэчыўнымі доказамі. Так, натуральнасць шматкультурнасці ілюструецца з дапамогай розных эпізодаў аповесці Змітрака Бядулі «У дрымучых лясах», у хранатопе якой ёсць усё і ўсе: «рабіны, прадаўшчыкі ікон і крыжыкаў, прадаўшчыкі біблії і яўрэйскіх багамолляў, папы, ксяндзы…» (с. 81).

Некаторыя назіранні даследчыка наконт спецыфікі ментальна-псіхалагічных механізмаў і матрыц нацыянальнай ідэнтычнасці, калі іх экстрапаліраваць на прыгожае пісьменства, пачынаюць працаваць як «тлумачальныя матрыцы» агульных заканамернасцей літаратурнага развіцця. Напрыклад, заўвага, што «беларусу ўласцівы нявыхад за межы ўласнай тоеснасці, уласнай прасторы» (с. 110), можа разглядацца як фактар герметызацыі літаратурнай прасторы — адной з найважнейшых тэндэнцый развіцця нацыянальнага мастацтва слова на сучасным этапе.

Дакладны выбар аргументаў бачыцца адной з ключавых адзнак даследчыцкай стратэгіі аўтара манаграфіі, што рушыць звычайна ад уласнага меркавання да падмацавання яго фактамі (цытатамі, спасылкамі на гістарычныя з’явы, культурныя працэсы і г. д.):

«Для М. Гарэцкага важным было выхаванне дзейснага чалавека, які не толькі ўсвядоміў сваю нацыянальную прыналежнасць, але і мае здольнасці да актыўнага чыну. У “Родным карэнні”: “І ведай тады, што адным енкам ды стагненнем бядзе людской не паможаш… Помні, што каб другога вызваляць, трэба самому крэпкім быць, на сілы не ўпадаць, а то і самаго затопчуць…”» (с. 89).

Дакладная А. Мельнікава і ў ацэнцы ролі ды набыткаў літаратуры ў працэсе фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці: «…беларускія пісьменнікі першай трэці XX стагоддзя акрэсліваюць уласную мадэль дыскурсу (падкрэслена намі. — *І. Ш.-Б.*) нацыянальнай ідэнтычнасці, замацоўваюць вобраз беларуса як самадастатковага суб’екта гісторыі. Сведчаннем узмацнення суб’ектнасці беларускай нацыі выступала і паглыбленне філасофскага гучання беларускай прозы, вербалізацыя нацыянальнага духоўнага вопыту» (с. 94).

Даследчык, здаецца, выпрацаваў імунітэт да «мегаламаніі», якая амаль без выключэння маецца (у той ці іншай ступені) у кожнага гуманітарыя, захопленага прадметам вывучэння. Што перашкаджала б надзяліць пісьменнікаў акрэсленага перыяду функцыямі канчатковых і непераўзыдзеных «крэатараў» нацыянальнай ідэнтычнасці? (Асабліва калі ўлічыць, што погляд на беларусаў як на «нацыю вербальнай культуры» — адзін з тых вельмі нешматлікіх пунктаў, на якім лёгка сыходзяцца прадстаўнікі розных сегментаў сучаснага нашага гуманітарнага дыскурсу.) Дык вось галоўнай «перашкодай» у выпадку аўтара манаграфіі «Нацыянальна-светапоглядныя каардынаты беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя» становіцца класічны даследчыцкі «цвярозы розум», які настойвае, што варта гаварыць ні больш ні менш, але менавіта пра складванне адметнай сістэмы каардынат — інтэлектуальных, эстэтычных, мастацкіх: яна, з аднаго

боку, адчувала моцны ўплыў нацыянальнай мастацкай славеснасці, з другога, і сама ўплывала на трансфармацыі мастацкай славеснасці.

Імкненне да дакладнасці маўлення як адзнака індывідуальнага стылю даследчыка, як ужо згадвалася, мае вынікам эфект своеасаблівай безэмацыйнасці. Зрэшты, часам у тэкст манаграфіі дапускаюцца метафары — таксама строгія: «…этнічны стэрэатып “іншага” пэўным чынам уплывае на фарміраванне ментальнасці рэцыпіента, выступае своеасаблівым каталізатарам ідэнтычнасці» (с. 88).

Кожны падраздзел (не кажучы пра раздзел) манаграфіі падсумоўваецца высновай-абагульненнем. Як правіла, гэтыя высновы настолькі інфарматыўнашчыльныя, што іх шкада пакідаць выключна ў выглядзе славеснага тэксту. Яны, як падаецца, без асаблівых высілкаў могуць быць візуалізаваныя, прычым у розных жанрах: ад схемы ці структурна-функцыянальнай мадэлі — да дакументальнай стужкі. Гатовы ўзор кароткага сцэнару адной з такіх стужак утрымлівае, напрыклад, заключны абзац падраздзела «Фарміраванне мастацкага аўтавобраза Беларусі»:

«Такім чынам, кампанентамі мастацкага вобраза Беларусі, які афармляецца ў літаратуры першай трэці XX стагоддзя, выступаюць: канкрэтная тэрыторыя, якую вылучаюць пэўныя ландшафтныя і тапанімічныя прыкметы, геаграфічныя межы, топасы радзімы. Афармляецца міф паходжання, міф пра велічнае мінулае краю, складваецца пантэон гісторыка-культурных персаналій. Фарміраванне ўяўленняў пра структуру нацыянальнага “Я” адбываецца ў кантэксце філасафемы “Захад-Усход”. Істотным у мастацкім аўтавобразе Беларусі выступае канцэпцыя памежнага становішча краю. Беларусь у мастацкіх творах першай трэці XX стагоддзя паказана як краіна шматэтнічная і поліканфесійная» (с. 85).

Формульны кампанент высноў часам мае эффектам своеасаблівую «паэзію дакладнасці», калі прынцыповая шматзначнасць мастацкага сімвала ўзнікае на скрыжаванні вельмі адназначных, простых паняццяў:

«У творах беларускіх пісьменнікаў першай трэці XX стагоддзя падаецца своеасаблівая мадэль гарманічнага ўніверсуму: імкненне быць гаспадарамі на сваёй зямлі, імкненне да пабудовы жыцця ў адпаведнасці з іманентна ўласцівымі беларусам каштоўнасцямі, “свае на сваім”» (с. 116).

Аўтар рамана-манаграфіі фармулюе свае высновы ў манеры настолькі бесстароннай, анты-прэтэнцыёзнай, што нават думаць пра спрэчкі з ім неяк няёмка: «Такім чынам, адным са сродкаў фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці выступае і сам дыскурс (навуковы, мастацкі) аб праблемах нацыянальнага. Інтэнсіўны працэс выпрацоўкі парадыгмы нацыянальнага адбываецца як у мастацкіх тэкстах, так і ў беларускай крытыцы і публіцыстыцы першай трэці XX стагоддзя» (с. 65).

Зрэшты, гэтая суровасць, рашучасць можа быць проста аптычнай ілюзіяй. Можа, шоуцэнтрычны хранатоп настолькі прывучыў нас да гэткай «гуллівай барокавасці», нават ракайльнай манеры ўрэчаўляць у словах тое, што мільгаціць вакол нас (нават самае нявартае прамаўленне), што любая празрыстасць, імкненне да дакладнасці ўжо самі па сабе падаюцца пагрозлівымі, успрымаюцца як выклікі боствам складанасцей, якія па сумяшчальніцтве з’яўляюцца яшчэ і боствамі дробязей?..

Адно ясна: падобную ветліва-безуважную абыякавасць да (чытацкіх) чаканняў шоуцэнтрычнай эпохі можа дазволіць сябе далёка не кожны аўтар. Хіба толькі ім наўпрост не апякуецца Дух класічнасці.



Казімір КАМЕЙША

# СОНЦА БЫЛО ВЫСОКА

Калі б гэтыя радкі пісаліся гадоў шаснаццаць таму, зачын у іх быў бы значна весялейшы. Амаль столькі ўжо часу няма з намі таленавітага і непаўторнага Паўла Дубашынскага, няма сустрэч, а значыць, і няма яго заўсёдных жартаў. А некалі кожная сустрэча пачыналася з анекдота. Здагадваўся, што аўтарства гэтых вясёлых досціпаў належыць яму самому, але ні разу так і не адважыўся ў яго спытацца пра тое. Анекдоты, на жаль, маюць уласцівасць імгненна забывацца, але сёе-тое ў маёй памяці засталося.



*Павел Дубашынскі ў ролі Сымона-музыкі.*

Неяк пры сустрэчы, скардзячыся на прастуду і асіплы голас, Павел выказаў здагадку, што гэта вынік яго неасцярожнасці: прамачыў нядаўна ў нейкай паездцы ногі. І тут жа ўсё імгненна ён падсумаваў жартам: «Ногі прамочыш — горла не працуе. Горла прамочыш — не працуюць ногі». Што ж, жарт чалавека таксама лечыць, вядома, калі ты нутром сваім здаровы. А за горла ён непакоіўся, як-ніяк — гэта асноўны яго рабочы інструмент. Як жа выйдзеш на сцэну з сіпатым голасам?

Ці быў на самай справе Павел Дубашынскі чалавекам вясёлым, якога не надта прыгняталі нейкія жыццёвыя дробязі, няўдачы, няўладкі, ці, можа, тут была нейкая свая акцёрская затушоўка або ігра не сябе самога перад сябрамі і знаёмымі, а ўсё сапраўднае, толькі ягонае, заставалася за цяжкімі сховамі душы? Такая здагадка сама сабой напрошвалася.

Магчыма, і праўда Рыгора Барадуліна, які напісаў у развітальным вершы:

Жарт цябе бараніў ад самоты,
Смех цябе бараніў ад нуды.

Але нават і гэта ратоўная браня ўрэшце не вытрымала і не выратавала яго.

Той раніцай я ўключыў тэлевізар і пачуў знаёмы голас. Бадзёры і значна маладзейшы, чым быў ён апошнім часам. Павел Дубашынскі чытаў «Новую зямлю» Якуба Коласа і адначасна тым самым клікаў мяне дадому, адкуль я вярнуўся днём раней з бярозавікам. Але бярозавік, як здалося мне, быў не толькі халаднаватым, але і гаркаватым ад той сумнай весткі, якую я нечакана пачуў. Патэлефанаваў устрывожаны Мікола Чырык, дыктар Рэспубліканскага радыё і мой даўні сябар:

— Ты, можа, не ведаеш, няма Паўла Дубашынскага…

— Як няма? — ледзь не крыкнуў я ў трубку. Такія весткі заўсёды жахаюць, як маланка, з імі не адразу згаджаешся. Ну, як жа нечакана, раптоўна пайшоў з жыцця вялікі акцёр, найлепшы сябар, дарагі і незабыўны «наш Паша». Яшчэ зусім нядаўна ён тэлефанаваў мне дамоў, распытваў пра жыццё-быццё і папрасіў:

— Паглядзі абавязкова заўтрашнюю тэлеперадачу «Сёння з вамі». Там героем буду я. А з мяне, ведаеш, які герой? Потым скажаш сваю думку…

Назаўтра я паехаў у свае Малыя Навікі, і перадачу тую мы глядзелі разам з маці. Пра Паўла я расказваў маме і дагэтуль, калі мы слухалі па радыё ў яго запісе маю паэму «Галоўная вярста».

— Глядзі ты, які харошы чалавек. І просты, увесь наш, як усё роўна я яго даўно ведаю, — казала мама. Відаць, такая пахвала была б прыемнай самому Паўлу Піліпавічу. Гаворкі пра таленавітага акцёра хапіла ў нас тады на цэлы вечар. Мама, якая ні разу ў сваім жыцці не была ў тэатры, слухала мой расповед надта зацікаўлена. Я расказваў ёй пра артыста, але не зусім таго, якіх «паказваюць у кіно».

— Даўно збіраюся прывезці яго да нас у пушчу, — паабяцаў я тады маме.

— Прывязі-прывязі, — абрадавалася яна.

Ды ўжо ніколі не прывязу. Даўно адышла ў іншы свет і мама. А вось у памяці маёй вобраз артыста з кожным днём яго адсутнасці нібыта сам па сабе набывае ўсё больш выразнае акрэсленне, з расплывістага робіцца больш рэльефным, нібыта сам час і дамалёўвае ўжо знаёмы мне партрэт. Няўжо на падобнае здольны яго вялікасць час? Здавалася б, ён, наадварот, павінен згладжваць ці сціраць нейкія, дужа істотныя, дэталі і штрыхі, а пакідаць толькі найбольш уражлівае для памяці. А можа, гэтаму паспрыялі спавядальныя вершы ягонай дачкі Ірыны, якую мы нядаўна прымалі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі? Ёсць тут, напэўна, тое самае роднае, генетычнае. Вось прачытаў іх, і на душы усё так ускалыхнулася, нібыта пабачыў і яго самога:

«Пані Ірэна, Пані Ірэна,
Мо нарадзілася ты недарэмна!» —
Тата казаў мне.
Дзе твае вочы, пані Ірэна?
Плакала ноччу доўга, напэўна…

І сапраўды, у радках дачкі адчулася інтанацыя бацькі, яго мяккі голас, з лёгкім задумлівым прыдыханнем. Я памятаю, як часта ён, нібы адкашліваючыся, ці то правяраў, ці то наладжваў яго на нейкі ўнутраны камертон, як гэта робяць спевакі, і тут жа паралельна штосьці такое распавядаў, ведаючы пры гэтым, што зацікавіць і пакліча да размовы і цябе самога. Нават таго, хто быццам і не жадае той размовы. Здаецца, менавіта так пачалося і наша з ім знаёмства. Тады ён быў ужо даволі вядомым акцёрам. Папрацаваўшы дванаццаць гадоў у Тэтры юнага гледача, ён арганічна ўліўся ў шчырую сям'ю купалаўцаў. Запрашэнне перайсці ў славуты Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ўспрыняў, вядома ж, з вялікай радасцю. Хто з маладых айчынных акцёраў пра такое не марыў?! Ён ужо меў званне заслужанага артыста рэспублікі. І поспех ягоны ў гледача быў сапраўды заслужаны.

«Акцёры — народ бедны», — чуў я тады не раз і ад саміх артыстаў, і ад нашага пісьменніцкага брата, які ў гзтым сэнсе пачуваў сябе куды багацей. Акцёра часцей за ўсё сваім даробкам выручала радыё, зрэдку — кіно. Павел Дубашынскі на радыё не тое што быў частым госцем, але і чалавекам сваім. Мастацкае слова ў тыя гады ў эфіры гучала даволі шырока. Штодзённа ў вяшчальнай сетцы прысутнічалі адна, а то і дзве літаратурныя перадачы. А мне, тады маладому радыйцу, даводзілася не толькі рыхтаваць тэксты, але і браць удзел у студыйных запісах перадач, а потым і іх рэдакцыйным праслухоўванні.

— Пашенька! Вот здесь ты не дотянул! — як цяпер, чую крыху манерны

голас рэжысёра Марыны Троіцкай. З рэжысёрам спрачацца дарэмна і апраўдвацца даводзіцца зноў жа праз той самы жарт:

— Галоўнае не перацягнуць, Марына Дзмітрыеўна.

У рэжысёра Соф'і Гурыч свае прынцыпы. Яна больш катэгарычная, але зноў жа ведае цану жарту. Рэжысёры на радыё працуюць па сваіх правілах, яны ў адрозненне ад тэатральных, магчыма, не такія амбітныя, але цану сапраўднаму акцёру ведаюць. Вядома ж, ведаюць і цану слову. Як без гэтага? Урэшце, і я, рэдактар, магу папрасіць: «Няхай гэтыя вершы пачытае Павел Дубашынскі!» Часта і прашу ад імя пісьменнікаў. Мне не адмаўляюць. Не памятаю такіх выпадкаў.

Як мы выйшлі на сяброўства? Неяк ён сам, зайшоўшы перад запісам у рэдакцыю, каб зняць нейкія пытанні, што ўзніклі пры знаёмстве з тэкстам, прапанаваў, проста на вуха шапнуў:

— Я доўга не затрымаюся на запісе. А потым вольны, дык, можа, пройдземся, пагамонім?

Я нават абрадаваўся такой прапанове і ўсё не мог зразумець, чаму заслужаны звярнуўся менавіта да мяне. Нас жа ў пакоі чацвёра. Ёсць нават яго равеснікі. А я яшчэ «салага», толькі вярнуўся з арміі, яшчэ нават не скончыў універсітэта. Не вершамі ж сваімі я спадабался яму. Пазней я зразумеў, што зближае нас наша дужа падобная вясковасць.

На запісе Павел, і сапраўды, доўга не затрымаўся. Мінула, напэўна, гадзіна, як ён патэлефанаваў па ўнутраным тэлефоне з драмблока, дзе вёўся запіс радыёчасопіса «Паэзія»:

— Я «адстраляўся» і зараз бягу.

Час быў восеньскі, але яшчэ з добрым летнім сонцам Я схапіў сваю «тэчку», якая заўсёды стаяла пад маім сталом, заўсёды «пры назе». У ёй ляжала ўжо загадзя падрыхтаваная пляшка, і мы пакіраваліся ў бліжэйшы сквер, ці як казалі тады, «да Марата Казея». Нейкі час сядзелі на зацененай лавачцы пад ліпай, потым доўга блукалі па ўзбярэжжы Свіслачы. Гэты шлях станецца звыклым, і мы будзем паўтараць потым яго неаднойчы. Многае з таго, пра што мы тады гаварылі, даўно забылася. Памятаю толькі, што я расказваў яму пра нашу пушчу, сваіх бацькоў. А ён мне прызнаўся, што яго бацькоўскі дом адсюль далекавата, што ад бацькоў сваіх ён мае нейкую капейчыну і збіраецца будаваць дачу, казаў, што блізка, пад Мінскам, якраз па дарозе на яго радзіму, яму выдзелілі ўжо невялікі ўчастак зямлі. Можа, таму, што ўсе нашы наступныя сустрэчы былі надта ж падобныя адна на адну, найбольш запомнілася гэта, першая. Неўзабаве я ўжо добра ведаў і біяграфію акцёра.

З'явіўся на гэты свет Павел Дубашынскі сакавіцкім днём 1931 года ў вёсцы Гарбуны на Шаркаўшчыне. Родны яго кут — даволі экзатычная па сваёй прыроднай красе мясціна на паўночным захадзе Беларусі. Шаркаўшчына якраз знаходзіцца ў цэнтры своеасаблівага ландшафтнага трохкутніка, утворанага Мядзельшчынай, Браслаўшчынай ды Глыбокім. Азёр тут амаль няма, цячэ адна рэчка Дзісна, якую мясцовы люд называе ласкава Дзісёнкай. Не абышлося без жарту, калі Павел расказваў мне пра сваю вёску. «Можа таму, — казаў ён, — і я крыху такі сутулы, нібы гарбаты, што нарадзіўся тут. Але дзяўчаты, казалі, у нас вельмі прыгожыя раслі». І яшчэ дадаваў: «А людзі тут жывуць добрыя, зычлівыя, берагуць і шануюць і традыцыі, і абрады даўнейшыя».

У 1938 годзе ён пайшоў у школу, але вайна на некалькі гадоў перапыніла вучобу. Але свае суровыя ўрокі давала і яна. Сярэднюю школу ён заканчваў ужо даволі дарослым, амаль дваццацігадовым дзецюком. Тады іх называлі пераросткамі. Былі перарасткі і на маёй, крыху пазнейшай памяці. Мы, малеча, пачуваліся між іх, як вераб'і пры буслінай чародцы. Пэўна, тая дабрыня людзей, што атулялі хлопца змалку, клала свой адбітак і на яго характар, а магчыма, і на яго талент, які, несумненна, у Паўла быў прыроджаным. А праявы яго добра праглядваліся ўжо тады, у дзяцінстве. Неяк у рукі хлопца трапіла мандаліна, і яна тут жа адгукнула-



*Сям'я Дубашынскіх.*

ся нейкай мелодыяй. Яго сусед дзед Журба іграў на скрыпцы і гармоніку, і Паша нечакана ўбачыў у ім добрага настаўніка. Некалькі ўрокаў дзеда далі свой вынік, і ўжо неўзабаве малы Дубашынскі заядла рэзаў польку ды кадрылю на вечарынцы ў вясковым клубе. А яшчэ ён сам складаў частушкі на вясковыя тэмы і часам так удала сыпаў імі перад тутэйшым людам, што «Пашку-артыста» запаважалі і нават прадказвалі яму ўдзячную музычную будучыню. Але ў хлопца была іншая мара.

У 1951 годзе Павел Дубашынскі, сабраўшы невялікую валізку, паехаў паступаць у Беларускі тэатральны інстытут. Вясковы хлапчына ў вельмі сціплым, наросхрыст, убранні не разгубіўся і зусім не згубіўся ў сценах тэатра оперы і балета, дзе месціўся тады тэатральны інстытут, і сярод іншых, сабе падобных, пачуваўся нават даволі ўпэўнена. Быў тады ў гэтым шумлівым гурце і будучы вядомы пісьменнік Іван Пташнікаў. Яны не паспелі пазнаёміцца, хоць разам здавалі эцюды Мардвінаву і Галіне. Першы пойдзе назаўсёды аднойчы абраным шляхам, другі, адразу перадумаўшы, зусім іншым. Але само жыццё зусім нечакана сутыкне іх, і тады яны абодва згадаюць лета 1951 года. Іван Пташнікаў прыпамінаў яго гэтак: «Летам, у 1973 годзе, рэжысёр Віктар Карпілаў здымаў тэлефільм «Тартак» па маім сцэнарыі. Памятаю эпізод у павільёне: артыстка Мая Булгакава — Наста — за швейнай машынкай, шые зімой белыя халаты партызанам, а яны, партызаны, валам валяць у яе дом пагрэцца. Сярод іх у нашай ваеннай форме — Сухаў — артыст Павел Дубашынскі.

Ён мяне і пазнаў: разам здавалі эцюды на ўступных экзаменах. Акружылі нас усе. Разгаварыліся.

Я кажу яму, стаў вось пісьменнікам, а калі б…

— Хто ведае, як склаўся б лёс... Цяжка сказаць. Але з такой фактурай у нас акцёра няма, — адказаў мне Паша».

А ў самога Паўла Дубашынскага была свая «фактура», падобнай якой таксама, як здаецца мне, няма ў нашай артыстычнай кагорце.

Тады ён паступіў у тэатральны інстытут і застаўся ў майстэрні Л. І. Мазалеўскай, якой дапамагалі І. Ф. Ждановіч і Б. Я. Вішкароў. У Мазалеўскай была свая творчая задумка: увесь курс (два дзясяткі студэнтаў) потым павінен папоўніць трупу Тэатра юнага гледача. Павел быў самым прыкметным сярод тых дваццаці. Хлопцу, які апынуўся ў сваёй стыхіі, не было патрэбы пазычаць энергіі і запалу. Ён спяваў пад гітару, сыпаў вершамі, быў, як кажуць, душою курса. Неўзабаве яго пачалі заўважаць і ў тэатральным асяроддзі. А пачынаючы з другога курса, яго голас часта гучыць на радыё. Ён удзельнічае ў радыёспектаклях, агучвае паэтычныя і празаічныя творы беларускіх аўтараў. Пашанцавала Паўлу Дубашынскаму з настаўнікам. Любоў Мазалеўская славілася выдатным педагогам і рэжысёрам. Што тычыцца сваіх вучняў, дык яна была і надта патрабавальнай, нават няўмеру строгай. Вучыла іх толькі на ўзорах тэатральнай класікі, улічваючы лепшыя традыцыі

нацыянальнага тэатра. Самую пільную ўвагу звяртала на валоданне роднай беларускай мовай, робячы акцэнт на фальклор, на этнаграфію Беларусі. Ужо на самым пачатку Мазалеўская беспамылкова разгледзела ў маладым Дубашынскім талент. Ці не з гэтай прычыны да яго і патрабаванні былі большыя, чым да астатніх.

Гады вучобы прабеглі незаўважна. 1956 год для Паўла быў выпускны. І тут яшчэ адно шанцаванне. Павел абараняе дыплом, яго разам з іншымі выпускнікамі накіроўваюць у той самы Тэатр юнага гледача, а яго ўзначаліла сама Любоў Мазалеўская. Адсюль і пачынаецца творчы рост маладога акцёра.

Тэатр таго часу меў беднаваты рэпертуар. Скіраваны ён быў не столькі на класіку, як на «гераічную сучаснасць», на ўсё, што ўслаўляе сацыялістычную яву. На чым жа яшчэ выхоўваць юнага гледача?! А таму засвяціцца нечым сваім, падкрэслена індывідуальным, было задачай звышцяжкай. І ўсё ж яго першыя ролі, чырвонаармеец Серада ў п’есе «Як гартавалася сталь» па М. Астроўскім, Косця («Твой шлях» В. Розава), Аляксей («Дзяўчына з вяснушкамі» А. Успенскага) былі адразу заўважаны ў тэатральным свеце. Малады акцёр з магчымасцю шматпланавага пераўвасаблення, здольны ствараць непаўторныя характары, з добрым адчуваннем нацыянальнага каларыту, з першых спектакляў звярнуў на сябе ўвагу. Схематызм, павярхоўнасць ужо даўно апрабаваных спектакляў у новай пастаноўцы з удзелам Паўла Дубашынскага нібы самі па сабе зніклі. Новы мастацкі кіраўнік ведала магчымасці свайго лепшага вучня. Адной з самых бліскучых надзей тэатра назваў П. Дубашынскага патрабавальны крытык Уладзімір Стэльмах. Малады акцёр акрамя ўсяго меў здольнасць здзіўляць сваім маладым запалам, незвычайным мяккім і цёплым голасам і каларытным беларускім вымаўленнем, чаго бракавала і масцітым артыстам. Да ўсяго ён яшчэ валодаў і дарам імправізацыі. Аўтарытэтны і таленавіты рэжысёр змагла ўсе гэтыя сакрэты і магчымасці спалучыць у вельмі арганічнае і гарманічнае суладдзе. І ўсё ж у творчым пошуку Мазалеўскую больш непакоіла іншая задача. Не хапала ў рэпертуары твора, які б стаўся ўласна сваім і быў сапраўдным адкрыццём не толькі ў тэатры, але і ў сваім часе.

У 1957 годзе ў газеце «Літаратура і мастацтва» з’явіўся ўрывак з п’есы «Папараць-кветка» нікому невядомага тады настаўніка з Маладзечанскага раёна Івана Козела. Нічога новага ў сюжэце твора быццам і не было. Тэма барацьбы беларускага народа за сваё нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне, за ўз’яднанне ў адзіную сям’ю гучала тады нярэдка ў нашай літаратуры. Ёй прысвячаліся раманы Піліпа Пестрака і Міхася Машары, паэтычныя творы Якуба Коласа, Максіма Танка, Валянціна Таўлая. А тут раптам — драма. Л. Мазалеўская адразу ўлавіла ў ёй і самае няўлоўнае. Гэта — тое ўнутранае, што зыходзіць ад самога аўтара, тая энергія, якой саграецца, а яшчэ і падсвятляецца самая непрываблівая звычайнасць. Неўзабаве п’еса ляжала на рабочым стале ў Мазалеўскай. «Гэта наша, гэта якраз тое, што нам трэба», — загарэлася рэжысёр. Пачалася ўпартая мэтанакіраваная штодзённая праца над новым спектаклем. А ўжо праз год спектакль «Папараць-кветка», пастаўлены Тэатрам юнага гледача, на Усесаюзным фестывалі тэатраў у Маскве быў адзначаны як лепшы з нацыянальных і атрымаў дыплом першай ступені. Павел Дубашынскі выконваў у ім адну з галоўных роляў парабка Лявона. Вобраз свайго героя акцёр дамалёўваў толькі яму ўласцівымі мастацкімі сродкамі, дапаўняў яго нечаканымі і даволі характэрнымі штрыхамі. П’еса нібыта, сапраўды, пісалася пад яго. Яна была вытрымана ў традыцыях народнай творчасці і ў сучасным тэатры не траціла свайго народнага гучання.

Пра новы спектакль у Тэатры юнага гледача шырока пісала тады тэатральная крытыка. А ў чацвёртым нумары часопіса «Маладосць» за 1958 год п’еса Івана Козела «Папараць-кветка» была надрукавана поўнасцю. Літаратурная грамадскасць вітала прыход у літаратуру новага драматурга, а свет тэатральны радаваўся поспехам маладога айчыннага тэатра. Прэм’ерай драмы тады адразу ўдала дэбютавалі ажно тры творцы: драматург Іван Козел, артыст Павел

Дубашынскі і рэжысёр Любоў Мазалеўская. Гэтаму твочаму трыумвірату было суджана парадаваць гледача яшчэ адным спектаклем па п’есе Івана Козела — «Над хвалямі Серабранкі». Тут Павел Дубашынскі бліскуча выканаў ролю Фёдара Жыгліцкага.

У 1962 годзе я быў студэнтам другога курса БДУ. Неяк Рыгор Семашкевіч, з якім мы жылі ў адным пакоі ў інтэрнаце на Свярдлова, падгаварыў нас на незвычайны культпаход.

— Давайце сходзім на спектакаль па п’есе майго земляка, — неяк зусім нечакана прапанаваў ён, і мы, усе пяцёра жыхароў пакоя, адразу пагадзіліся. Мы ведалі, што п’есу напісаў вясковы настаўнік, і гэта асабліва падагравала нашу цікаўнасць, бо і самі рыхтавалі сябе да настаўніцтва. Тым больш, што Козел у той час быў фігурай у добрым сэнсе «нашумеўшай». Памятаю, якімі воплескамі віталі гледачы самыя напружаныя і дынамічныя сцэны ў спектаклі. Павел Дубашынскі менавіта запомніўся з таго спектакля «На хвалях Серабранкі». Сёння думаю, што вобраз Жыгліцкага быў вельмі блізкім акцёру. Народны тып такога кшталту можна было сустрэць не толькі ў Канчанах, роднай вёсцы драматурга (дарэчы, першапачаткова п’еса так і называлася — «Канчане — суседзі мае»), але і ў Паўлавых Гарбунах, ды і ў любой заходнебеларускай вёсцы. Думаю, не выключэнне тут і мае Малыя Навікі.

За дванаццаць гадоў працы ў тэатры Павел Дубашынскі стварыў цэлую галерэю, больш як 30 яркіх і запамінальных, казачных і рэальных вобразаў. Сапраўдны поспех спадарожнічаў артысту ў ролі Перасыпкіна ў спектаклі «Клоп» па п’есе У. Маякоўскага. Карыстаючыся гратэскнымі фарбамі, арганічна спалучаючы рэальнае з фантастычным, акцёр стварыў сатырычны вобраз незвычайнай вастрыні. Перад намі мярзотнік і інтрыган, здольны выкруціцца ў любых абставінах. Стварыўшы гэты вобраз, П. Дубашынскі яшчэ раз даказаў, што здатны ў сваіх пошуках на многае. А самае галоўнае, што акцёр нідзе не паўтараўся, ад спектакля да спектакля ён нібыта перайначваўся, дамалёўваючы, дапаўняючы ўжо звыклы партрэт свайго героя.

У 1966 годзе Паўла Дубашынскага запрасілі ў Купалаўскі тэатр. Было ганарова, але і адказна пачуваць сябе ў новым, праслаўленым калектыве, дзе тады яшчэ працавала цэлае класічнае сузор’е айчынных аўтарытэтаў. Дубашынскі без асаблівых праблем уліўся ў рэпертуар тэатра. Напачатку ў яго былі зусім не адметныя ролі ў «Рудабельскай рэспубліцы» С. Грахоўскага, «Адкуль грэх» А. Петршкевіча, яшчэ ў некалькіх спектаклях.

Але ўсё гэта, як лічыў ён сам, было вельмі падобнае на ўваходзіны ці нейкія подступы да самага галоўнага.

Падчас аднаго з нашых чарговых прагулянняў па ўзбярэжжы Свіслачы Павел між іншым прызнаўся мне, што апошнім часам ён усю сваю ўвагу аддае адной вельмі важнай ролі, якая яшчэ толькі ў распрацоўцы, шліфуецца і даводзіцца да кандыцыі. Дарэшты свайго сакрэту ён раскрываць не пажадаў, толькі сказаў: «Хутка пабачым!» Але яшчэ раней у літаратурных і тэатральных кулуарах пайшлі чуткі: Кандрат Крапіва нарэшце «выбухнуў» новай камедыяй. Было чаму здзіўляцца. «Брама неўміручасці» сапраўды для многіх і ў многім сталася творам нечаканым. А вось Паўлу Дубашынскаму пашанцавала ў гэтым спектаклі на галоўную і «надта сваю» ролю Дабрыяна. Закруціў, як тады казалі, класік. Згодна з сюжэтам ягоны герой вучоны Дабрыян вынайшаў сродак бяссмерця. Да яго адзін за адным прыходзяць тыя, хто хоча атрымаць вечнае жыццё. Трэба прызнаць, што выканаўца не адразу поўнасцю ўлавіў увесь сэнс аўтарскай задумы.

Тут варта пагадзіцца з тэатразнаўцам Юрыем Сохарам, які зазначае: «...На першых прэм’ерных спектаклях яго (Дубашынскага. — *К. К.*) Дабрыян быў, сапраўды, «дабраком», які гатовы кожнага, хто пажадае, адарыць унікальным адкрыццём. Але хутка Дабрыян П. Дубашынскага перамяніўся: сюжэтная аснова засталася ранейшай, а вобраз стаўся жорсткім.



*Сцэна з тэлеспектакля «Ля сіняй бухты».*
*Павел Дубашынскі ў ролі Максіма Багдановіча.*

Акцёр тлумачыў гэта так: «Доўгі час я не мог разабрацца «ў падводных» сакрэтах камедыі. А потым дайшло. Бо ўсе тыя, хто прыходзіць па бяссмерце, увасабляюць сабой зло, а значыць, яны «мараюць» сабой Дабрыяна. «Раскусіўшы» гэта, я адразу ж надзяліў свайго героя іншымі моўнымі інтанацыямі і нават пластыкай. Магчыма, вось чаму ў вобразе з'явілася некаторая «жорсткасць». Маё існаванне стала больш камфортным, ды і глядач больш даверліва пачаў адносіцца да такога Дабрыяна…»

І сапраўды, да новага вобраза акцёр падступаўся нібыта двума заходамі. У першым выпадку ён зыходзіў з імя самога героя. Дабрыян — значыць, чалавек дабрыні, гэткі добры Ян. Аднак яшчэ адно ўважлівае прачытанне п'есы навяло яго на аўтарскі падтэкст. Дабрыян у іншым асэнсаванні стаўся даспадобы гледачу, які з большым даверам пачаў успрымаць знаёмы вобраз. Не часта, але такое здараецца, калі новы твор пачынае сваё першае апрабаванне на сцэне. Дарэчы, Павел Дубашынскі належаў да тых акцёраў, якія не церпяць ніякай застыласці пры стварэнні вобраза. Сумна хадзіць усё сваё жыццё ў адной і той жа світцы. Праўда, нельга і перакройваць тую класічную світку пад новую сучасную моду, як сёння сёй-той робіць у сучасных тэатрах. Усюды павінна існаваць свая мера і разам з тым нішто не павінна перашкаджаць творчаму пошуку.

Можна пералічваць самыя розныя спектаклі, самыя розныя ролі, дзе найбольш ярка праявіўся талент Паўла Дубашынскага, і ўсюды абавязкова знойдзеш толькі яго, асабістае, нідзе яшчэ да гэтага не бачанае. Як адну з самых лепшых прац, па прызнанні крытыкі, патрэбна лічыць ролю Князя («Дзядзечкаў сон» па Ф. Дастаеўскім). Тут, як казаў сам акцёр, яму было дзе разыграцца. Было дзе разыграцца і ў «Пагарэльцах», і ў «Трыбунале» Андрэя Макаёнка, і ў «Мудрамеры» Мікалая Матукоўскага. Цяжка ўсё і пералічыць, дзе быў задзейнічаны таленавіты акцёр.

Бадай, самае важнае ў прафесіі акцёра — гэта ўменне пераўвасабляцца. Не, гэта не тое самае, калі кожны дзень чалавек мяняе новы гарнітур. Даецца гэтае ўменне коштам цяжкой і штодзённай працы, яшчэ назіральнасцю артыста. Нават паходку свайго героя трэба прыдумваць, шукаць самому, падгледжваць і часам знаходзіць яе зусім выпадкова. Паходку некаторых сваіх герояў, прызнаваўся

Павел, ён знаходзіў у гарадскім натоўпе, а то і на сваім лецішчы. Памятаю, калі неяк ён згадваў сваю сустрэчу з вядомым паэтам у вечаровым парку імя Горкага, дык так дакладна перадаваў і паставу, і ўсе рухі таго, хоць не называў прозвішча, што я беспамылкова пазнаў, хто гэта быў.

Назапашванне дэталей, штрыхоў, нейкіх няўлоўных рысак чалавечага характару адбывалася пастаянна і спакваля. Знайшоўшы, ён ужо наперад ведаў, што і дзе яму можа спатрэбіцца. Такое самаўзбагачэнне заўсёды неабходнае кожнаму мастаку, і гэта ёсць яго абавязковы клопат і пошук адначасова.

Неяк у вольны ад тэатра дзень ён зайшоў да нас у рэдакцыю «Маладосці», і мы потым доўга блукалі з ім па шумлівых вуліцах горада, аж пакуль не забрылі ў ягоны гараж. Сцены там былі густа ўвешаны афішамі з партрэтамі артыста, адпачываў пасля нядаўняй дарогі яго бывалы «Масквіч». Усеўшыся на старэнькую канапу, мы пачалі накрываць надта мужчынскі стол, і тут ля зачыненых дзвярэй нешта зашамацела. Павел адчыніў дзверы, і ў гараж забег ваўкаватага складу рыжы сабака.

— Сябра мой, — пасмяяўся Павел Піліпавіч і пачаў шукаць нейкую сабачую пачостку. За ўвесь час, пакуль мы сядзелі, сабака забягаў некалькі разоў, нібы папярэджваў, што зараз зойдуць і яшчэ госці. А іх у той вечар хапала. Заходзілі і са сваім пачастункам, і проста, каб павітацца ці параіцца.

— Тут для мяне яшчэ адзін тэатр, — казаў гаспадар. А пасля расказваў пра кожнага наведвальніка нешта сваё, надта ўражлівае, і я пагадзіўся зноў з даўняй ісцінай, што чалавек багаты настолькі, наколькі багата ён мае сяброў. Больш за тое, мне здалося, што сам я за той вечар у гаражы намнога пабагацеў душой, бо пазнаёміўся з надзвычай цікавымі людзьмі.

Купалаўскаму тэатру Павел Дубашынскі аддаў больш за трыццаць гадоў. Тут ён атрымаў званне народнага артыста Беларусі, тут сыграў і свае самыя галоўныя ролі. Я не магу сцвярджаць, што талент яго ў сценах нацыянальнага тэатра раскрыўся поўнасцю. Магчыма, яго чакалі яшчэ новыя, зусім нечаканыя ролі. Але я магу сцвярджаць, што талент ягоны быў шматпланавы. А яшчэ тое, што ў ім усё больш і больш нагадваў пра сябе і Дубашынскі-пісьменнік. Нездарма душою ён так цягнуўся да пісьменніцкага асяроддзя. І сяброў, як здаецца мне, сярод пісьменнікаў у яго было больш, чым у асяродку артыстаў.

— Паслухай, які выраз: «Сонца на качаргу», «Сонца было на качаргу»… Гэта наша, шаркаўшчынскае, — з захапленнем казаў ён.

— Кожны б пісьменнік за яго з радасцю схапіўся, — згаджаўся я. — Але права на яго тут толькі тваё. Пішы!

— І напішу, — смяяўся ён. І тут жа расказваў пра тры навелы, якія ён задумаў. Як потым я даведаўся, гэта прызнанне рабіў ён не толькі мне аднаму. Пазней у дзённіках Уладзіміра Караткевіча вычытаў: «Першы візіт, якому рады. Прыйшоў Павел Дубашынскі.

Пайшоў вечарам. Адзін з самых таленавітых людзей, якіх я ведаю. І не толькі як акцёр, ён якраз менш за ўсё грае, хіба толькі сваю слаўную душу. Гэта ж… дзядзькі такія бываюць на вёсцы: гавораць — заслухаешся, салавей, калі можна ўявіць салаўя з пачуццём гумару, і ўсё гэта робяць, як кажуць, не для хлеба куса, а для пана Езуса.

Расказваў такія гісторыі, што смяяцца і плакаць хацелася і — жывая праўда, якой не выдумаеш, хоць язык адкусі, хоць бэркавец паперы з’еш. І разумны, як не толькі мала хто з акцёраў, а і мала хто з пісьменнікаў. Мабыць, некаторыя і не вераць. А я веру, бо талент на незвычайныя здарэнні. Як і ў мяне. Трапіш, а пасля сам здзіўляешся.

І які талент увогуле. Расказаў чатыры голай праўды гісторыяў, якія, каб запісаць так, як ён расказваў, — цаны б ім не было. Локці кусалі б усе нашы г… і нават тое, што выпіў крыху, лепей за іхнюю, на людзях, цвярозасць. Як шкада, што прападуць! З усім трагізмам, гумарам, чалавечнасцю. Праўду кажуць, калі

таленавіты, то нават дровы таленавіта сячэ, нават малюе — на ўсе рукі майстар. А так, мабыць, і трэба.

Калі я не ўгавару яго, лайдака, прапалі для Беларусі чатыры навелы, якіх ніводная літаратура не нюхала».

Не, здаецца, не прапалі тыя навелы. Праўда, толькі тры: «Палялейкі», «Сонца на качаргу» і «Яблыня на дзедавай магіле». Чацвёртая, пра свой навагодні дзіцячы «грэх», засталася недапісанай.

Чытаючы тую ж навелу «Сонца на качаргу», так выразна адчуваеш і душу аўтара, мяккую, трапяткую і чуллівую. Гэта ж так моцна прывязана яна да свайго, роднага, што ніводнай драбніцы не можа абысці, каб пяшчотна не сабраць у адзін вузельчык памяці. Дык што гэта за пара такая — на качаргу? Давайце даведаемся: «Гэта спакойны, няспешны час, калі ратай адчэпіць ворчык ад плуга, апошні раз акіне вокам узаранае поле, па-гаспадарску прыкіне: «Папрацаваў няблага», а конь, яго асноўны памочнік, паслухмяны і старанны, апусціць сваю цяжкую галаву, з прыхрапам уздыхне і таксама падумае аб тым жа. Гэта тая пара дня, калі бацяны, пары тры-чатыры, набіраючы вышыню, павольна кружаць у небе, аглядаючы перад выраем роднае наваколле, прыкмячаючы арыенціры, па якіх яны вернуцца вясной у дарагія мясціны». «Рупліўцу-селяніну заўсёды мала часу і ён гатовы прасіць-маліць дзённае свяціла, каб яно яшчэ хоць крыху, на нейкую там сялянскую «качаргу» працягнула яго працоўны дзень, каб ён з пачуццём задаволенасці за сваю справу рушыў дамоў». «А магчыма, — кажа аўтар, — гэта само сонца надвячоркам затрымліваецца на імгненне, каб агледзець, ацаніць, аддзячыць селяніну за працу, зробленую пры яго святле».

Уражлівая душа здольная маляваць калісьці ўбачанае вобразна і запамінальна. Ёсць адчуванне і тваёй прысутнасці ва ўсім гэтым, што малюе нам аўтар. У іншым абразку «Палялейкі» нас заварожвае сама звычайнасць простай беларускай вёскі: «Адтуль (з вёскі. — *К. К.*) заўсёды веяла спакоем, упэўненасцю, нетаропкай руплівасцю… Я ўглядаўся ў мужчын, і яны асветленыя вечаровым сонцам, здаваліся веліканамі, калі махалі косамі на прырэчным лужку, а за імі матляліся яшчэ больш даўжэзныя цені. І прозвішчы ў іх былі незвычайныя: Гардзяі, Лешкі, Лялекі…

Асабліва ўражвалі Палялейкі, калі чырвоным кошыкам падымаўся месяц і паказваў сваю пачварную ўхмылку, скрыўленую вечаровымі аблокамі, аздобленыя яго святлом, сілуэты дрэў набывалі формы дзіўных касцёлаў і цэркваў, нябачаных, небывалых гмахаў…»

Любы творца пазайздросціў бы такому незвычайнаму паэтычнаму малюнку. Адкуль яно ў аўтара? Магчыма, гэта тыя самыя нябачныя старонкі душы, якія ніколі не разгорнеш на сцэне. Тут заўсёды патрэбен аркуш чыстай паперы. Магчыма, сама прырода і падказвае творцу сваё выйсце. Сёння да ўсяго гэтага даходзіш нейкімі здагадкамі. І часам робіцца шкада, што на такія тэмы, сустракаючыся, мы гаварылі мала. Але не трэба і здагадак. Тое, што ён быў вялікім прыродалюбам, меў душу тонкага лірычнага адчування, відаць і з вышэй прыведзеных прыкладаў.

Апошні раз мы бачыліся з ім у Купалаўскім тэатры на спектаклі па п'есе М. Матукоўскага «Мудрамер», дзе ён выконваў ролю Залівакі. Незадоўга да гэтага мы сустрэліся ў рэдакцыі часопіса «Маладосць». Тады ён падараваў мне кантрамарку на спектаклі з яго ўдзелам, якая захоўваецца ў мяне і сёння. Потым утраіх, са мной была і мая жонка, яшчэ доўга сядзелі ў тэатральным буфеце, вялі гаворку пра жыццё, якое так па-рознаму складваецца ў кожнага з нас. Гаварылі яшчэ потым і па дарозе дамоў. Чамусьці і яму, і мне хацелася выгаварыцца. А назаўтра я збіраўся ў вёску…

Я перакананы, мала хто з акцёраў мог данесці да слухача пісьменніцкае слова так, як гэта ўмеў ён. У апошнія гады жыцця голас акцёра пачаў садзіцца. Неяк у жывым эфіры ён не змог нават дачытаць да канца тэкст. Дужа перажываў ад гэта-

га. Нікому не прызнаваўся, але яно збоку было добра відаць, бо замест ранейшых жартаў, Павел Піліпавіч хмурыўся і маўчаў.

У ноч з 1 на 2 красавіка 2000 года Павел Піліпавіч Дубашынскі нечакана для ўсіх пайшоў з жыцця. У перадсмяротнай запісцы яго рукой было напісана: «Вось ізноў прыйшла вясна…»

Вясна прыйшла ўжо без яго. А сонца на жыццёвым небасхіле было яшчэ высока, магчыма, намнога больш, чым «на качаргу». Я і сёння бяруся сцвярджаць, што быў ён чалавекам усебакова таленавітым. Перакананы я і ў тым, што з яго мог атрымацца зусім нядрэнны празаік лірычнага плана. Пайшоў з жыцця незвычайны, зусім няпросты просты чалавек, памяці якога хацелася б адрасаваць і гэтыя свае радкі:

Не, не праспаў, не заснуў,
Нават сабе не паверыў.
Вось і вясна, ды ў вясну
Не адчыняюцца дзверы.

Разам і слёзы, і снег
У ручаіны сцякаюць,
Разам плывуць па вясне
З чоўнам труны і вянкамі.

Боль нашых вёснаў і зім
Не перакажаш вачыма.
Снег твой сплывае, як грым,
З поля твайго, Айчына.

Сыдзе Дзісёнкай твой лёд,
Выткуцца долы кілімам.
З гулам, распевам грымот
Стрэну цябе я без грыму.

Крокам у такт раўчука
Дзень мой ніяк не патрапіць
Нам бы шукаць і шукаць.
Мы толькі трацім і трацім…



Алесь МАРЦІНОВІЧ

# НЕ ЎСЕ РАНЫ ЗАЖЫВАЮЦЬ

Невялічкі зборнічак «Раўнавага» ў той даўняй, пачатковай яшчэ серыі «Першая кніга паэта», якую некалі выпускала выдавецтва «Беларусь». Праўда, выдаўцы не надта клапаціліся, каб больш шчодра даць плошчу маладым аўтарам, адводзілі для іх зборнікаў звычайна нейкі адзін улікова-выдавецкі аркуш. Хоць, прыгадваючы сённяшнюю сітуацыю, і за такі падыход трэба сказаць ім дзякуй, бо даўно канула ў нябыт згаданая серыя. Дый кніжкі паэзіі ў дзяржаўных выдавецтвах амаль не выходзяць. Нават масцітых паэтаў, а што ўжо казаць пра тых, хто толькі ўваходзіць у літаратуру.

Тады С. Блатун не стаў выключэннем. Яму прапанавалі такі ж аб'ём, як і іншым, хоць на час дэбюту ў гэтай серыі ён меў за плячыма ўжо трыццаць адзін год. Памятаю, як у тым жа 1968 годзе, калі ягоны зборнік выйшаў, паспяшаўся прарэцэнзаваць яго. Не ў якую-небудзь газету сваю рэцэнзію паслаў (хадзіць па рэдакцыях не любіў), а ў «Літаратуру і мастацтва» — штотыднёвікам яна, як вядома, стала пазней, у красавіку 1970-га.

Праз некалькі дзён пасля таго, як адправіў у «ЛіМ» пісьмо… Не, мой чытацкі водгук не быў надрукаваны. Рэдакцыя палічыла і залішнім перапісвацца з нейкім там студэнтам, няхай і лічы ўжо і выпускніком факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. І ўсё ж без «рэцэнзіі» на маю рэцэнзію не абышлося.

Нечакана ў рэдакцыю газеты «Чырвоная змена», дзе я тады праходзіў вучэбную практыку, завітаў сам С. Блатун. У «Чырвонцы» ён падпрацоўваў літаратурным кансультантам. Нечакана не толькі таму, што літкансультанты штодня на работу не хадзілі. Нечакана, бо гэтае з'яўленне яго было непадобнае на ранейшыя. Адчувалася, што ён нечым не тое, што асабліва заклапочаны, а ўзбуджаны. Раптам не стрымаўся, выцягнуў з кішэні некалькі лісткоў паперы — я адразу пазнаў, што гэта мая пакамечаная рэцэнзія — і са злосцю сказаў, звяртаючыся да мяне: «Ат! Нічога ты ў паэзіі не разумееш…»

Мне адразу стала сорамна за сякія-такія заўвагі, зробленыя яму. А яшчэ больш прыкра, што супрацоўнікі тагачаснага «ЛіМа» парушылі звычайную журналісцкую дый проста чытацкую этыку. Хоць спакуса была і вялікая: С. Блатун яшчэ працаваў у «ЛіМе», то чаму б, палічылі яны, не ўвесці свайго таварыша ў курс справы. Таму і паказалі яму мой водгук на ягоную кнігу. Канешне, гэта было б яшчэ паўбяды, калі б у водгуку была толькі станоўчая ацэнка. Як любіў казаць незабыўны фотакарэспандэнт «ЛіМа» Уладзімір Андрэевіч Крук, з якім мы пасябравалі, калі я прыйшоў на працу ў штотыднёвік у 1972 годзе: «З падыходам і кот гарчыцу есць». А тут нейкі студэнт сумняваецца ў мастацкіх творах, многія з якіх перад гэтым друкаваліся ў перыёдыцы. Было С. Блатуну ад чаго занепакоіцца.

Цяпер, калі мінула столькі гадоў, выпадак я гэты ўспрымаю інакш, чым тады. Шчыра прызнаюся: ведаў бы, што аўтар кнігі «Раўнавага» працуе ў «ЛіМе», ні за што не прапанаваў бы гэтай газеце рэцэнзію на яго. Не, я не збіраюся адмаўляцца ад заўваг, выказаных тады аўтару «Раўнавагі», — той асобнік зборніка ў мяне захаваўся, прытым з даўнімі паметкамі алоўкам. Дарэчы, такой практыкі пры-



*Сымон Блатун (злева) і Алесь Дзятлаў — аднакурснікі аддзялення журналістыкі БДУ (1956 г.).*

трымліваюся па сённяшні дзень. Уважліва чытаючы кнігу, якую ўзяўся рэцэнзаваць, пазначаю месцы, што найбольш спадабаліся ці, наадварот, выклікалі нейкае непрыманне, каб потым лёгка сцерці гэтыя паметкі. У «Раўнавазе» ж чамусьці іх пакінуў. Відаць, таму, што неаднойчы звяртаўся да іх, каб праз пэўны час успрыняць нанава, самога сябе пераканаць, што рабіліся яны шчыра, ад усведамлення, што на фоне дасканалых твораў ёсць і слабейшыя.

З-за таго даўняга ўжо выпадку мне па-ранейшаму часам становіцца балюча: ці не падобная «зычлівасць», як прапанаваная яму на свайго роду «агледзіны» мая рэцэнзія, раніла даверлівую душу паэта? Ці не атрымлівалася так, што тыя, хто хоць, магчыма, і не жадаў гэтага, падкарочваў яму век. Гэтае нейкае адчуванне віны, якой па сутнасці і не было, тым не менш ўпершыню ў мяне з'явілася ў 1979 годзе, калі ўзяў у рукі кніжачку выбранага С. Блатуна «Чысціня», выпушчаную выдавецтвам «Мастацкая літаратура». З цудоўнай прадмовай Рыгора Барадуліна «На людское веча», з яго пранікнёным вершам «Памяці Сымона Блатуна…» Са слоў Рыгора Іванавіча даведаўся, што С. Блатун быў шчыры, адкрыты, «жыццёвая проза не азмрочыла позірк жыццялюба, не прызямліла юначыя парыванні, не ачэрсцвіла сэрца паэта рамантычнага складу, не зняверыла шчырага даверу да людзей». Ён «вышэй ад усяго цаніў таварыскасць, сяброўскасць, чалавека, які ніколі не насіў камень за пазухай, які ні на кога не таіў злосці, паэта, у слоўніку якога не было слова зайздрасць». Такія ж людзі не тое што вельмі крыўдлівыя. Проста яны заўсёды хочуць адпаведнага стаўлення да сябе.

Адрозніваўся С. Блатун ад тагачасных маладых паэтаў і тым, што не спяшаўся выдаваць сваю кнігу: «Сурова патрабавальны да слова свайго, сам зняў з выдвецкага плана свой першы зборнік, хаця ў рукапісу былі вершы друкаваныя, станоўча ацэненыя і чытачом, і крытыкай». Дый яшчэ прызнаўся ў адным са сваіх вершаў, што маўляў, у параўнанні з тымі, з кім разам уваходзіў у літаратуру, сказаў не так і шмат:

Жывой паэзіі вада ёсць —
Бывае мелкай і глыбокай.
Сябры ўжо ў рэчышча ўпадаюць,
А я застаўся ля вытока.

Бадай, не кожны асмеліцца на такое самакрытычнае прызнанне, хоць, безумоўна, у ім і шмат перабольшвання. Але такое можна дазволіць толькі талент, які ўсё ж ведае сабе сапраўдную цану. Строгі да самога сябе, ён заўсёды ішоў насустрач іншым, асабліва тым, хто пакуль у літаратуры яшчэ належным чынам не сцвердзіўся: «Няшчадны да сябе, Сымон Блатун быў вельмі чулы і шчодры на падтрымку маладзейшых калег па пяру, калі кансультаваў у «Чырвонай змене», рыхтаваў літаратурныя старонкі маладой беларускай паэзіі».

Калі ж сутыкаўся з няшчырасцю, сляды на душы ў яго заставаліся надоўга. Часам, магчыма, і назаўсёды. Аднак у характары, паводзінах пераважала і іншае, што надавала ягонай паэзіі аптымізму, жыццярадаснасці, светласці, лірычнай пранікнёнасці. Прысутнічала прага маральнай і духоўнай чысціні — тое, без чаго немагчыма ўявіць яго лірычнага героя, юнака, які ўваходзіў у жыццё ў сярэдзіне 50-х гадоў мінулага стагоддзя. Уваходзіў у той час, калі ў грамадстве падзьмулі першыя адліжныя вятры, калі вярталіся давер і павага да чалавека. Невыпадкова першую кнігу С. Блатуна адкрываў верш «Чысціня».

Гэты твор быў для маладога паэта нечым большым, чым звычайная заяўка ці, правільней, права на ўласную споведзь. Перачытваеш яго і ловіш сябе на думцы: а ці многія з дэбютантаў, нават тыя, хто адразу заяўляў аб сабе як аб яркай індывідуальнасці, здольны адразу знайсці той адзін верш, што адразу прагучыць і пакажа, што перад табой менавіта гэты аўтар, а не іншы?! Здатны пераканаць, што перад табой паэт са сваім светапоглядам, кругаглядам, выразнасцю сацыяльнай пазіцыі! У лепшым выпадку пішацца прысвячэнне Радзіме, народу. Канешне, усё гэта правільна, зразумела, апраўдана. Але нават пры ўсёй шчырасці, адкрытасці, яно яшчэ не тое, што і робіць паэта паэтам, бо, пры ўсім іншым, у ім яшчэ зашмат абавязковага. Не заўсёды выказана па духоўнай неабходнасці, а таму, што так трэба.

Сымон жа Блатун першым ужо вершам (прабачце за таўталогію) першай сваёй кнігі пераканаў, што так, як напісаў ён, да яго яшчэ ніхто не пісаў:

Будуць суха рыпець маразы, —
Быццам снег хто навошчыць
пад вечар…
І для санак крутых палазы
Парыць дзед,
як той кухар,
у печы.
Распусціў на грудзях бараду
І ў дугу гне гарачыя плахі…
Капылы —
звонкі клён,
Палазы —
гнуткі дуб…
Аж дуброваю ў хаце запахла.
Вяззе —
з вязу,
Аглоблі з бяроз…
Мчацца сані
палямі, лясамі…
І ў маторны
закручаны век
я збярог
Чысціню вашу,
звонкія сані.

Сапраўды ўжо — чыс-ці-ня! Ва ўсім… Ва ўспрыманні прыроды, якая паўстае адушаўлёнай. Адно гэтае параўнанне «будуць суха рыпець маразы» чаго варта. Не палазы, што, здавалася б, найбольш верагодна, а менавіта маразы. Ад навошчанага пад вечар снегу. Праўда, наконт гэтага пэўнасці ў вершы няма, таму і невыпадкова з'явілася сумненне «быццам». Аднак яно акурат да месца. Без яго паэтычны малюнак у нечым страціў бы сваю прыцягальнасць, пазбавіўся б непасрэднасці, а значыць, шмат у чым і разбурыўся б. А так, як ні дзіўна, набывае сваю завершанасць, бо ўсё ідзе па сутнасці ад супрацьлеглага. Таму і рыпяць не палазы, а маразы. У такім нечаканым параўнанні і прысутнічае тое зерне паэзіі, якое можа нарадзіцца толькі дзякуючы багатаму творчаму ўяўленню. У дадзеным выпадку здзіўляючаму паэтычнаму таленту.

У сваёй творчасці С. Блатун ішоў ад лепшых традыцый нацыянальнай паэзіі. Да ўсяго, як і пераважная большасць беларускіх паэтаў, быў родам з сялянскай сям'і. Хоць, не сказаць, каб жылося лёгка. Нарадзіўся 10 мая 1937 года ў вёсцы Кавака Брагінскага раёна. Але калі яму, самаму малодшаму, споўнілася ўсяго тры гады, бацька пакінуў сям'ю. Паехаў на заробкі ў Архангельскую вобласць Расіі. Маці давялося адной ставіць дзяцей на ногі. Балазе дапамагалі сваякі, блізкія, дый проста добрыя, чулыя людзі. Таксама ад зямлі, тыя, хто прытрымліваўся высокіх маральных прынцыпаў.

Усё гэта, разам узятае, і паспрыяла таму, што ў яго паэзіі моцная жыццёвая аснова, яго вершы зямныя. У тых з іх, што тычацца народнага побыту, паўстае такое веданне яго, на якое здатны чалавек, які з маленства не проста назіраў усё гэта, а па сутнасці жыў ім, у чым і пераконвае верш «Чысціня». Тое, як «парыць дзед» «для санак крутых палазы», падаецца так праўдзіва, што не проста ўсё гэта бачыш увачавідкі, нібы прысутнічаючы пры гэтай рабоце, на якую здатны толькі майстар, а быццам сам дапамагаеш яму. Ведаеш, з якога дрэва рабіць капылы, а з якога — палазы. Разбіраешся, на што лепш прыдатны вяз, а на што — бяроза. А яшчэ настолькі захапляешся ўсім працэсам цудадзейства — бадай, гэта адзінае слова, якое найлепш падыходзіць тут, што «аж дуброваю ў хаце запахла».

Верш чытаецца на адным дыханні. Такое адчуванне, што на адным дыханні ён і напісаны быў. Ці так было ў сапраўднасці з «Чысцінёй», сказаць не бяруся. Але, аказваецца, пісаў С. Блатун павольна. Як прыгадваў Р. Барадулін, «трэба бачыць, колькі варыянтаў, колькі рэдакцый мае амаль кожны верш, кожны радок». Гэта праўдзіва не толькі да ягоных уласна аўтарскіх твораў: «Пераклады белых вершаў Яна Судрабкална толькі ад рукі перапісаныя тры разы — і кожны раз па-новаму». Аднак тое, што прапаноўваў у друк, вытрымлівала самыя суровыя патрабаванні і чытача, і крытыкі. Калі палове і ўдавалася прасачыцца скрозь патрабавальнае сіта паэта-ратая, дык толькі зрэдзь. Хутчэй за ўсё тады, калі нешта ў гэты час адцягвала ўвагу творцы, правільней, таксама патрабавала да сябе пільнай увагі. Неабходна было выбіраць, што першаступеннае, найбольш важнае ў гэты момант.

Пісаць С. Блатун пачаў яшчэ вучнем Брагінскай беларускай сярэдняй школы № 1. Яго інфармацыі, карэспандэнцыі друкаваліся ў тагачаснай мазырскай абласной газеце «Савецкае Палессе» і раённай «Трыбуна калгасніка». Пісаў пра справы калгасныя, камсамольскія. Прапаноўваў у гэтыя выданні і свае першыя вершы. У школе ж рэдагаваў сатырычную газету «Гром и молния», у якой крытыкаваліся двоечнікі, парушальнікі дысцыпліны, прагульшчыкі ўрокаў. На іх сапраўды абрушваліся гром і маланкі. На некаторых змяшчаліся і выкрывальныя малюнкі. Таксама не без удзелу С. Блатуна, бо ён з'яўляўся яшчэ і мастаком гэтай газеты.

Па-сапраўднаму паэзіяй захапіўся ў 1954 годзе, калі стаў студэнтам аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Але дэбютаваў у рэспубліканскім друку толькі праз два гады. 24 студзеня 1956 года ў газеце «Чырвоная змена» быў змешчаны яго верш «На кладцы».

З «Чырвонкай» падтрымліваў сувязь на працягу ўсяго года. Праўда, звычайна змяшчалася толькі па адным вершы. Апроч «На кладцы» — гэта «Спадарожніца», «Пасля дажджу», «***Каб аж гай шумеў…», «Восень»... Верш жа «Сабака бярэ след» 4 снежня 1964-га апублікаваў у суаўтарстве з Юрасём Свіркам. Потым друкаваўся ў часопісе «Маладосць», газетах «Калгасная праўда», «Голас Радзімы», іншых выданнях.

Пасля заканчэння ў 1959 годзе ўніверсітэта быў літаратурным супрацоўнікам аддзела савецкага будаўніцтва і інфармацыі газеты «Звязда», аддаўшы гэтай рабоце пяць гадоў. Праца ў «Звяздзе» дазволіла яму пабываць у розных раёнах Беларусі. Шмат пісаў нарысаў, рэпартажаў, у тым ліку і паэтычных. У вершы «Дарогі» прызнаваўся:

Я з першых вёрстаў палюбіў дарогі,
Глухія зненавідзеў тупікі.

У мітусні перонаў і вакзалаў
Я адчуваў імклівы пульс жыцця —
І зноў мяне дарога калыхала,
Як быццам маці гушкала дзіця.

Не ў крыўдзе я на жорсткія вагоны,
Пракураныя дымам папярос, —
У іх праехаў сотні перагонаў
І ў іх на год, напэўна, я падрос.

Зусім не жаданнем штосьці напісаць на тэму дня, як можа падацца на першы погляд, была выклікана падобная непаседлівасць. Чаго-чаго, а менавіта гэтага С. Блатун шчасліва пазбягаў. У гэтым прызнанні сама сутнасць яго тагачаснага жыцця, калі за ўсім хацелася паспець, многае ўбачыць сваімі вачыма. І пра ўсё сказаць сваё слова. Сведчанне Р. Барадуліна: «Здзіўлялі і выклікалі добрую зайздрасць шырокае разнастайнае поле ягонай цікаўнасці, цяга да ведаў, упартае жаданне ў любой рэчы дапасці да сутнасці, да глыбіні, да вытока. Займаўся спортам, вывучаў гісторыю мастацтва, а разам з тым не грэбаваў самай што ні ёсць чарнавой працай журналіста: апрацоўваў пісьмы, пісаў рэпартажы, нататкі, замалёўкі, рэцэнзіі, узнімаў нялёгкія скібы на здзірванелым палетку праблемнага нарыса».

Ці не гэтае жаданне ўзнімаць «нялёгкія скібы на здзірванелым палетку праблемнага нарыса» ўсё ж калі-нікалі і адцягвала ўвагу ад сапраўднай паэзіі? У кнізе «Раўнавага» мяне засмуціў верш «***Арлу распялі крылы…» Сваю колішнюю думку наконт яго мяняць не збіраюся. Па-мойму, ёсць у гэтым творы ўсё ж штосьці знарочыста нацягнутае, С. Блатуну не характэрнае:

Арлу распялі крылы
І змералі размах — два метры…
Каб узмахнуў ён імі зараз,
Дык ураган
　　　　　　пранёсся б па музеі,
І нават, мёртвыя, ад страху б задрыжалі
Зайцы,
　　　　лісіцы,
　　　　　　　　барсукі,
　　　　　　　　　　　　ваўкі…

Ці ўзяць верш «***Уздыхае цяжка конь стрыножаны…» Уздыхаць яму ёсць чаму: «Ён адзін цяпер на лузе скошаным // Пад асеннюю імжакай мокне…» Прыгадвае конь сваіх сяброў «з іх крутагрудай сілай, // Што аж ніцма кламіся ў скаку». Успамінае «пужлівую кабылу, // Што, дзіця ратуючы, зрушыла // Горла ненажэрнаму ваўку». Не ведае конь, «дзе табун — круты цыганскі табар, // Што начамі

цёмнымі не раз // У клубок збіраўся слухаць, мабыць, // Хлапчукоў віхрастых ля кастра». Усё так і, як бачна, паэту ўдалося сказаць пра гэта па-свойму, у цэлым стварыўшы каларытны малюнак усяго таго, што ажывае ў памяці каня, які ведаў і іншыя часы, калі быў ён на лузе не адзінокім, а са сваімі сябрамі, з якімі дзяліў радасці і нягоды. Але што праз меру, тое псуе агульнае ўражанне ад твора. Нацягнутым выглядае параўнанне адзінокага стрыножанага каня з кенгуру: «Быццам кенгуру, раз-пораз скокне…» Конь і кенгуру ўзяты, як кажуць, з розных рэалій. Яны — тое, што, па сутнасці, не параўнальнае, калі ж гэта рабіць, за што і ўзяўся С. Блатун, дык такое памкненне выглядае нацягнутым, а таму не рэальным.

Верш жа «***Я збіраю людскія трывогі…» сапсавалі яго заключныя радкі:

Я збіраю людскія трывогі
У сваё неспакойнае сэрца,
Я шукаю сабе напарнікаў,
Каб стварыць таварыства
Па збіранню людскіх трывог.

Гэта прытым, што задумка твора цікавая. Лірычны герой належыць да тых, у каго чулая душа, як свае кроўныя ўспрымае не толькі чужыя радасці, а і беды. Ён прызнаецца: «Гэты боль я ўзяў у дзяўчыны, // Якую пакінуў каханы. // А трывогу вось гэтую напаткаў я ў дарозе — // Яна ціха кудысьці брыла…» Гэты сум «знайшоў у лесе — // Павуцінкай матляўся ён на галінцы…»; «[…] прасіў, каб чужая маці // Аддала мне тугу па загінуўшым сыне». Праўда, «[...] яна не схацела з ёю расстацца…» Аднак, паўтаруся, зусім штучным выглядае стварэнне «таварыства па збіранню людскіх трывог». Хай сабе і дзякуючы багатай творчай фантазіі.

Звярнуўся да даўняга свайго ўспрымання вершаў з кнігі «Раўнавага» таму, што не хачу, каб стварылася ўражанне, што С. Блатун адразу знайшоў дарогу і да майго чытацкага сэрца, і да сэрцаў іншых чытачоў. Не трэба быць разумным заднім чыслом, штосьці падаючы ў выгадным для сённяшняга дня плане. Не трэба хоць бы па той прычыне, што паэзія С. Блатуна яшчэ чакае «свайго зорнага часу» (Р. Барадулін). І кожнае перачытванне яе не проста штосьці ўдакладняе, але і дазваляе наблізіцца да больш глыбокага асэнсавання напісанага паэтам.

Кніга «Раўнавага» — гэта калі ўжо глядзець на яе з вышыні цяперашняга дня — прыступка, ступаючы на якую мацнелі паэтавы крокі, станавіліся дужэйшымі ягоныя ногі. У лепшых творах відавочная і трываласць таго народнага грунту, што адзначалася ўжо пры разглядзе верша «Чысціня», і на якім, грунце гэтым, рос, гадаваўся і сам паэт, і яго лірычны герой. Адтуль, з вясковага маленства і верш «***Гаспадынькі, варам шпарце чаны…», у якім ад першага да апошняга радка, хоць усё ж правільней сказаць, ад першага да апошняга слова, прысутнічае здаровы дух таго здаровага сялянскага жыцця, якое, нягледзячы на нястачу, якая з'яўлялася пастаяннай спадарожніцай вёскі, дазваляла выжыць, выстаяць не аднаму пакаленню.

Гаспадынькі, варам шпарце чаны —
Патужэлі, падужэлі качаны.
Як мароз, рыпяць яны ў руках,
Кожны звонкі, кожны сіверам прапах.
Эх, любата іх будзе шаткаваць!
Дзеці храпкі будуць каштаваць.
Не кажыце, не кажыце,
        што ў гародзе пуста,
Паглядзіце, паглядзіце —
        вырасла капуста.
На стол ляжа шаткаванка,
        як сумёт,
Сыпанецца ў дзежку снегам —
        і пад гнёт.

Не кажыце, не кажыце,
што ў гародзе пуста,
Паглядзіце, паглядзіце —
соліцца капуста!

Не было б маленства на ўлонні прыроды, наўрад ці напісаўся б і верш «Меданос»: «Вецер з лугу прынёс // Пах духмяны: // То ідзе Меданос — // Хлопец п'яны. // Меданос, Меданос, // Дай ты мёду — // І для пчол, і для вос // Асалоду. // А хлапец у хмялі, — // Дык шчадрыня: // Да яго і чмялі // Нават рынулі. // Дзесь хавае свой нос // Толькі шэршань. // Меданос, Меданос… // Звон сталёвых кос… // Пра цябе не раскажаш вершам».

Дый верш «***Запомніў я…» не напісаўся б, калі б паэт не быў сведкам таго, пра што з такой цеплынёй згадвае ягоны лірычны герой. Падобнае не прыдумаеш. Яно застаецца ў душы назаўсёды, каб у пэўны момант ажыць, даць магчымасць усе гэтыя хвіліны перажыць нанава:

Запомніў я:
стары цясляр
З зямлі падняў
сухую галавешку,
Шнур разматаў
з грузільцам-гіркай
І зашчаміў яго
ў камлі сасны.
Ён па шнуры
пашоргаў галавешкай, —
Аж закурэла галавешка зноў,
Напяў той шнур
на бервяне струною
І адцягнуў яе,
як цеціву.
І выцяла яна
крамяны ствол,
Пакінула пісяг —
Па ім часаць
цясляр пачаў…

Ход аўтарскай думкі запаволены. Гэта нават своеасаблівая стэнаграфічная запаволенасць. С. Блатун, узнаўляючы асноўныя моманты працы цесляра, спакваля, нічога не прапускае, на ўсім засяроджваючыся. У гэтым расказе яго — і для мяне, чытача, таксама — усё важнае. Паэтызуецца сама праца, спрадвеку неабходная на зямлі, а мы ўвесь час знаходзімся ў напружанні, прадчуваючы, што самае галоўнае недзе наперадзе. Яно пакуль што не выказана паэтам… Яшчэ адзін крок да гэтага спасціжэння, яшчэ крок. І апошнія радкі, якія і робяць усё расказанае аўтарам паэтычным адкрыццём, ператвараюць яго ў паэтычную з'яву:

Падняў ён тую галавешку
з папялішча
У сорак…
добра нам вядомым
годзе.

Гэткіх жа жыццёва мудрых, аптымістычна-здаровых вершаў у першай кнізе С. Блатуна было нямала. Тым больш нечакана — для таго, даўняга ўспрымання яе — гучаў заключны твор зборніка:

Адамкнуў бы я лета,
Асвятліў далячынь. —
Жураўы ж на край свету
Дзесьці знеслі ключы…

Праўду казаў у сувязі гэтым Р. Барадулін: «Чалавек, а мастак асабліва адчувае загадзя свой скон». Не мог Рыгор Іванавіч не выказаць гэта, бо у С. Блатуна ёсць яшчэ адзін верш, праўда, ужо ў другой яго кнізе «Радаслоўнае дрэва» (1970), у якім таксама прысутнічае нейкае трагічнае прадчуванне:

І скажуць: «Быў яшчэ ж ён малады…»
Паўстану я ў кагосці прад вачыма.
Зязюлямі падлічаць мне гады
Суцішана трывожныя жанчыны.

І скажуць: «Ляжаў ён, як жывы…» —
Упершыню спагадліва і шчыра.

Болем адгукаецца гэтае: «Упершыню спагадліва і шчыра». Яшчэ адно падмацаванне той думкі, што ўсё ж не хапала яму спагады і шчырасці. Можа, праўда, узнікнуць пытанне: а каму яе хапае? Але ж недахоп спагады і шчырасці адчувала душа чалавека, які абвострана-балюча ўспрымаў усё, што адбывалася наўкола. Разумеў, што сябры-аднагодкі ў творчасці ў нечым абагналі яго, дасягнуўшы большага, чым ён сам. Не трэба, аднак, спрабаваць бачыць у гэтым зайздрасць да іншых. Звычайны стан творцы, калі нешта не ўдаецца: «Сябры ўжо ў рэчышчы ўпадаюць, // А я застаўся ля вытока…»

Хоць і сказана залішне катэгарычна, завельмі самакрытычна, нельга не прызнаць, што талент С. Блатуна развіваўся не так хутка, як таго хацелася б. Аднак у рэшце рэшт гэта звычайны працэс творчага станаўлення. У адных усё адбываецца хутка. У другіх, да якіх і адносіўся С. Блатун, марудней. Не ў апошнюю чаргу з-за вялікай, часам празмернай патрабавальнасці да сябе, калі нават ужо надрукаваныя творы, пра што і казаў Р. Барадулін, у кніжку не ўключаюцца. Але ж — будзем справядлівымі — далёка не заўсёды падобную акалічнасць улічвае крытыка, калі ў сваіх развагах і прысудах карыстаецца фактамі, а не спрабуе прадугледзець, паспрабаваць убачыць і саму перспектыву станаўлення пэўнага аўтара, раскрыцця яго творчай індывідуальнасці.

На жаль, другая кніга С. Блатуна прыйшла да чытача, калі яе аўтара ўжо не было ў жывых (заўчасна памёр 3 красавіка 1970 года). Творы з яе ўспрымаеш сёння інакш, чым пры жыцці паэта, як і ўрэшце пры адыходзе ў вечнасць кожнага пісьменніка, тым больш у зусім маладым узросце. Яго вершы — і споведзь, і наказ наступнікам адначасова. У іх развага аб дні пражытым, але ў нечым як бы падрахункаванне зробленага. А можа, і мы, чытачы, вінаваты ў тым, што раней у творах бачылі па сутнасці сам тэкст і не заўсёды заўважалі падтэкст, які таксама шмат гаворыць. Як у гэтым вершы:

Стаю адзін, нібыта ў сутарэнні,
Застыгла раннім холадам зямля…
Ды веру я — не вымерзнуць карэнні,
Бо я пачатак і працяг — сам я!

Спадзяванне на лепшае, на дзень заўтрашні… Упэўненасць: не марна жыву на зямлі. Разуменне, што ўсходы, дагледжаныя табою, закалосяцца на ніве жыцця:

Як забытай цытатай з карана,
Гаварыў я на вечы людзей:
Зажываюць балючыя раны
І вяртаецца шчасце надзей.

Перакананасць: усё, што ні адбываецца, на лепшае… Усведамленне неабходнасці быць разам з людзьмі, бачачы ў іх сваіх аднадумцаў і дарадцаў. Адчуванне: жыццё пражыць — не поле перайсці…

Мне хоць трошкі раўнавагі трэба,
Бо характар у мяне такі:
Жураўля я не спаймаў у небе,
А сініцу выпусціў з рукі.

Зноў спадзяванне, упэўненасць, разуменне, перакананасць, усведамленне, адчуванне… Перачытваю вершы, наўзгад адгортваючы кнігу «Чысціня» на той ці іншай старонцы. Піша паэт з упэўненасцю: «[…] і ў мяне будуць дзесьці дажынкі, // І ў мяне будзе свой умалот». Піша, ведучы вечны бой з самім сабой за «чысціню душы адвечнай, за мудрасць, вернасць і сардэчнасць, за веру, праўду і святло, за дабрату і за дабро…» Піша і сумняваецца, што нешта атрымліваецца не так, як хацелася б, штосьці не ўдаецца, чагосьці ў радках не хапае. Каб жа такой сама-крытычнасці ды некаторым сённяшнім пачаткоўцам!

Сумненні, якія арганічна ўспрымаюцца ў дачыненні да сапраўднага таленту… Поруч творы, што так і просяцца ў анталогію беларускай паэзіі 60-гадоў мінулага стагоддзя. Назаву толькі некаторыя з іх: «Радаслоўнае дрэва», «Апусцелі ад стрэлаў калчаны…», «Вёску бралі без бою…», «Пенсіянеры»… Каторы з іх ні возьмеш, адчуваеш, што напісана гэта паэтам, для якога не было неабходнасці асабліва задумвацца над тым, пра што пісаць. Тэмы яму падказвала само жыццё. Аднак не толькі тое жыццё, сведкам якога з'яўляўся сам. Творчую фантазію жывіла і тое, што ўжо стала днём учарашнім. Як нядаўнім, так і схаваным за смугой пражытага і пераджытага. Як у вершы «Радаслоўнае дрэва».

Расказваючы пра свайго прадзеда, лірычны герой згадвае і іншых сялян, якія жылі гэтаксама годна, як і ягоны прашчур. Зорак з неба не хапаючы, але сумленна выконваючы на зямлі сваю спаконвечную справу. Выпадала ж вольная часіна — адпачывалі, каб назаўтра зноў узяцца за тое, што за іх зрабіць ніхто не можа:

Мой кашчавы,
        суровы прадзед,
Сплецены з адных сухажылляў,
Стомы не меў у працы,
З галоднай зямлі жыў ён.
Дзірваны
        нарогам ірваў ён,
Сківіцы сцяўшы да болю.
Не было ў яго
        мазалёў крывавых,
А былі, як панцыр,
        набоі.
У кашулі,
        нібыта ў кальчузе,
Што служыла і ў будзень,
        і ў святы,
У шынку піў гарэлку ў хаўрусе,
Згробшы кубак рукой сухаватай.

Менавіта ў гэты момант і «суровы прадзед» С. Блатуна, як і іншыя, хто гэтаксама «сплецены з адных сухажылляў», «адчуваў сваю волю». Не пазнаць яго было. Сцішанасць, рахманасць знікалі. Замест гэтага з'яўлялася рашучасць, жаданне даказаць, што ні хто-небудзь ён, а, як і тыя, хто пагарджае ім, чалавек. Нават у большай ступені чалавек, бо не растраціў лепшых сваіх якасцей. Гэтая рашучасць ператваралася ў ваяўнічасць, але не ў такую, якая сведчыць аб азлобленасці на ўсіх. Гэта была ваяўнічасць іншага кшталту. Такая, што выклікае жаданне рашуча змагацца за справядлівасць, не адкладваючы гэта на пасля:

Біў у грудзі —
        яны грымелі,
І з падстрэшша брывоў

вуголлем
Вочы яго гарэлі.
І ад іх аганьку,
напэўна,
Пад санлівы і стомлены ранак
Крыллем ўзвіўся чырвоны певень
Над сядзібаю пана.

«Прадзед […] пайшоў з галацьбою // З лапатушнай касой па лесе. […] Зазвінеў кайданамі ў Сібір ён // З Беларусі — навечна». Ёсць у гэтым вершы вельмі важная характарыстыка гэтага «кашчавага, суровага прадзеда»: «Для паноў ён быў першы разбойнік, // Для людзей жа — музыка і песеннік…» Коратка, але вычарпальна сказана для лепшага разумення простага чалавека. Аднаго з тых, на кім заўсёды зямля трымалася.

Дарэчы, нельга не згадаць верш С. Блатуна «***Пакрыўдзілі мы продкаў…», які па сутнасці працягвае тую ж тэму радаслоўнасці. Толькі ў больш шырокім плане, маючы на ўвазе пераемнасць пакаленняў. Дый, калі хочаце, нават эпох. Праўда, гаворка празмерна прыземленая, без якога-небудзь эмацыянальнага ўсплёску. Ды важна сама пастаноўка пытання. Малады паэт С. Блатун загаварыў ва ўвесь голас тады, калі і масцітыя аўтары не надта надавалі гэтаму значэння, захапляючыся (і справядліва) зменамі, якія адбываліся ў жыцці. Не задумваліся толькі, што тым самым «пакрыўдзілі мы продкаў // Знявагаю — «стар*ы*зна»…» А «да іх нямых папрокаў // Прыслухацца карысна». Папрокі гэтыя перададзены так:

Даніну новай модзе
Так часта аддавалі:
Што пражыло стагоддзі, —
За дзень мы зруйнавалі.

Як заклік, прагучала ў творы: «Дык будзем жа ашчаднымі // Да ўзнёслай думкі продкаў! // Мы з ёй (стар*ы*знай. — *А. М.*) — з адной пароды, // Яна неаддзяліма, // Як мова ад народа, // Ад сённяшняй Радзімы».

У вершы ж «***Апусцелі ад стрэлаў калчаны…» — ужо блізкая нашаму часу рэальнасць. Для С. Блатуна, як і для яго пакалення, яна была яшчэ куды бліжэйшай, чым нам. Зусім нядаўна скончылася вайна. Паўсюдна яна нагадвала аб сабе: ранамі на зямлі і ранамі ў людскіх душах. Але калі першыя паступова загойваліся, дык другія па-ранейшаму нясцерпна балелі. Асабліва пякельным быў боль па загінулых. Дый тыя, хто вярнуўся дамоў ранены, доўга не маглі прыйсці ў сябе.

Дзеці вайны таксама працягвалі жыць вайной. Яна прыходзіла ў іх сны, пра яе пастаянна расказвалі дарослыя, найперш учарашнія партызаны і франтавікі. Гэтыя аповеды настолькі запаміналіся ім, што станавіліся і як бы часткай іхняй біяграфіі. Усё было настолькі праўдзіва, пераканаўча, нібыта адбывалася ў сапраўднасці. Адсюль і праўдзівасць у перадачы ўсяго, як і ў гэтым вершы С. Блатуна:

Апусцелі ад стрэлаў калчаны,
Ціха коні пайшлі на пагост…
І не плакалі хлопцы — крычалі,
Як пад кулі ішлі ва ўвесь рост.

Вусны смерцю халоднаю сцяты,
І вачэй палымнее агонь…
Правяралася так вернасць сцягу,
Як барвовілі раны яго.

Ёсць у вершы і трэцяя, заключная страфа. Аднак яна ўсё ж падаецца лішняй. Паэт і так сказаў усё, што хацеў. Не было ніякай неабходнасці запэўніваць чытача

ў гатоўнасці лірычнага героя дзейнічаць так, як і тыя, якія «пад кулі ішлі ва ўвесь рост». Дадаў жа С. Блатун гэтую страфу, несумненна, дзеля ўзмацнення патрыятычнага пафасу твора:

Я шкадую тугімі начамі,
Што да часу таго не дарос,
Як не плакалі хлопцы — крычалі
І пад кулі ішлі ва ўвесь рост.

Затое верш «***Вёску бралі без бою…» бездакорны ва ўсіх адносінах. Усё напісана так, быццам пра гэта расказвае непасрэдны ўдзельнік вызвалення вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Праўда, на першы погляд, выяўленчыя сродкі, выкарыстаныя ў творы, скупыя. Аднак такое меркаванне памылковае, таму што гэта і так дазваляе засяродзіць увагу акурат на тым, што нясе ў сабе як важную сэнсавую нагрузку, так і спрыяе лепшаму ўсведамленню таго, якое гэта страшнае зло — вайна. Пачынаючы з першых двух радкоў: «Вёску бралі без бою — // Вёску бралі з болем». Боль гэты зразумелы: «Вёска ж ноччу трывожнай чарнела». Адступаючы, ворагі спалілі яе:

Дуб старэчы за суткі высах —
Асыпаў сівізну сваю прысак…
А стаялі счарнелыя печы
З пераваранай бульбай,
З выкіпеўшай капустай,
З акамянелым хлебам,
З падгарэлымі дранікамі
І яшчэ, яшчэ з нечым…

Вёску бралі без бою,
Вёску бралі з болем.

Таму хоць «вёску бралі без бою», усё ж яе «бралі з болем». Спіс лепшых твораў С. Блатуна можна працягваць. Канешне, дапоўніўшы яго творамі, што, дзякуючы Уладзіміру Гніламёдаву як складальніку, трапілі ў трэці том «Анталогіі беларускай паэзіі» (1993): «Чысціня», «***Запомніў я…», «***Я па зрэбным бягу палатне», «Зрэбная нітка», «***І скажуць: «Быў яшчэ ж ён малады…» Вершы «***Я па зрэбным бягу палатне…» і «Зрэбная нітка» — па сваёй танальнасці блізкія між сабой. Гэта, па сутнасці, дзве оды (не па жанры, канешне, а па сэнсавай напоўненасці) таму, што некалі пастаянна спадарожнічала вясковаму жыццё і без чаго яно страчвала свой сэнс.

Цяпер жа гэтыя творы з'яўляюцца магчымасцю вярнуцца да вытокаў, якія, на жаль, пачынаюць губляцца. Шмат што з народнага побыту, традыцый забываецца, а з гэтым губляюцца цэлыя пласты вясковага жыцця. Драбнее, калі можна так сказаць, мікракосмас вёскі, страчвае некаторыя свае атрыбуты. Толькі памяць застаецца маўклівай сведкай добрага старога. У вершы «***Я па зрэбным бягу палатне…» сувоі гэтай тканіны арыгінальна, свежа, нечакана, разам з тым і апраўдана параўнаны паэтам з доўгай бясконцай дарогай, якой «краю няма». Яна яднае сабой абсягі Бацькаўшчыны, ператвараючыся ў тую повязь, дзякуючы якой знітоўваюцца адлегласці і часы:

«***Я па зрэбным бягу палатне,
Што бяліць разаслала маці
На траве ля калінавай копанкі…
Гэта ж трэба выткаць
такую дарогу!
Я бягу,
а ёй краю няма:

Паміж жыта даспелага разаслалася —
На бальшак пакаціўся сувой
Праз палеткі, лугі і лясы…
Перуны, грукачыце!
Ліўні, спорныя, йдзіце!
І бяліце дарогу маю,
што выткала маці…

Пішучы гэтыя два вершы, як і некаторыя іншыя, вельмі цесна звязаныя з даўнімі сялянскімі рэаліямі, С. Блатун, застаючыся самастойным у вырашэнні тэмы, разам з тым працаваў і ў рэчышчы памкненняў усёй тагачаснай маладой паэзіі, цесна звязанай з народнымі вытокамі. Прынамсі, гэта відавочна, калі параўнаць яго верш «Бульба цвіце» і знакаміты «Паляць бульбоўнік» Р. Барадуліна.

Абодва паэты, прыкладна аднаго ўзросту, у сваёй творчасці, асабліва на пачатку, моцна былі павязаны з уласным ваенным маленствам. Дый з юнацтвам цяжкіх галодных пасляваенных гадоў. Таму так моцна запалі ім у душы рэаліі тагачаснага вясковага жыцця. Настолькі ўвайшлі ў яе, што жаданне згадваць іх, жыць імі, і нарадзіла гэтыя два цудоўныя творы. Само па сабе цікава тое, што кожны з паэтаў паэтызуе менавіта бульбу — тую культуру, якую беларусы нездарма называюць другім хлебам. Асабліва такім хлебам яна з’яўлялася ў цяжкія галодныя гады. Але творы напісаліся так, што па сутнасці дапаўняць адзін аднаго, што ўжо нават відаць па назвах вершаў.

«Бульба цвіце» С. Блатуна — апяванне часіны ці не самай радаснай пасля таго, як гэтая сельскагаспадарчая культура была пасаджана. Мінулася колькі тыдняў і кволыя ўсходы непрыкметна набраліся сілы. Сама час дапамагчы ім, стварыць умовы, каб сцябліны раслі хутчэй, а ў зямлі завязваліся клубні. Без дапамогі падлеткаў у гэты турботны час не абысціся. Яны даўно прывыклі да такой работы, таму яна ім не ў прынуку. Дый ведаюць, як і што рабіць:

Смугу даўніх раніц ніяк не забуду…
Дымяцца халодныя росы,
Мы ў поле імчымся акучваць бульбу
Чародкай гарластай, босай.

Яшчэ не зусім прачнуліся гоні…
Пастронкі хутчэй раскручвай!
Каб бульбу не елі — пацуглівай коней,
Шыр*ы* лемяшы ў акучнікаў!

Пакуль злы яшчэ авадзень не прыжарыў
І коні не біліся злюча,
Пад корань, пад корань свірэпку паджарую,
Знішчай дзядоўнік калючы.

Каб рад не падрэзаць — трымай толькі ручкі.
А клін каму бокам выходзіць?
Сябрук там са злосцю кідае акучнік,
Не хлопец — Мікола, дый годзе…

Рыгора ж Барадуліна вабіў той час, калі бульба ўжо выкапана. Можна было парадавацца добраму ўраджаю. Калі што і засталося, дык давесці палетак да ладу. Робіцца гэта таксама па неабходнасці, але, як і ў любой сялянскай працы, у спальванні бульбоўніка прысутнічае і свая радасць, і сваё захапленне. Робіцца ж усё таксама ў ахвоту. Дый з усведамленнем, што на зіму без другога хлеба не застанешся. Аднак і само наваколле нібыта напоўнена гэтым такім звыклым, але і па-свойму ўрачыстым момантам:

Калі разыходзяцца
лета з восенню палюбоўна,
а бульбянішча на зіму
яшчэ не пераворана,
зграбаюць у кучы, паляць бульбоўнік.
Іскры лятуць і блякнуць
патухлымі зорамі.
Дым спачатку рвецца ўгару,
ды перадумвае неўзабаве, —
мабыць, лагчынай
прайсціся захацелася.
Барана, што ляжыць дагары зубамі,
як вожык той,
абчаплялася лісцем
зжаўцелым.
Сланечнік галаву цяжкую
праз частакол прасунуў,
грэецца —
холад даймае патрошку.

Лірычны герой абодвух паэтаў не проста жыве гэтым імгненнем сваёй еднасці з зямлёй маленства, уласнай далучанасці да хлебаробскай працы, але і напоўнены перакананасцю, што ўсё гэта ніколі не забудзецца. Яно назаўсёды, да скону, бо такое не забываецца. Не мае права забывацца.

У С. Блатуна:

Смугу сноў дзіцячых ніяк не забуду,
Хоць леты мінаюць і вёсны…
Калі хто спытае: а як цвіце бульба?
Яму адкажу — дзівосна.

У Р. Барадуліна:

Я гэты ціхі дым
на смак
і навобмацак
ведаю,
яго я ні з чым не паблытаю,
любою парою,
дзе б ні быў, адусюль
па ім, як ганчак па следу,
дарогу дадому знайду, да матчынага парога.

Сымон Блатун, уступіўшы ў першыя гады сваёй творчай сталасці, шчодра раскрываўся талентам, які, несумненна, шмат абяцаў. Застаючыся паэтам, здольным па-сапраўднаму здзіўляцца зямной прыгажосці, умеючы бачыць яе ў самых звыклых, будзённых з’явах, ён адначасова быў і творцам, які намацваў, адчуваў балявыя моманты ў паўсядзённасці, казаў сваё слова там, дзе іншыя лічылі за лепшае і прамаўчаць.

Мы цяпер часта любім — нават без патрэбы на тое — паўтараць, як пэўныя аўтары асобнымі сваімі творамі «рыхтавалі» тыя дэмакратычныя працэсы, што адбыліся ў грамадстве з надыходам так званай «перабудовы». А хіба, калі ўжо прытрымлівацца гэтага слова, не рыхтаваў яе сваім вершам «Скразнякі» С. Блатун? Твор вельмі сугучны зменам, што праз некаторы час адбыліся ў жыцці грамадства:

Скразнякі — малыя буравеснікі—
У акно
ірвуцца напралом,
Лапацяць фіранкі,
быццам ветразі,

Завіруха кружыць
над сталом.
Скразнякі
віхурыста-адчайныя
У галоп хапаюць
пад бакі…
Нават ляпаюць дзвярыма
падначаленыя,
Калі дзьмуць
тугія скразнякі.

Рабіў С. Блатун і подступы да асваення вялікага паэтычнага жанру, аб чым сведчыць яго паэма «Барвянае ляда». Гэты твор прысвечаны балючай тэме — памяці ахвяр Хатыні. Праўда, не сказаць, каб лірыка-эмацыянальны талент творцы знайшоў у ім сваё належнае мастакоўскае раскрыццё. У паэме пераважае спавядальная манера, а гэта, пры адсутнасці пэўнага вопыту ў названым жанры, абмяжоўвае аўтарскія магчымасці. Не дазваляе глыбокаму пранікненню ў сутнасць трагедыі, якая спасцігла гэтую вёску. Не выратоўвае твор і публіцыстычнае ўзмацненне з прыцягненнем вядомых рэмінісцэнцый. Разумееш, што гэта прамаўляецца шчыра, занепакоена. Аднак амаль няма менавіта свайго асэнсавання неўміручай тэмы. Хоць сам зварот да паэмы сведчыць на карысць таго, што С. Блатун невыпадкова зацікавіўся гэтым жанрам. Думаецца, што цягам часу, калі б не заўчасная смерць, ён яшчэ б звярнуўся да яго. Балазе пра што пісаць было. Дый не толькі пра падзеі вайны, а і блізкую яму сучаснасць. А за пакарэнне новых для сябе творчых абсягаў браўся ахвотна.

Прынамсі, паспяхова спрабаваў свае сілы і ў галіне сатыры і гумару, выступаючы з творамі ў перыядычным друку. У тым ліку і на старонках часопіса «Вожык». Лепшыя свае гумарэскі, вершы і мініяцюры сабраў у зборнік «Калючая шаткаванка», які прапанаваў выдавецтву «Беларусь». Шкада толькі, што яго таксама не дачакаўся: кніжка выйшла ў 1971 годзе. Затое многія з гэтых твораў можна прачытаць у томіку выбранага «Чысціня», дзе ім адведзены асобны раздзел «Гумар». У яго ўвайшлі вершы, каламбуры, карацелькі, эпітафіі, афарызмы. Яны сведчаць пра тое, што і ў гэтай мастакоўскай галіне С. Блатун дасягнуў значных поспехаў. Яго сатырычна-гумарыстычныя творы пазначаны самастойнасцю думкі, арыгінальным вырашэннем тэмы.

Як, напрыклад, вершы «Брахун і падбрэхіч», «Пісьмо Зайца», «Як у футбол кот гуляе», «Вусатая машына», «Зайчыкава капуста» і іншыя. З гэтых твораў вылучаецца «Пісьмо Зайца». Гэты герой розных гісторый скардзіцца на свой незайздросны лёс:

«Дарагія байкары,
Гэта піша Заяц…
З некаторае пары
Проста я ў адчаі.
Паднялі мяне на смех,
Ды з мараллю строгай,
Быццам я вам перабег
Некалі дарогу.
І бярэ такое зло,
Точыць засмучэнне:
Стаў я нейкім вам Казлом.
Як там? Адпушчэння.
Хто ні піша, я — трусак,
Дам заўсёды маху […]»

Заяц не пагаджаецца з такім несправядлівым стаўленнем да сябе: «Гэй, сябры, яно не так — // Ўсе звяры са страхам». Для падмацавання сваёй думкі прыводзіць некалькі прыкладаў. Узяць хоць бы Лісу: […] Яна мастак // На курыну

лапку, // А пачуе брэх Сабак — // Дасць такога драпу!» Не адстае ад яе і яшчэ адзін лясны разбойнік: «Воўк — клыкасты жывадзёр, // Пры лясной праверцы // Ледзь ад страху не прамёр // Ад разрыву сэрца». Не такі ўжо смелы і Мядзведзь: «[…] Напалоханы, ледзь-ледзь // Ногі ўнёс … ад пчолаў». Заяц перакананы і ў іншым: «Калі праўду гаварыць, // Дык і Леў не шышка…» Выказаўшыся, Заяц раіць:

«[…] Вось пра гэта, байкары,
Болей вы пішыце.
Я не ўсё яшчэ сказаў…
Нельга з тым мірыцца…»

Ды гэты праўдалюб — своеасаблівы: «Заяц ліст той дапісаў, // А даслаць… баіцца».

Некаторыя з гумарыстычных вершаў С. Блатуна разлічаны на дзіцячую аўдыторыю, але іх цікава прачытаць і дарослым. Свае мастацкія вартасці і ў яго каламбураў, карацелек, эптафій, афарызмаў. Несумненна, і ў галіне гумару і сатыры ён мог бы шмат напісаць. Магчыма, узяўся б і за жанр паэмы. Такое меркаванне — не беспадстаўнае. Генадзь Бураўкін успамінаў, што на ягоным вяселлі ў студэнцкім інтэрнаце С. Блатун прачытаў сваю жартаўлівую паэму, напісаную пад «Тараса на Парнасе». У ёй былі прыкладна і такія радкі: «Народ сабраўся тут такоўскі: // сам Ніл Гілевіч, Матукоўскі». Але ці захавалася яна, невядома.

Відаць, нічога не ведаў пра лёс гэтага твора і Р. Барадулін, пішучы сваю прадмову да кнігі «Чысціня», інакш бы згадаў: усё ж выпадак не ардынарны. А то абмежаваўся такім сведчаннем: «У шэрай папцы на «маланцы», у якой звычайна Сымон насіў дадому па вуліцы Друкарскай рэдакцыйныя матэрыялы, зараз захоўваецца своеасаблівы архіў паэта: рукапісы, выразкі, адказы пачаткоўцам, бланкі газеты «Звязда»».

Плённа працаваў С. Блатун і як перакладчык, пераўвасобіўшы па-беларуску асобныя творы рускага паэта Яўгена Савіна, латыша Яна Судрабкална, грузіна Мірзу Гелавані, узбекаў Акмалу Пулата, Юсуфа Шамансура, армян Цакана Шогенца, Вагана Каранца, Аванеса Гукасяна. Вершы гэтых аўтараў прадстаўлены і ў кнізе «Чысціня». Перакладаў і іншых аўтара, што сведчыць як аб шматграннасці ягонага таленту, так і аб тым, як хацеў, каб шмат што лепшае з іншых літаратур гучала і па-беларуску.

Аднак важкасць, значнасць паэзіі С. Блатуна ўсё ж надае яго лірыка, якая ўвабрала ў сябе і пахі роднай зямлі, і сінь нябёсаў, і засмужанасць даляглядаў — усё тое, што аб’яднана для кожнага чалавека адным словам — Бацькаўшчына. З’яўляючыся песняром яе, С. Блатун і застаўся ў беларускай літаратуры адным з самых шчырых і пранікнёных лірыкаў.

На Чыжоўскіх могілках у Мінску ёсць сціплы бронзавы барэльеф, пад якім пахаваны паэт. Скульптар Ігар Краўчанка адліў на ім радкі аднаго з ягоных вершаў, што ўспрымаюцца свайго роду развітаннем. Не толькі з сябрамі, а і з усім тым, што для яго было такім дарагім:

Бывайце, гоні, рэчкі, паплавы, —
Я адлятаю ў свой далёкі вырай.

Па словах Р. Барадуліна, у С. Блатуна «гоні, рэчкі, паплавы» — гэта дакладна выпісаныя родныя мясціны». Рыгор Іванавіч прызнаваўся: «Калі быў я пасля на Брагіншчыне, пераканаўся ў гэтым. У галасах брагінцоў (яны самі націск робяць у слове гэтым на апошнім складзе» чуўся мне голас Сымона, сына Ціхана». Але развітваўся ён не толькі з роднай яму Брагіншчынай, а і з усё Беларуссю.

Міжволі прыходзіць і сказанае С. Блатуном з іншай нагоды: «Зажываюць балючыя раны…» Ды толькі гэтая рана з тых, якім ныць заўсёды, неаднойчы задумваючыся над тым, як мог бы яшчэ шмат напісаць гэты цудоўнейшы паэт, калі б лёс да яго быў куды больш спагадны. Адно супакойвае: усё ж след у беларускай літаратуры ён пакінуў значны, якому ніколі не знікнуць.

Святлана ВОЦІНАВА

# ВАНДРОЎКІ ПА ЯЕ БЫЛЫХ ВАКОЛІЦАХ*

## Частка трэцяя. Глядавічы

«Чаго гэтая аповесць вартая, не ведаю; у адным толькі ўпэўнена — што для ўдумлівых людзей будзе яна цікавым этнаграфічным даследаваннем». Гэтыя словы, напісаныя Элізай Ажэшка ў лісце да Леапольда Меета ў студзені 1885 года, маюць дачыненне да аповесці «Дзюрдзі», але і я магла б іх напісаць тут, слова ў слова, пра наступную частку «Вандровак…».

Мы ў вёсцы Глядавічы, самай, бадай, вялікай з усіх чатырох. Вырашана перш-наперш наведаць краму, калі ўжо яна тут ёсць, і распытаць падрабязна, у якую хату ісці, каб пачуць патрэбнае: пра лекарку Люцю (яна якраз тут жыла), пра старасту Круля і яго жонку Круліху (мо хто такіх памятае), пра зязюльчыны ручкі, у рэшце рэшт.

— Гэта вам трэба да Дзюрдзяў, — кажуць хорам прадавачка і пакупнікі.

— Да каго?!

Я не тое каб недачуваю, нават наадварот. Але апыніся і ты, мой чытач, хаця б думкай, у становішчы, калі ты распытваеш сёе-тое пра аўтарку «Дзюрдзяў», а цябе менавіта да Дзюрдзяў і накіроўваюць. Тут міжволі перапытаеш.

— Але ж дождж, то як вы пойдзеце? — пытаецца прадавачка.

І тут жа тлумачыць дарогу: трэба спачатку кіравацца направа, а пасля, «як дарога скончыцца», павярнуць… Куды б ты, чытач, меркаваў? «Наверх»!

— Пасля, як дарога скончыцца, паварочвайце наверх — там знойдзеце хату Тэрэзы Дзюрдзь.

Неверагодны арыенцір, але я ўмудраюся ім кіравацца, збіраючы па дарозе новыя думкі.

Калі па дрэвах лупцуе дождж, ім, дрэвам, з таго нічога. І слупам нічога. І платам. А дахам? Калі пад дахам пануюць пахі, бо ў рондалі — варыцца, у гаршку — пячэцца, а на патэльні — смажыцца і скварчыць, то дождж — на дранікі і боршч. Больш чым аптымістычна!

Тэрэзу Дзюрдзь мне рэкамендавалі як былую культработніцу, супрацоўніцу клуба, жанчыну, якая цікавілася даўніной і «запісвала ўсё такое, бо гэта яе прафесія». Перш-наперш, правёўшы мяне, мокрую, у цёплую залу, яе дачка Аксана варыць смачную каву і частуе зефіркамі ў шакаладзе. Адаграюся ад гэтай гасціннасці больш чым імгненна і працягваю гаварыць тое, што пачынала яшчэ на парозе, калі важкія кроплі дажджу, спаўзаючы з парасона, падалі на падлогу, а зуб не трапляў на зуб:

— Старастам Глядавіч у той час быў Сымон Круль. Яго жонка Круліха пісьменніцай таксама згадваецца — як немаладая, але свежая і моцная кабета «з энергічным тварам і рухамі». І хаты даволі падрабязна апісваюцца — і Круляў, і лекаркі Люці. Хата ў Круля не такая ўбогая, як у Люці, а «з чатырма вялікімі

* Заканчэнне. Пачатак у № 3 за 2017 год.

*Мяркуючы з подпісу, зробленага пад здымкам рукой Элізы Ажэшка, злева на ім (сядзіць) лекарка Люця з Глядавіч, а справа (стаіць) 17-гадовая Ульянка Снопкава з Мінявіч. З ліста пісьменніцы да сяброўкі Астоі ад 1886 года: «Памятаеш Снопкаў? Дзіця іх на дыфтэрыт хварэла, былі ў роспачы, але ўжо вылечылася». А ў 1890-м пісьменніца распавяла чытачам «Wisły» іншае: «Дазналіся мы, што падлетак і дзве старэйшыя дзяўчынкі былі дзецьмі з першага шлюбу Снопкі, іншых жа дзяцей, апрача немаўляці на руках, у гаспадыні, не было. Спыталіся мы ў Снопчыхі, ці гэта адзінае яе дзіця. І ў імгненне вока яе твар з вясёлага і ажыўленага стаў хмурым. Быў яшчэ ў іх сынок, якому летась споўнілася тры гады і які памёр ад «ліхтарытусу» (дыфтэрыту). Такі быў дужы, здаровенькі, не жарт які разумны, а гутарлівы, аж вясёла ад яго рабілася ў хаце. Калі захварэў, чаго яны ні рабілі, каб яго ўратаваць! Да дохтара нават насілі. Нічога не дапамагло. Скаціўся са свету, як тая ягада!»*



*Фота знакамітага Яна Садоўскага, 1880-я.*

вокнамі, зашклёнымі яснымі шыбамі». І без ганка, які быў звычайшчынай для шляхецкіх сядзіб, «затое з шырокаю прызбаю». Ці засталіся ў памяці тутэйшых жыхароў тыя людзі? Пані Элізу, між іншым, цікавіла, адкуль у Глядавіцкага старасты («гэта значыць, выбранага чыноўніка, які трымае ў вёсцы жазло адміністрацыі») такое «нерусінскае» прозвішча — Круль? Такога яна нідзе ў сялян больш не чула…

— Я чула нешта звязанае з Каралямі, — адказвае мне гаспадыня. — Нейкія ў іх быццам фотаздымкі былі, быццам з Элізай Ажэшка. Нешта мне такое помніцца, але нічога больш ясна не ведаю. Тыя Каралі памерлі, і няма ў каго больш спытаць. Пра Люцю, як вы гаворыце, увогуле ніхто-ніхто, колькі я хадзіла па хатах у бабак выпытваць пра даўніну, ніколі не ўспамінаў. Пра Ажэшку кажуць, што жыла ў пана, які меў гасцінны двор, была добрая, усім памагала, часта сядзела на лавачцы пад бярозкамі.

Я цябе, чытач, папярэджвала наконт клёнаў. Вось і сталі яны бярозкамі. Але не пра тое размова. «На жаль, сяляне радаводных кніг не маюць, а дамагацца ў іхняй памяці таго, адкуль вядзецца іхні род, — дарэмны клопат, бо такія рэчы для іх невядомыя і абыякавыя», — піша Эліза Ажэшка ў «Людзях і кветках…». І трэба, відаць, пагадзіцца. Але я пратэстую. Бо і сама пані Эліза адумалася і напісала пра мясцовы люд іншае: «Калі па-добраму разгаварыцца, то высветліцца, што ведае не толькі тое, пра што пыталіся, але і пра многае іншае».

Калі па-добраму разгаварыцца…

— Дык вы кажаце, што пані Эліза была харошая, што пісала пра ўсё тутэйшае… І пра легенду? А можаце яе расказаць?

І пані Тэрэза з вялікай ахвотай (хоць яе добра-такі перабівае ўнук) расказвае мне легенду, якую сама ўпершыню пачула якраз тут, у Глядавічах, калі прыехала ў гэтую вёску аглядаць сваё будучае жытло.

— Едзем з мужам на матацыкле першы раз, ён паказваў мне месца, дзе наш дом будуецца, і раптам кажа: «А тут быў дуб, у ім дупло, у дупле жылі хлопец і дзяўчына, Ян і Цэцылія». Я думаю: «Што ж гэта яны — такія малесенькія былі, што ў дупле памяшчаліся?» Мяне гэта здзівіла, зачапіла, я зацікавілася не на жарт: што за легенда? Мне яе тут расказалі цалкам. Маўляў, хлопец і дзяўчына, што жылі ў дубе, аднекуль сюды прыйшлі. І нарадзілася ў іх шасцёра сыноў і шэсць дачок. Сыны, як павырасталі, жаніліся на тых, хто ўмее нешта рабіць. Адзін узяў сабе жонку з Гродна, астатнія з іншых месцаў, але ўсе выбранніцы былі ўмелыя, не бязрукія. Сыны, значыцца, з сем'ямі пасяліліся ў адным баку вёскі, а дочкі, якія ішлі замуж за прымакоў, — у другім. Вось Багатырэвічы і займелі на адзін канец дамы Багатырэвічаў, людзей з такімі прозвішчамі, патомкаў тых сыноў, а на другі канец ішлі жыць Капчэўскія, Карчынскія, Ляўковічы, Стралкоўскія і астатнія — гэта ўжо прымацкія прозвішчы. Так яно і цяпер ёсць. І ў нас тут паўсюль, мо вы заўважылі, размаўляюць па-руску, па-беларуску або па-руска-беларуску, а там, у Багатырэвічах, больш па-польску. Адзіная вёска, дзе ў кожны дом зойдзеш — і табе: «Дзень добры, пані, прошэ сядаць», пані тое, пані гэта. Цікава. Калі я вучылася ў Мінску і трэба было мне рыхтаваць дыпломную работу — пісаць сцэнарый свята песні, я ўзяла за аснову легенду пра Яна і Цэцылію. Яны ў мяне на гэтым свяце як людзі працы былі прадстаўлены. Легенда зацікавіла і майго кіраўніка, ён параіў стварыць асобнае свята, прысвечанае Яну і Цэцыліі. І я за два тыдні зрабіла такое свята.

Пра свята — як сур'ёзна яно рыхтавалася і як чароўна прайшло — распавядае і дачка Тэрэзы Міхайлаўны, Аксана. Яна тады была малая, але добра памятае кожную драбязу. Увогуле, яна шмат дапаўняе аповеды маці або накіроўвае думку: «А помніш…, «А раскажы…»

— Раскажы пра польскага караля.

— Пра польскага караля… Людзі казалі, што тут была пушча. Непраходная. У ёй палявалі, і нават польскі кароль прыязджаў сюды на паляванне. Прыехаў, глянуў — і адкрылася перад ім поле, засеянае пшаніцай, сады, агароды. Ён здзівіўся: пушча вакол непраходная, а пасярод яе — такі край! І два млыны тут стаялі, і людзі прыязджалі сюды вучыцца розным рамёствам. Зняў кароль шапку і нізка да зямлі пакланіўся людзям, якія працай сваёй стварылі такую зямлю дабрадатную. І цяпер стаіць ім помнік — слуп на чатыры грані, на слупе чалавек, які нясе крыж, а па баках абразы. І два камені, Ян і Цэцылія. Чалавек нясе на зямлі свой крыж. У іх крыж быў такі: працаваць. Яны героі зямлі нашай і гэтага месца. Ян і Цэцылія цяпер на кожным нашым свяце ўраджаю прысутнічаюць: зернем людзей блаславуляюць. На добрае жыццё… Кароль Зыгмунт гаварыў, што будуць Багатырэвічы шляхтай, пакуль род іх цягнецца. Так што яны і цяпер дваране…

Па ўтульнай зале разліваецца аповед, па целе — цеплыня смачнюткай кавы, па шкле аконным — небарака дождж.

— У мяне прозвішча Дзюрдзь, а «Дзюрдзі» — аповесць Элізы Ажэшка. Чаму мяне сюды з гэтым прозвішчам так пацягнула? Чаму я гэтай легендай зацікавілася і ўсё жыццё тут пражыла? Прозвішча маё мне ад мужа дадзена, ён з Квасоўкі. Там Дзюрдзі спрадвеку жылі, там і цяпер шмат Дзюрдзяў. Не ведаю, як так стала…

— Пра сон раскажы, — дачка зноў.

— Тут ёсць над Нёманам такія месцы: Раздор, Белы Груд, Момры… Назвы такія дзіўныя. Раздор каля Паніжан, цяпер там рака разлілася. А Момры — гэта… ну вельмі глухое месца. Страшнае, цёмнае. Каля самай ракі месца. І гэта цяпер. А калі тут была пушча, то там, мабыць, зусім ужо момры былі. А Раздор чаму, і чаму Белы Груд?.. Паводле легенды на Белым Грудзе стаяў касцёл. Аднойчы маладая сям'я ехала з касцёла пасля вянчання, а другая пара яшчэ толькі ў касцёл, на вянчанне ехала. А дарога была ў гэтай пушчы, ля самага Нёмана, вузкая-вузкая. І трэба было адно аднаму саступіць — некаму з воза злезці, каб другі воз праехаў. Іначай ніяк. Ну, але ж такая была паказка, што калі

сступіш, то жыць будзеш кепска. Ніхто не хацеў кепска жыць, ніхто не хацеў саступіць. Пачалася бойка. І Бог пакараў усіх — за тое, што ехалі ў Святое месца адны і са Святога месца другія, а на дарозе пабіліся. І правалілася ўсё пад зямлю — і тыя людзі, што на вазах ехалі, і касцёл, і ўсё астатняе навокал. Вось месца так цяпер і называецца — Раздор. А там, дзе ўсё правалілася, кажуць, можна пачуць спеў касцельны. Гэта ля Глядавіч, дзе рака. Там застаўся астравок пасярод вады. Аднаго разу я там паблізу кароў пасвіла, і здарылася са мной страшнае. Каровы ўвайшлі ў маленькі лясок, які толькі пачаў расці, побач з невялічкім балотцам. Не дагледзела, бо збірала суніцы, кветкі, лісцікі — каб пасушыць. Вакол цішыня была… І раптам — мужчынскі хор. Я ўстала, аглядзелася, нічога нідзе не ўбачыла. Думала, мо машына якая дзе стаіць і адтуль спеў ідзе. Але нідзе нічога. Мне гэты спеў мог пачуцца, прымроіцца. Але ж каровы!.. Яны ўсе адначасова раптам выйшлі з гэтага месца, дружна, разам. Такога не бывае з каровамі, іх звычайна трэба выдзіраць, выганяць, тым больш адтуль, бо трава там вельмі добрая. Але яны пакорліва пакінулі месца, прайшлі метраў трыццаць ці сорак і працягнулі пасвіцца. А мне гэты хор усё спяваў. Я пастаяла, малітву «Ойча наш» прачытала — тады толькі прайшло. У бабы Насці я распытала, што гэта магло быць, і яна расказала мне тую легенду. А яна, баба Насця, у даліне знайшла крыж. Мо ён з храма, што праваліўся? А мо там былі могілкі… Хто ведае? Мо проста аднекуль, калі вада вялікая была, ён узяў ды прыплыў. Нёман жа падыходзіў блізка. Тут была, кажуць, гавань, і караблі прыплывалі…



*Помнік Яну і Цэцыліі на старэнькім здымку.*

— Пра сон жа так і не сказала. І пра Блуднае поле скажы, — дачка зноў падказвае.

— Ад Шчарбавіч да Глядавіч ёсць поле, называецца Блуднае, бо на ім усе неяк губляюцца. Не зусім прападаюць, але не маюць магчымасці арыентавацца. Адзін дзядзька адсюль у Гродна па воўну хадзіў. Ішоў з той воўнай зімою, па лёдзе. І ўжо засталося яму дайсці ад Шчарбавіч да Глядавіч. Ісці мо хвілін дзесяць, ад сілы пятнаццаць. А ён ішоў, ішоў, ішоў — цэлую ноч. Згубіў арыенцір. Хоць губляць няма чаго: вось адна вёска, вось другая і бераг Нёмана. Але так ён нахадзіўся за тую ноч, што замест воўны прынёс дадому валёнак. Так воўна збілася ад поту. А мо ад страху… Вось адна з гісторый пра тое, як тут губляліся людзі… — гаспадыня зірнула ў акно. — Але ж і дождж! Сцяною!..

— Табе ж сон прысніўся, раскажы.

— Пачакай, — адмахваецца маці, захопленая ўласнымі ўспамінамі. — Аднаго разу прыходжу на бераг Нёмана — якая прыгажосць! Сонца адбіваецца ў вадзе — і бачыш яго, быццам купалы! Мне тады той хор успомніўся. Хвалі, цішы-

ня і купалы… А сон мне прысніўся за тры гады да таго, як збіраліся ў Глядавічах рабіць вадасховішча. Вешчы сон. Быццам ад Глядавіч да Шчарбавіч — вада, вада, вада. Хвалі, хвалі, хвалі. І стаіць воз, і ў гэты воз мы кашамі збіраем маслякі. Тут паўсюль раслі маслякі і рыжыкі — мора іх тут было, бо быў лес. І вось у сне мы збіраем маслякі, але чамусьці не ў лесе, а ў хвалях. Цэлы воз іх набралі — і едзем. Едзем, едзем — раптам хвалі быццам канчаюцца, і мы бачым лес: вакол елак зайцы скачуць. Я пасля думала: што ж за сон такі? Усе яго разгадвалі, ніхто не мог разгадаць. А праз тры гады ў раённай газеце пішацца, што будзе тут зроблена вадасховішча. Вось і сталася, што там, дзе мы збіралі маслякі, цяпер ловяць рыбу, і паўсюль — хвалі, хвалі, хвалі. Сапраўды шмат вады ў нас цяпер на гэтым месцы. З усіх раёнаў навакольных як пачалі рыбакі прыязджаць — па пяцьсот машын стаяла… А, дык пра Элізу Ажэшка. Сюды не толькі яна прыязджала, а многія з Гродна — на лета, адпачываць. Круль — гэта значыць Кароль, як я ўжо сказала. Што яшчэ… Цяпер тут старастам Занеўскі, то ён мо што ведае. Мама яго жыла ў Багатырэвічах, яна давала мне чытаць кніжку на польскай мове, «Над Нёманам». Памятаю, што падарунак пісьменніцы. Здзіслаў Занеўскі на пенсіі ўжо. Але ён староста вёскі, то мо і ведае што, а мо яму нешта ў дзяцінстве расказвалі. Далей у вас у плане вёска Паніжаны? Там шукайце Якімовіч Любоў Іванаўну, былую бібліятэкарку, цяпер яна староста вёскі. Дом у яе яркі, з гаршчочкамі на плоце. І двор харошы. Там нехта пакажа. А тут шукайце Занеўскага.

— Я ж яшчэ і расліны шукаю, — успомніла — як схамянулася. — Ажэшка не ведала іх навуковыя назвы, але падрабязна апісвала. Зязюльчыны ручкі і казіныя бароды. Ці ведаеце вы такія расліны?

— У Глядавічах жыве Марыя Мажэйка. Побач з Занеўскім яе хата. Вось яна ў нас лекарка, яна ўсіх лячыла. І з іншых вёсак, і з усіх старон. Нават з Квасоўкі. Спартсмен нейкі з Гродна са спінай мучыўся, урачы не маглі рады даць, а яна вылечыла. Ёй пасля гэтага самой было вельмі кепска, бо яна сваю энергію аддала яму. Ад таго неяк адразу інсульт з ёю здарыўся, і цяпер дзеці не дазваляюць ёй лячыць. Але яна ходзіць, размаўляе, дык мо што і помніць. Калі інсульт не нашкодзіў памяці. Мо і расліны такія ведае. Я прывітанні праз сына ёй перадаю, але сама яе не бачыла: дзеці нікога да яе не пускаюць, каб яна даўжэй пажыла. Ёй мо 88, недзе так. Кажуць, што цяпер яна перадае сваю сілу ўнучцы, а тая медыцынскі работнік, фельчар, у Лунне працуе. Бабка вучыць яе ўсяму: калі баляць суставы, трэба ўзяць напалову вады і воцату і «ўсе жылы», як яна кажа, змазаць гэтай вадзіцай. Яна і рожы загаворвала, і спалохі. У мяне такое бывала, што сяджу ў хаце, а нехта зойдзе — і спалохаюся. Дык яна мне катала па галаве дзевяць шарыкаў хлебнага мякішу. Памятаю, і Любоў Якімовіч, што з Паніжан, была моцна спужалася. І пайшлі мы з ёй разам да Марыі Мажэйка. Дык і яе, і мяне тымі шарыкамі яна палячыла. Выйшлі мы пасля з хаты на ганак, я і кажу: «Любоў Іванаўна, трымайце мяне за руку, бо ўзлятаю». Мне так лёгка стала, што і праўда магла б узляцець. І пакуль ішла з таго канца вёскі, у мяне адчуванне лёгкасці не прападала.

Так я і знайшла, мой чытач, Люцю, якую шукала, — лекарку з Глядавіч.

Дазволю сабе пераскочыць у гэтым аповедзе нейкую колькасць абзацаў і пэўны прамежак часу.

Да лекаркі Люці я трапіла пасля таго, як пабывала ў старасты. Не ў Сымона Круля, канечне, а ў сённяшняга, Здзіслава Занеўскага.

— Ён брыгадзір, хоць і на пенсіі, — сказала мне Тэрэза Дзюрдзь, — але ж такі сёння дождж, што мо на майстэрні вы яго знайдзеце, а мо і дома.

Знайшла яго дома. Ён нічога не чуў ні пра Люцю, ні пра Круля, але…

— У мяне стацья была недзе. Зараз я вам пашукаю… За 1993 год. Адкуль яна ў мяне, газета гэтая, я і сам не ведаю. Не помню, як апынулася.

Рэпартаж з 5-й старонкі газеты «Głos znad Niemna» ад 15—21 лютага 1993 года мае назву «Bohatyrowicze», займае цэлую паласу. Не ведаючы пакуль,

ці ёсць на гэтай паласе што каштоўнае (мне, прынамсі, не вядомае), выказваю намер збегаць у машыну па фотаапарат, каб зняць старонку, але чую ў адказ:

— Можаце забраць сабе.

— А вам?

— Мне не трэба. Я «Над Немнам» чытаў, па-беларуску. На польскай мове гэтая кніжка недзе ў хаце маёй бабкі была, але цяпер там ніхто не жыве, то не ведаю, дзе яна дзелася.

— А з Ажэшкай ваша радня ніякіх кантактаў не мела?

— Дык яна ж — (вось ён, чысты, крыштальны, не штучна выпуклы, а сапраўдны гонар — за ўласныя веды, за родную вёску, за народ і яго культуру!) — яна ж у тысяча дзевяцьсот дзясятым годзе памерла!

Бабка Здзіслава Занеўскага была 1893 года нараджэння, але яна не з Багатырэвіч, а з вёскі за Свіслаччу, са Сцяцкоў. Там ніхто нічога не ведае.

— Да адной жанчыны ў Багатырэвічы прыязджае ўвесь час аўтобус з турыстамі. І да помніка Яну і Цэцыліі, і на магілу паўстанцаў яна іх водзіць. Яе Тэрэса завуць, вы мо ў яе і былі ўжо.

Дзякуй табе, чалавек! За спакойны, упэўнены воблік і вобраз чагосьці сапраўднага, моцнага, вечнага.

Ну, і ён, стараста, хоць не Круль, а Занеўскі, паказаў мне, не пабаяўшыся выйсці са мною пад дождж, хату Люці — Марыі Мажэйка.

На парозе (дакладней — у сенцах) няпрошаную госцю (то бок мяне) сустрэла нявестка. На просьбу пагаварыць з Люцяй (маёй Люцяй) адказала (крытычна зірнуўшы) з усмешкай і вельмі распеўна:

— Я-яна ста-арая ба-аба-а, ні-ічога не ве-едае.

Ніякія ўгаворы не падзейнічалі: да Люці мяне не пусцілі. Але нявестка, якая так упарта перагароджвала шлях, так нязмушана пазбавіла надзеі на новую інфармацыю, так лёгка нашкодзіла паспяховаму завяршэнню аднаго з пунктаў вандроўнага плана і адначасова навуковай экспедыцыі, — падалася мне вельмі мілай. Не ад шкадлівасці яна ўчыніла ўсё пералічанае, а — відаць было — ад жадання не шкодзіць свякроўцы. Гэтая нявестка праявіла клопат, які, магчыма, не праявіла б дачка.

А пані Эліза, памятаю, пісала, што ўзаемаадносіны нявестак са свякроўкамі ў мясцовых сялян па большасці непрыязныя, і гэта нават нараджае прымаўкі кшталту: «Хлеб не нявестка: які спячэцца, такі і з’ясі» або зусім ужо абразлівых: «Што так смярдзіць? Нявестчын андарак вісіць». Няхай чытач тут сам сабе адзначыць: не пра свякровак прымаўкі, а пра нявестак. Апошнія, відаць, чынілі першым крыўды хутчэй, чым наадварот. Прынамсі, як мы ведаем з нарыса «Людзі і кветкі…», Люцю ад нявесткі трэба было бараніць. Ды і, цытуючы пані Элізу, «сэрца якой маці не зойдзецца ад горычы і зайздрасці, калі, напрыклад, паводле адной прыпавесці, мужчына вяртаецца з працы дамоў і, паспытаўшы баршчу, пададзенага яму маткай, бурчыць: «От, матка, згатавала боршч, толькі свінням выліць!» Маці ж адказвае: «Гэта не я, а твая Гануля гатавала!» Мужчына зноў каштуе боршч, круціць галавой і, амаль задаволены, кажа: «Пасаліць толькі трэба, смачны!»

Пажыла б пані Эліза ў наш час, то шмат напісала б іншага, новага, рознага — і пра свякровак таксама. Увогуле, грамадства мае патрэбу ў тым, каб знайшоўся аўтар, які патлумачыў бы раз назаўсёды, што да чаго ў стасунках нявестка—свякроў. Пакуль такі аўтар вышукваецца, грамадства напорваецца на зубцы старэнькіх грабляў. Яны хоць не такія мо вострыя, але ж бывае балюча. Але пра тое не тут, не цяпер.

— А тут яшчэ адна бабуля ёсць, яна мо нават і радня той Марыі Мажэйка, толькі што лічыцца наадварот — ведзьмай. Ну, так пра яе гавораць…

Гэта я вярнула аповеду храналогію: зноў сяджу на канапе ў Тэрэзы Дзюрдзь, якая расказвае новыя дзіўныя рэчы. Прынамсі, з яе слоў я раблю выснову, што,

як і ў час Элізы Ажэшка, больш чым стагоддзе таму, так і цяпер ёсць у ваколіцы «жанчыны, што ведзьмаруюць» і «тыя, што не ведзьмаруюць, але сапраўды лечаць». Гэта значыць: ёсць у вёсцы лекарка — знойдзецца і ведзьма. Розніцу паміж імі пані Эліза тлумачыць праз розніцу паміж пагардай і страхам, павагаю і зычлівасцю.

«Жанчына, якая з дапамогай не толькі раслін, але і земнаводных (пераважна рапух), кажаноў, а таксама слоў і таемных знакаў уздзейнічае пэўным чынам на здароўе, дабрабыт, лёсы і характары людзей і кіруецца пры гэтым нянавісцю, помстай, асабістымі пачуццямі ці грашовымі інтарэсамі, называецца ведзьмай. Гэта істота, якая не мае душы, улюбёнка і адначасова ўласнасць д’ябла». Такія ўяўленні заселі глыбока і выцягваюцца на свет белы з вялікімі цяжкасцямі, «бо размова пра гэтыя рэчы праймае людзей страхам і абуджае боязь помсты «нядобрых». Аднак вясковыя жанчынкі, разгаварыўшыся, ужо нічога ўтаіць не могуць». Людскія расповеды пра ведзьмаў і цэлыя роды, пазбаўленыя душ, пані Эліза чула тут неаднойчы. «Расказвалі пра гэта ціха, з панурым паглядам і наморшчаным ілбом, і тут жа, перапалоханыя ўласнымі словамі, прасілі захаваць усё сказанае ў глыбокай таямніцы».

— Кажуць, што яна ведзьма, але я за ёй нічога дрэннага не бачу, — працягвае Тэрэза Дзюрдзь. — Не ведаю, чаму гавораць, быццам яна каля нейкіх дамоў круціцца і нешта закопвае. Так гавораць. Я да яе шмат разоў хадзіла, мы з ёй прыязна пра жыццё гаварылі. Яна такая, ведаеце, акуратніца-акуратніца. Казалі, што некалі ў яе першай на вокнах з’явіліся занавескі. І ўсе хадзілі глядзець і казалі: «Ах, у іх занавескі ёсць!» Гэта пасля вайны было. Але слава пра яе вось такая — вядзьмарская. А як на самай справе — невядома.

— Кажуць, што яе трэба баяцца, — дадае дачка. — Я помню, мяне ёю палохалі. Але гэта толькі размовы. Яна не страшная, яна добрая.

Такая абарона старэнькай жанчыны яе маладзейшымі аднавяскоўкамі, такое заступніцтва перад яе «нядобрай славай» выклікае сапраўднае замілаванне. Чамусьці я ўпэўнена, што размовы падобнага кшталту гучалі тут і раней — сто трыццаць гадоў таму.

Мы гаворым яшчэ доўга-доўга. Мо ў надзеі спыніць, нарэшце, сваімі размовамі ўпарты дождж, мо з якой іншай нагоды, але гаспадарам не вельмі хочацца мяне адпускаць.

На развітанне Аксана чэрціць схему маіх пераходаў у новыя вымярэнні і пазначае парталы. Пра першыя два я чытачу расказала: як праз адзін атрымала моцную хвалю здаровага патрыятызму і кволы зжаўцелы артыкул, а другі не адкрыўся ўвогуле. Трэці і чацвёрты парталы на схеме, якую чэрціць Аксана Дзюрдзь, — хата жанчыны, якая лічыцца ў Глядавічах ведзьмай, і хата Любові Якімовіч з Паніжан, апошняй вёскі, якую належыць наведаць згодна з планам экспедыцыі-вандроўкі. Пакуль чэрціцца схема, я нават і не падазраю, што яшчэ адзін партал, самы важны і самы глыбокі — ажно на 150 гадоў назад — адкрыецца мне тут жа, у хаце Дзюрдзяў.

Схема начэрчана. Вуліцы Глядавіч, домікі, павароты, указальнікі. «Новая вёска», «старая вуліца»… Трымаю паперку ў руках, выказваю за ўсё-ўсё-ўсё падзяку…

— Чакайце! А што калі мы падорым вам малака?

Калі вы не ведаеце, што самыя важныя парталы з нашага часу ў часы мінулыя можна адкрыць трохлітровікам сырадою, то ведайце: гэта магчыма. Як толькі я прымаю ў свае рукі з рук гаспадыні цёплы слоік (калі хто карову паспеў падаіць?), з дзвярэй пакоя ў прыхожую выплывае шэрая млявая постаць.

— Гэта шэры кот? Гэта і праўда шэры кот?..

Не палічы мяне, чытач, зусім ужо… перамоклай. Калі паўдня вядзеш размовы пра Элізу Ажэшка, а потым да цябе наўпрост выходзіць важны, шляхецкага выгляду шэры кот, то што ты можаш іншае падумаць, як не тое, што гэты кот…

Поўсць у яго быццам шчотка. Каб ты, чытач, бачыў таго ката.

1867-ы. Змрок вечара ўліваецца ў пакой пустога дома ў наднёманскай Мількаўшчыне. 25-гадовая Эліза Ажэшка павольна апускае кнігу, якую толькі што чытала, на шэры клубок, што спіць, вуркочучы, на яе каленях. Яна ўслухоўваецца ў цішыню бацькоўскай сядзібы, у якой апынулася пасля безнадзейнага шлюбу з Пятром Ажэшкам і такога ж безнадзейнага паўстання, — і твары, постаці, выпадкі, размовы, характары з прачытанага пачынаюць складвацца ў сцэны і вобразы. Праяўляюцца памяшканні і відарысы, рухі і галасы — і хочацца скінуць ката і рушыць да старога, вялікага, яшчэ бацькоўскага бюрка, запаліць над ім святло, схапіць у руку пёрка — і пісаць, пісаць, пісаць… Так яна і робіць. Але шэры кот — вось жа пракуда! — залазіць на бюрка і пачынае лапай лавіць пяро. Эліза смяецца, праганяе ката, але кот вяртаецца. Упарта вяртаецца. Яна, ужо разгневаная, хапае яго і выпраўляе ў суседні пакой. Моцна зачыняе дзверы, зноў піша. Нешта выдумляе, нешта спісвае з рэчаіснасці, дадае і выкрэслівае. Спешна хапае засохлымі вуснамі з кубка гарбату, не чуючы нават смаку. Зноў піша. Аж пакуль не забаліць, не здранцвее рука. Глухая ноч наўкола і цішыня пакоя нагадваюць хіба што магілу. А яна — адчувае радасць. Такую спакойную, але такую вялікую, што можна назваць яе шчасцем.

Ходзіць гадзіннік на сценцы, гукае сава ў садзе… 25-гадовая Эліза Ажэшка глядзіць на асветленае лямпай бюрка, на спісаную паперу — і марыць пра тое, што будзе на гэтай паперы далей. А далей будзе самае незвычайнае — спраўджванне мары, якая яшчэ нават не аформілася як след. Аднаго разу яна адкрые „Tygodnik Ilustrowany», і ў вочы ёй кінецца яе «выдрукаванае» прозвішча. Спачатку яе быццам варам хто абалье… Потым прабяжыць па целе дрыготка… Пасля яна яшчэ расплачацца, дурнічка… І пачне ганяць па пакоях шэрага пракуду-ката. Набегаўшыся, схопіць яго на рукі і будзе насіць па хаце, цалуючы. Якраз тады яна адчуе, што знайшла дарогу, на якой здолее служыць таму, што найбольш любіць, што жыве і плача ў яе сэрцы і без ратунку падае ў бездань, — Айчыне.

Імя ката пані Элізы я, прызнаюся, шукала — у лістах і ўспамінах. Пакуль не знайшла. А мо яно якраз і выплыла вось зараз праз партал часу, і носьбіт яго стаіць, вуркочучы, перада мной?..

— Як зваць яго? — пытаю ў гаспадыні імя яе шэрага прыгажуна.

— Бакі. Бакардзі.

Нешта іспанскае. Назва рому, сусветна вядомага! І, між іншым, не новы брэнд.

Цікавячыся (ужо дома, пасля вандроўкі) гісторыяй брэнда, я даведваюся не толькі пра год яго ўзнікнення — 1862-гі, але і пра сімвал гандлёвай маркі. Гэта кажан. Чытачу такая інфармацыя пакуль ні пра што не гаворыць, але запэўніваю: гэта пакуль.

## Частка чацвёртая. Рознае

Зноў лужыны. Глыбокія і шырокія. Ды якая ўжо розніца, за адну нагу вісець ці за дзве целяпацца? Што мачыць, калі мокрая? Шпацырую па лужынах як па асфальце. Мне трэба да жанчыны, якую назвалі ведзьмай, — да прадстаўніцы «чартоўскага племені», у існаванне якога я не надта веру і згадку пра які ўспрымаю ў кантэксце вандроўкі як нейкі маламэтазгодны сімвал і малаверагодны знак. Буду распытваць яе пра расліны, пра што ж яшчэ?..

— Вы не ведаеце зязюльчыны ручачкі? — пытаюся, заспеўшы гаспадыню ў хаце. — У іх карэньчыкі пераплятаюцца, быццам пальчыкі… Не? А казіныя бароды? З зямлі вырываеш, уверх коранем паварочваеш — выглядае як казіная барада. Кветка ліловая, на высокай сцябліне, а лісты доўгія. Эліза Ажэшка гэтыя расліны апісала, але навуковых іх назваў не ведала, дык я цяпер замест яе іх шукаю. Што гэта можа быць?.. Не ведаеце?

«Гледзячы на яе і слухаючы яе простую, шчырую і вясёлую гаворку, можна прысягнуць, што зусім дарэмна абвінавачваюць яе (альбо дапускаюць мажлівасць такога абвінавачвання) у наўмыснай шкодзе людзям праз ведзьмаванне», — піша Эліза Ажэшка пра Марысю Карасёву. І я так магла б напісаць пра сваю субяседніцу, ад якой наконт раслін у канцы размовы (праўда, пасля ўдакладнення іх паходжання: «дзікая ці ў агародзе расце?») чую наступнае:

— Нічога не ведаю. Я старая, нічога не помню, нічога не ўспомню, нічога і не скажу.

Сто трыццаць гадоў таму тут над ахапкамі раслін, прынесеных Люцяй у яе паласатым фартуху, або пры стале Марысі Карасёвай, усыпаным кветкамі, ужо адбываліся падобныя дыялогі, дзе ў якасці адказаў гучалі наступныя варыянты: «Не ведаю нічога аб гэтым зеллі, не ведаю!» і «Што знаю, тое і кажу, а чаго не знаю, таго і не скажу. Лгаць не буду». Так дакументальна засведчана ў тэксце Элізы Ажэшка.

Тым часам, расліну пад назвай казіныя бароды трэба шукаць, як я ўжо зразумела, не ў полі і не ў галовах людзей той мясцовасці, дзе пра яе і паўтара стагоддзя таму звесткі былі няўцямныя. У пошуках іншага кшталту трапляю на працу даследчыцы Любові Падпорынавай «Адметнасці фарміравання семантыкі каранёвых марфем у складзе заходнеславянскіх дыялектных фітонімаў». Даследчыца адзначае, што група назваў раслін, утвораных ад назваў жывёл, — адна з самых шматлікіх сярод груп заходнеславянскай дыялектнай фітанімікі. У прыватнасці, корань **koz-* аб’ядноўвае ажно 34 фітонімы. Пры гэтым вельмі выразнай заканамернасцю з’яўляецца пераменлівасць матывацыйных прыкмет пры захаванні сыходнай каранёвай марфемы. То бок, меркаванне людзей аб расліне магло мяняцца, часам нават вельмі кардынальным чынам, але назва яго замацоўвалася «намёртва». «Для пераважнай большасці фітонімаў, у складзе якіх прысутнічае корань **koz-*, матывацыйныя прыкметы знайшлі ўвасабленне ў семе «казіны» дадзенага кораня». Што гэта значыць? Або гэтыя расліны ахвотна паядаюцца козамі, або, наадварот, з’яўляюцца для іх атрутнымі, або колер іх кветак супадае з колерам поўсці казлянят, або яны маюць інтэнсіўны пах, які прыпісваецца козам, або, як у нашым выпадку, вырваная з зямлі і перавернутая дагары расліна нагадвае бараду казы. Што мела на ўвазе Эліза Ажэшка, дакладней — яе кансультанткі, апісваючы выгляд расліны падобным чынам? У працы Любові Падпорынавай чытаем, што «пасля квітнення робяцца пушыстымі і нагадваюць казіную бараду» расліны віду *Tragopogon pratensis,* казлабароднік лугавы. Памятаем, што кветка ў расліны пад назвай *казіныя бароды* мае, паводле запісу Элізы Ажэшка, ліловы колер. Казлабароднік лугавы мае кветку жоўтага колеру. Але вось *Tragopogon porrifolius,* казлабароднік парэлісты, мае якраз ліловую кветку. У кнізе Анны Марыі Келяк «Zielnik Elizy Orzeszkowej» у спісах раслін, пададзеных Элізай Ажэшка і ўпарадкаваных паводле назваў польскіх, а таксама лацінскіх, ён прадстаўлены пад польскай назвай Kozibród łąkowy. Цікава, што сярод сабраных пісьменніцай раслін сустракаецца жоўтакветкавы казлабароднік *Tragopogon pratensis* пад народнай назвай *стары дуб* — з-за цвёрдасці кары на корані. Гэтаму казлабародніку прысвечаны ў «Людзях і кветках…» цэлы абзац, у якім аўтарка выказвае захапленне яго «цікавымі ўласцівасцямі»: «Сарваны і пастаўлены мною ў ваду, ён не страціў сваёй свежасці і не завяў на працягу дзесяці дзён, кветкі ж ягоныя ўдзень паварочваліся да сонца, а вечарам, калі яно заходзіла, шчыльна закрываліся. Вельмі прыгожы быў выгляд гэтых зорак, што днём рухаліся, а ўночы закрываліся». Пані Эліза была б прыемна здзіўлена, калі б даведалася, што гэтая жоўтая кветка-зорка, якая так яе захапляла, гэты *стары дуб Tragopogon pratensis*, даводзіцца вельмі блізкай раднёй не бачаным ёю *казіным барадам Tragopogon porrifolius,* кветка якіх, маючы яе любімы ліловы колер, ператвараецца пасля цвіцення ў сапраўднае падабенства казінай барады. Не менш здзіўляцца трэба і даследчыкам — з той нагоды, што народная назва жоўтай радні

ліловай кветкі — *стары дуб* — з казінай барадой чамусьці не звязана, нягледзячы на такое самае на выгляд адцвілае суквецце.

Пашукаем зязюльчыны ручачкі — расліну, корань якой у канцы лета набывае форму дзвюх ручак, сплеценых паміж сабой пальцамі. У «Людзях і кветках...» неаднойчы аналізуецца народны падыход да прыдумляння раслінам назваў і ацэнкі іх лекавых вартасцяў. Калі «корань нагадвае чалавечую нагу, дык таму, хто параніць ці пакалечыць нагу, вельмі добра яе карэннем і сцяблом абкласці скалечанае месца». Гэта неўміручая логіка, якая… працуе!

Вернемся і мы на міг да вытокаў уласнай свядомасці, прытворымся першабытнымі, паверым, паспадзяваемся, што такая рэтраспекцыя нешта дасць. Прапаную эксперымент з папераменным выдаленнем пераменных. Спачатку адкінем убок інфармацыю, што ручкі зязюльчыны. Трошкі пашукаўшы, знаходзім іншыя ручкі — саламондзіны, якія ёсць «дзікая архідэя», «вымечка», «цуд, што знікае», «два карэньчыкі», «прываротнае зелле». Тры апошнія назвы прыцягваюць асаблівую ўвагу: першая — спасылкай на рэдкасць, што ў дачыненні да той расліны, якую шукаем, якраз і канстатавалася, другая — парнасцю карэньчыкаў, трэцяя — прамым указаннем на прызначэнне. Яшчэ варыянты назваў: любім-корань, сардэчнік, прашыбень. Усе як быццам спалучаюцца з мэтай «абудзіць каханне». Навуковая назва віда, да якога належаць саламондзіны ручкі, — *Orchis,* простай мовай — ятрышнік, расліна сямейства архідных.

У працяг эксперымента логікай патрабуецца «памяняць пераменную»: пакінуць «зязюльчыны», выдаліць «ручкі». Сярод згаданых у працы Элізы Ажэшка зязюльчыных слёзак, падарачкаў, льну і асоціку нічога адпаведнага, безумоўна, не знойдзецца — гэтыя расліны апісаны як зусім іншыя віды. Але зязюльчынымі слёзкамі, сярод розных іншых відаў называецца ў народзе і той самы ятрышнік, дзікая архідэя. «А тая прыгожая вялікая кветка (вельмі падобная да гіяцынта), з досыць дзіўным карэннем, бо надта ж выразна нагадвае пяць скурчаных людскіх пальцаў?» — пытае пісьменніца ў Люці пра, як яна думае, зусім іншую кветку, не зязюльчыны ручкі, бо «ручка», мяркуючы з апісання, у яе адна. І прыводзіць у чарговым спісе здабытых раслін загартушку, або ўразнік як расліну сямейства архідныя: *Orchis latifolia.* Падобна на тое, што як адны і тыя назвы даваліся розным раслінам, так адны і тыя расліны атрымлівалі па нейкіх прычынах розныя назвы. Часам ствараліся ў наднёманскіх ваколіцах у прысутнасці пані Элізы прэцэдэнты пад назвамі «не ведаю нічога аб гэтым зеллі», «нідзе яе тут няма і знайсці яе можна ледзьве не за дзве мілі адгэтуль», «што знаю, тое і кажу, а чаго не знаю, таго і не скажу, лгаць не буду», і гэта толькі ад таго, што адна расліна магла ў двух сысціся або на тры распасціся, ды такім чароўным чынам гэта адбывалася, што ні Люця з Глядавіч, ні Марыся Карасёва з Паніжан іх, расліны гэтыя, — адно з двух — або не адрознівалі, або не спалучалі. Але вось пані Эліза «кідае» ў артыкул 1891 года «новую жменьку назваў, якія дае наднёманскі люд раслінам». Чацвёртая па ліку пазіцыя пад назвай *кручкі* суправаджаецца лацінскім найменнем *Platanthera bifolia* і сціплым апісаннем: «Дробненькая белая кветачка, якая мае кручкаватую форму». *Platanthera bifolia* — гэта любка двулістая, калі афіцыйна, але ў народзе яе таксама называюць зязюльчынымі слёзкамі. Акрамя таго, яшчэ і любоўным коранем. «Аднарукая» (на першы пагляд) загартушка *Orchis latifolia і Platanthera bifolia* — насамрэч вельмі блізкія віды, абедзве архідэі, у абедзвюх падземныя часткі ўяўляюць сабою два клубні, ад якіх адыходзіць некалькі больш тонкіх «карэньчыкаў». Як пальцы адыходзяць ад далоні. Толькі адзін клубень заўсёды стары, а другі малады, і можна часам, праігнараваўшы адзін, другі прыняць за «скурчаныя людскія пальцы» (назваць іх загартушкай ці ўразнікам), а іншым разам убачыць дзве выразна перапленыя пальцамі «далонькі» (і назваць іх зязюльчынымі ручачкамі). У любым выпадку адзін з варыянтаў Эліза Ажэшка на самай справе бачыла і ў гербарыі



*Юбілейны нумар часопіса «Свет» за 1891 год, паказваючы прататыпаў твора, змясціў фотаздымак з подпісам: «Мужыцкая сям'я рыбака Казлоўскага з вёскі наднёманскай Паніжаны. Стары мужык з сеткай — герой аповесці Элізы Ажэшка «Хам». Кабета ў чапцы — Улляна з той жа аповесці. Хлопец злева — Хтавіян, прыёмны сын Хама, дзіця яго жонкі Франкі».*

сваім усё ж мела. Толькі вось *кручкі* асацыятыўна не спалучыліся з *ручкамі*. Зрэшты, пані Эліза выдатна справілася з роляй карэспандэнткі — дакладна перадала атрыманую ў народзе інфармацыю чытачам часопіса «Wisła», *рочніка*, прызначанага «не толькі для ведаў, але і для фантазіі».

Паедзем хіба ў Паніжаны.

Гэтую вандроўку можна назваць і так: «Расповеды ў жоўтых хатах». Які дом ні рэкамендуецца для наведвання, ён амаль абавязкова апынаецца жоўтым. Дом Любові Якімовіч таксама жоўты. На плоце напісана, што ў двары злы сабака, на самай справе сустракаю за брамкай двух прыязных катоў, якія, мабыць, выйшлі са схованкі ад дажджу, бо на небе ўтварылася, нарэшце, невялічкая прагалінка.

Любоў Якімовіч — былая бібліятэкарка, таму запрашэнне пагаварыць пра Элізу Ажэшка з нагоды падарожжа «па слядах аднаго твора» прымае з вялікай ахвотай. Але ў выніку размова «не ідзе». Стараста Паніжан — яна ж і стараста цэркаўкі, пабудаванай тут яшчэ ў 1890-я, то...

— …то я вам лепш царкву пакажу. Бо я хоць і ў бібліятэцы працавала, але гэтага твора Элізы Ажэшка не чытала, чамусьці ён не трапляўся мне.

Маецца на ўвазе, канечне ж, нарыс «Людзі і кветкі…», які па-беларуску хоць і друкаваўся, але толькі нядаўна і з вялікімі скарачэннямі. Твор гэты, як і многія іншыя публіцыстычныя працы Элізы Ажэшка, варта (каб не ставіць добры люд у сітуацыі няведання) перакладаць і друкаваць цалкам і шырокімі накладамі, мо праз газеты (якія ўвогуле перасталі друкаваць такія рэчы — чаму?), а мо і сувенірнымі выданнямі.

Некалькі хвілін пад пацішэлым дожджыкам — і мы ля царквы. Старой, з пазамінулага стагоддзя. І гэта дакладна чарговы партал, адно што з Элізай Ажэшка ніяк не звязаны. Узыходзім на ганак — пляскаты камень.

— Бацюшка наказаў не закрываць яго. Таму што гэта ж рукамі людзі вычасалі. Хіба цяпер так можна вычасаць?

Бразгаюць засаўкі, адчыняюцца дзверы, мяняецца настрой.

— Бацюшка пераживае, каб быў тут старынны від. І вокны, бачыце, паставілі такія, як раней тут стаялі. Цяпер жа паўсюль пластыкавыя. А тут драўляныя. Пры савецкай уласці цэрквы пазакрывалі і гэтую закрылі. Калхоз зярно тут сыпаў. Сена лажыў. А патом уласць зноў памянялася, і самі людзі пачалі сабіраць сродкі, каб аднавіць царкву. Хаця б на такі спосаб, каб толькі зайсці ў яе. Асвабадзілі, ачысцілі, і знайшоўся такі бацюшка, прыслалі яго з Віцебскай вобласці, што захацеў яе рэстаўраваць, гэтую царкву. Дык пра гэта я раскажу вам, а пра тое, што вы пытаеце, я не чула, хоць і чытала шмат. Пісалася, што тут спрадвечна рыбакі лавілі рыбу. Фамілія адна — Кабыцкі — супадала з фаміліяй з кніжкі «Хам». Дык іх даўно на свеце няма, тых Кабыцкіх. Як мы сюды пераехалі, як купілі гэты дом, то я яшчэ Кабыцкага застала. Мо сына яго ці яшчэ каго. Але ўжо і яго няма.

Так, менавіта з вёскі Паніжаны Эліза Ажэшка «выпісала» сабе для аповесці «Хам» галоўнага героя, Паўла Кабыцкага, і сына яго жонкі Франкі, Хтавіяна. Юбілейны нумар часопіса «Свет» за 1891 год, паказваючы прататыпаў твора, змясціў фотаздымак з подпісам: «Мужыцкая сям’я рыбака Казлоўскага з вёскі наднёманскай Паніжаны. Стары мужык з сеткай — герой аповесці Элізы Ажэшка «Хам». Кабета ў чапцы — Улляна з той жа аповесці. Хлопец злева — Хтавіян, прыёмны сын Хама, дзіця яго жонкі Франкі». А пані Эліза ніколі і не хавала, што ўсе яе героі рэальна існуюць, хоць і маюць іншыя імёны.

— Тут павінна была жыць Марыся Карасёва. Быццам ведзьма, пра яе так казалі.

— Карасёў у Мінявічах многа. А ведзьмамі мы нікога не называем. Жанчына, каторая дапамагала, харошая, не знахарка, — была такая жанчына. Імя ў яе было якраз Марыся. Мо яна і тая, якую вы шукаеце, але ж я яе ўжо не застала. І ці яна з Мінявіч сюды замуж пайшла, ці адсюль корні ў Мінявічы пайшлі, але Карасі цяпер жывуць у Мінявічах.

— А Высоцкія? — пытаюся пра Ганульку Высоцкую, «маладую, добрую, мілую і на дзіва паэтычную дзяўчыну», таксама з Паніжан.

— Там жа, у Мінявічах, жывуць і Высоцкія. Паніжаны цяпер вёска дачная, тут толькі чатыры жанчыны майго ўзросту вяскоўкамі засталіся. От каб вам пагаварыць з той жанчынай, якая пражыла 85 гадоў, а ў прошлам гаду памерла, то яна б вам больш расказала, бо корні яе паніжанскія. Зінаіда яе звалі. Зіна. Яна тут і пахавана. Ёй шмат расказвалі бацькі, яна яшчэ памятала і тое, што ёй баба з дзедам расказвалі. Калі яна мне расказвала, як гэтую царкву строілі, то і пра Ажэшку вам расказала б. Позна вы прыйшлі шукаць. Каб трошкі раней, гадоў дваццаць—трыццаць таму, то можна было б тут яшчэ нешта здабыць.

І я разумею, адчуваю ўсім сэрцам: спазнілася. Мо нават безнадзейна, беззваротна. Быццам быў тут яшчэ адзін вельмі даступны партал, ды ў бясконцым чаканні даследчыкаў ён не вытрываў, абваліўся.

— А якія могілкі тут самыя старыя? — пытаю ў апошняй надзеі знайсці яшчэ хоць што-небудзь.

— Самыя старыя ў Паніжанах — ля царквы, але яны з ваеннага часу. А раней хавалі ў Глядавічах. Была б пагода, то вы б пахадзілі па Глядавіцкіх могілках, мо б што знайшлі. Але ж дождж ідзе.

Дождж ці не, але кіруем назад у Глядавічы, пакуль на вечар не павярнула. Шпацыр па могілках пад парасонам, па пояс у мокрай траве, з прадзіраннем праз зарасці, з абыходам старых камянёў — відавочна ўрослых у зямлю надмагілляў.

Самыя распаўсюджаныя магілы — з прозвішчам Кароль. Шмат дзіцячых, з надпісам: «Дарагім дзецям ад бацькоў». Побач пахаваны і бацькі, мяркуючы па ўсім. Вельмі часта ўзросты не ўказаны. Даволі распаўсюджаная форма помніка — чорны металічны крыж і жоўтая шыльда. З іменем, але без гадоў жыцця.



*Маўрыц Карнэліс Эшэр. «Мяжа-круг IV».*

Хутчэй за ўсё, так нанова пазначаны старыя магілы: патомкі не расчыталі пашкоджаныя часам даты на старых надмагіллях, але імёны продкаў засталіся ў іх памяці і перанесены цяпер на таблічкі.

Багуцкая Вольга Аляксандраўна, 1893 года нараджэння, памерла ў 1949-м. Хрысцілася, напэўна, у паніжанскай царкве. Толькі-толькі пабудаванай.

«Тут пахаваны Осіп Сельвонь, 1884, Магдалена 1885». Нарадзіліся, каб адразу памерці.

Аверук Барыс Фёдаравіч, нарадзіўся ў 1888-м. Аверук Марыя Рыгораўна, нарадзілася ў 1883-м. Аверук Захар Сцяпанавіч, 1877—1943. Лапыш Усціна Мікалаеўна, 1885—1964, Лапыш Севасцьян 1879—1944. Яны маглі бегаць басанож па вуліцы любой з бліжэйшых вёсак, калі па гэтай вуліцы летнім днём ішла ці ехала Эліза Ажэшка. Яна магла іх бачыць, усміхацца ім.

Ёсць Капыцкія.

Люця, Люцыя — ніяк не трапляецца. А між іншым, яна адзіная сярод герояў нарыса Элізы Ажэшка не мае пры імені прозвішча. Была надзея даведацца яго тут, на могілках.

Нельга сказаць, што я і мой спадарожнік абышлі ўсе магілы. Ці трэба пісаць тут пра стомленасць на фоне ўсюдыіснай сырасці, якія сталі ворагамі апошняга пункта даследавання? Не, усё ж перадапошняга. Ці трэба згадваць надзею ўбачыць такі чаканы вылет падзёнак? Разбураную, змытую дажджом надзею. Надвор'е зусім не тое, каб, распаліўшы касцёр ля Нёмана, разлічваць на хараство «ажынавай зімы». Рушым на месца начлегу.

Выбіраем яго далей ад Нёмана, ля безыменнага вадаёма. Намёт не расцягваем — надта мокра. Адзінае месца, дзе суха, — сядзенні аўтамабіля. Ля аднаго з іх у трохлітровіку аддзяліўся ад малака слой вяршкоў. Дзіўная рэч: машына ж увесь час рухалася! У вячэры вяршкі не задзейнічаем: прыедуць у Мінск смятанай. Успамінаюцца Глядавічы і кот. Як яго там? Бакардзі. Шэры шляхетнага выгляду кот з XIX стагоддзя…

Спыніўшыся ля вады, ніякіх падзёнак мы гэтым надвор'ем не бачылі. Але мы бачылі нешта іншае. Нешта большае. Нешта важнае. Чорнае замест белага, жорсткае замест крохкага, містычнае замест рамантычнага. Такое супрацьлеглае падзёнкам, што ўспомніліся працы Маўрыца Карнэліса Эшэра. Анёлы-эфемерыды і… Памятаеш, чытач, хто ў Эшэра ў «Мяжы-крузе IV» побач з анёламі? Замест падзёнак над вадой кружылі рукакрылыя. Нетапыры? Кажаны? Вячэрніцы? Начніцы? Вушаны? Шыракавушкі?.. У Беларусі жыве некалькі відаў лятучых мышэй, два з іх, нявызначаныя, падзялілі гарызонт над вадой на дзве зоны: бліжэй да яе — драбнейшыя, вышэй, над імі, — буйнейшыя. У паўзмрокупаўсне, на фоне няспраўджанага чакання яны выглядалі як знакі. Нібыта праз сімвал гандлёвай маркі «Бакардзі» вярталася з забыцця імя шэрага ўлюбёнца той, якой прысвячаліся да апошняй дажджынкі і гэты прамінулы цяжкі дзень, і блізкае ўжо новае світанне.

Іван САВЕРЧАНКА

# ТРЫУМФ

*Гістарычная хроніка*

## 1

Раптоўная смерць 19 жніўня 1506 года ў Вільні вялікага князя Аляксандра Казіміравіча ўстрывожыла краіну. Сумная вестка імкліва разляцелася па абшарах Вялікага Княства. Буйныя землеўласнікі, старосты і шляхта, урадоўцы і суддзі непакоіліся. Асабліва перажывалі жыхары памежных зямель, якім давodзілася зусім не лёгка і пры моцнай уладзе манарха, калі былі пад яго надзейнай абаронай і апекай.

Уплывовыя магнаты і князі, што ўваходзілі ў вышэйшую дзяржаўную Раду[1], выдатна разумелі, калі яны прамарудзяць і тэрмінова не абяруць валадара, становішча можа пахіснуцца. Самае горшае — разбуральныя працэсы, непрадказальныя ўнутраныя беспарадкі. І тады, як заўжды бывае, знешнія ворагі не прамінуць скарыстацца аслабленнем дзяржавы.

Рэальная пагроза ўварвання з поўдня — татараў, а з ўсходу — маскавітаў, змушала Урад дзейнічаць рашуча і аператыўна. Падчас вырашальнай сустрэчы восенню 1506 годзе на прадстаўнічым З’ездзе ў Вільні разгарэліся вострыя спрэчкі. *Міхаіл Глінскі* — герой пераможнай Клецкай бітвы над крымскімі татарамі ў 1506 годзе — адкрыта прэтэндаваў на трон Княства. Але большасць магнатаў баяліся яго. І, як паказаў час, зусім не беспадстаўна.

Іншыя заможныя князі таксама прымяралі карону Княства, аднак пра свае намеры нікому не гаварылі. Празмерныя палітычныя амбіцыі маглі дорага каштаваць кожнаму члену Рады. Ніхто не хацеў рызыкаваць. Урэшце, схіліліся да таго, каб новым валадаром Княства абраць *Жыгімонта* — пятага сына Казіміра Ягайлавіча.

Вырашальнае значэнне мела тая акалічнасць, што Жыгімонт Казіміравіч асабіста прыехаў у Вільню на пахаванне старэйшага брата Аляксандра. Без пасярэднікаў і прамаруджвання ён правёў перамовы з уплывовымі беларускімі ўрадоўцамі, выслухаў іх умовы і заручыўся неабходнай падтрымкай.

У выніку, менавіта Жыгімонта Казіміравіча абвясцілі вялікім князем. Падчас узвядзення на прастол на яго галаву ўрачыста ўсклалі галоўны сімвал улады — карону, а таксама ўручылі дзяржаву і скіпетр. На цырымоніі прысутнічалі вышэйшыя духоўныя асобы. Праваслаўны мітрапаліт і віленскі біскуп дабраславілі вялікага князя. Члены Рады, як і належала, прынеслі прысягу на вернасць новаму гаспадару. У троннай прамове Жыгімонт Казіміравіч паабяцаў захоўваць правы і абавязкі паноў і шляхты Княства, бараніць межы краіны. Выбар беларускіх магнатаў і шляхты быў вельмі лагічны і ўдалы.

На момант абрання вялікім князем Жыгімонту Казіміравічу было 39 гадоў. Ён з’яўляўся ўладальнікам Глогаўскіх і Апаўскіх зямель у Польшчы, дбайным гаспадаром. Як прадстаўнік княскай дынастыі, меў шырокія сувязі і дастаткова высокі аўтарытэт сярод еўрапейскіх манархаў.

---

[1] Паны-Рада — вышэйшы заканадаўчы і выканаўчы орган у Вялікім Княстве Літоўскім. У яго склад уваходзілі найбольш уплывовыя дзяржаўныя асобы краіны.

У маладыя гады князь Жыгімонт атрымаў выдатную адукацыю, вольна карыстаўся некалькімі мовамі, не адчуваў складанасцей падчас размоў з беларускімі, польскімі і заходнееўрапейскімі палітыкамі.

21 лістапада 1506 года, літаральна адразу пасля абрання яго вялікім князем, Жыгімонт накіраваў да польскіх паноў і прэлатаў пасольства на чале з гетманам *Станіславам Пятровічам Кішкам*. Яму даручалася афіцыйна паведаміць палякам пра палітычны трыумф Жыгімонта Казіміравіча, а таксама патлумачыць прычыны яго згоды заняць трон Вялікага Княства Літоўскага. У прадпісанні паслу падкрэслівалася, што Жыгімонт пры прыняцці рашэння кіраваўся жаданнем захоўваць мір і згоду паміж беларускімі і польскімі панамі, дбаў пра ўмацаванне знешніх межаў ад уварвання ворагаў, імкнуўся не дапусціць заняпаду краіны і згубы людзей.

Паны-Рада Княства са свайго боку накіравалі з Гародні да палякаў пасольства ў складзе маршалка *Яна Янавіча Забярэзінскага*, луцкага біскупа *Войцэха* і гетмана *Станіслава Кішкі*. Паслы патлумачылі польскаму боку прычыны імклівага абрання новага валадара Вялікага Княства, без папярэдніх узгадненняў з урадам Польшчы. Сярод галоўных прычын называлася пагроза агрэсіі з боку маскоўскіх людзей, якія рабавалі памежныя замкі і воласці, а таксама імкненне прадухіліць унутраныя беспарадкі. Урад Княства выказваў гатоўнасць даслаць уласных прадстаўнікоў на элекцыйны сойм у Польшчу, калі палякі пагодзяцца абраць Жыгімонта Казіміравіча сваім каралём.

Палякам нічога не заставалася рабіць. Яны запрасілі Жыгімонта Казіміравіча на элекцыйны сойм, абяцаючы яму падтрымку. Вялікі князь прыняў прапанову і з атачэннем выправіўся ў Польшчу.

Па дарозе ў Польшчу, 7 снежня 1506 года, Жыгімонт Казіміравіч, знаходзячыся ў Гародні, выдаў прывілей, у якім пацвердзіў шматлікія правы паноў, мяшчан і князёў Вялікага Княства Літоўскага.

У снежні 1506 года палякі абралі вялікага князя Жыгімонта Казіміравіча каралём Польшчы. Такім чынам, першая палітычная задача была паспяхова вырашана. Манарх актыўна прыступіў да ажыццяўлення ўнутранай і знешняй палітыкі.

## 2

Беларускія магнаты і паны настойвалі на неабходнасці вяртання тэрыторый, якія перайшлі пад уладу Маскоўскага княства ў часы княжання Аляксандра. Жыгімонт Казіміравіч пачаў перамовы з патэнцыйнымі саюзнікамі з мэтай стварэння трывалага вайскова-палітычнага альянсу дзяржаў, каб супрацьстаяць агрэсіўным дзеянням маскоўскіх князёў.

Перакопскі цар *Мендлі Гірэй* першым выявіў гатоўнасць да міру з Вялікім Княствам і яго новым валадаром. Ён імкліва накіраваў да Жыгімонта Казіміравіча надзейнага ганца *Цювікела-ўлана*, праз якога, з традыцыйнай усходняй хітрасцю, выказаў гатоўнасць жыць з ім у згодзе і поўным паразуменні да канца жыцця. Манарх Вялікага Княства ў адказ таксама накіраваў ганца, «слугу добрага» *Сароку*, які пацвердзіў імкненне Жыгімонта шчыльна супрацоўнічаць з крымскімі татарамі.

Неўзабаве ў Перакопскую Арду выехала вялікае пасольства на чале з *Юрыем Зяноўевічам і Якубам Івашэнцавічам*, якія мелі на мэце выкарыстаць патэнцыял Арды ў інтарэсах Беларускай дзяржавы. Ад імя Жыгімонта Казіміравіча яны прад'явілі да Мендлі Гірэя сур'ёзныя патрабаванні і нават прэтэнзіі. Вось невялікая вытрымка з пратакола пасольства: «Табе, брату нашаму, добра вядома, што вялікі маскоўскі князь Іван Васільевіч парушыў прысягу, выступіў супраць нашага брата караля Аляксандра і захапіў шматлікія гарады і воласці нашай бацькаўшчыны — Вялікага Княства Літоўскага. І ты б, брат наш, памятаў аб тым, што твае продкі, найперш, твой бацька, заўжды здымалі сёдлы са сваіх потных коней у нашай Айчызне — Вялікім Княстве Літоўскім. Ні хлеба, ні солі ім не забаранялі.

Дзякуючы гэтай дапамозе, яны ў сваіх айчынах узыходзілі на высокія пасады і надзейна трымалі іх. Менавіта таму прапаную табе, брату майму, улетку сесці на коней і са свайго боку пайсці супраць нашага непрыяцеля — вялікага князя маскоўскага. Калі табе самому не выпадае, ты накіруй сваіх сыноў і ўсіх сваіх людзей полем, і тыя гарады і воласці, землі і воды, якія несправядліва былі адабраныя ў нашага брата, здабудзь, а затым вярні ў нашыя рукі. А мы з другога боку, сядзем на коней з усімі нашымі людзьмі і давядзём справу да канца ці наколькі нам міласцівы Бог дазволіць».

У адказ ад Мендлі Гірэя ў Вялікае Княства прыехала вялікае пасольства на чале з *Цювікелам-уланам, князем Комратам і Чурумам Багатыром.* Яны прывезлі тэкст мірнай дамовы, артыкулы якой былі ўважліва вывучаны.

Сярод сваіх галоўных саюзнікаў Жыгімонт Казіміравіч бачыў казанскага цара *Магмет Аміня*, які меў напружаныя адносіны з Масквой. Як сведчаць крыніцы, Магмет Амінь першым даслаў свайго чалавека да вялікага князя. Той прапанаваў супольна змагацца з агрэсіўным Маскоўскім княствам.

У адказ, у канцы таго ж 1506 года, да казанскага цара выехаў пасол *Сарока.* Ад імя Жыгімонта Казіміравіча ён прапанаваў *Магмет Аміню* прынесці прысягу на вернасць Вялікаму Княству і супольна выступіць супраць маскоўскага князя. Ён літаральна падкрэсліваў: «Калі ты брат наш і стаіш за праўду, а таксама цвёрда выконваеш сваё царскае слова, то перад тым нашым чалавекам прынясі нам прысягу ў тым, што прыяцелю нашаму будзеш прыяцелем, а непрыяцелю — непрыяцелем, а таксама паўсюль супраць усякага нашага ворага будзеш з намі поруч».

У 1506 годзе Жыгімонт Казіміравіч накіраваў у *Лівонскі ордэн* пасла *Юрыя Янавіча Завішыча.* Яму прадпісвалася перадаць магістру (ландмайстру) Лівоніі, якім на той час быў *Вальтэр фон Плетэнберг*, прапанову далучыцца да антымаскоўскага альянсу дзяржаў і сумесна выступіць супраць Васіля III. Звяртаючыся да магістра ад імя манарха, пасол у заключным слове літаральна зазначаў: «Наш міласцівы кароль і вялікі князь Жыгімонт жадае, каб ваша міласць, як наш мілы прыяцель і сусед, выявіў добрую волю і ўспомніў пра пісьмовыя дамовы і клятвы паміж нашым братам, добрая яму памяць, Аляксандрам і вашай высокасцю, у якіх выказвалася гатоўнасць супольна змагацца супраць нашага ворага — вялікага князя маскоўскага. Бо той з’яўляецца заклятым ворагам нашага панства — Вялікага Княства Літоўскага і Інфлянцкай зямлі. Вашай міласці, зважаючы на складаны час, варта прыйсці нам на дапамогу і разам змагацца супраць нашага супольнага ворага. Згода і паразуменне паміж намі пойдуць на карысць не толькі нашым краінам, але і паслужаць усяму хрысціянству».

Фармуючы вайскова-палітычны альянс, Жыгімонт Казіміравіч, фактычна адразу пасля ўзыходжання на трон, распачаў актыўныя дыпламатычныя адносіны і непасрэдна з Маскоўскім княствам. Ён, відаць, не выключаў магчымасці мірным шляхам вярнуць землі, страчаныя падчас княжання Аляксандра. Ужо ў канцы 1506 года накіраваў вялікае пасольства да Васіля Іванавіча. Кіраўнікамі пасольскай місіі былі прызначаны: *віленскі ваяводзіч, маршалак і слонімскі староста Ян Мікалаевіч Радзівіловіч, кухмістр Пётр Аляхновіч і пан Багдан Сапега.* Яны мелі прадпісанне выказаць маскоўскаму князю ад імя новага манарха пажаданне жыць у міры і не захопліваць «вотчын» адзін у аднаго. Паслам даручалася прасіць маскоўскага князя пакараць дарагабужскіх памешчыкаў, якія «крадуць, рабуюць і чыняць невыносныя шкоды» падданым Вялікага Княства. Паслы таксама мелі ўказанне нагадаць Васілю Іванавічу пра шкоды, учыненыя раней маскоўскімі войскамі ў Полацкай, Віцебскай і Смаленскай землях.

### 3

Маскоўскаму князю Васілю III і яго агрэсіўным ваяводам мір на той момант зусім не быў патрэбны. Яны якраз выношвалі іншыя планы. Улетку 1507 года Масква распачала вайсковую кампанію супраць Беларускай дзяржавы.

У ліпені 1507 года маскоўскі ваявода *Вельямінаў* з вялікім войскам пайшоў вайной. У адказ Жыгімонт Казіміравіч і Паны-Рада Вялікага Княства імкліва арганізавалі супраціўленне. Пад Смаленск выправіўся корпус на чале з гетманам *Альбрэхтам Марцінавічам Гаштаўтам*. Для абароны Полацка выступіла войска пад кіраўніцтвам гетмана, пана *Станіслава Глябовіча*. Да Менска пайшлі харугвы гетмана *Станіслава Пятровіча Кішкі*. Вялікае вайсковае злучэнне пад асабістым кіраўніцтвам Жыгімонта Казіміравіча выступіла супраць асноўных сіл непрыяцеля.

2 ліпеня 1507 года Мендлі Гірэй накіраваў ярлык (ліст) да Паноў-Рады Вялікага Княства, у якім выказаў гатоўнасць да змагання з супольным ворагам. 14 ліпеня 1507 года перакопскі цар нават прынёс клятву, «душою прысягнуў», на вернасць Жыгімонту ў прысутнсці яго вялікіх паслоў Юрыя Зяноўевіча і Якуба Івашэнцавіча. Ён, у прыватнасці, абяцаў: «Ні з кім не аб'ядноўвацца без супольнага ўзгаднення».

20 ліпеня Жыгімонт Казіміравіч накіраваў да Мендлі Гірэя свайго ганца *Рамадана*, які афіцыйна звярнуўся па дапамогу. Ён прасіў перакопскага цара неадкладна выступіць супраць маскоўскага князя або асабіста, або накіраваць войска пад кіраўніцтвам сына. Таксама ён заклікаў, каб той пераканаў казанскага цара *Магмет Аміня* атакаваць Маскоўскае княства. Наўзамен Жыгімонт Казіміравіч пісьмова абяцаў Мендлі Гірэю рэгулярна падносіць шчодрыя памінкі (падарункі), а таксама заваблівау яго штогадовай данінай (выхадам) з «халопа яго маскоўскага». Словы Жыгімонта гучалі надзвычай пераканаўча і зманліва: «А калі дасць Бог, з тваёй, брата нашага, дапамогай вярнуць айчынныя гарады нашы, якія маскоўскі князь праз здраду забраў у нашага брата, тады будзем напоўніцу задаволеныя. У такім разе ты ўчыніш дабро не толькі нам, але і сабе, бо кожны год будзеш спаўна атрымліваць даніну (выхад) ад свайго халопа. А ад нас, брата твайго, будзеш мець вялікіх паслоў і незлічоныя падарункі».

Мендлі Гірэй неадкладна накіраваў у дапамогу Беларускай дзяржаве татарскае войска на чале з сынам *Магмет Гірэем-салтанам*. 30 ліпеня 1507 года перакопскі цар праз каморніка *Шырамета* паведаміў Жыгімонту Казіміравічу, які знаходзіўся ў Красным Сяле, што яго войска ўжо выступіла. Ён прасіў Жыгімонта аддаць загады Смаленску і іншым памежным гарадам, каб яны не здаваліся ворагу, бо яго сын неўзабаве прыйдзе ім на дапамогу.

Мендлі Гірэй паставіў манарху і Панам-Радзе адну ўмову — звесці са свету яго ворага — *Шыг Ахмата* — апошняга хана Вялікай Арды, а таксама стрыечнага брата хана *Халек-салтана* і іх слуг, якія напачатку XVI ст. патрапілі ў палон да жаўнераў Вялікага Княства і знаходзіліся пад вартай у Вільні. Мендлі Гірэй перад тым ваяваў з Шыг Ахматам за ўладу ў Залатой Ардзе, у 1502 годзе нанёс яму паразу ў бітве ля вусця ракі Сулы. Паводле патрабавання перакопскага цара, яго вялікія паслы, родны брат *Мамуш-улан, дваранін Адзін і пісар Абрагім* павінны на свае вочы ўбачыць яго забітых ворагаў.

Жыгімонт Казіміравіч абяцаў узважыць умовы Мендлі Гірэя. 5 кастрычніка 1507 года ён папрасіў перакопскага цара неадкладна накіраваць на Маскву 30-тысячнае войска, не зважаючы на набліжэнне зімы і маразоў. Праз свайго пасла *Яцка Ратамскага* прапаноўваў Мендлі Гірэю пайсці не стэпам, а праз гарады — Пуціўль, Рыльск, Ноўгарад-Северскі, Старадуб, Радагошч, Трубецк і Бранск, вызваляючы іх ад маскавітаў і перадаючы пад уладу Беларускай дзяржавы. Жыгімонт таксама настойваў на тым, каб яго пасол Яцка Ратамскі суправаджаў татарскае войска і пра ўсё дакладваў у Вільню: «Жадаем, каб нашага пасла Яцка Ратамскага ты, наш брат, паслаў з тым сваім войскам. Каб ён усё назіраў на ўласныя вочы і нам без затрымкі паведамляў».

Але абставіны ў хуткім часе змяніліся, і крымскія татары спынілі рух на Маскоўскае княства, як планавалася спачатку. Яны павярнулі на сваіх канкурэнтаў, унутраных ворагаў — *Нагайскую Арду*. Прычыны такога рашэння Жыгімонту Казіміравічу патлумачыў татарскі вайскованачальнік, сын перакопскага цара Магмет Гірэй-салтан. Праз свайго слугу *Кудаша* ён даводзіў наступнае: «Мы ўжо амаль падышлі да Маскоўскай зямлі, як раптам наш чалавек прыбег і паведаміў

нам, што вы на Маскву ідзеце, а нагайцы, пачуўшы пра тое, збіраюцца або непасрэдна ў ваш дом пайсці, або будуць пераймаць вас, калі вы будзеце вяртацца назад. Даведаўшыся пра тое, мы не стрымаліся і самі пайшлі на Нагаі. Так нам бачылася больш правільным. Калі мы пад’ехалі амаль пад Нагаі, я зваліўся з каня, пасля чаго вельмі моцна захварэў. Тое здарэнне бачыў ваш слуга Якуб Івашэнцавіч. Увесь час, пакуль мы біліся з нагайцамі, я пачуваўся вельмі кепска. Ледзьве жывы вярнуўся да свайго бацькі». Па ўсім відаць, гэта быў вялікі падман. Ілюзорныя спадзяванні Паноў-Рады Вялікага Княства на дапамогу крымскіх татар у змаганні з Масквой хутка развеяліся.

Жыгімонт Казіміравіч звярнуўся па дапамогу і да інфлянцкага магістра Вальтэра фон Плетэнберга. Аднак той, спаслаўшыся на дамоўленасці з пскоўскімі і ноўгарадскімі намеснікамі, адмовіўся аб’яўляць вайну Маскве без належнага прыгатавання і ўсебаковага асэнсавання палітыкі маскоўскага князя. Аб сваім рашэнні ён паведаміў у лісце ад 26 ліпеня 1507 года, які быў дастаўлены ў Вільню яго каморнікам *Клаўсанам*.

30 ліпеня 1507 года да магістра Вальтэра фон Плетэнберга выехаў каморнік *Ленарт* з лістом ад вялікага князя, у якім зноў утрымлівалася просьба распачаць вайсковыя дзеянні супраць маскоўскага князя. Магістр марудзіў.

1 верасня 1507 г. Урад Вялікага Княства настойліва паўтарыў сваю просьбу. У лісце, адпраўленым з каморнікам Клаўсанам, беларускія магнаты паведамлялі інфлянцкаму магістру пра імкненне Васіля Іванавіча захапіць новыя гарады і землі Вялікага Княства. Ад імя Жыгімонта Казіміравіча яны тлумачылі прычыну разгортвання вайсковых дзеянняў супраць маскоўскага князя, а менавіта — вераломнае парушэнне ім перамір’я, захоп новых замкаў і зямель: «Як толькі мы шчасліва ўзышлі на Вялікае Княства Літоўскае, былі прызваны і ўзнесены на вотчыну і спадчыну нашу, маскоўскі князь згуртаваў войска і ўчыніў нахабны наезд на наша панства. Прыналежныя Вялікаму Княству Літоўскаму землі і воласці ён пачаў захопліваць сілай і здабываць гвалтам замкі нашых гарадоў».

Паны-Рада выказвалі спадзяванне і веру, што рыцары Інфлянцкага ордэна надалей не будуць зацягваць справу, а, нарэшце, адкрыта выступяць супраць маскоўскага князя. Яны ўзрушана звярталіся да магістра Вальтэра фон Плетэнберга: «Верым, што ваша міласць нашай справы не загубіць! Спадзяёмся, што не будзеце доўга радзіцца і тое надалей адкладаць, бо гэта вялікая ганьба чакаць ворага ў сябе дома! Таму маем надзею на міласэрнага Бога, што вы выступіце нам у дапамогу супраць таго здрадніка і ганарлівага клятваадступніка».

Увосень 1507 года найбольш значныя баявыя дзеянні адбыліся ў выколіцах Крычава і Мсціслава. 14 верасня 1507 г. маскоўскі князь накіраваў ваяводу *Холмскага і Якава Захар’евіча* пад Мсціслаў.

У лістападзе маскоўскія войскі ўзялі ў аблогу *Крычаў і Мсціслаў*. Абаронцы аказалі моцны супраціў. Адзін з маскоўскіх вайскаваначальнікаў — *Міхаіл Абразцоў* — быў застрэлены.

На дапамогу Крычаву і Мсціславу Жыгімонт Казіміравіч накіраваў буйное вайсковае злучэнне. Да таго ж, пачаліся моцныя замаразкі. Маскоўскія ваяводы мусілі зняць аблогу і неўзабаве адступілі.

Яшчэ адзін маскоўскі ваявода, баярын *Давыдаў-Чэляднін* увосень 1507 года выступіў з *Вялікіх Лук* у напрамку Віцебска і Полацка. На працягу лістапада ён прычыніў вялікую шкоду і нанёс значны матэрыяльны ўрон воласцям, але ўзяць умацаваных замкаў не здолеў.

Добрай навіной і знакам перамен да лепшага стала вяртанне на Радзіму, 25 верасня 1507 года, з маскоўскага палону праслаўленага князя, узорнага ваяра за Айчыну — *Канстанціна Іванавіча Астрожскага*. Ён уцёк з Маскоўшчыны, як толькі надарылася зручная магчымасць. Прыемная вестка аб яго з’яўленні ў Вільні імкліва абляцела краіну. Ворагі, якія сілай змусілі яго прынесці прысягу Маскве, былі ў шоку. Жыгімонт Казіміравіч шчодра ўзнагародзіў мужнага князя — вярнуў яму Брацлаўскае староства, дадаў да яго ўладанняў Луцкае ста-

роства, а затым прызначыў на пасаду валынскага маршалка і зрабіў найвышэйшым гетманам Княства.

Беларускія памежныя гарады і княствы трывала арыентаваліся на Вільню. Яны аказвалі супраціўленне маскавітам, таму поспехі Васіля Іванавіча ў вайне з Беларускай дзяржавай былі даволі сціплыя. Больш за тое, войскі Вялікага Княства ў 1507 годзе акружылі *Чарнігаў* і спалілі горад.

Не атрымаўшы нічога з дапамогай сілы, Васіль III пачаў рабіць дыпламатычныя захады. 7 кастрычніка ён, нарэшце, прыняў вялікіх паслоў Жыгімонта Казіміравіча — *Яна Мікалаевіча Радзівіловіча, Пятра Аляхновіча і пана Багдана Сапегу*. Маскоўскі князь сказаў ім, што ўсе ўладанні — гарады і валасці, землі і воды — не заваёўваліся ім, а законным чынам атрыманы ў спадчыну ад бацькі. Каб пазбавіць паслоў Вялікага Княства ўсялякіх аргументаў, Васіль III катэгарычна заявіў ім: «Божай воляй уся руская зямля — наша вотчына».

Напрыканцы перамоў паслам вялікага князя Жыгімонта Казіміравіча было перададзена мноства скаргаў пскавічоў, смалянаў і бранчан на літвінаў, якія, нібыта, учынілі ім шмат шкоды. Маскоўскія баяры таксама запатрабавалі захавання рэлігійных і маёмасных правоў Алены, роднай сястры Васіля III, якая засталася ўдавой пасля смерці князя Аляксандра.

Супрацьстаянне паміж краінамі крыху згасала, але, як аказалася, зусім не надоўга.

## 4

Велізарную небяспеку для імклівага развіцця Беларускай дзяржавы ўяўлялі звадкі буйных магнатаў. У пачатку 1508 года ў Вялікім Княстве Літоўскім разгарэўся буйны ўнутраны канфлікт. Ён пачаўся з забойства ў Гародні *2 лютага* князем *Міхаілам Львовічам Глінскім* вялікага маршалка *Яна Забярэзінскага*.

У момант, калі манарх ад'ехаў на сойм у *Петракоў*, Міхаіл Глінскі пачаў дзейнічаць. Уначы ён прыбыў у *Гародню* з узброеным атрадам і а першай гадзіне ўварваўся ў дом Яна Забярэзінскага, які жыў за Нёманам, непадалёк ад моста. Вялікага маршалка ў споднім кашулі ўзнялі з ложка. Слуга Глінскага, нейкі турчын, сцяў шабляй галаву аўтарытэтнаму маршалку.

Затым акрываўленую галаву Яна Забярэзінскага начапілі на кол. Раніцай, калі жыхары прачнуліся, яе пранеслі праз увесь горад. Месцічы з жахам глядзелі на тое, што сталася з крыўдзіцелем Міхаіла Глінскага. Урэшце, знявечаную галаву, разам з калом, кінулі ў возера, якое знаходзілася непадалёку ад Гародні.

Так Міхаіл Глінскі адпомсціў Яну Забярэзінскаму, нібыта за нагавор на яго манарху, з-за чаго ён трапіў у няміласць да вялікага князя і караля, страціў уплыў пры двары. Палітычная канкурэнцыя паміж магнатамі, крайнія формы ўзаемнай нянавісці і бязмежная помслівасць, як бачна, набывалі часам вельмі жорсткі характар і нярэдка мелі крывавы фінал.

Учынак Міхаіла Глінскага выклікаў хвалю абурэння сярод беларускіх магнатаў і шляхты, асабліва ў асяроддзі прыхільнікаў і прыяцеляў нябожчыка. Разгневаны Жыгімонт Казіміравіч таксама прагнуў пакараць злачынцу і спыніць забурэнні. Ён загадаў неадкладна склікаць войска. Гетманам над ім прызначыў *Фірлея з Янаўца*. Ушыхтаванае ўрадавае войска выступіла супраць бунтаўніка.

Рыхтуючыся да абароны, Міхаіл Глінскі пачаў збіраць свае войска. Да яго далучыліся, найперш, родзічы і сваякі. На дапамогу яму прыйшоў родны брат *Васіль Глінскі*, ва ўладаннях якога знаходзілася некалькі ўмацаваных замкаў, што належалі вялікаму князю. Васіль Глінскі паслаў на дапамогу брату шмат узброеных людзей. Частку войска Міхаіл Глінскі наняў за грошы сярод мясцовых жыхароў, схільных да авантурных учынкаў.

Распачаўся адкрыты вайсковы канфлікт паміж групоўкай уплывовага магната Міхаіла Глінскага і вялікім князем Жыгімонтам Казіміравічам. Атрады Міхаіла Глінскага з Гародні рушылі на *Коўну*, каб вызваліць хана Вялікай Арды

*Шыг Ахмата*, які знаходзіўся там у палоне. Глінскі меў намер пасля вызвалення Шыг Ахмата ісці да нагайскіх татар, а потым авалодаць Крымам, дзе на той момант валадарыў *Мендлі Гірэй*. Жыгімонт Казіміравіч раскусіў планы мяцежнага князя і ў лісце ад 21 лютага 1508 года паведаміў пра іх Мендлі Гірэю.

Але ўсё пайшло інакш. Узяць Коўну Глінскаму не ўдалося. Яго атрады павярнулі назад і спыніліся ў *Навагрудку*, дзе намеснікам быў *Іван Глінскі*. Тут Міхаіл Глінскі правёў нараду. Ён хацеў ісці на Вільню і завяяваць яе, аднак сталіца Княства падрыхтавалася да абароны. Міхаіл Глінскі мусіў адступіць і зачыніцца ў сваёй рэзідэнцыі ў *Тураве*.

Жыгімонт Казіміравіч накіраваў да яго ў Тураў свайго пасла *Яна Касцевіча* з загадам неадкладна скласці зброю і спыніць бунт. Браты Глінскія запатрабавалі прыслаць на перамовы з імі да 12 сакавіка 1508 года найбольш уплывовага ў Княстве чалавека — *Альбрэхта Гаштаўта*, з якім яны наладзілі кантакты і разлічвалі на яго спрыянне і дапамогу.

Тым часам, прыкладна з канца лютага і да сярэдзіны красавіка, Міхаіл Глінскі ўстанавіў шчыльную сувязь з маскоўскім князем Васілём ІІІ. У Тураў неўзабаве прыехаў ганец ад маскоўскага валадара *Міця Губа Маклокаў*. Ён запрасіў апальнага князя на службу да свайго гаспадара. Міхаіл Глінскі пагадзіўся на супрацоўніцтва з Масквой. У адказ ён накіраваў уласнага ганца *Івана Прыезжага* да маскоўскага князя з лістамі, у якіх выказваў гатоўнасць перайсці да яго на службу.

Шукаючы паратунку, Міхаіл Глінскі паклікаў на дапамогу аддзелы маскавітаў, якія заўсёды былі ахвочыя пажывіцца на беларускіх землях. У выніку, унутраны канфлікт набыў міжнародны характар.

Міхаіл Глінскі неўзабаве пайшоў на *Мазыр* і авалодаў ім. Ён хутка ўсталяваў уладу над горадам, відаць, толькі таму, што намеснікам там быў яго сваяк, стрыечны брат *Якуб Івашэнцавіч*, які адчыніў мяцежнікам гарадскую браму. Магчыма, якраз Якуб Івашэнцавіч угаварыў ці нават прымусіў праваслаўных святароў урачыста сустракаць войска Глінскага падчас уваходу ў горад.

Якраз у Мазыр да Глінскага ў хуткім часе зноў завітаў дзяк Маклокаў, які вярнуўся з Масквы з адказам. Ён паведаміў, што Васіль ІІІ прыняў Глінскага на службу, накіраваў яму на дапамогу сваіх ваяводаў, а таксама абяцаў перадаць ва ўладу Глінскіх усе гарады ў Вялікім Княстве Літоўскім, якія яны здолеюць завяяваць. Маскоўскі дзяк пры ўсіх агучыў словы Васіля ІІІ, а Глінскія ў адказ прылюдна цалавалі крыж як знак вернасці новаму гападару.

Ад гэтага часу пачаліся крывавыя сечы. Войска Глінскага, умацаванае маскавітамі, паспрабавала захапіць некалькі буйных беларускіх гарадоў, у прыватнасці, — Оршу, Крычаў, Мсціслаў, Слуцк. Вядома, што пад Слуцк, які належаў княгіні *Анастасіі*, быў пасланы ваявода *Дрождж*. Але паўсюль захопнікі цярпелі паразы.

Нейкі час хадзілі чуткі, нібыта на бок маскавітаў мог перайсці князь *Міхаіл Мсціслаўскі* разам з горадам Мсціславам і воласцю, але яны не пацвердзіліся. Жыхары беларускіх гарадоў і мястэчак адназначна ўспрымалі мяцежнікаў і іх памагатых як захопнікаў і аказвалі жорсткі супраціў. Асабліва буйная бітва адбылася за *Менск*, які войскі Міхаіла Глінскага і маскавітаў трымалі ў аблозе некалькі тыдняў. Раз'юшаныя мяцежнікі паўсюль спусташалі маёнткі шляхты і магнатаў, наносілі значны ўрон гаспадарцы. Асабліва пацярпелі полацкія ўладанні князёў *Сакалінскіх*. Простыя людзі найбольш пакутавалі ад іх бясконцых рабаванняў і разбурэнняў.

Міхаіл Глінскі паведамляў Васілю ІІІ пра вялікую колькасць яго прыхільнікаў, але ён, відавочна наўмысна перабольшваў яе маштабы. Адкрыта на бок мяцежнікаў і маскавітаў перайшоў толькі князь *Андрэй Друцкі*. Здарылася тое не паводле яго ўласнай волі. Князь не вытрымаў працяглай аблогі *Друцка* і разам з горадам быў вымушаны здацца ворагу і, каб захаваць уласнае жыццё, мусіў прысягнуць на вернасць маскоўскаму князю Васілю Іванавічу.

Па ўсім відаць, мяцежнікам спачувалі некаторыя магнаты — Альбрэхт Гаштаўт, Міхаіл і Фёдар Храбтовічы, а таксама Аляксандр Хадкевіч. Прычынай

маглі быць іх напружаныя адносіны з манархам або незадаволеныя палітычныя амбіцыі.

Крымскі цар Мендлі Гірэй імкнуўся скарыстацца забурэннямі ў Вялікім Княстве ва ўласных мэтах. Праз свайго пасланніка *Хазаш-мірзу* ён прапаноўваў Глінскаму перайсці да яго на службу, а наўзамен абяцаў пасадзіць яго на Кіеў і навакольныя землі.

Урадавыя войскі Вялікага Княства Літоўскага, аднак, паводле колькасці, узбраенняў і вайсковай вывучкі значна пераўзыходзілі злучэнні Міхаіла Глінскага і яго хаўруснікаў. Апошнія цярпелі адно паражэнне за другім. Супраць Глінскага і маскоўскіх войскаў выступілі: гетман *Канстанцін Астрожскі, Фёдар і Сямён Чартарыйскія, князь Палубенскі* і іншыя магнаты. Каб паралізаваць дзейнасць мяцежнікаў Жыгімонт Казіміравіч ужо ў красавіку 1508 года пачаў перадаваць землі і ўладанні мяцежнікаў іншым князям і панам, у прыватнасці — *Дубровіцкаму, Палубенскаму, Анастасіі Слуцкай*. Горад Тураў перадаваўся гетману Канстанціну Іванавічу Астрожскаму.

Урэшце, Міхал Глінскі вычарпаў усе рэсурсы і мусіў разам з хаўруснікамі, ратавацца ўцёкамі. Ён збег на ўсход, дзе знайшоў абарону ў маскоўскага князя Васіля Іванавіча. З ім уцяклі яшчэ 11 тытулаваных асоб, сярод якіх — пяць Глінскіх, двое сваякоў *Жыземскіх, Іван Казлоўскі, Васіль Мунча, Іван Азярэцкі*. Баючыся пакарання, з'ехаў і князь Андрэй Друцкі. У атачэнне Глінскага ўваходзілі яшчэ 18 асоб, якія не мелі пасад і званняў. Не рызыкнулі, аднак, ад'ехаць толькі князі *Фёдар і Андрэй Лукомскія* і адзін з *Палубенскіх*, якія падтрымлівалі мяцеж.

Над панамі і шляхтай, якія падчас забурэнняў перайшлі на бок Міхаіла Глінскага і ваявалі з манархам, былі ўчынены жорсткія экзекуцыі. Амаль усіх іх закатавалі. Замкі і гарады, што перайшлі на бок Глінскага і маскоўскага князя, з дапамогай вайсковай сілы хутка ўціхамірылі.

**5**

Увесну 1508 г. Жыгімонт Казіміравіч актывізаваў дыпламатычныя адносіны з Масквой. 1 сакавіка ў Маскву выехаў ганец, які перадаў маскоўскаму князю ліст з пералікам «шкодаў і рабункаў», учыненых дарагабужскімі, вялікалукскімі і старадубскімі памешчыкамі, якія нападалі на памежныя землі і няшчадна «палілі вёскі, захоплівалі статкі і выводзілі людзей у палон».

Неўзабаве Жыгімонт Казіміравіч накіраваў да маскоўскага князя вялікіх паслоў — кухмістра і скірэтоменскага намесніка *Пятра Аляхновіча* і смаленскага акольнічага *Багдана Сапегу*. Яны запатрабавалі ад Васіля ІІІ вярнуць у падпарадкаванне Беларускай дзяржавы гарады і землі, заваяваныя яго папярэднікам Іванам Васільевічам падчас канфліктаў з вялікім князем Аляксандрам Казіміравічам.

8 мая 1508 года ў Маскву выехаў пісар вялікага князя *Фёдар Святоша*, які заклікаў Васіля ІІІ вярнуць купцоў з іх таварамі, затрыманых намеснікамі розных гарадоў па загадзе з Масквы.

Дыпламатычныя крокі, відавочна, не маглі спыніць маскоўскай агрэсіі. Каб супрацьстаяць націску з боку Маскоўскага княства і паквітацца з маскавітамі за нанесены матэрыяльны ўрон, Жыгімонт Казіміравіч улетку накіраваў на ўсход вайсковы корпус пад кіраўніцтвам адважнага гетмана *Станіслава Кішкі*. Беларускія харугвы перайшлі межы і захапілі шмат памежных гарадоў і валасцяў. Яны спалілі *Белую* і накіраваліся да *Тарапца*. Гараджане гатовыя былі прынесці клятву на вернасць Жыгімонту Казіміравічу. Толькі прыход буйных маскоўскіх сіл пад кіраўніцтвам князя *Данілы Васільевіча Шчэні* прымусіў беларускае войска адступіць. *Тарапец* вярнуўся пад уладу Масквы.

Гетман Станіслаў Кішка захапіў і спаліў *Дарагабуж*. Ён таксама меў намер напасці на Вязьму. Але неўзабаве з Масквы падышлі войскі і адцяснілі яго корпус на захад.

Напалоханы маскоўскі князь Васіль Іванавіч паслаў да Жыгімонта Казіміравіча ганцоў з просьбай аб замірэнні. У адказ Жыгімонт Казіміравіч накіраваў у Маскву вялікае пасольства на чале са *Станіславам Глябовічам*. Вялікі пасол заклікаў Васіля III выявіць добрую волю і вярнуць пад уладу Вялікага Княства забраныя беларускія землі, а таксама адпусціць усіх палонных.

Урэшце, 8 кастрычніка 1508 года Жыгімонт Казіміравіч і Васіль III заключылі мір. Маскоўскі князь пагадзіўся ніколі не нападаць на беларускія землі і гарады, ніколі не пасылаць войскаў на Мсціслаў, Магілёў, Тураў, Мазыр, Рэчыцу, Брагін, Рослаўль, Ельню.

У дамове пералічваліся шматлікія гарады і мястэчкі, што заставаліся ў падпарадкаванні Беларускай дзяржавы. У прыватнасці, Васіль III паабяцаў назаўжды пакінуць у спакоі Кіеўскую зямлю і Смаленскія абшары. У падпісанай дамове ён пакляўся: «Не ўваходзіць у вашае Вялікае Княства — ні ў Кіеў, ні ў Смаленск, ні ў кіеўскія і смаленскія мястэчкі, ні ў іншыя ўкраінныя землі, ні ў гарады, ні ў валасці, ні ў воды, ні ў якія іншыя ўладанні». Паводле мірнай дамовы ад 8 кастрычніка 1508 г. за Вялікім Княствам Літоўскім засталіся стратэгічна важныя гарады і замкі — Любеч, Чаркасы, Канеў, Жытомір, а таксама шмат іншых багатых мястэчак і заможных валасцей.

Пасля падпісання «вечнага міру» з абодвух бакоў былі вернутыя палонныя. Жыгімонт Казіміравіч настойваў на тым, каб Васіль III загадаў выправадзіць назад у Вялікае Княства Міхаіла Глінскага з ягонымі хаўруснікамі. Колішнія прыхільнікі князя-мяцежніка імгненна адракліся ад яго і папрасіліся на службу да Жыгімонта Казіміравіча. Але Глінскія засталіся ў Маскоўскім княстве, атрымаўшы ва ўладанне Малаяраславец і Бароўск.

Пасля падпісання 8 кастрычніка 1508 года замірэння Беларускай дзяржавы з Масквой напружанне ў міжнародных адносінах істотна зменшылася.

## 6

Перыяд ад 1508 да 1512 гг. стаў часам адбудовы краіны. Імкліва раслі і развіваліся гарады і мястэчкі. Асаблівага росквіту дасягнула Вільня — сталіца дзяржавы. Разбудоўваліся і багацелі буйныя вялікакняскія гарады — Віцебск, Полацк, Менск, Смаленск. Набывалі моц прыватнаўласніцкія гарады — Мсціслаў, Пінск і Слуцк. Узмацняліся крэпасці, якія мелі стратэгічнае значэнне — Дуброўна, Орша, Магілёў, Крычаў, Прапойск, Чачэрск, Рэчыца, Мазыр. Паступова адраджаліся гарады на ўсходзе Княства, дзе кіравалі намеснікі вялікага князя: на поўначы — Тарапец; у Северскай зямлі — Бранск, Радагошч і Пуціўль; у вярхоўі Акі — Любуцк і Мцэнск.

Асобныя беларускія гарады пачалі атрымліваць права на самакіраванне, што адкрывала перад імі магчымасці імклівага эканамічнага і сацыяльнага развіцця. Так, у 1511 годзе прывілей на магдэбургскае права атрымаў *Навагрудак*.

Беларускія магнаты, шляхта і заможныя гараджане — купцы і рамеснікі — паляпшалі ўласны дабрабыт, займаліся ўпарадкаваннем гаспадаркі, спрыялі развіццю гандлю. Сярод нацыянальнай арыстакратыі стала модным накіроўваць у Еўропу дзяцей для навучання ва ўніверсітэтах, набываць кнігі і камплектаваць уласныя бібліятэкі. Добры прыклад паказваў Жыгімонт Казіміравіч, які меў вялікую бібліятэку і пры кожным зручным выпадку выхваляўся ёю перад васаламі.

У краіне запанаваў культ ведаў, філалогіі і кніжнай мудрасці. Засноўваліся першыя навучальныя ўстановы.

Важным інтэлектуальным асяродкам з’яўлялася дзяржаўная Канцылярыя, дзе выпрацоўвалася і праводзілася ў жыццё знешняя палітыка краіны. Пры манастырах і цэрквах узнікалі і развіваліся скрыпторыі — пісьмовыя і перакладчыцкія цэнтры. У адным з іх была падрыхтавана славутая Біблія *Мацвея Дзясятага* — першы вядомы звод кананічных кніг на Беларусі.

Найбольш заможныя паны і князі ўзводзілі новыя маёнткі, вакол якіх разбівалі сады і маляўнічыя паркі. У 1510 годзе маршалак дворны і лідскі намеснік *Юрый Іванавіч Ільініч* завяршыў будаўніцтва *Мірскага замка*. У пачатку XVI ст. была ўзведзена царква-крэпасць — знакамітая *Мураванка*.

Усталёўвалася рыцарская этыка, гатоўнасць самаахвярна служыць Айчыне і манарху. Некалькі соцень асоб, прадстаўнікоў знакамітых родаў Вялікага Княства, валодалі буйнымі зямельнымі надзеламі і маёмасцю, якую выкарыстоўвалі як ва ўласных мэтах, гэтак і для абароны дзяржавы.

Разам з багаццямі павялічвалася і палітычная вага мясцовых князёў і землеўладальнікаў. Князь *Юрый Сямёнавіч Слуцкі*, сын князёўны Анастасіі, паспяхова гаспадарыў у Слуцку і яго ваколіцах.

Заслужаны вайсковы начальнік *Канстанцін Іванавіч Астрожскі* валодаў значнай маёмасцю на абшарах Вялікага Княства Літоўскага.

Значнай фігурай з'яўляўся *Міхаіл Іванавіч Мсціслаўскі* — уладальнік Мсціслава і Мгліна.

Жыгімонт I Стары шчодра ўзнагароджваў служылых людзей за іх вайсковыя заслугі і надзейную службу. Яны атрымлівалі ўплывовыя дзяржаўныя пасады, землі і маёнткі ў пажыццёвае карыстанне.

Вялікі князь паслядоўна вытрымліваў прынцып рэлігійнай *талерантнасці* ў краіне, што сведчыла пра яго адукаванасць і высокі ўзровень інтэлекту. Менавіта манарх дазволіў правядзенне Праваслаўнага сабора ў Вялікім Княстве, які быў скліканы ў Вільні пад кіраўніцтвам мітрапаліта *Іосіфа II Солтана*.

Аўтарытэтны форум доўжыўся ад 25 снежня 1509 года да 15 студзеня 1510-га. На яго прыехалі 7 епіскапаў — уладзімірскі і брэсцкі Васіян, смаленскі Варфаламей, луцкі і астрожскі Кірыл, полацкі і віцебскі Яўфімій, тураўскі і пінскі Арсеній, перамышльскі Антоній і холмскі Філарэт, а таксама 7 архімандрытаў, 6 ігуменаў і 7 протаіерэяў.

Віленскі сабор прыняў шэраг важных рашэнняў, накіраваных на ўдасканаленне ўнутрыцаркоўных адносін. У прыватнасці, забаранялася за грошы атрымліваць царкоўныя пасады. Нежанатым святарам забаранялася ажыццяўляць рэлігійныя абрады.

Жыгімонт Казіміравіч умацоўваў палітычныя і дынастычныя сувязі з заходнімі каралеўствамі і княствамі. У 1512 годзе ён ажаніўся з *Барбарай* — дачкой сямігародскага ваяводы *Стэфана*. Праз год у іх нарадзілася дачка. Дзяўчынку назвалі *Ядвіга*.

## 7

Замірэнне з Васілём III, дасягнутае ў 1508 годзе, дазволіла больш упэўнена вырашаць праблемы, якія ўзніклі з даволі ўплывовай і агрэсіўнай *Перакопскай Ардой*. Не зважаючы на клятвы Мендлі Гірэя і яго пагадненні з Беларускай дзяржавай, Крымскае ханства пакрысе пачало дрэйфаваць у бок Маскоўскага княства.

У 1508 годзе пад Слуцкам адбылася буйная сутычка беларускіх харугваў з татарамі.

Узімку 1512 года 20 тысяч крымскіх татар зайшлі ўглыб Княства, узялі вялікі палон і пачалі адступаць. Беларускае войска пад кіраўніцтвам гетмана Канстанціна Астрожскага рушыла ў пагоню. Да беларусаў далучыўся польскі корпус пад кіраўніцтвам гетмана Мікалая Камянецкага.

Татараў дагналі каля вёскі *Лапушня*[1]. На світанні 28 красавіка 1512 г., калі яны ўжо сабралі лагер і збіраліся выступаць, 6-тысячнае беларуска-польскае войска атакавала. Адбылася буйная бітва, падчас якой значныя татарскія сілы

[1] Цяпер Цярнопальская вобласць Украіны.

былі разгромлены. Загінула каля 5 тысяч ворагаў, былі вызвалены ўсе палонныя і вернуты захопленыя рабаўнікамі каштоўнасці.

Даведаўшыся пра паразу, стары хан Мендлі Гірэй прапанаваў Жыгімонту Казіміравічу падпісаць вечны мір і выказаў гатоўнасць ва ўсім спрыяць Беларускай дзяржаве. Дзеля доказу шчырасці сваіх абяцанняў, ён адправіў у Вялікае Княства, у якасці закладнікаў, унука Джалаладдзіна і сына Дыўлет-бахція са світай уланаў і слуг.

## 8

У 1512 годзе пачалася вайна Беларускай дзяржавы з Маскоўскім княствам, якая з невялікімі перапынкамі доўжылася 10 гадоў. На першым этапе асноўнае змаганне адбывалася за *Смаленскія* абшары. Каб авалодаць беларускімі гарадамі і землямі, Васіль Іванавіч ажыццявіў тры буйныя кампаніі.

Першая кампанія доўжылася ад лістапада 1512 года да сакавіка 1513-га. У войску маскоўскага князя налічвалася каля 60 тысяч чалавек. Аблога Смаленска працягвалася паўтара месяца, але безвынікова. Васіль III мусіў вяртацца ў Маскву ні з чым. У бітвах пад Смаленскам, Менскам, Полацкам, Браславам і Мсціславам ён страціў блізу 11 тысяч чалавек забітымі. Асабліва значны ўрон маскавітам нанеслі полацкія харугвы, якія разбілі вялікі конны атрад ворага і шмат палонных адправілі ў Вільню.

Новы паход Масква распачала 17 ліпеня 1513 года. Асноўная частка войска ў колькасці 80 тысяч рушыла на Смаленск, куды 11 жніўня прыбыў вялікі ваявода *Шчэня*, а 22 верасня прыехаў асабіста Васіль III. Другі корпус маскавітаў пад кіраўніцтвам *Шуйскага* пайшоў на Полацк. У ім налічвалася прыкладна 25 тысяч чалавек. 8-тысячны атрад адправіўся пад Віцебск.

Смаленскі гарнізон і яго жыхары мужна абараняліся ад ворага. Горад штурмавалі амаль бесперапынна цягам чатырох з паловай тыдняў. Былі істотна пашкоджаны абарончыя вежы і сцены. З-за недахопу ежы ў 100-тысячным Смаленску пачаўся голад. Маскоўскі князь дасылаў лісты з патрабаваннем здацца. Але смаляне трывалі і аказвалі моцнае супраціўленне. Вораг адступіў.

Беларускія ваяры адкінулі маскавітаў з-пад Полацка і Віцебска. 4 кастрычніка віцябчане здзейснілі вылазку і забілі звыш 500 маскавітаў. Полацк паспяхова вытрымаў некалькі штурмаў. Урэшце, 1 лістапада 1513 г. маскоўскі князь загадаў войску спыніць аблогу і вяртацца ў Маскву.

Зацішша аказалася не працяглым. 30 лютага маскоўскае войска на чале з ваяводам *Шчэнем* выступіла ў напрамку Дарагабужа, а затым пайшло на Смаленск. У сярэдзіне красавіка смаляне ўбачылі маскоўскі перадавы атрад, якім камандаваў здраднік Міхаіл Глінскі. Пачалася аблога і бесперапынныя абстрэлы горада з гармат. Каб падтрымаць войска, 8 чэрвеня 1514 года пад Смаленск адправіўся асабіста Васіль III.

Смаленскі гарнізон звярнуўся па вайсковую дапамогу да Урада Княства. З мэтай дапамогі акружанаму гораду, Жыгімонт I Стары асабіста ўзначаліў войска, якое 22 ліпеня 1514 года выступіла з Вільні пад Смаленск. Урадавыя войскі Вялікага Княства, аднак, спазніліся.

Маскоўскі князь Васіль Іванавіч і Міхаіл Глінскі слалі ў абложаны горад лісты з абяцаннямі шчодрых узнагарод у выпадку пераходу Смаленска пад іх уладу. Цалкам абяскроўлены гарнізон, не дачакаўшыся дапамогі, 1 жніўня мусіў здаць горад маскоўскім войскам. Дэлегацыя месцічаў пад кіраўніцтвам смаленскага баярына *Міхаіла Півова* прынесла прысягу Васілю III і адчыніла гарадскую браму. Здача Смаленска маскоўскаму князю — кульмінацыйны і найбольш трагічны момант беларуска-маскоўскай вайны.

Пасля захопу Смаленска Васіль III вырашыў рухацца далей. 7 жніўня ён накіраваў войскі пад *Мсціслаў*. Горад абараняў *князь Міхаіл.* Калі дазор

паведаміў яму пра колькасць варожага войска, князь Міхаіл, пад ціскам гараджан, прыняў рашэнне перайсці пад уладу Масквы. Захоп Смаленска разбурыў адзіную сістэму абароны краіны. Прыдняпроўскія гарады засталіся без прыкрыцця і не маглі ўласнымі сіламі супрацьстаяць ворагу. Дэмаралізаваныя гарады — Крычаў і Дуброўна — таксама прысягнулі на вернасць Васілю III.

У крытычнай для краіны сітуацыі Жыгімонт I Стары, знаходзячыся ў *Барысаве*, распачаў радыкальныя крокі. Ён сфармаваў узмоцненыя вайсковыя харугвы, прызначыў гетманам найбольш дасведчанага і спрактыкаванага вайскованачальніка — князя Канстанціна Астрожскага, які лепш за астатніх ведаў тактыку маскоўскіх ваяводаў.

Астрожскі бліскуча арганізаваў стратэгічнае кіраўніцтва аперацыяй, умела аддаваў выверaныя генеральныя ўказанні і распараджэнні. Фартуна была на баку князя. Беларускія дазоры сустрэліся на рацэ Бабёр з маскоўскімі дазорамі і ўзялі іх у палон. Ад палонных даведаліся пра планы іх ваяводаў.

З войскам і гарматамі Астрожскі пераправіўся праз Дняпро і напаў на маскоўскае войска за Оршаю на рэчцы *Крапіўне*. Бітва пачалася *8 верасня* ў пятніцу. Маскавітаў было ў пяць разоў болей, чымся беларусаў. Але дзякуючы таленту Астрожскага і мужнасці беларускіх жаўнераў маскоўскія аддзелы былі ўшчэнт разгромлены.

Падчас бітвы шмат маскавітаў патрапіла ў палон. Сярод іх былі князь Міхаіл Іванавіч Булгакаў і яго брат князь Дзімітрый; Іван Андрэевіч Чэлядзін; князь Іван Дзмітрыевіч Пронскі; Іван і Уладзімір Сямёнавы; дзеці Калычова; князь Барыс і яго сын Пётр Рамаданаўскі; Іван Сямёнавіч Селяхоўскі; князь Барыс, князь Іваноў, сын Старадубскага; князь Пуцяціч і яго браценнік князь Сямён Іванавіч; Дзмітрый Васільевіч Кітаеў; Даніла Андрэевіч Пляшчэеў; Андрэй Сямёнаў, сын Калычова; Іван Васільевіч Кушалеў; Андрэй Іванавіч Нашчокін; Іван Андрэевіч Рэпнін; Мацвей Іванавіч Унукаў; Цімафей Дзмітрыевіч Губараў; Юрый Іванавіч Дзева; Іван Дзмітрыевіч Капнін; Арлумпій Юдзін; Няклюд Парфенавіч Барадзін; Андрэй Палуэктавіч Абняеў; Кобіц Міцін, сын ясельнічага Будая Кучукова; Фёдар Іванавіч Навасельцаў; Сямён Фёдаравіч Вузскі; Грыгорый Барысавіч Бязумнавы і Мікіта Азар’еў. У палон таксама трапілі 380 баярскіх дзяцей. Пазней усіх палонных разаслалі па гарадах пад нагляд, ці як тады казалі —«у няцтва» да мясцовых улад.

Такім чынам, беларускае войска пад непасрэдным кіраўніцтвам Канстанціна Астрожскага 8 верасня 1514 года ўшчэнт разграміла маскоўскія атрады пад Оршай. У гонар вялікага гетмана беларускі летапісец напісаў узнёслы гімн-панегірык пад назвай «Пахвала князю Канстанціну Астрожскаму», у якім уславіў мужнасць і палкаводчы талент выдатнага рыцара. У творы Астрожскі пададзены як валявая і велічная асоба, самаахвярны рыцар і адказны дзяржаўны дзеяч. Ён слушна і цалкам абгрунтавана названы мудрым чалавекам, мужным і загартаваным у баях гетманам.

Маскоўскі князь Васіль Іванавіч, які знаходзіўся ў Смаленску, пасля трыумфа Астрожскага пад Оршай паспешліва пакінуў горад і ўцёк у Маскву. Ён паспеў толькі раздаць прыхільным да яго смаленскім баярам маёнткі ў княстве, а маскоўскім баярам сваім землі на ўсходзе Смаленшчыны.

Праз чатыры тыдні пасля славутай перамогі князь Канстанцін Астрожскі з беларускім войскам стаяў пад Смаленскам. Але горад не ўзяў. Ён спаліў смаленскі пасад, нанёс урон воласцям і з трыумфам вярнуўся на Радзіму.

Адразу пасля перамогі пад Оршай князь Міхаіл Мсціслаўскі адрокся ад службы Васілю III. У снежні 1514 года ён напісаў чалабітную Жыгімонту Казіміравічу, у якой патлумачыў матывы свайго ганебнага ўчынку. Манарх дараваў князю, зважаючы на тое, што не змог своечасова дапамагчы яму абараніцца ад ворага. Мсціслаў, Крычаў і Дуброўна да канца 1514 года таксама вярнуліся ў склад Беларускай дзяржавы.

**9**

Асаблівая старонка імкнення беларусаў да волі — падрыхтоўка ў Смаленску паўстання гараджан пад кіраўніцтвам уладыкі *Варсанофія.* Далёка не ўсе жыхары прагнулі служыць маскоўскаму князю. Мэтай выступлення свабодалюбівых смалян з'яўлялася выгнанне маскоўскага намесніка і яго памагатых з наступным вяртаннем горада ў склад Беларускай дзяржавы.

Увосень 1514 года найбольш заможныя смаленскія баяры разам з уплывовым праваслаўным уладыкам Варсанофіем, падрыхтавалі паўстанне. У Вільню да вялікага князя выехаў пляменнік епіскапа — *Васька Хадыкін* «з пісаннем». Аднак таямніца нейкім чынам стала вядома маскоўскаму намесніку князю *Шуйскаму*. Пачаўся тэрор і распавы над удзельнікамі паўстання. Беларуская партыя ў Смаленску пацярпела паразу. Чацвёра знатных князёў і ўся вярхушка смаленскага баярства, каля 70 сямей, таемна пакінула горад і ад'ехала ў Вялікае Княства. Адданасць Беларускай дзяржаве захавалі — *Плюсковы, Хадыкіны, Казарыны, Крыўцовы і Полцевы.*

На працягу 1515—1522 гг. Вялікае Княства здолела адбіць усе спробы Масквы, якія прадпрымаліся з тым, каб захапіць новыя гарады і замкі. У студзені 1515 года маскоўскі намеснік *Сабураў* нечакана напаў на *Рослаў*, абрабаваў горад і ўзяў вялікі палон. У адказ на злачынствы маскавітаў харугвы *Януша Свірчэўскага* дашчэнту спалілі *Тарапец* і захапілі іншыя паселішчы.

У 1516 годзе віцябчане далі належны адпор раці князя *Гарбатага*, які акружыў Віцебск. Жыхары знаходзіліся ў цяжкім становішчы, бо дзейсны намеснік *Януш Касцевіч* не займаўся гарадскімі клопатамі, а ўладкоўваў уласныя справы ў Вільні пры двары Жыгімонта. Тым не менш, вораг адступіў ні з чым.

Канстанцін Астрожскі распрацаваў план контрудару ў напрамку Пскова. Увосень 1517 года з Полацка выступіла 14-тысячная армія, у склад якой увахodзілі таксама атрады Юрыя Радзівіла і Януша Свярчэўскага. 20 верасня войска было ўжо пад *Апочкай*, у якой засеў маскоўскі гарнізон. Абаронай крэпасці кіраваў ваявода Васіль Салтыкоў-Марозаў, ён неадкладна паслаў ганцоў па дапамогу. 6 кастрычніка Астрожскі паспрабаваў штурмам узяць крэпасць, але выніку не дасягнуў. Загінулі каля 60 чалавек, сярод іх і адважны ваяр *Сокал*.

Тым часам на дапамогу маскавітам прыйшлі атрады князя Фёдара Абаленскага-Цяляпнёва і князя Івана Ляцкага. Адбылася сеча, войска Вялікага Княства страціла да 4 тысяч забітымі. Ведаючы здольнасці Астрожскага, маскоўскі князь дадаткова накіраваў супраць яго з Вялікіх Лук армію Аляксандра Растоўскага і з Вязьмы атрады Васіля Шуйскага. Беларускае войска праз 28 дзён няўдалай аблогі Апочкі, якую жаўнеры ў адчаі празвалі «д'яблавай вёскай», павярнула назад. Маскоўскія атрады Міхаіла Кубенскага і баярына Міхаіла Пляшчэева ў знак помсты абрабавалі ваколіцы Віцебска і Вільні.

У 1518 годзе тагачасны полацкі ваявода *Альбрэхт Гаштаўт* разбіў войскі Гарбатага і Курбскага, якія наступалі на Полацк. Каля 7 тысяч маскавітаў палегла на полі бітвы. Мноства маскоўскіх жаўнераў патанула ў Дзвіне.

У 1519 годзе 50-тысячны маскоўскі корпус быў адкінуты з-пад *Менска і Магілева*. Нарэшце, у лютым 1520 г. беларускія харугвы прагналі з Віцебскай і Полацкай земляў маскоўскае войска, якое здзяйсняла рэйд пад кіраўніцтвам *Гадунова*.

***Заканчэнне ў наступным нумары.***



Галіна БАГДАНАВА

# НАЦЮРМОРТ З ХАРАКТАРАМ




*Аляксандр ЗІНКЕВІЧ*

**БЕЛАРУСКІ НАЦЮРМОРТ. 1960—2010**

*Мн., Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, 2016.*

Калі ў XVII стагоддзі ці не самы запатрабаваны сёння жанр набываў папулярнасць, французы вызначалі яго як «мёртвую натуру» (nature morte), галандцы бачылі ў ім «ціхае жыццё» (stilleven). У экспазіцыі музея не зблытаеш перапоўненыя пачуццём годнасці нацюрморты іспанцаў, разняволеныя, з прысмакам карнавалу нацюрморты італьянцаў, багатыя нацюрморты фламандцаў і строгія галандцаў… Беларускі таксама робіцца пазнавальным. Колькі гадоў таму ў Луўры экспанаваліся творы беларускага «генія нацюрморта» Івана Хруцкага.

Але толькі пагартаўшы шыкоўную манаграфію-альбом маладога даследчыка Аляксандра Зінкевіча «Беларускі нацюрморт. 1960—2010», захацелася вызначыць у агульным еўрапейскім кантэксце і нашу нацыянальную школу. Беларускі нацюрморт — «нацюрморт з характарам». Гэтая характарнасць ёсць у рэчах, якія кожны з мастакоў выбіраў для пастаноўкі, у кампазіцыі, каларыце. І яшчэ менавіта ў нацюрмортах, як у люстэрку, адбіліся прыкметы, характар часу іх стварэння. Дарэчы, сам Аляксандр Зінкевіч лічыць, што не варта забывацца на такія тэрміны, як Badegon (з іспанскай — «таверна», «склеп»), Protractum («партрэт неадухоўленага прадмета»).

Кніга была адзначана дыпломам першай ступені 56-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» ў намінацыі «АРТ-кніга». Яе аўтар — таксама чалавек з характарам. Вырас у сям'і нашых вядомых мастакоў — Уладзіміра Зінкевіча і Валянціны Сідаравай, пасля гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка бліскуча скончыў аддзяленне графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, магістратуру, аспірантуру, і, нягледзячы на малады ўзрост, яго добра ведаюць і як мастака, і як даследчыка мастацтва, і як дырэктара Палаца мастацтва. Усе яркія мастацкія праекты апошніх гадоў не абыходзяцца без ягонага непасрэднага ўдзелу. І ў выбары твораў (іх напачатку было каля 2000) адчуваецца характар аўтара, які здолеў прадставіць беларускае мастацтва другой паловы XX — пачатку XXI стагоддзя праз, здавалася б, самы інтымны жанр. Хоць менавіта гэтая «інтымнасць» дазваляла мастакам быць гранічна шчырымі.

Эпіграфам да манаграфіі-альбома аўтар узяў словы Паскаля: «Які дзіўны гэты жывапіс — нацюрморт: ён прымушае захапляцца копіяй тых рэчаў, арыгіналамі якіх не захапляешся». Але,

разглядаючы рэпрадукцыі змешчаных у альбоме твораў, адчуваеш, што кожны з мастакоў, зірнуўшы на рэальны нацюрморт, на рэальныя рэчы, зазнаў сапраўднае захапленне, якое і стала для яго крыніцаю натхнення.

Гэта сапраўды манаграфія-альбом. Выдатна ілюстраваны ўступны артыкул (на беларускай, рускай і англійскай мовах) уяўляе сабою грунтоўнае даследаванне беларускага нацюрморта. Творы 1960—2010-х гадоў уведзены ў кантэкст усёй гісторыі беларускага і сусветнага мастацтва. «Нацюрморт — гэта своеасаблівая замалёўка эпохі, яе партрэт, створаны мастаком праз прызму асабістага ўспрыняцця свету», — сцвярджае Аляксандр Зінкевіч. Хочацца дадаць, што дзякуючы ягонай манаграфіі-альбому, мы можам убачыць, адчуць новае, яшчэ неспазнанае XXI стагоддзе, супаставіўшы яго з мінулымі эпохамі, пра якія гаворыцца ва ўступным артыкуле. Аўтар праводзіць вельмі цікавыя паралелі, робіць арыгінальныя супастаўленні. Напрыклад, адзначае, «што ў творчасці М. Тарасікава так акцэнтаваны каларыстычныя традыцыі, закладзеныя французскімі мастакамі-імпрэсіяністамі яшчэ ў 1860-я гады».

Канцэптуальным падаецца і выбар для даследавання менавіта 1960—2010-х гадоў. «Пунктам адліку новага этапу развіцця нацюрморта ў мастацтве Беларусі можна лічыць 1958 год — год стварэння В. Жолтак нацюрморта «Званочкі лясныя», — сцвярджае Зінкевіч і працягвае: — можна нават правесці некаторыя аналагі з нацюрмортам І. Хруцкага («Плады» — Г. Б.)… «Званочкі лясныя» сталі этапным творам не толькі для мастачкі, не толькі для гэтага дзесяцігоддзя, аператварыліся ў візітоўку ўсяго жанру нацюрморта і ўсяго жывапісу Беларусі другой паловы XX стагоддзя».

Далей на канкрэтных прыкладах даводзіцца, што нацюрморт у беларускім мастацтве вылучаецца шырынёю трактоўкі (адны творы характарызуюцца манументальнасцю, другія — камернасцю, трэція — шматпланавасцю, іншыя — дэкаратыўна-плоскаснаю трактоўкай), багаццем эмацыянальных настрояў (ад лірычных — да драматычных)… Менавіта ў нацюрмортах у 1960-я гады, падчас панавання «сурова стылю», падзеі Вялікай Айчыннай былі паказаны праз успаміны і перажыванні канкрэтнага чалавека, а ў 1970-я ўпершыню адлюстравалася цікавасць мастакоў да народнага мастацтва і нацыянальнай гісторыі.

Паколькі нацюрморт быў і застаецца жанрам інтымным, не магу ўтрымацца ад спакусы зірнуць на апошнія паўстагоддзя вачыма беларускіх мастакоў.

*1960-я* …Шчымлівае хараство апошніх аксамітак у гліняным збаночку і водар яблычкаў, сабраных у садзе («Кветкі і садавіна» Ядвігі Раздзялоўскай). Рыбкі, якія высыпаліся на стол, юмбрычак («Мінор» Анатоля Бараноўскага — нечаканы для гэтага мастака настрой).

*1970-я* …«Нацюрморт з газетай» Міхаіла Сеўрука, «З думай пра хлеб» Гаўрылы Вашчанкі.

*1980-я* …«Кветкі вясны» Леаніда Шчамялёва, «Жніво» Святланы Катковай, «Нацюрморт з дранікамі» Алеся Марачкіна.

*1990-я* …Фантасмагарычныя нацюрморты Міколы Селешчука, дзе героямі робяцца і рэчы, і люстэркавыя адбіткі людзей, «Нацюрморт з падпаленай газетай» Уладзіміра Зінкевіча.

*2000-я* …«Марскія радасці» Івана Кліменкі, «Памяранцавы нацюрморт» Уладзіміра Клімушкі.

*2010-я* …«Паралелі бясконцасці» Глеба Отчыка, «Стары Мінск» Міхаіла Баразны, «Востры нацюрморт» Алесі Скарабагатай.

Аляксандр Зінкевіч праз нацюрморты выяўляе не толькі характар часу, але і характар асобных мастакоў. Можна адчуць, якія спеўныя нацюрморты ў Ядвігі Раздзялоўскай. А ў Гаўрылы Вашчанкі яны па-філасофску разважлівыя, у Рыгора Сітніцы — па-паляшуцку заглыбленыя… У архетыповых знаках нацюрмортаў Уладзіміра Клімушкі гучыць грамадзянскі падтэкст, а творы маладой мастачкі Алесі Скарабагатай у звычайных рэчах выяўляюць ледзь

улоўнае наяве містычнае святло… Ці не ўпершыню побач з жывапісам, графікай як раўнапраўнае прадстаўлена фотамастацтва. І, разглядаючы работы Міхася Баразны, разумееш, што сёння фотамастак здольны адкрыць для нас новы, нечаканы погляд на рэчы. У альбоме ёсць і нацюрморты, выкананыя з дапамогаю новых сучасных камп'ютарных тэхналогій.

Вельмі важна тое, што аўтар далікатна, інтэлігентна і прафесійна прэзентуе ў альбоме творчыя дынастыі і дуэты: Анатоль Бараноўскі, Алена Бараноўская і Віталь Герасімаў; Юлія Мацура і Піліп Басалыга, Валянціна Сідарава і Уладзімір Зінкевіч і іншыя, і мы дакладна чуем голас кожнага і іх непаўторнае сугучча.

Несумненнае мастацкае дасягненне — макет гэтага вельмі сучаснага выдання. Дзякуючы арыгінальнаму павелічэнню фрагментаў асобных твораў адчуваеш не толькі каларыстычнае багацце, але і нават водар, смак увасобленых кветак, пладоў, успрымаеш рэчы на дотык.

Аўтар не толькі аналізуе гісторыю, але і спрабуе зазірнуць у будучыню: «Сучаснае грамадства спажывання будзе нанова шукаць тонкі баланс паміж успрыняццем рэчы, як спажывецкай адзінкі, і рэчы, як праваднікa гісторый і эмоцый». Адказам могуць быць творы выдатнай беларускай мастачкі, не пабаюся сказаць «генія сучаснага нацюрморта» Алесі Скарабагатай, на першую персанальную выстаўку якой (рэдкі на сёння выпадак!) па вечарах стаялі чэргі. І, як прызнаўся Аляксандр Зінкевіч, хоць адзін з яе нацюрмортаў «Анёл» быў напісаны ў 2016 годзе, ён не мог не змясціць яго ў сваёй манаграфіі-альбоме. Цяпер рэчы ў беларускім нацюрморце набываюць не толькі характар, але і містычны, філасофскі падтэкст. Варта прыгледзецца, прыслухацца, каб зразумець, пра што яны перамаўляюцца між сабою, і пра што прагнуць сказаць нам.

Выданне можна лічыць дасягненнем не толькі безумоўна надзвычай таленавітага аўтара, але і ўсёй школы беларускага мастацтвазнаўства, і, у прыватнасці, школы Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Гэтая кніга неабходная выкладчыкам, настаўнікам, усім, хто цікавіцца нацыянальнай культурай. Нашым жа гасцям лепшага сувеніра для спазнання беларускай душы, бадай, не знойдзеш. У планах Аляксандра Зінкевіча выданне падобных манаграфій-альбомаў пра сучасны пейзаж, партрэт і іншыя жанры сучаснага беларускага мастацтва.



Юлія АЛЕЙЧАНКА

# АБНЯЛА БЕЛАРУСЬ...




**ЦЁТКА**
**Выбраныя творы**

*Мн.: Мастацкая літаратура, 2016.*

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» апошнім часам надае шмат увагі папулярызацыі спадчыны беларускіх класікаў. Стылёва афармленыя кнігі зручнага фармату нязменна прывабліваюць увагу чытача. Перачытаць, узгадаць, адкрыць упершыню ці наноў творы Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Міхася Лынькова, Змітрака Бядулі, Янкі Купалы…

Актуалізуецца ў XXI стагоддзі і постаць пісьменніцы, грамадскай дзяячкі, гарачай патрыёткі Алаізы Пашкевіч. «Яе талент і грамадзянскі подзвіг цесна злучаны з беларускім нацыянальным космалогасам, а пасіянарная творчасць уяўляе сабой адметную частку ўсёй літаратурнай спадчыны», — пісала Валянціна Коўтун. І сапраўды, выпраменьваючы нейкую незвычайную энергію, Цётка змяняла асяроддзе, выступала вястункай іншай культурнай парадыгмы. Актыўная ўдзельніца студэнцкага гуртка «Круг беларускай народнай прасветы», аўтар нелегальных выданняў «Калядная пісанка» і «Велікодная пісанка», яна праз сацыяльнае вызваленне працоўных бачыла ўжо і нацыянальнае вызваленне ўсяго беларускага народа. Фельчарка, член Беларускай сацыялістычнай грамады, даследчыца беларускага тэатра і фальклору, рэдактар часопіса, арганізатар настаўніцкіх курсаў… За ўсе справы Алаіза Пашкевіч бралася з імпэтам, гарачым жаданнем змяніць свет да лепшага.

Яе смелыя думкі, памкненні, ідэі знойдзем сёння ў паэзіі, прозе, тэкстах «Першага чытання для дзетак беларусаў». Новая кніга выбраных твораў змяшчае папулярныя апавяданні, што хвалююць ужо не адно пакаленне беларусаў: «Прысяга над крывавымі разорамі», «Зялёнка», «Навагодні ліст», «Міхаська»… Прадстаўлены і вершы двух паэтычных зборнікаў Цёткі — «Скрыпка беларуская» і «Хрэст на свабоду», вершы 1903 — 1915 гадоў.

Надзвычай актуальнай у дні сённяшнім з’яўляецца публіцыстыка Цёткі. Заклікі да захавання фальклорнай спадчыны, чысціні роднай мовы, маральнага самаўдасканалення, адукацыі, прамоўленыя шчыра і непасрэдна, не выглядаюць і ў дні сённяшнім сухімі і маралізатарскімі. Уяўленне пра актыўную асветніцкую і прапагандысцкую дзейнасць даюць змешчаныя ў выданні апытанка для чытачоў «Нашай нівы», падрабязны аналіз тэкстаў народных песень, нават навукова-папулярны артыкул пра прыродны газ! Шчыра намагаючыся даць бела-

рускаму сялянству ўсебаковае ўяўленне пра навакольны свет, прывіць цікавасць да мастацкага слова, абараніць ад хвароб душэўных і фізічных, Цётка не пабаялася працягнуць руку абяздоленым. Заразіўшыся тыфам, Алаіза Пашкевіч заўчасна пакінула свет…

Сёння глыбокая і неардынарная асоба паэтэсы ўсё часцей прыцягвае ўвагу гісторыкаў, філолагаў, краязнаўцаў. А мець пад рукой кнігу яе выбранага, лепшага — надзейны сродак заўсёды заставацца ў «энергетычным полі» таленавітай творцы.




*Данута БІЧЭЛЬ*

**ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ**

*Мн.: Беларуская навука, 2016.*

«Бог даў ёй такі непаўторны голас… Гэты голас, калі ты яго аднойчы пачуў, нельга забыць, нельга зблытаць з нейкім іншым. Пэўна, голас кожнага чалавека адметны, аднак голас Дануты Бічэль — паэтычны», — так распачынае сваю прадмову да кнігі выбраных твораў Дануты Бічэль Марыя Новік.

Сапраўды, наколькі цяпер важна не згубіцца ў безаблічнасці, пішучы «як большасць»… А ў Дануты Бічэль дар паўнавартаснай «самасці» быў заўсёды. З першага зборніка «Дзявочае сэрца» ў далёкім 1961 годзе. І, пэўна, сакрэт гэтай адметнасці і арыгінальнасці даволі просты: паэтэса жыве беларускай моўнай стыхіяй, піша пра знаёмае, роднае, блізкае. І яшчэ — бывае ў сваім чароўным свеце, дзе ўладараць гармонія і справядлівасць:

Нібы сініца,
скачу жывей
у казачку, а раптам ажыве.

Сучаснае выданне выбраных твораў удала прадстаўляе розныя грані творчай манеры Дануты Бічэль. Чытач знойдзе і хрэстаматыйныя творы 60—70-х, шчымлівыя, знаёмыя радкі «Роднага слова», «Маленства», і вершы пачатку XXI стагоддзя. Поўніцца кніга і перакладамі Францішка з Асізі, і празаічнымі творамі.

Добра назіраць духоўнае сталенне «дзяўчынкі-хутаранкі, што выбегла за ваколіцу», наталяючыся яе творчасцю розных гадоў. Колькі паэтычнай лаканічнасці і ёмістасці мастацкага вобраза ў вершы «Шаткавалі капусту двое», які напісала паэтэса, якой яшчэ не было трыццаці гадоў! Кожная сумесная дзея закаханых мае вялікі сакральны сэнс, нават калі гэта звычайная гаспадарчая справа… Такім чынам маладая сям’я будуе ўласны Сусвет. Цікава, што падобная думка праз шмат гадоў будзе агучана і ў апавяданні «Мікалай і Рэня»: «Беларусь — гэта хата, якую будуюць двое закаханых для сябе і сваіх нашчадкаў». Ці не гэта сведчыць пра трываласць маральных перакананняў, пра развіццё ў часе ўласнай ідэі, ідэі, што працуе на ідэю нацыянальную. Разгортваючы асабістае да ўзроўню глабальнага, яна верыць, што толькі «светлы жывы квадрат кахання», беларуская хата, пабудаваная па законах любові і ўзаемапавагі, можа даць пачатак хаце вялікай, дзе, кажучы словамі Янкі Купалы, Беларусь смела сядзе на куце. Але смелым можна быць толькі ў мірным свеце… Разважаючы яшчэ больш маштабна, Данута Бічэль як глыбока духоўны творца, складае вершаваныя ружанцы, просячы ў іх аб справядлівасці ды згодзе на ўсёй зямлі:

У тым блакіце, дзе анёлаў крылы
спляліся з хмаркай ў вяночак мілы,
сусвет трымае белы галубок.
Сусвет трымаць яму даў права Бог.

Так пранікнёна піша паэтэса таму, што цвёрда верыць:

Ружанец — канат у нябёсы.
Малітва і пацеркі-слёзы.
Малітва — на беразе лодка.
Маліцца на беразе лёгка.

Уся праца ў жыцці паэтэсы — стваральная. Доўгія гады вучыла дзяцей беларускай мове, арганізоўвала і ўзначальвала Дом-музей Максіма Багдановіча ў Гродне… Выхоўвала ўласных дзяцей без падтрымкі блізкага чалавека, заўчасна памерлага мужа. І заўсёды знаходзіла трывалае маральнае апірышча, захоўваючы памежную прынцыповасць, шчырасць, адкрытасць. Не баіцца яна прызнацца ўсяму свету, што яе нараджэння бацькі не чакалі, што была яна «лішняю ў маленькай птушынай хаце» (ды, тым не менш, любай!) Не баіцца выказваць свае пачуцці да «бязбожнасці, атэізму, псеўдамаральнасці, псеўдалюбства, псеўдадэмакратыі» савецкага часу… Баліць яе сэрца і за дабрабыт, будучыню Беларусі сучаснай. Бо не можа інакш, калі:

Абняла мяне Беларусь,
запаланіла, трымае…

*Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ,*
*Вячаслаў РАГОЙША*

**УКРАІНСКАЯ ЛІТАРАТУРА**
**і ўкраінска-беларускія літаратурныя сувязі**
**Частка 3**

*Мн: БДУ, 2016.*

Грунтоўнае выданне «Украінская літаратура і ўкраінска-беларускія літаратурныя сувязі», зацверджанае ў якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў вышэйшых навучальных установаў па спецыяльнасцях «Славянская філалогія», «Беларуская філалогія», «Руская філалогія», выходзіць далёка за межы вучэбнай праграмы (хоць, безумоўна, арыентуецца на вучэбныя планы).




Адрасаванае яно і сталым даследчыкам літаратуры, і ўсім аматарам культуры беларускай і ўкраінскай. Гэта ўнікальная кніга, у якой прасочваюцца гісторыка-культурныя, сацыяльныя ўмовы фарміравання і сталення ўкраінскай нацыі, выспяванне нацыянальнай ідэі ўкраінцаў, развіцця іх літаратуры. У кожнай з частак выдання акцэнт робіцца на еднасці духоўнага шляху ўкраінскага і беларускага народаў, моўнага, сэнсавага, тэматычнага ўзаемаўзбагачэння. Пры гэтым улічваюцца сучасныя падыходы да разумення працэсаў нацыятворчасці, перадавыя дасягненні філалагічнай навукі, малавядомыя матэрыялы па гісторыі беларуска-ўкраінскіх літаратурных стасункаў. Што і дазваляе аўтарам заканамерна аргументаваць наяўнасць беларуска-ўкраінскай супольнасці як феномену часу.

Сёння мы можам трумаць у руках трэцюю, заключную частку грунтоўнай працы, у якой разглядаюцца асноўныя тэндэнцыі развіцця ўкраінскай літаратуры і ўкраінска-беларускіх узаемасувязей ад 40-х гадоў XX ст. да пачатку XXI ст., аналізуецца творчасць найбольш значных пісьменнікаў сучаснай Украіны, пытанні мастацкага перакладу, кантактных і тыпалагічных літаратурных сувязей. Доктар філалагічных навук Вячаслаў Рагойша і кандыдат

філалагічных навук Тацццяна Кабржыцкая, аўтарытэтныя літаратуразнаўцы, аўтары шматлікіх артыкулаў у перыядычным друку, манаграфій, вучэбных дапаможнікаў, не адзін дзясятак гадоў плённа працуюць на ніве даследавання роднасных літаратур, безумоўна, маюць маштабнае мысленне і разумеюць актуальнасць міждысцыплінарных даследаванняў. «Культурны працэс сённяшняга часу — складаны феномен, які арганічна спалучае найбольш істотныя змены ў развіцці мовы, паводзін, пачуццяў, чалавечых адносін шматлікіх краін свету», — сцвярджаюць аўтары. І даюць чытачу ўяўленне пра эстэтыку сучаснай літаратуры, тыя філасофскія канцэпцыі, што непасрэдным чынам уздзейнічалі на яе фарміраванне. Звяртаюць увагу на працэсы глабалізацыі, вестэрнізацыі, масавізацыі, постмадэрнізацыі, віртуалізацыі. Акрэсліваюць «інтэрдысцыплінарныя» формы культурнага жыцця: інсталяцыю, перфоманс, хэпенінг. Адзінкавае ў даследчыкаў заўсёды ўзыходзіць да агульнага, маштабнага. Тэндэнцыі развіцця літаратуры сучаснай Украіны, дыяпазон мастацкай свядомасці творцаў — паняцці, што не заўсёды паддаюцца простаму вытлумачэнню, набываюць у аўтараў выдання акрэслены характар.

Вялікі раздел кнігі «Сустрэчныя плыні ўкраінска-беларускага міжлітаратурнага ўзаемадзеяння другой паловы XX — пачатку XXI ст.», у якім адсочваюцца этапы літаратурных і культурных сувязей Украіны і Беларусі, завастрае ўвагу на найбольш знакавых персаналіях. Як пракладалася Шаўчэнкава дарога ў Беларусь, якімі шляхамі ва Украіну крочыў Янка Купала, хто змог захаваць нацыянальную адметнасць ва ўкраінскім гучанні Максіма Танка? Адказы на гэтыя і шматлікія іншыя пытанні беларуска-ўкраінскага творчага сяброўства знойдуцца на старонках кнігі.

Вызначальная рыса стылю выданняў Вячаслава Рагойшы і Тацццяны Кабржыцкай — спалучэнне навуковай дакладнасці і захапляльнасці расповеду, — знайшла выразнае адлюстраванне і ў кнізе «Украінская літаратура і ўкраінска-беларускія літаратурныя сувязі». Постаці Максіма Рыльскага, Уладзіміра Сасюры, Алеся Ганчара, Барыслава Стэпанюка, Дмытра Паўлычкі, Рамана Іванычука, Ліны Кастэнкі, Уладзіміра Яварыўскага, Рамана Лубкіўскага, Івана Дзенісюка, па-мастацку прадстаўленыя аўтарамі, безумоўна, зацікавяць беларускага чытача. Магчыма, ва ўкраінскіх творцаў з'явяцца новыя перакладчыкі?




*Сяргей ПАНІЗЬНІК*

**ГАСЦІНЦЫ**
**з пуцявін-гасцінцаў**

*Мн.: Тэхналогія, 2016.*

Сёння і дарослыя не надта цікавяцца друкаванай кнігай. Што казаць пра дзяцей, у якіх з'явілася шмат новых заняткаў акрамя чытання. А зусім нядаўна менавіта кніга была асноўнай крыніцай інфармацыі пра вялікі свет… Амаль што кожны з класікаў нашай літаратуры з цёплынёй прыгадваў сваю першую кнігу, з якой пазнаёміўся ў далёкім маленстве, якая ў многім натхніла яго на ўласную творчасць.

Вялікая радасць, калі сённяшні школьнік ці нават дашкольнік мае сваю любімую кнігу. Тую, што перачытвае і захоўвае на працягу доўгіх гадоў. Канешне, выданне для гэтага павінна быць вартым! І ўкладальніца новай кнігі Сяргея

Панізьніка Аксеня Тарасевіч упэўнена сцвярджае: «Дарагі сябра! Усё цяжэй нам, аўтарам і выдаўцам, прывабіць цябе кнігай. Маеш гэтулькі спакусаў: тэлебачанне, інтэрнэт, кампутарныя гульні, розныя гаджэты. Усё радзей ходзіш у бібліятэку. Усё радзей, на жаль, чытаеш з бацькамі. Менш глядзіш з захапленнем і на роднае слова — кажаш, нібыта цяжкое яно для цябе. Аднак выданне, якое трымаеш у руках, я ўпэўнена, пераканае цябе ў адваротным».

Чым жа адметная кніга «Гасцінцы з пуцявін-гасцінцаў»? У першую чаргу тым, што аўтар смела змяшчае пад адну вокладку творы для зусім маленькіх і творы для падлеткаў. Пэўна, з надзеяй, што чытач будзе сталець разам з кнігай. Цікавае афармленне падкрэслівае розніцу ва «ўзроставай аўдыторыі» вершаваных гісторый: тыя, што для дашкалят, надрукаваны буйным шрыфтам, для падлеткаў ды юнакоў літары змяншаюцца. Смелыя і творчыя ідэі Сяргея Панізьніка. Маючы вялікі пісьменніцкі вопыт, у тым ліку і ў галіне дзіцячай літаратуры, не баіцца ўводзіць у творы для дзяцей фальклорныя радкі, расказваць пра герояў беларускай міфалогіі, як рабіў і ў папярэдніх сваіх зборніках для юных чытачоў «Адкуль вясёлка п'е ваду», «Жыцень», «Мы — грамацеі!», «Золкая зёлка», «Літары ў расе». А яшчэ яднае спрадвечнае, старажытнае з рэаліямі новага часу! Як цікава, да прыкладу, чытаць верш «Бутэрбродаўская вежа», эпіграфам для якога ўзяты радкі песні, запісанай на хутары Бабышкі Міёрскага раёна: «Сядзіць галубок на пераплоце — гарох клюець. Каля яго галубачка — пшаніцку». А ў аўтарскіх радках Панізніка:

Гляньце: у руках бігмак —
Як мак-до-наль-даў-скі гмах!

Так, сапраўды, адмаўляць сучасныя і звыклыя для нас сёння рэчы было б дзікунствам. Увесь «фокус» у тым, каб удала спалучаць прагрэсіўнае з традыцыйным. Ніколі не забывацца, хто ты і адкуль ты. Нават названая ў вершы сетка рэстаранаў хуткага харчавання мае сёння на тэрыторыі Беларусі слоган «Тое, што нам блізка», а ў памяшканнях яго часцей гучаць беларускія песні…

Ды і ў зносках-тлумачэннях на старонках кнігі сустракаюцца як гістарызмы-архаізмы, так і сучасныя тэрміны: дзянніца, скафандр, раёк, пюпітр, зуброўка, Эльдарада, статус-кво, біясфера, свірэпка… А ёсць і цікавыя наватворы. Ці ведаеце вы, як выразна па-беларуску назваць свой новы смартфон? Кажыце знаёмым, што набылі *далькажык*! Так некалі назваў мабільны тэлефон паэт Леанід Дранько-Майсюк. Што падтрымлівае і Сяргей Панізьнік:

Падарылі мне далькажык.
Смоўжыкам па пляжы —
З кветкамі пасецца.
А ў руках — трасецца.

Побач з гумарыстычным у кнізе сур'ёзнае, філасофскае. У раздзеле для «юнакоў-ліцэістаў» — вершы, што прымушаюць задумацца над уласным месцам ў жыцці, зрабіць лёсавызначальны выбар:

О Продкаў Шлях, бясконцы і святы —
да той кужэльнай у зеніце кропкі.
Святы.
Бясконцы.
Светлы.
Нетаропкі.
У небе — мы. Пад каранямі — мы.

Перафразуючы выказванні беларускага першадрукара, Сяргей Панізьнік стварае верш «Запаветы Скарыны». Сімвалічна, што ён змешчаны ў канцы кнігі. Як добры наказ чытачам, што неўзабаве ўвойдуць у дарослае жыццё:

Вы — заўтрашні народ.
Пакажа час,
хто тут вучыўся ўдумлівы, упарты.
Калі развееце стагоддзяў дым, —
адкрыю скарбы старажытных ведаў:
у роднай мове — тайны запаветаў,
чароўны ключ —
у Слове залатым.

У аўтара кнігі «Гасцінцы з пуцявін-гасцінцаў» былі добрыя «настаўнікі», якія падказвалі, што сапраўды цікавіць сённяшніх дзяцей. Іх малюнкамі аздоблена і само выданне. Унучкі паэта, Яна Янішчыц і Мелання Панізьнік-Гігер, бачаць свет казачным, гарманічным… Пажадаем жа ім, як і ўсім «дзеткам-беларусам» пранесці гэткае бачанне праз усё жыццё.

# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Душан Радавіч (1922—1984)

❍ На адказных пасадах трэба было б мяняць толькі няздольных. Між тым, паколькі няздольных у нас няма, даводзіцца мяняць і адных, і другіх.

❍ Некаторыя бацькі мусілі ўцячы ад дзяцей, бо ім хапала сваіх праблем.

❍ Непрацаўладкаваныя дзяўчаты нараджаюць дзяцей. Гэта адзінае, што ім могуць зрабіць іншыя.

❍ Жывём без летуценнікаў, без летуценняў, без будучыні. Каляндар — адзіная наша праграма і перспектыва.

❍ Некаторыя нашы таварышы разумеюць толькі лозунгі ды заклікі. Усё, што не заклік і не лозунг — для іх замежная мова і варожая ідэалогія.

❍ Вядома, што журналісты няшмат ведаюць. Ды калі і ведаюць нешта, гэта не тое, што трэба было б ведаць.

❍ Нармальных людзей ужо не засталося. Усе больш-менш ненармальныя. Адны крадуць як ненармальныя, другія жаруць як ненармальныя, трэці п'юць як ненармальныя, а некаторыя працуюць як ненармальныя, і яны найненармальнейшыя за ўсіх.

❍ Добра было б, каб маладыя людзі мелі нейкія ідэалы. Мы іх аднойчы ўжо мелі, а двойчы нельга.

❍ Вернемся да малых рэчаў. Малыя рэчы цяпер каштуюць гэтулькі, як некалі вялікія.

❍ Вялікі энергетычны крызіс. А найбольш нам бракуе грамадзянскай энергіі. Каб можна было сабраць запал і энергію ўсіх асабістых інтарэсаў і амбіцый, хто ведае, куды б маглі рушыць.

❍ Згадайце, што вы рабілі ўчора. І калі вам не сорамна, рабіце тое самае сёння.

❍ Пераважная большасць... Яна можа скласціся толькі з абыякавых. Іх найболей.

❍ «Філосафы не ведаюць некаторых асноўных рэчаў», — так сцвярджаюць тыя, хто ведае толькі некаторыя асноўныя рэчы.

❍ Здаровыя малпы засталіся малпамі. Продкі ж чалавека былі дэкадэнтамі.

❍ Хто не ведае, што рабіць з сабою, няхай займаецца іншымі.

❍ Просьба да айчынных пісьменнікаў не пісаць болей. Мы яшчэ і папярэдняга не прачыталі.

❍ Чалавек вучыцца, пакуль жыве. Найбольш мог бы навучыцца ад смерці, ды звычайна тады ўжо позна.

❍ Заўжды лепш Там, чым Тут, і заўжды лепш Тое, чым Гэта. Не шанцуе нам на тое, што маем.

❍ Не кажыце таго, што думаеце, калі жывяце ад таго, што кажаце.

❍ Кожны лекар — як Вільгельм Тэль: павінен мецьі веды і вопыт, каб знішчыць хваробу, а не чалавека. Хвароба ж часцей за ўсё малая, а чалавек значна большы. Суцяшае толькі тое, што хвароба не перажывае памылкі лекара.

❍ Не важна, працуе нехта, ці не. Важны толькі вынік.

❍ Неразумна ашчаджаць электраэнергію. Ашчаджаеш, ашчаджаеш і ўсё роўна нічога не заўважыш.

❍ Многія справы не давершаны толькі таму, што і не распачаты.

❍ Нічога нам ворагі не зробяць! Усё, чаго б яны хацелі, мы і самі можам.

❍ Цяжкасці нашы часовыя, гэтаксама як і мы; дык павінны адысці — альбо яны, альбо мы.

❍ У курцоў ёсць нейкія іншыя прычыны, чаго яны ўсё-такі жывуць. Бо ў тых, хто не курыць, прычына адна — таму што не кураць.

❍ Злодзеі ўкралі ў нас будучыню. Мусім жыць мінуўшчынай. Прынамсі тыя, у каго яна была.

## Вітамір Тэафілавіч (1943 г.н.)

❍ Сізіф вечны, а з каменнем у нас някепска.

❍ У нас усё яшчэ лепш, чым дзе б ні было. Нідзе няма гэтулькі нашых людзей, як у нас.

❍ Мы на правільным шляху. Яшчэ б толькі рушыць.

❍ Штодня распачынаем змаганне за новае заўтра. А кожны пачатак цяжкі.

❍ Калі д'ябал украў жарты, пара брацца за сатыру.

❍ НІШТО нас не можа здзівіць. УСЁ можа.

❍ Небяспека нас чакае з усіх бакоў. Бяспека — толькі з аднаго.

❍ Толькі шырокія паняцці пазбаўлены пэўнасці. Напрыклад, адказнасць.

❍ Мы і законамі карыстаемся творча. Кожны абходзіць іх па-свойму.

❍ Адно думаюць, другое гавораць, трэцяе — не робяць.

❍ Наша моладзь — золата. А ёсць і яшчэ нейкія элементы.

❍ Заўтра лепшае за сёння. Яшчэ не напаткала нас.

❍ Не ўсе жывёлы аднолькавыя. Некаторыя больш падобныя да людзей, некаторыя менш.

❍ Усе крыніцы невычэрпныя, пакуль мы не пачнём іх эксплуатаваць.

❍ Толькі ў слоўніку больш імёнаў, чым займеннікаў.

❍ Рэформам граматыкі найбольш радуюцца злучнікі і выклічнікі.

❍ Не падае трэска далёка ад сякеры.

❍ Хто спадзяецца на бусла, не становіцца бацькам.

❍ Усе, хто меле, скіроўваюць ваду на свой млын.

❍ Пішы так, як сказана! Чытай так, як напісана!

❍ У сучаснай кухні страва дадаецца да прыправы.

❍ Мудрасць ніколі не прыходзіць адна.

❍ Толькі штучныя зубы могуць быць залатымі.

❍ Ніводная фаза не можа без нуля.

***Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 284-80-12,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-79-85,
аддзелаў прозы,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 17.04.2017 г. Фармат 70×108 $^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,4. Ул.-выд. арк. 16,01. Тыраж 1462 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

*Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь*
*для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства)*